*ШТОМЕСЯЧНЫ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ІЛЮСТРАВАНЫ ЧАСОПІС*

●

**Заснаваны ў 1953 годзе**



# МАЛАДОСЦЬ

**ОРГАН ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА ЛКСМ БЕЛАРУСІ І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР**

**АПОВЕСЦЬ ПРА БУДНІ КАМСАМОЛЬСКІЯ**

**ГАЛАСЫ СЯБРОЎ З БАЛГАРЫІ**

**СЛОВА САКРАТАРУ ЦК ЛКСМБ**

**ТАК ПАЧЫНАЎСЯ КАМСАМОЛ**

**ЛЕТАПІС КАМСАМОЛЬСКІХ СПРАЎ**

**МОЛАДЗЬ ЗА ПРАЦАЙ**

**ІНТЭРВ'Ю ДАЕ ІВАН НАВУМЕНКА**

**ПРА НАШЫ ІМЁНЫ**

**10**

**КАСТРЫЧНІК**

**МІНСК, 1968.**

**Выдавецтва «Звязда»**

## У НУМАРЫ:

Вокладка **В. Шаранговіча.**

Шмуцтытулы **В. Шаранговіча** (стар. 13) і **В. Ждановіча** (стар. 89).

Галоўны рэдактар **Алесь АСІПЕНКА.**




Мікалай Жукаў. У падполлі.

# АБ ПАДРЫХТОЎЦЫ ДА 100-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ УЛАДЗІМІРА ІЛЬІЧА ЛЕНІНА

## ПАСТАНОВА ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА КПСС

У красавіку 1970 года Камуністычная партыя, савецкі народ, працоўныя ўсіх краін свету будуць адзначаць 100-годдзе з дня нараджэння Уладзіміра Ільіча Леніна.

З імем Леніна непарыўна звязана ўся сучасная гісторыя. Ленін — геніяльны прадаўжальнік рэвалюцыйнага вучэння Маркса і Энгельса, заснавальнік Камуністычнай партыі Савецкага Саюза, правадыр найвялікшай сацыяльнай рэвалюцыі і будаўнік першай у свеце сацыялістычнай дзяржавы. Ленінскія ідэі аказалі і працягваюць аказваць найглыбейшае ўздзеянне на ўвесь ход сусветнага развіцця.

Імя Уладзіміра Ільіча Леніна бессмяротнае, як бессмяротныя яго ідэі, бессмяротныя справы, якія ён здзейсніў. Усё сваё жыццё прысвяціў ён высакароднай справе служэння пралетарыяту, працоўным масам, рэвалюцыйнаму абнаўленню свету. Ленін выразіў спадзяванні і надзеі рабочага класа, працоўнага народа, адказаў на карэнныя пытанні, якія ўладарна дыктава-

ліся жыццём. Пад кіраўніцтвам Леніна наша партыя павяла рабочы клас, усіх працоўных на барацьбу за звяржэнне эксплуататарскага ладу, за лепшае жыццё, за сацыялізм.

З ленінізмам звязаны самыя выдатныя рэвалюцыйныя здзяйсненні дваццатага стагоддзя — Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, якая азнаменавала пачатак новай эпохі ў гісторыі чалавецтва, утварэнне сусветнай сістэмы сацыялізма, грандыёзныя вызваленчыя бітвы і перамогі, атрыманыя рабочым класам, працоўнымі над капіталізмам. Імя Леніна стала сімвалам пралетарскіх рэвалюцый, сацыялізма і прагрэсу, сімвалам камуністычнага пераўтварэння свету.

У барацьбе за перамогу камунізма мы пастаянна чэрпаем сілы і натхненне ў ленінскіх ідэях. Камуністычная партыя, савецкі народ, працоўныя ўсіх краін выказваюць пачуцці бязмежнай любві і павагі да Ільіча, звяртаюць да яго свае лепшыя думкі і імкненні.

**Ленін увайшоў у гісторыю як геніяльны тэарэтык пралетарскай рэвалюцыі і сацыялістычнага пераўтварэння грамадства.** Ён арганічна злучыў у сабе мудрасць мысліцеля і вопыт народнага жыцця, бліскучае веданне марксісцкай тэорыі і разуменне надзённых патрэбнасцей рабочага руху. На рубяжах дзвюх гістарычных эпох, на аснове новага гістарычнага вопыту, вывучэння барацьбы міжнароднага рабочага класа і нацыянальна-вызваленчага руху народаў Ленін творча развіў і ўзбагаціў вучэнне Маркса. Ленінізм — гэта марксізм новай гістарычнай эпохі, эпохі імперыялізму і пралетарскіх рэвалюцый, пераходу чалавецтва ад капіталізму да сацыялізма і будаўніцтва камуністычнага грамадства. Ленінізм — вечна жывая крыніца рэвалюцыйнай думкі і рэвалюцыйнага дзеяння.

У працах Уладзіміра Ільіча атрымалі далейшае ўзбагачэнне і канкрэтызацыю ўсе састаўныя часткі марксізма — філасофія, палітычная эканомія, навуковы камунізм.

Вучэнне Леніна аб імперыялізме як апошняй стадыі капіталізму, аб партыі новага тыпу, сацыялістычнай рэвалюцыі, дыктатуры пралетарыяту ў яе розных формах, сацыялістычнай дэмакратыі, саюзе рабочага класа з сялянствам і ўсімі працоўнымі, па нацыянальнаму і аграрнаму пытаннях, аб шляхах пабудовы сацыялістычнага грамадства — усё ленінскае ідэйнае багацце з'яўляецца надзейнай зброяй нашай партыі, сусветнага рэвалюцыйнага вызваленчага руху.

Ленін бескампрамісна адстойваў пазіцыі дыялектычнага і гістарычнага матэрыялізму, даў глыбокае філасофскае абагульненне навейшых прыродазнаўчанавуковых адкрыццяў, узбагаціў грамадскую думку новымі вывадамі, якія атрымалі бліскучае пацвярджэнне ў грамадскай практыцы, поспехах сучаснай навукі. Неацэнныя старонкі ленінскіх прац захоўваюць сваю актуальнасць і ў нашы дні. Ленінізм — тэарэтычная аснова вырашэння найскладанейшых пытанняў рэвалюцыйнай барацьбы і будаўніцтва новага грамадства.

Ленін бачыў у тэорыі не догму, а кіраўніцтва да дзеяння. Іменна ў творчым развіцці марксізма — неўвядальная дзейсная сіла ідэй У. І. Леніна. Ленінскія адносіны да тэорыі аб'яднаді ў сабе рэвалюцыйную творчасць і вернасць прынцыпам марксізма, сувязь тэорыі з жыццём, з рэвалюцыйнай практыкай.

Ленінская думка заўсёды была звернута да інтарэсаў працоўных.

Ленін паслядоўна адстойваў чыстату марксізма, непрымірыма змагаўся супраць рэвізіянісцкіх і дагматычных скажэнняў рэвалюцыйнай тэорыі. Гістарычны вопыт паказаў, што якія б ні былі адступленні ад прынцыпаў марксісцка-ленінскага вучэння, ад яго інтэрнацыянальнай сутнасці, любыя спробы падмяніць навуковую тэорыю буржуазна-ліберальнай або псеўдарэвалюцыйнай фразай непазбежна ўступаюць у непрымірымы канфлікт з гістарычнымі мэтамі міжнароднага рабочага класа, з карэннымі інтарэсамі сацыялізма.

Ідэі марксізма-ленінізма жывуць і перамагаюць у грандыёзных пераўтварэннях, здзейсненых савецкім народам пад кіраўніцтвам ленінскай партыі. Ідэі марксізма-ленінізма жывуць і перамагаюць у дасягненнях народаў сацыялістычных краін, у поспехах сусветнага камуністычнага руху, міжнароднага рабочага класа, сіл нацыянальнага вызвалення. Рэвалюцыйная тэорыя няспынна ўзбагачаецца тэарэтычнай дзейнасцю КПСС і брацкіх партый, калектыўнай думкай сусветнага камуністычнага руху.



**Ленін увайшоў у гісторыю як найвялікшы правадыр пралетарскай рэвалюцыі, як стваральнік і кіраўнік бальшавіцкай партыі — авангарда рабочага класа, партыі новага тыпу, партыі сацыялістычнай рэвалюцыі і дыктатуры пралетарыяту, партыі будаўніцтва сацыялізма і камунізма, вышэйшай формы грамадска-палітычнай арганізацыі.** Яго жыццё і дзейнасць неаддзельныя ад барацьбы рабочага класа і Камуністычнай партыі. Ён ясна бачыў, што без рэвалюцыйнай марксісцкай партыі немагчымы ні перамога сацыялістычнай рэвалюцыі, ні пабудова сацыялізма і камунізма.

Жыццё пацвердзіла ленінскую ідэю аб тым, што ролю перадавога барацьбіта можа выканаць толькі партыя, кіруемая перадавой тэорыяй, партыя, здольная забяспечыць правільнае палітычнае кіраўніцтва. Ленін вучыў партыю, зыходзячы з рэальных умоў, смела браць на сябе ініцыятыву, ужываць гібкую і разнастайную тактыку, выкарыстоўваць розныя формы і метады класавай барацьбы. Партыя, Ленін распрацавалі праграму дэмакратычных і сацыялістычных рэвалюцыйных пераўтварэнняў, палітычна арганізавалі рабочы клас, працоўныя масы на штурм самадзяржаўя і капіталізму. Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, сусветна-гістарычныя заваёвы сацыялізма — найвялікшая перамога стратэгіі і тактыкі ленінізма.

Ленін усебакова раскрыў кіруючую ролю Камуністычнай партыі не толькі ў заваёве ўлады, але і ў будаўніцтве сацыялізма і камунізма. Ён вызначыў вялікія мэты і гістарычнае прызванне партыі на доўгі перыяд. «Выхоўваючы рабочую партыю, — указваў Уладзімір Ільіч, — марксізм выхоўвае авангард пралетарыяту, здольны ўзяць уладу і **весці ўвесь народ** да сацыялізма, накіроўваць і арганізоўваць новы лад, быць настаўнікам, кіраўніком, правадыром усіх працоўных і эксплуатуемых у справе ўстройства свайго грамадскага жыцця без буржуазіі і супраць буржуазіі».

Камуністычная партыя, аб'ядноўваючы ў сваіх радах лепшых прадстаўнікоў рабочага класа, сялянства, інтэлігенцыі, выступае як кіруючая палітычная сіла сацыялістычнага грамадства. Вырашаючы новыя складаныя задачы, якія ўзнікаюць у ходзе будаўніцтва камунізма, наша партыя абапіраецца на тэорыю Маркса, Энгельса, Леніна, багацейшы вопыт Савецкага Саюза, брацкіх краін сацыялізма, сусветнага камуністычнага і рабочага руху. Камуністычная партыя развівае, узбагачае змест марксізма-ленінізма, навуку аб будаўніцтве сацыялізма і камунізма. Глыбокі аналіз аб'ектыўных працэсаў сацыяльна-эканамічнага і духоўнага жыцця грамадства, усебаковы ўлік суадносін класавых сіл, канкрэтных асаблівасцей кожнага гістарычнага моманту — аснова асноў развіцця марксізма-ленінізма, распрацоўкі ўнутранай і знешняй палітыкі Камуністычнай партыі.

Ленін надаваў велізарнае, рашаючае значэнне адзінству поглядаў і дзеянняў партыі, умацаванню свядомай дысцыпліны і згуртаванасці яе радоў, развіццю ўнутрыпартыйнай дэмакратыі, творчай актыўнасці членаў партыі. Ён распрацаваў і абгрунтаваў нормы і прынцыпы партыйнага жыцця, кіруючыся якімі наша партыя дабілася выдатных поспехаў. У трывалых, шырокіх сувязях з рабочым класам, з усімі працоўнымі, у пастаяннай крытычнай самаправерцы — сіла і неперамožнасць нашай партыі.

У дакументах XXIII з'езда КПСС знайшлі адлюстраванне важнейшыя патрабаванні аб далейшым умацаванні радоў партыі, аб развіцці ўнутрыпартыйнай дэмакратыі і ўмацаванні партыйнай дысцыпліны, аб павышэнні баяздольнасці пярвічных арганізацый партыі, аб паляпшэнні работы па падбору, расстаноўцы і выхаванню кадраў і праверцы выканання партыйных рашэнняў, аб навуковым падыходзе ў партыйнай рабоце. Выконваючы рашэнні XXIII з'езда КПСС, партыйныя арганізацыі дабіліся значнага ажыўлення сваёй дзейнасці, павышэння актыўнасці камуністаў.

**Ленін увайшоў у гісторыю як заснавальнік і кіраўнік першай у свеце сацыялістычнай дзяржавы — дзяржавы рабочых і сялян.** Ленін развіў марксісцкае вучэнне аб дзяржаве, глыбока раскрыў гістарычнае значэнне рэспублікі Саветаў — дзяржавы новага тыпу, нязмерна больш высокай і дэма-

кратычнай, чым любая з буржуазна-парламентарных рэспублік. Ён падкрэсліваў, што аб'яднаны Саветамі працоўны народ можа і павінен кіраваць усімі справамі дзяржавы.

У пастаянным умацаванні Саветаў, сацыялістычнай дзяржавы Ленін бачыў тую галоўную і неабходную ўмову, якая можа забяспечыць надзейную абарону інтарэсаў рабочага класа, усіх працоўных, пераўтварэнне грамадскага жыцця на сацыялістычных асновах.

Чалавецтва, указваў У. І. Ленін, не можа ісці наперад, не робячы крокаў да сацыялізма. Сацыялізм — ажыццяўленне аб'ектыўных патрэбнасцей грамадскага развіцця, выражэнне інтарэсаў рабочага класа, найшырэйшых народных мас. Толькі сацыялістычная арганізацыя грамадства здольна накіраваць развіццё эканомікі, навукі і культуры на карысць народа, узняць працоўных да свабоднай працы і творчасці, адкрыць прастор для ўсебаковага развіцця талентаў і здольнасцей людзей. Сацыялізм — гэта шпаркі і няспынны прагрэс ва ўсіх галінах грамадскага жыцця і чалавечай дзейнасці.

Ленін падкрэсліваў, што адзінай матэрыяльнай асновай сацыялізма можа быць буйная прамысловасць, створаная па апошняму слову навукі і тэхнікі. Толькі высакаразвітая вытворчасць здольна аблегчыць працу рабочых і сялян, стварыць багацце матэрыяльных даброт. Толькі тое будаўніцтва, указваў У. І. Ленін, можа заслужыць назву сацыялістычнага, якое будзе праводзіцца па буйному агульнаму плану, імкнучыся раўнамерна выкарыстоўваць эканамічныя і гаспадарчыя каштоўнасці.

Па ініцыятыве і пад непасрэдным кіраўніцтвам У. І. Леніна быў распрацаваны план ГОЭРЛО — першы адзіны народнагаспадарчы план, ажыццяўленне якога з'явілася важнейшым этапам у стварэнні матэрыяльна-тэхнічнай базы сацыялістычнага грамадства. Індустрыялізацыя краіны, якая разгарнулася з першых пяцігодак, з'явілася гіганцкай бітвай савецкага народа за сацыялізм. Яна стварыла трывалы фундамент для развіцця ўсіх галін народнай гаспадаркі і ўздыму народнага дабрабыту, забяспечыла абараназдольнасць нашай Радзімы, вывела краіну на перадавыя рубяжы навукова-тэхнічнага прагрэсу. Паўвекавы вопыт сацыялізма пацвердзіў справядлівасць ленінскай палітыкі стварэння буйной сацыялістычнай індустрыі.

Каб скончыць з векавой адсталасцю сялянства, стварыць трывалую эканамічную аснову сацыялізма ў вёсцы, неабходна было ажыццявіць найглыбейшыя сацыялістычныя пераўтварэнні ў сельскай гаспадарцы на аснове ленінскага кааператыўнага плана. У. І. Ленін неаднаразова гаварыў, што дробным гаспадаркам з нястачы не выйсці, што забяспечыць аснову камунізма ў земляробстве можна толькі цаной велізарнай тэхнічнай рэвалюцыі.

Добраахвотнае масавае аб'яднанне сялян у калектыўных гаспадарках, ліквідацыя кулацтва — апошняга эксплуататарскага класа, арганізацыя саўгасаў знаменавалі сабой карэнны сацыяльны пераварот у жыцці сялянства, прывялі да стварэння сучаснай буйной сельскагаспадарчай вытворчасці, якая змяніла ўвесь уклад вясковага жыцця. Калектывізацыя вывела вёску на сацыялістычны шлях развіцця, умацавала саюз рабочага класа і сялянства. Паўвекавы вопыт сацыялізма пацвердзіў правільнасць ленінскай палітыкі партыі па сацыялістычнай перабудове сельскай гаспадаркі.

**У. І. Ленін гаварыў, што сацыялізм — жывая творчасць народа, калі працоўныя самі будуюць новае жыццё, сваім вопытам вырашаюць найцяжэйшыя пытанні сацыялістычнай арганізацыі**. У гэтым — рэальны дэмакратызм сацыялізма. Сацыялізм узнімае да актыўнага грамадска-палітычнага жыцця мільёны рабочых і сялян, стварае шырокія магчымасці для іх удзелу ў кіраванні грамадскімі справамі, забяспечвае матэрыяльныя і палітычныя гарантыі правоў і свабод працоўных.

У працэсе будаўніцтва камунізма адбываецца ўдасканаленне і далейшае развіццё сацыялістычнай дзяржаўнасці і дэмакратыі. Важнае месца ў жыцці савецкага грамадства, у развіцці палітычнай і працоўнай актыўнасці мас займаюць органы народаўладдзя — Саветы, грамадскія арганізацыі — савецкія прафсаюзы, Ленінскі камсамол, кааператыўныя і іншыя



арганізацыі. Наша партыя бачыць сваю задачу ў тым, каб і ў далейшым усямерна павышаць актыўнасць і ініцыятыву Саветаў, прафсаюзных, камсамольскіх і іншых грамадскіх арганізацый. Рашаючай палітычнай умовай умацавання і развіцця сацыялістычнай дэмакратыі з'яўляецца кіруючая роля Камуністычнай партыі як выразніка інтарэсаў рабочага класа, народных мас.

Свабода для працоўных — ёсць перш за ўсё свабода ад эксплуатацыі, ад сацыяльнага, палітычнага і нацыянальнага прыгнёту, ад цемры і невуцтва. Ленін вучыў разглядаць пытанне аб свабодзе канкрэтна-гістарычна: свабода для каго, для якога класа? Свабода ад чаго? Свабода ў чым? Інтарэсы сацыялізма, інтарэсы народа патрабуюць абараняць заваёвы сацыялістычнай дэмакратыі ад падкопаў з боку імперыялізму, ад антыграмадскіх, антысацыялістычных элементаў. Далейшае развіццё сацыялістычнай дэмакратыі, свабоды асобы прадугледжвае выхаванне ва ўсіх членаў грамадства непрымірымасці да любых замахаў на прынцыпы, нормы сацыялістычнага супольнага жыцця.

Для ўмацавання сацыялізма, для дабрабыту народа важнае значэнне мае правільнае разуменне кожным членам грамадства сваёй адказнасці за нашу агульную справу, свайго грамадзянскага абавязку перад сацыялістычнай Радзімай. Свабода немагчыма без адказнасці кожнага члена грамадства перад грамадствам. Ленін падкрэсліваў: жыць у грамадстве і быць свабодным ад грамадства нельга.

Будаўніцтва сацыялізма, указваў Уладзімір Ільіч, немагчыма без цэлай гістарычнай паласы ў культурным развіцці мас. Кастрычніцкая рэвалюцыя, Савецкая ўлада стварылі ўмовы для адукацыі і свядомай стваральнай творчасці рабочых і сялян. Культурная рэвалюцыя ў нашай краіне прынесла савецкім людзям адукацыю і асвету, росквіт навукі, стварыла народную інтэлігенцыю, усталявала сацыялістычную ідэалогію ва ўсіх сферах духоўнага жыцця грамадства, захавала і памножыла каштоўнасці сусветнай культуры.

Натхнёныя ідэямі сацыялістычнай рэвалюцыі, літаратура і мастацтва сталі састаўной часткай агульнапралетарскай справы, усенароднай барацьбы за перамогу камунізма. Паўвекавы вопыт сацыялізма пацвердзіў правільнасць ленінскай палітыкі партыі ў галіне культурнага будаўніцтва.

Ленінскі геній даў тэарэтычнае і практычнае вырашэнне нацыянальнага пытання. У. І. Ленін падкрэсліў неабходнасць такога саюзу вызваленых нацый, які быў бы заснаван на паўнейшым давер'і, на ясным усведамленні брацкага адзінства ў барацьбе за перамогу сацыялізма і камунізма. Усталяванне непарушнага брацтва народаў СССР, росквіт эканомікі і культуры сацыялістычных рэспублік нашай Радзімы, іх трывалае адзінства пераканаўча пацвярджаюць правільнасць ленінскага вучэння і палітыкі партыі ў вырашэнні нацыянальнага пытання, перамогу ідэй пралетарскага інтэрнацыяналізму.

З імем У. І. Леніна непарыўна звязана нараджэнне Савецкіх Узброеных Сіл, іх гераічная гісторыя, яму належыць гістарычная заслуга ў абгрунтаванні ваеннай праграмы пралетарскай рэвалюцыі, вучэння аб абароне сацыялістычнай Айчыны. На працягу ўсёй гісторыі Савецкай дзяржавы нашы Узброеныя Сілы ў барацьбе з ворагам з гонарам пранеслі свой баявы сцяг, адстаялі свабоду і незалежнасць сацыялістычнай Радзімы, выратавалі народы свету ад фашысцкага заняволення. Савецкі народ і яго Узброеныя Сілы заўсёды памятаюць запавет Леніна — праяўляць пільнасць, быць заўсёды напагатове ў адносінах да падкопаў імперыялістаў.

Партыя і савецкі народ, кіруючыся ленінскімі запаветамі, пераадольваючы велізарныя цяжкасці і злоснае супраціўленне рэшткаў эксплуататарскіх класаў, у найкарацейшыя гістарычныя тэрміны ператварылі нашу краіну ў магутную сацыялістычную дзяржаву, заснаваную на непарушным саюзе рабочага класа і сялянства, на брацкай дружбе ўсіх народаў СССР.

Генеральны курс на пабудову сацыялізма партыя адстаяла ў барацьбе з трацкізмам, «левым» і правым апартунізмам, нацыянал-ухілістамі і іншымі антыленінскімі групоўкамі, якія спрабавалі саштурхнуць партыю з правільнага шляху, вызначанага Леніным.

Поўная, канчатковая перамога сацыялізма ў СССР і пераход да будаўніцтва камунізма — рэальнае ажыццяўленне ленінскіх ідэй, трыумф палітыкі Камуністычнай партыі. Сацыялізм паказаў перад усім светам сваю вялікую пераўтвараючую сілу, неаспрэчную перавагу перад капіталізмам. Перамога савецкага народа ў Вялікай Айчыннай вайне, разгром злейшага ворага прагрэсу і цывілізацыі — фашызму з'явіўся пераканаўчым пацвярджэннем несакрушальнасці Савецкай дзяржавы, вернасці шматнацыянальнага савецкага народа ідэям марксізма-ленінізма.

Вынікі паўвекавога развіцця Савецкага Саюза — неабвержнае сведчанне правільнасці і жыццёвасці марксісцка-ленінскага вучэння, правільнасці шляху, па якому ідзе наш народ пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі.

**Ленін увайшоў у гісторыю як прызнаны правадыр сусветнага пралетарыяту, міжнароднага камуністычнага руху.** На аснове абагульнення вопыту трох рускіх рэвалюцый, барацьбы міжнароднага рабочага класа ён унёс велізарны ўклад у распрацоўку стратэгіі і тактыкі камуністычнага руху. У. І. Ленін нястомна змагаўся за ўмацаванне адзінства пралетарыяту. У адзінстве рабочага класа ён бачыў важнейшую ўмову пасняховага руху наперад да намечаных мэты.

Ленін высока ўзняў сцяг інтэрнацыяналізму, выхоўваў камуністаў і ўсіх працоўных у духу міжнароднай салідарнасці. «Капітал, — растлумачваў Ленін, — ёсць сіла міжнародная. Каб яе перамагчы, патрэбен міжнародны саюз рабочых, міжнароднае брацтва іх.

Мы — праціўнікі нацыянальнай варожасці, нацыянальнай розні, нацыянальнай адасобленасці. Мы — міжнароднікі, інтэрнацыяналісты».

У згуртаванні рэвалюцыйных сіл выдатную ролю адыграў створаны па ініцыятыве Леніна Камуністычны Інтэрнацыянал. У. І. Ленін з уласцівай яму рэвалюцыйнай страснасцю змагаўся супраць апартунізму, авантурызму, нацыяналізму ў міжнародным рабочым руху, папярэджваў камуністычныя партыі аб іх небяспецы для лёсу рэвалюцыі і сацыялізма.

Ход гісторыі поўнасцю пацвердзіў ленінскі аналіз сусветнага развіцця, характарыстыку рэакцыйнай сутнасці імперыялізму, ацэнку Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі як пераломнага этапа ў развіцці чалавецтва, як пачатку сусветнай камуністычнай рэвалюцыі.

Пад баявым сцягам марксізма-ленінізма міжнародны камуністычны рух прайшоў сапраўды гераічны шлях — ад жменькі рэвалюцыйных барацьбітоў да магутнай арміі, якая аб'ядноўвае ў сваіх радах дзесяткі мільёнаў камуністаў. Марксісцка-ленінскія камуністычныя і рабочыя партыі, якія існуюць амаль ва ўсіх краінах свету, ідуць у авангардзе рэвалюцыйнага руху, уносяць свой уклад у агульную скарбніцу марксізма-ленінізма.

Камуністычныя партыі, рабочы клас, працоўныя дабіліся выдатных перамог у барацьбе супраць імперыялізму, за вызваленне ад класавага прыгнёту капіталу, за знішчэнне ганебнай сістэмы каланіяльнага заняволення. Вылучэнне міжнароднага рабочага класа, сусветнай сістэмы сацыялізма ў цэнтр сучаснай эпохі, поспехі нацыянальна-вызваленчых рэвалюцый знамянуюць сусветна-гістарычныя перамогі марксізма-ленінізма. Збываецца ленінскае прадбачанне аб тым, што, як бы ні вар'явала і ні злавалася імперыялістычная буржуазія, перамога новага, сацыялістычнага ладу немінучая.

Імперыялістычная рэакцыя, спрабуючы справіцца з эканамічнымі і палітычнымі ўзрушэннямі, выйсці з тупіка невырашальных сацыяльных супярэчнасцей, усё больш становіцца на шлях ваенных авантур і правакацый. Імперыялізм ставіць пад пагрозу гібелі жыцці мільёнаў людзей, плён цывілізацыі і культуры. Амерыканскі імперыялізм, які стаў галоўнай пагрозай міру і бяспецы народаў, узмацняе свае злачынныя дзеянні ў розных раёнах свету. Сілы рэакцыі робяць замах на незалежнасць і свабоду народаў. Як і ў мінулым, усё часцей і часцей імперыялістычная буржуазія звяртаецца да метадаў фашысцкай дыктатуры. У гэтых умовах з асаблівай сілай гучыць ленінскі заклік да яднання ўсіх рэвалюцыйных, прагрэсіўных сіл у барацьбе супраць імперыялістычнай разбойніцкай палітыкі, за справу дэмакратыі, сацыялізма і міру.

У сучасным свеце ідзе вострая барацьба дзвюх ідэалогій — сацыялістычнай і буржуазнай, барацьба, якая адлюстроўвае непрымірымасць класавых пазіцый пралетарыяту і буржуазіі, сацыялізма і капіталізму. У. І. Ленін падкрэсліваў, што «наша задача — перамагчы ўсё супрацiўленне капіталістаў, не толькі ваеннае і палітычнае, але і ідэйнае, самае глыбокае і самае магутнае». Імперыялістычная буржуазія робіць галоўную стаўку на нацыяналістычныя, рэвізіяністкія і лявацкія элементы, спрабуе прытупіць класавую свядомасць, аслабіць ідэйна-палітычнае адзінства народаў сацыялістычных краін, раз'яднаць працоўных.



Няма і не можа быць нейтралізму, якіх-небудзь кампрамісаў у барацьбе з буржуазнай ідэалогіяй: класавыя прынцыпы не прымірэюцца, яны перамагаюць у барацьбе. Выкрыццё буржуазнай ідэалогіі — рэвалюцыйны абавязак марксістаў-ленінцаў.

Пад сцягам марксізма-ленінізма працоўныя ўсяго свету згуртоўваюцца ў барацьбе супраць імперыялізму, супраць імперыялістычнай палітыкі ваенных авантур і міжнародных правакацый, за мір, дэмакратыю і сацыялізм, нацыянальную незалежнасць і свабоду народаў. Вучэнне Маркса — Энгельса — Леніна ўсемагутнае, таму што яно правільнае.

**Ленін увайшоў у гісторыю як палымяны барацьбіт за свабоду і шчасце працоўных.** Ён беззапаветна змагаўся за перамогу сацыялізма. «Гэта — вялікая справа, — пісаў Ленін, — і на такую справу не шкада і ўсё жыццё аддаць». І ўсё яго жыццё было аддадзена справе рабочага класа, працоўнага народа, справе рэвалюцыі, справе камунізма. Ільіч быў непрымірымым да ворагаў, прынцыповым у палітыцы, гібкім у падыходзе да вырашэння канкрэтных праблем. Непарыўная сувязь з масамі, чуласць і ўважлівасць да людзей, скромнасць, патрабавальнасць да сябе і іншых — такі нязгасны вобраз нашага правадыра і настаўніка.

**Няма нічога больш узвышанага і высакароднага, чым браць прыклад з Леніна, самааддана змагацца за справу, якой ён прысвяціў сваё жыццё.** Рабочыя, сяляне, інтэлігенцыя, увесь шматнацыянальны савецкі народ верныя ленінізму, жывуць, працуюць і перамагаюць з імем Леніна. У свядомай працы, у стваральнай творчасці мас праяўляецца вернасць ленінізму, справе камунізма. Ва ўсіх здзяйсненнях савецкіх людзей знаходзіць жывое ўвасабленне веліч ідэй і думак Уладзіміра Ільіча Леніна. Наша партыя на працягу ўсёй сваёй слаўнай гісторыі кіравалася ленінскай генеральнай лініяй камуністычнага будаўніцтва. У праграме партыі, рашэннях XXIII з'езда КПСС вызначаны далейшыя задачы стварэння матэрыяльна-тэхнічнай базы камунізма, удасканалення грамадскіх адносін, выхавання савецкіх людзей у духу высокай палітычнай свядомасці.

**У. І. Ленін надаваў велізарнае значэнне камуністычнаму выхаванню моладзі, яе актыўнаму ўдзелу ў рэвалюцыйнай барацьбе і будаўніцтве новага грамадства.** Ён падкрэсліваў важнасць выпрацоўкі ў моладзі цэласнага рэвалюцыйнага светапогляду, засваення багацейшага вопыту старэйшых пакаленняў, умення ператварыць камунізм у кіраўніцтва для практычнай работы. Ільіч гаварыў, што моладзі выпадае велізарная, удзячная, — але затое і цяжкая задача — задача барацьбы за сацыялізм. У. І. Ленін пісаў, што закладзены намі будынак сацыялістычнага грамадства яшчэ больш старанна будуць будаваць нашы дзеці. Да юнакоў і дзяўчат звернут палымяны ленінскі заклік: «Узмацняйце, юныя таварышы, вашу работу ў гэтым напрамку, каб са свежымі маладымі сіламі ўзяцца за наладжванне новага, светлага жыцця».

Уступаючы ў свядомае жыццё, моладзь пад кіраўніцтвам партыі ідзе дарогай бацькоў, працягвае рэвалюцыйныя традыцыі, памнажае матэрыяльныя і духоўныя багацці нашага грамадства. Камуністычная партыя, савецкі народ ганарацца гераічнай паўвекавой гісторыяй Ленінскага камсамола, слаўнымі справамі нашай моладзі, якая праявіла на ўсіх этапах рэвалюцыйнай барацьбы і сацыялістычнага будаўніцтва беззапаветную адданасць ідэям камунізма. Пад кіраўніцтвам партыі Ленінскі камсамол стаў для пакаленняў моладзі выдатнай школай грамадскага жыцця, палітычнай загартоўкі, камуністычнага выхавання.

На ўсіх напрамках камуністычнага будаўніцтва савецкія людзі пад кіраўніцтвам партыі дабіліся вялікіх поспехаў. З велізарным натхненнем

наш народ ажыццяўляе распрацаваныя XXIII з'ездам КПСС і Пленумамі Цэнтральнага Камітэта палітычныя, эканамічныя і арганізацыйныя меры, накіраваныя на павышэнне эфектыўнасці грамадскай вытворчасці, матэрыяльнага і культурнага ўзроўню жыцця працоўных, на далейшае ўмацаванне маральна-палітычнага адзінства савецкага грамадства. Развіццё эканомікі характарызуецца паскарэннем тэмпаў прамысловай вытворчасці. Паляпшаюцца справы ў сельскай гаспадарцы. Расце дабрабыт народа. Усё гэта натхняе савецкіх людзей на паспяховае вырашэнне новых вялікіх задач.

**Партыя і ў далейшым будзе цвёрда і няўхільна ісці ленінскім курсам.**

Ісці ленінскім курсам, змагацца за выкананне запаветаў Леніна — гэта азначае:

— рабіць усё неабходнае для пабудовы камунізма, самаадданай працай памнажаць матэрыяльныя і духоўныя багацці сацыялістычнай Айчыны;

— ствараць матэрыяльна-тэхнічную базу камунізма, дабівацца няўхільнага росту прамысловай і сельскагаспадарчай вытворчасці, уздыму дабрабыту і культуры народа, удасканальваць метады кіравання народнай гаспадаркай, павышаць прадукцыйнасць працы, настойліва змагацца за паскарэнне навукова-тэхнічнага прагрэсу, выхоўваць павагу да чалавека працы;

— дабівацца далейшага ўмацавання маральна-палітычнага адзінства рабочага класа, сялянства, народнай інтэлігенцыі, брацтва і дружбы народаў нашай краіны — залогу ўсіх нашых перамог;

— умацоўваць Савецкую дзяржаву, развіваць сацыялістычную дэмакратыю, павышаць ролю і адказнасць Саветаў і грамадскіх арганізацый ва ўсім нашым жыцці, усё шырэй уцягваць працоўных у практычныя справы па кіраванню дзяржавай, выхоўваць новага чалавека — актыўнага барацьбіта за камунізм;

— пастаянна ўмацоўваць рады Камуністычнай партыі, берагчы яднанне партыі і народа, строга захоўваць ленінскія нормы партыйнага і дзяржаўнага жыцця, быць прынцыповым, праяўляць дзелавітасць у рабоце, скромнасць, чуласць, умацоўваць дысцыпліну і арганізаванасць, быць непрымірымым да антыграмадскіх учынкаў, рашуча выяўляць і ліквідоўваць недахопы;

— аберагаць чыстату марксісцка-ленінскай тэорыі, творча ўзбагачаць яе ў адпаведнасці з канкрэтна-гістарычнымі ўмовамі грамадскага развіцця, весці прынцыповую, непрымірымую барацьбу супраць любых праяўленняў буржуазнай ідэалогіі;

— пастаянна клапаціцца аб росце абароннай магутнасці Савецкай Радзімы, падтрымліваць пастаянную гатоўнасць народа і арміі адбіць агрэсію імперыялістаў, абараніць сацыялістычную Бацькаўшчыну;

— свята выконваць свой інтэрнацыянальны абавязак, умацоўваць міжнародную пралетарскую салідарнасць у барацьбе супраць імперыялізму і рэакцыі; усямерна падтрымліваць рэвалюцыйную барацьбу пралетарыяту супраць капіталістычнага рабства і прыгнечання, нацыянальна-вызваленчы рух; умацоўваць магутнасць сусветнай сацыялістычнай сістэмы, згуртаванасць міжнароднага камуністычнага і рабочага руху.

Наша партыя, рабочы клас, савецкі народ першыя ўступілі на шлях сацыялізма і камунізма. Савецкія людзі ўсведамляюць сваю высокую гістарычную адказнасць і аддаюць усе свае сілы ў імя перамогі вялікіх ідэй марксізма-ленінізма.

Цэнтральны Камітэт КПСС **пастанаўляе:**

ЦК Кампартый саюзных рэспублік, крайкомам, абкомам, гаркомам, райкомам партыі, пярвічным партыйным арганізацыям, Галоўнаму палітычнаму ўпраўленню Савецкай Арміі і Ваенна-Марскога Флоту, палітарганам злучэнняў і ваенна-навучальных устаноў шырока разгарнуць палітычную і арганізацыйную работу па падрыхтоўцы да стагоддзя з дня нараджэння У. І. Леніна, разглядаючы яе як агульнапартыйную, агульнанародную справу.

Партыйным арганізацыям разам з савецкімі органамі, грамадскімі арганізацыямі і паліторганамі Савецкай Арміі і Ваенна-Марскога Флоту распрацаваць канкрэтныя планы падрыхтоўкі да стагоддзя з дня нараджэння У. І. Леніна па рэспубліцы, краю, вобласці, акрузе, гораду, раёну, па кожнаму прадпрыемству, саўгасу і калгасу, воінскіх часцях і караблях.

ЦК КПСС лічыць, што лепшы спосаб адзначыць сотую гадавіну з дня нараджэння У. І. Леніна — гэта сканцэнтраваць увагу на ажыццяўленні грандыёзных планаў гаспадарчага і культурнага будаўніцтва, якія стаяць перад савецкім народам. Асноўныя намаганні трэба накіраваць на вырашэнне актуальных эканамічных, сацыяльна-палітычных і ідэалагічных задач, пастаўленых у рашэннях XXIII з'езда КПСС.

ЦК КПСС з задавальненнем адзначае, што па ініцыятыве многіх калектываў прадпрыемстваў прамысловасці, транспарту, будоўляў, калгасаў і саўгасаў, як выражэнне бязмежнай любві да Леніна і актыўнасці мас у барацьбе за выкананне яго запаветаў, шырока разгортваецца сацыялістычнае спаборніцтва за дастойную сустрэчу вялікай даты — стагоддзя з дня нараджэння нашага правадыра і настаўніка, за паспяховае выкананне пяцігадовага плана развіцця народнай гаспадаркі.

*Выкарыстоўваючы вопыт падрыхтоўкі да 50-годдзя Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі*, разгарнуць прапагандысцкую і масава-палітычную работу сярод усіх слаёў насельніцтва. Галоўным зместам усёй палітычнай работы трэба лічыць усебаковы паказ барацьбы партыі, усяго савецкага народа за ажыццяўленне вялікіх запаветаў Леніна, глыбокае раскрыццё значэння марксізма-ленінізма для рэвалюцыйных пераўтварэнняў, гістарычнай ролі У. І. Леніна як вялікага мысліцеля, рэвалюцыянера, заснавальніка Камуністычнай партыі і першай у свеце рабоча-сялянскай сацыялістычнай дзяржавы, правадыра міжнароднага камуністычнага і рабочага руху; растлумачэнне значэння марксісцка-ленінскага вучэння для будаўніцтва сацыялізма і камунізма ў нашай краіне, развіцця і ўмацавання сусветнай сацыялістычнай сістэмы, сусветнага рэвалюцыйнага руху.

Палітычную работу накіроўваць на выхаванне савецкіх людзей у духу вернасці ленінскім запаветам і камуністычнай перакананасці, непрымірымасці да капіталізму, буржуазнай ідэалогіі, на далейшае развіццё грамадскай і працоўнай актыўнасці савецкага народа, выхаванне патрыятызму і інтэрнацыяналізму, на ўсямернае ўмацаванне эканамічнай і абароннай магутнасці нашай Радзімы.

ЦК КПСС лічыць, што важнейшай задачай у сувязі з падрыхтоўкай да гэтай знамянальнай даты з'яўляецца творчая работа па далейшаму развіццю тэорыі марксізма-ленінізма — магутнай ідэйнай зброі нашай партыі ў барацьбе за перамогу камунізма.

Інстытуту марксізма-ленінізма і Акадэміі грамадскіх навук пры ЦК КПСС, гуманітарным інстытутам Акадэміі навук СССР і кафедрам грамадскіх навук вышэйшых навучальных устаноў сканцэнтраваць намаганні на распрацоўцы актуальных пытанняў марксісцка-ленінскай тэорыі — эканамічных праблем будаўніцтва камунізма, развіцця і ўмацавання сацыялістычнай дэмакратыі, камуністычнага выхавання, на тэарэтычным абагульненні працэсаў рэвалюцыйнага вызваленчага руху і ўсяго сусветнага развіцця.

Глыбокае вывучэнне і прапаганда ідэй Маркса — Энгельса — Леніна — аснова ідэалагічнай дзейнасці партыйных арганізацый па камуністычнаму выхаванню працоўных. Рыхтуючыся да стагоддзя з дня нараджэння У. І. Леніна, партыйныя арганізацыі павінны ўзмацніць работу ў галіне марксісцка-ленінскай адукацыі ўсіх камуністаў, глыбокага вывучэння рэвалюцыйнай тэорыі шырокімі масамі камуністаў і беспартыйных.

Рэкамендаваць ВЦСПС распрацаваць мерапрыемствы па ўдзелу прафсаюзаў у падрыхтоўцы да стагоддзя з дня нараджэння У. І. Леніна, накіраваныя на развіццё ініцыятывы шырокіх мас у сацыялістычным спаборніцтве, руху за камуністычную працу, павышэнне прадукцыйнасці працы, узмацненне работы па арганізацыі працы, быту і адпачынку працоўных.

Рэкамендаваць ЦК ВЛКСМ распрацаваць план дзейнасці камсамольскіх арганізацый у сувязі з падрыхтоўкай да стагоддзя з дня нараджэння У. І. Леніна, звярнуўшы асаблівую ўвагу на выхаванне камсамольцаў,

савецкай моладзі ў духу вернасці ленінізму, у духу беззапаветнай барацьбы за вялікія ідэалы Камуністычнай партыі. Выхаванне ў маладых людзей волі, гатоўнасці, умення жыць і змагацца па-ленінску — высакародная задача камсамола. Моладзь, камсамол і ў далейшым з усёй настойлівасцю закліканы выконваць запавет Ільіча — вучыцца, вучыцца і вучыцца, глыбока і творча авалодваць марксісцка-ленінскай тэорыяй, навейшымі дасягненнямі навукі, тэхнікі і культуры, загартоўваць сваю волю і характар у свядомай дысцыплінаванай працы.

Рэдакцыям газет «Правда», «Известия», «Экономическая газета», «Сельская жизнь», «Советская Россия», «Труд», «Комсомольская правда», «Красная звезда», рэдакцыям часопісаў «Коммунист», «Партийная жизнь», «Политическое самообразование», «Агитатор», ТАСС, АДН, рэдакцыям цэнтральных і мясцовых газет і часопісаў распрацаваць планы публікацыі матэрыялаў, прысвечаных 100-годдзю з дня нараджэння У. І. Леніна. У друку ўсебакова адлюстроўваць жыццё і шматгранную рэвалюцыйную дзейнасць Леніна, тэарэтычнае багацце ленінскіх ідэй, барацьбу КПСС і ўсяго камуністычнага руху за ажыццяўленне ідэй марксізма-ленінізма.

Камітэту па радыёвяшчанню і тэлебачанню пры Савеце Міністраў СССР забяспечыць рознабаковы паказ падрыхтоўкі да 100-годдзя з дня нараджэння У. І. Леніна, ярка і глыбока раскрываць вобраз Ільіча, яго жыццё і рэвалюцыйную дзейнасць, багацце яго тэарэтычнай спадчыны, расказваць аб барацьбе партыі і народа за ажыццяўленне ідэй марксізма-ленінізма.

Міністэрству культуры СССР у сувязі з падрыхтоўкай да ленінскага юбілею прадугледзець конкурсы-агляды на лепшыя драматычныя і музычныя спектаклі, тэматычныя праграмы канцэртаў, правядзенне свят пад ленінскім дэвізам «Мастацтва — народу» ў Маскве, Ленінградзе і сталіцах саюзных рэспублік, фестываляў мастацтваў у асобных гарадах, звязаных з жыццём і дзейнасцю У. І. Леніна, арганізацыю выставак выяўленчага мастацтва.

Камітэту па кінематаграфіі пры Савеце Міністраў СССР забяспечыць стварэнне мастацкіх і дакументальных фільмаў, прысвечаных У. І. Леніну, і фільмаў, якія адлюстроўвалі б перамогу марксізма-ленінізма, шырокі паказ лепшых мастацкіх, дакументальных і навукова-папулярных фільмаў аб У. І. Леніне.

Рэкамендаваць праўленням Саюза пісьменнікаў СССР, Саюза мастакоў СССР, Саюза кампазітараў СССР, Саюза кінематаграфістаў СССР, Саюза журналістаў СССР, Саюза архітэктараў СССР распрацаваць планы ўдзелу творчых саюзаў у падрыхтоўцы да стагоддзя з дня нараджэння У. І. Леніна.



Цэнтральны Камітэт КПСС заклікае рабочых, калгаснікаў, інтэлігенцыю, савецкіх воінаў адзначыць стагоддзе з дня нараджэння Уладзіміра Ільіча Леніна новымі перамогамі ў барацьбе за ажыццяўленне планаў камуністычнага будаўніцтва, намечаных Праграмай КПСС, рашэннямі XXIII з'езда партыі і дакументамі, прынятымі ў сувязі са святкаваннем 50-годдзя Кастрычніка.

Наша партыя, наш народ, загартаваныя ў рэвалюцыйных бітвах, у барацьбе за пабудову новага грамадства, поўныя непахіснай рашучасці няўхільна выконваць вялікія запаветы свайго правадыра і настаўніка Уладзіміра Ільіча Леніна.

**Будзем і далей працаваць і жыць па-ленінску, ствараючы цудоўны помнік Уладзіміру Ільічу — будынак камунізма, вялікае і дастойнае ўвасабленне яго бессмяротных ідэй. Яшчэ цясней згуртуем нашы рады! Больш упартасці і самаадданасці, дысцыпліны і арганізаванасці! Больш творчай ініцыятывы на ўсіх участках камуністычнага будаўніцтва! Вышэй рэвалюцыйны марксісцка-ленінскі сцяг барацьбы за камунізм!**

***Цэнтральны Камітэт Камуністычнай партыі Савецкага Саюза.***



# ПАЭЗІЯ ПРОЗА

**АЛЕСЬ ШПЫРКОЎ ● АЛЕГ САЛТУК ● УЛАДЗІМІР НАВУМОВІЧ ● РАМАН ТАРМОЛА ● РАІСА ШОЛАХАВА ● УЛАДЗІМІР КАРЫЗНА ● ЛЕАНІД КАЛОДЗЕЖНЫ ● ПАВЕЛ ПРУДНІКАЎ ● УЛАДЗІМІР АЛЯХНОВІЧ ● ЭНЧА МУТАФАЎ ● МАЦЕЙ ШОПКІН ● ХРЫСТА ГАНАЎ ● ДЗІКА ФУЧАДЖЫЕЎ ● ЯНКО ДЗІМАЎ ● ВАНЯ ПЕТКАВА ● ЛІЛЯНА МІХАЙЛАВА**

## ПАЭЗІЯ

## *Камсоргава вуліца*



**Алесь ШПЫРКОЎ**

●

*Памяці аднаго з першых камсоргаў ударнай будоўлі — Пятра Блахіна.*

Петра — па-грэчаску значыць скала.
Толькі скалы таксама падаюць.
Смерць зусім знянацку прыйшла.
У бараках грымела радыё.
Дзень пры дні звінеў тэлефон
з самай раніцы ў камітэце.
Ты патрэбен быў. Застываў бетон,
а цябе не было ўжо на свеце...
Горад рос над імклівай Дзвіной,
хлопцы бралі крутыя вышыні.
На ударнай будоўлі зноў
ты з'явіўся на золку сінім.
І калі нараджаецца дзень
першым промнем на стромкіх калонах,
на заданне брыгады вядзеш
гэтай вуліцаю галоўнай.
Салаўямі булькоча Дзвіна,
водар бэзу разносіць вецер...
На праспекце Пятра Блахіна
у будоўлю гуляюць дзеці.

●●

Касмадромы, прычалы і станцыі
нас падхопліваюць штодня,
і махаюць услед акацыі.
А любімая зноў адна.
І сапернічаюць з планетаю
у імклівасці незямной
археолагі і паэты...
А ракеты на старце зноў.
І дарогі імчаць вясёлкамі,
у абдымкі схапіўшы шар...
Калі доўга не буду ў пасёлку я,
не выходзь на зялёны абшар.
Не забыўся я шлях да парога,
хоць і доўга лістоў не пішу...
Проста вечнаю стала дарога.
Ты прабач, калі ласка... Прашу.

## ПАЭЗІЯ



**Алег САЛТУК**



●

Піраміды таполяў,
Скрыжаванні дарог...
Перапёлкі у полі,
І зялёны мурог.

Пах духмянае мяты.
Рэчка ззяе між лоз...
Сціплы помнік салдату
У зацішку бяроз.

Ля падножжа граніту
Васількі расцвілі...
О, як мала пражыта
Ім на гэтай зямлі!

Позірк юны і строгі
З-пад нахмураных броў...
Воін лічыць дарогі,
Ўспамінае сяброў.

А над помнікам неба
Урачыста маўчыць...
Колькі вынесці трэба,
Каб і мёртваму жыць!

ПРОЗА

Уладзімір НАВУМОВІЧ

Мал. Г. СКАМАРОХАВА



*За маёй памяццю: хлапчуком праводзіў роднага дзядзьку — матчынага брата — у армію. Нароўся ўдосталь. Выплакаўся. Прыйшоў дадому і засеў пісаць ліст. Столькі хацелася выказаць, расказаць пра ўсё. Я моцна зайздросціў тады таму, хто ўмеў пісаць. Эх, каб умець... Я б напісаў вялікі ліст...*

*Ліст я напісаў толькі праз год, калі пайшоў у школу.*

*Пачуццё тое засталося. Засталася прыхільнасць да людзей, блізкіх пачуццямі, думкамі, характарам.*

*Як той першы ліст — гэтыя мае радкі.*

*З камсамолам, дарэчы, нават дзень нараджэння адзін, толькі ў мяне блакадны партызанскі 1943 год.*

*Нарадзіўся ў вёсцы Болцічы Карэліцкага раёна. Скончыў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт імя У. І. Леніна. Настаўнічаў. Цяпер на камсамольскай рабоце.*

*Уладзімір НАВУМОВІЧ.*

# УЗАРАНАЕ ПОЛЕ

## СТАРОНКІ РОЗДУМУ

1



Пішаш?

— ...

Яна заглядвае цераз плячо на аркуш паперы і ўголас чытае.

Ведаю — ніколі нельга саромецца сваёй працы. Аднак тое, што пакладзена на паперу — два радкі — гэта падслуханы штуршок твайго сэрца. Часцінка настрою.

І таму адразу паказаць напісанае я не магу.

Мне сорамна і ніякавата, быццам хтосьці раптам адкрыў дзверы і заспеў мяне знянацку.

Трохі нядобра, горка на душы, бы ад абразы.

— Пішу пра тое, што раблю. Чым жыву кожны дзень...

Яна тэатральна ўзмахвае рукой.

— Каторы раз... І колькі можна пісаць? Ах-ах! Пра што толькі ты не пісаў...

За акном восень. Цяпло сёлета стаіць доўга, і можна падумаць, што цяпер вераснёўскі вечар, хоць час бярэцца пад кастрычніцкія святы.

Надоечы быў у лесе. Дарога скрозь у каляінах, цвіце. Пад парыжэлай і мяккай травой на пяску выбіваецца пасінелая палоска цвілі. Калі цвіце дарога, значыць, павінна быць цёпла.

Учора стаяў сонечны дзень, якія бываюць звычайна ў «бабіна лета». Белая фата павуціння ў золаце вераснёўскага дня то павольна гусцела, то даўжэла, спляталася бясконцымі ніцямі ў вясельны вянок нявесты і ападала да самай зямлі.

Заседзелася ў дзеўках нявеста, навыбіралася жаніхоў, а пад канец звязала свой лёс з ветрам у чыстым полі, і разносіць ён па ўзаранай раллі яе шлюбны ўбор, на голае вецце галін чапляе апошнюю красу.

Дажджы ідуць ноччу. І ноччу ўсё навокал робіцца падобным на сапраўдную восень. Вялізныя разлезлыя лужыны на зямлі, раскоўзаная дарога, і мокры чорны асфальт.

Я думаю — пра гэта трэба пісаць. Адзін паэт сцвярджаў — кожны дождж неабходна апісваць, бо другога такога не будзе.

Што бачыш за дзень.

Што вакол.

У такія хвіліны неадольна цягне пабыць аднаму. Барзджэй адкараскацца ад усіх спраў, узяць аркуш паперы, самаму даражэйшаму сябру даверыцца.

Гэта не дзённік. Дзённікі вядуць усе. Адны аддаюць думкі пісьмам, другія — сінім сшыткам, трэція моўчкі апавядаюць іх самі сабе, у лёгкай скрусе ступаючы па глыбокай расяной траве альбо закінуўшы за голаў рукі ў гулкім паўзмроку ліпеньскага надвячорка, калі лёгкі срабрысты туман ляжа ў латачынах, запаўзе ў асаку паўз бераг, перакінецца і зацягне сівым павуціннем другі бераг, і пясок, і вольху над вадой,— заслоніць ад вока твайго лугі да самага лесу.

Тады хораша думаецца.

У мяне было шмат кніг-дзённікаў.

Але адну я берагу асабліва. Я завёў яе выпадкова і назваў проста: «Роздум». Дзе б ні быў, я прыношу ў тую кнігу словы, сказы, радок і толькі дату стаўлю пад імі.

...У небе глыбока-глыбока снуюць і мільгацяць птушкі з распасцёртымі крыламі. Асенняя прахалода падняла іх апошні раз увысь, наколькі хапіла крылаў, і застылі яны, ледзь бачныя. Каб удыхнуць апошні раз водар позняй восені, пахі роднай стыхіі. Ледзь бачныя з зямлі драбнюсенькія крэсачкі.

Заплюшчу вочы, і ў памяці вырысоўваецца бяздоннае неба, птушкі-крэсачкі і купчастыя валуны хмар над ускрайкам небасхілу.

Хочацца бачыць-бачыць глыбіню восеньскага неба, шрасць палёў, бяскрайнюю пустэчу наваколля і, як згледзець, крэсачкі птушак у бяздонным небе.

Адкуль прыляцелі тыя птушкі? Мо з далёкага дзяцінства, калі я падоўгу ўглядваўся ў вераснёўскае неба, думаў пра будучыню, маючы столькі вольнага часу, сам, напэўна, не падазраючы, што яго маю.

Можа з тых дзён, калі я хадзіў па жытах і ўзгорках, стаяў на ўзмежку мурожнай, расяной дарогі ў цяжкім, каласістым жыце і сачыў, як узыходзіць сонца...

Што я хацеў запісаць?

Я пачынаю адгортваць старонкі дзённіка і чытаю запісы майго жыцця-быцця за апошнія гады.

Старонкі пра камсамольскую работу. Пражыта, ды не забыта.

Ці толькі гэта пражыта...

**2**

Пачынаецца раніца, як заўсёды. З дзевяці гадзін дзверы не зачыняюцца: людзі ледзь паспяваюць працiснуцца адзін перад адным. Атрымоўваецца так, нібыта дзесяткі людзей згаварыліся сустрэцца ў адзін час у адным і тым жа месцы. Яны спяшаюцца па тратуары з двух канцоў вуліцы, шыбуюць размашыста напрасткі ад скверыка, раптоўна паказваюцца з-за рогу вуліцы, бы там стаялі і пільнавалі, калі пачнуць заходзіць у будынак другія, каб самім паказацца знячэўку.

Паглядзіш — мала падобна, што людзі ідуць на работу. Ды і работа гэтая, не як іншыя. Тут не гудуць станкі, не высяцца кульманы.

У пакоях стаяць звычайныя пісьмовыя сталы. У сталах поўна папер. Паперы, паперы... Без канца... Натрэсена на сталах, хоць бяры сахор ды скідай у копы.

Нешта робяць, бегаюць, мітусяцца людзі.

Ні пагварыць з чалавекам, ні спыніцца. А работы той ніколі не відаць.

Спытай у яго самога, што зрабіў за дзень, можа нават і не адкажа.

Успамінаецца, як мой сябар Юрка аднойчы гаварыў:

— Люблю я вашу работу. Ведаеш, яна такая... не канкрэтная! — Ён жмурыцца і ўсміхаецца.— Во дзе я б працаваў ахвотна. А колькі плацяць?..

А тыя людзі, што часта прыходзяць да нас у пакой, заўсёды кажуць:

— Ну, што вам тут рабіць? Абсалютна нечага.

І яшчэ я думаю пра людзей, якім заўсёды карціць памяняць работу. Ад чаго гэта? Многія сцвярджаюць, што свой занятак здаецца самы цяжэйшы. Цікава, наколькі гэта праўда?

Такім чынам,





## РАБОТА, ЯКОЙ НЕ ВІДАЦЬ...

Я ўзбягаю па лесвіцы на другі паверх, крута заварочваю ўлева, каб адным махам адчыніць дзверы свайго пакоя. І тут мяне ледзь не збівае з ног хлопец. Ён шыбуе з другога канца калідора, ледзь не падскоквае. Вітаецца шчыра, здаецца, усю душу ўкладвае ў поціск рукі. Весела ўсміхаецца і паказвае свае роўныя, адзін у адзін, і белыя, як драбкі часнаку, зубы.

Ён невысокі, падцягнуты, заўсёды ў белай нейлонавай кашулі, адпрасаваным касцюме, надзвычай акуратны, як жаніх. Постаць у яго спартыўная і зграбная.

Я памятаю Валодзю Нядзельчанку ў форме старшыны пагранічных войск. Ваенная форма, бадай, была яму яшчэ больш да твару, у ёй ён выглядаў мажнейшы. У той час я думаў, як будзе выглядаць ён у цывільным — так хораша сядзела на ім гімнасцёрка старшыны. А цяпер бегае Валодзя па калідоры ў клятчастым касцюме, валасы гладзенька зачэсаны, і яго цяжка ўявіць у вайсковым.

У арміі Валодзя быў інструктарам па камсамольскай рабоце. Надыходзіў час, і хлопец задумаўся, куды дэмабілізавацца, які занятак выбраць. Да арміі было адно, як і ва ўсіх: школа, тэхнікум, нядоўгі тэрмін самастойнай работы.

Быў далёкі і гарачы Сімферопаль, дзе праляцела студэнцкіх тры гады, клубная работа і шэфскія канцэрты ў саўгасах з яблыневым і абрыкосавым прыбоем. Там ночы лёгкія, светлыя. Жорсткая сухая зямля. Цвёрдыя камлыжыны пяску рассыпаюцца ў далонях, як грудка солі. Лісце шорсткае і пыльнае, як зямля. Там ніколі не бывае расы: трава — як шэрсць на лабацiне ў каровы.



У Валодзі жыве ў памяці чыстае, як крынічная вада, крымскае неба з вялізнымі чароўнымі зорамі, вельмі падобнымі на спелыя абрыкосы. Ціхая смуга змроку апоўначы, і вялізнае дрэва пасярэдзіне поля, як наша груша-дзічка, назвы яго ён ужо не памятае. Забываецца патроху ўсё, але той малюнак застаўся. Відная і светлая ноч, а сярод роўнага поля — высачэзны цень дрэва. Ён памятае ўтульнасць начы пад кронай дрэва, незвычайную цішыню і адчуванне, што навокал няма нікога. Адна пустэча, бездань, без краю ў шырыню і вышыню. Да лёгкай просіні начнога неба гулкая і стоеная цішыня, быццам стаіўся ты ў адзіноце, схаваўшыся ад сяброў у рассохлай пасе на гарышчы.

Пяршыць у горле ад горкай аскоміны ранняга вінаграду, недаспелых абрыкосаў.

Валодзя звязаў свой лёс з камсамольскай работай.

Гэтай работы не выбіраюць. Мала хто задумваўся ўсур'ёз, што будзе ёй займацца ўсё сваё жыццё. Але дзесяткі і сотні людзей працуюць на камсамольскай рабоце і працуюць, бадай, так сумленна, як ні на якой іншай. Лічаць работу абавязкам, а сябе — прызванымі служыць абавязку. Колькі такіх людзей прайшло толькі на маёй памяці! І яшчэ хтосьці можа назваць лёгкай грамадскую работу... Зрэшты, на гэта здольны, бадай, толькі самі камсамольскія работнікі. Неяк на нарадзе ў канцы дня мы заўважылі: няма Наташы Сінякова, інструктара школьнага аддзела.

— Чаго гэта нашай Наташы няма? — папытаўся нехта.

— У яе ж — грудное дзіця. Хіба забыў?..

— Нешта яна занадта акуратна выкарыстоўвае свае правы...

— Гэтыя правы дадзены не ёй, а дзіцяці,— чуецца рэпліка.

— Але нельга забываць, што мы на такой рабоце...

«Такая работа...», «Мы ў камсамоле...», «На нас раўняюцца...», «Мы абавязаны...», «На пярэднім краі...» — гэтыя словы пачуеш нярэдка. Яны ставяць камсамольскага работніка ў становішча салдата, які праходзіць службу.

Характар работы такі, што ты ніколі не можаш працаваць у палавіну сіл. Заўсёды — гарэнне, заўсёды — напружанне, заўсёды — справы, якія патрабуюць самага неадкладнага вырашэння.

Дзень пачынаецца... Зрэшты, ён пачынаецца, як заўсёды. Бяжыш па калідоры, а ўжо думаеш, што цябе, напэўна, чакаюць. Хоць і не назначаў нікому прыйсці ў дзевяць гадзін раніцы, усё роўна ў тым пакоі, дзе ты сядзіш, хто-небудзь ёсць.

Убягаю і на хаду распранаюся. Да дробязей знаёмы пакой. Тры сталы, крэслы, шафа, сейф. На сцяне партрэт. Такія пакоі ва ўсім гэтым будынку. На гэты раз у пакоі сядзіць Міша Кроцік, мой таварыш са студэнцкай пары. Я рады і не рады яму, як чалавеку, якога не чакаў і не запрашаў і да якога пільнай патрэбы няма.

— Здароў быў.

— Здароў быў.

— Сяджу і думаю, у колькі наша начальства на работу прыйсці надумае. А-а-а, разумею, начальства не спазняецца, яно затрымліваецца...

Гаворыць Мішка банальную, з барадой, фразу, а мяне чамусьці аж скаланула. Праўду адна паэтэса пісала: варта было б сабраць усе штампы (банальныя словы, фразы) дый выдаць асобна, як слоўнічак ці зборнік. А ў іншых выпадках — рабіць зноску на выданне. Каб не кожны мог лічыць, што ён сам прыдумаў фразу і можа ёю карыстацца, як сваёй.



Колькі мы ўжываем шаблонных слоў! Любім падымаць пытанне, ставіць яго, рашаць, абмяркоўваць, разглядаць, удакладняць, ускладняць, узгадняць, уводзіць, пацвярджаць, зрушваць з месца (нарэшце), узмацняць, правяраць, рыхтаваць, брацца за яго, раскрываць, закрываць і праводзіць з ім яшчэ мноства другіх маніпуляцый. Умець сказаць — не самае апошняе на гэтай рабоце.

Як бы ні было, а думаць перш, чым сказаць, варта, і думаць пасвойму.

Я прашу Мішу пасядзець, і той уладкоўваецца ля тэлефона. Часу, відаць, у яго даволі.

Кола закруцілася. Да цябе прыходзяць, табе званяць, цябе выклікаюць... Што ж паспяваеш зрабіць ты за дзень? Можа за сабой назіраць цяжэй, дык паназіраем за другім,— скажам, за Васем,— такім жа працаўніком на грамадскай ніве. Вось ён сядзіць у такім жа, як я, пакоі з трыма сталамі, трыма крэсламі, шафай, сейфам. Яго, як і мяне, чакае таварыш, каб перакінуцца словам.

У пакой заходзяць двое.

— Што ў вас? Дакументы. Давайце, калі ласка.

Ён праглядае адзін аркуш паперы, другі. Дакументы на турысцкую паездку за граніцу ў складзе маладзёжнай турысцкай групы. Трэба праверыць, ці правільна афармлены.

— Не адпускаюць на заводзе. Канец месяца. А так хочацца паехаць,— скардзіцца адзін з тых, што стаяць цяпер перад Васем.

Вася падстаўляе бліжэй тэлефонны апарат. Угаворвае некага, пераконвае, просіць, растлумачвае. Аж лоб у яго ўзмакрэў. Нарэшце кладзе трубку.

— Адпускаюць. Паедзеце. Ды яшчэ завод аплоціць трыццаць працэнтаў кошту пуцёўкі...

Падзякі Вася не слухае — няма часу. Ды і не яго заслуга тут...

— Ну, дык як справы? Як жывеш? — улучыўшы ціхую хвіліну, пытаецца ў Васі таварыш.

— А-а, жыву вось. Не пытайся лепей, бо няма нават часу падумаць, як жыву...

У пакой заглядваюць дзве дзяўчыны. Нясмела, сарамліва.

— Заходзьце, заходзьце, дзяўчаты.

— Мы б хацелі паехаць куды-небудзь працаваць... Па пуцёўках...

Вася ўсміхнуўся, і дзяўчаты павесялелі. Распытаў у іх, што і як. Пра ўсё, нават пра хлопцаў. Сядзяць, пасмейваюцца, гавораць мала. Яшчэ праз некалькі хвілін, тут жа,— быццам спецыяльна пад дзвярыма стаяў,— увайшоў упаўнаважаны з Ачынска. Паехалі дзяўчаты...

— Ну, дык ты мне раскажы. Цікава табе працаваць? — пытаюся ў Васі.

Вася не паспявае адказаць: нешта раптам успамінае і выскоквае за дзверы. А калі вяртаецца, у пакоі яго зноў чакаюць людзі.

— Вы да мяне? — звяртаецца Вася да светлавалосай дзяўчыны, ледзь толькі пераступіўшы парог.— Расказвайце...

Ён садзіцца на крэсла. Запрашае сесці дзяўчыну. Вось так адзін насупраць аднаго, быццам аднакурснікі ці даўнія школьныя сябры, вядуць яны размову.

Споведзь не споведзь, але дзяўчына расказвае пра самае набалелае. Паступала ў інстытут—не паступіла. Сама не ведае, куды падацца. Ёсць надзея на вячэрняе. Памажыце. Трэба знайсці работу. А там яна будзе вучыцца.

Ён некуды ізноў звоніць па тэлефоне, настойліва дабіваецца. А ў

пакоі ўжо сабралася людзей. Хто чакае яго, хто сядзіць ад няма чаго рабіць. Яму не церпіцца, што людзі чакаюць яго, ён нервуецца, спяшаецца, ледзь не наступае сам сабе на язык, а хутчэй не выходзіць. Заўсёды так: хочаш скарэй — будзе даўжэй.

У адзінаццаць усіх склікаюць да сакратара: нарада. Ён паспявае толькі сказаць дзяўчыне, калі прыйсці за адказам. Дапаможа ці не? Вядома, дапаможа, што за гаворка. Шмат дзе патрэбны рабочыя рукі ў горадзе. Давядзецца пабываць не ў адным трэсце.

Нарада была сапраўды нядоўгая. Вёў яе другі сакратар абкома камсамола Іван Праснак. У Івана вялізныя, як у каваля, рукі з шырокімі далонямі і ўчэпістымі пальцамі.

Вася глядзіць на рукі і чамусьці думае, што Іванаў роспіс на дакументах і паперах тоненькі і лёгкі. Пяро ледзь дакранаецца паперы і пакідае ледзь прыкметныя крэсачкі, бы на прамакатцы яны праступілі. Ручка ў той момант у Івана гатова выслізнуць з пальцаў, і трымае яе Іван нягегла, баючыся ненарокам раструшчыць.

Заўважана, што ўсе дужыя людзі бываюць асцярожныя і вельмі далікатныя, не грубыя.

Іван гаворыць пра асноўныя пытанні дня. Гаворыць цвёрда, без лішніх слоў. Размова ідзе канкрэтна. Што трэба зрабіць кожнаму.

Рот у Івана маленькі, вузенькі, а галава ўздымаецца высока над сталом. Цікава, але пры такім велізарным росце і паўнацеласці тварык у Івана застаўся маленькі, як у дзіцяці. Рысы твару таксама мізэрныя, дробныя, ніколі не змог бы сказаць, што чалавеку пераваліла за трыццаць. З іх дзесяць аддаў Іван камсамольскай рабоце. Конюх, аграном, інструктар, сакратар райкома, сакратар абкома.

Пасля нарады не палягчэла. Трэба закончыць свае справы тут, каб заўтра паехаць у камандзіроўку.

Здаў пісьмы на адпраўку, давёў да канца пастанову «Аб удзеле камсамольцаў і моладзі вобласці ў культурным будаўніцтве на сяле». Абзваніў упраўленне культуры, некаторыя будаўнічыя арганізацыі. Зрываецца будаўніцтва новых клубаў у шэрагу вёсак. Няма цэглы, цэменту. Давядзецца сварыцца з некаторымі: не прымеце мер — камсамол настырны, пойдзе ў вышэйшыя інстанцыі.

Калі закончыў, адзначыў сабе: трэба будзе, прыехаўшы з камандзіроўкі, праверыць нанава.

Ужо быў на ўзмеццi, гатовы ісці, як у пакой уваліўся Валодзя Пыж, сакратар Ясенькаўскага раёна.

— Браток, памажы! Патрэбен чарцёж. Задумалі ў райцэнтры зрабіць наглядную агітацыю. Сам ведаеш — раён новы, не так даўно ўтвораны. Комплексам думаем зрабіць, а вось як скампанаваць — задумаліся. Дапамажы звязацца з праекціроўшчыкамі.

Валодзя гаварыў і гаварыў, здавалася, да яго самога нарэшце дайшоў сэнс сваіх слоў, і ён услухоўваўся ў іх і нават радаваўся ім, а спыніцца не мог. Вушы распухнуць, як талеркі зробяцца — толькі слухай.

— Трэба зрабіць...— нарэшце просіць Пыж.

— А пазней ты не мог?

Вася звоніць. Адзін, другі, трэці раз.

— Дзіма, выручай, дарагі! Да горла падступаецца тут сакратар. Патрэбен праект... Таго і таго... Падключай Савет маладых спецыялістаў... Ну, дзякуй, брат. Будзь здароў.

Закончылі размову традыцыйным камсамольскім словам «дабро». А што азначае «дабро»? Ды і чаму «дабро», а не «добра» ці яшчэ як-небудзь?



— Ну, ужо зараз пойдзем з табой,— нарэшце звярнуўся Вася да сябра.

Хутка пяць. Дзе і калі ён паабедаў, Вася добра не памятае. Ды ці настолькі важна гэта?..

А пятай гадзіне ў пакой забег шэф. Ускочыў у дзверы нечакана, як з-пад зямлі вырас. Маленькі, рухавы, ён не мог стаяць на месцы, тупаў і тупаў. Як вожык. Спрыцячком ступаў па падлозе ў сваім пакоі і тут, у аддзеле прапаганды. Бы маленькая стрэлка ў гадзінніку. За секундай — мінута, за мінутай — гадзіна. Увесь час наперад.

Пры блізкім знаёмстве Вайткевіч пакідае ўражанне чалавека, які добра ведае справу, якую робіць. Па-мойму, у Вайткевіча валявы характар. Ён бачыць мэту ў жыцці і ведае шлях да яе.

Гэтае ўражанне часам знікала, і тады заставалася знешняе ўяўленне аб чалавеку: невялічкі, крышку разгублены і мітуслівы, быццам спуджаны.

— Знаеш, трэба ехаць на завод запасных частак. Сход там. Варта завезці граматы, уручыць і выступіць. Спяшайся — пачатак а палове шостай.

— Ну, што ж. Паехалі.

Вася зірнуў на сябра, які цярпліва сядзеў на крэсле ля акна.

— Давай, Мішка, пашыбуем. Па дарозе пагаворым.

Яны бягуць цераз сквер да прыпынку тралейбуса.

— Дык што ты хацеў папытацца ў мяне? — зірнуў на сябра Васіль.

— А-а-а...

Сквер заканчваецца прыступкамі, па якіх трэба збегчы проста на асфальт. Як на дно вялізнага вадаёма, яны спусціліся па прыступках у людскі вір.

— Слухай, Міша, прыходзь яшчэ калі-небудзь.

Міша не адказвае. Падае на развітанне руку і гаворыць:

— Але і работа ў цябе! Цэлы дзень... А каб паказаць каму, што зрабіў? Ну, будзь здароў!

## 3

То быў мой першы запіс у дзённіку пра камсамольскую работу. Я хацеў у кароткіх замалёўках праўдзіва расказаць пра розныя бакі цікавай і цяжкай работы.

У памяці паўстаюць і напластоўваюцца другія ўспаміны. Прыгадваю мноства людзей, якія працавалі і працуюць зараз са мной. Аснова любой справы — людзі, якія яе выконваюць.

Я пачынаю прыпамінаць, што хацеў запісаць у дзённік, і мне міжволі карціць перачытаць яго старонкі з самага пачатку.

## 4

**19 кастрычніка 1965 года.**

Раніцай я ведаў, што ў гэты дзень мне трэба ісці на завод.

Дзень выдаўся цёплы, ясны. Мы падняліся раней, чым заўсёды, і адразу пачалі вадзіць па падлозе маленькую Таньку. Яна перасоўвае ногі і парываецца пайсці сама. Танька ноччу не спіць. «Гэта ж трэба,— злуецца бабка Люба,— каб такая дзяўчына і так блага спала! Цалюткую ноч калыскі з рук не выпускай, калышы і калышы,— усё роўна, як дровы пілуеш. Рукі ў плячах забаляць».

Бабка расказвае, якія былі дзеці ў яе, што яна не цацкалася з імі, гадавала без такой ласкі, як цяпер маладыя бацькі робяць.

«Што было б, каб я не магла адысці ад дзіцяці ні на цалю... Рабіць трэба ж было! Цяпер — збегаў у магазін, купіў, а раней усё самому трэба зрабіць. Звязаць, пашыць. Нездарма кажуць: «Дай дзіцяці волю, сам будзеш у няволі». Бывала, пастаўлю меншага ў стойку, прывяжу да кроснаў, дык ён як натупаецца, аж ногі падагнуцца, рукі пасінеюць. Пасля і спіць добра. А гэта ж — хадзі за ёю, трымаючыся за хвост. У мяне, бывала, хлопец каторы нагойсаецца — за сталом, ядучы, задрэмле. Хлеб з рота чаранком ложкі дастаю, каб не ўдушыўся часам».

Бабка любіць успамінаць.

Я сабраўся на работу, ужо да дзвярэй падышоў, чую голас: «Глядзі, глядзі!!!» Азіраюся і бачу: Таня сама ўстае на ножкі. Абаперлася ручкамі аб падлогу, падабрала пад сябе ножкі, пакуль аж пераважвацца не стала, і — узнялася. «Пайшла, пайшла!..»

У той дзень ёй споўніўся роўна годзік. Мы рашылі адсвяткаваць яе дзень нараджэння і дамовіліся, што я запрашу гасцей. Нямногіх, толькі блізкіх.

Пад вечар я быў на аўтарамонтным заводзе. Хлопцы тут усе знаёмыя і прынялі, як свайго. Пакуль збіралася моладзь у клуб, мы абышлі завод. Каторы раз я хадзіў па цэхах, перапытваў і перамацваў усё рукамі. Хлопцы, асабліва Валодзя Ланюкоўскі, сакратар, стараліся паказаць больш.

Мне падабаліся гэтыя людзі, і я слухаў іх з цікавасцю. Было тут і скаргаў нямала, якія трэба будзе вырашаць на камсамольскім сходзе і разам з адміністрацыяй завода.

Мы падняліся ў чырвоны куток завода, зайшлі ў залу. Час пачынаць сход, але хлопцы і дзяўчаты не надта паварочваліся. Чацвёра гулялі ў даміно, гулка ляскалі костачкамі па пружыністай фанеры стала. Яшчэ некалькі схіліліся над шахматнай дошкай. Перасоўвалі шашкі растапыранымі пальцамі, каб не забрудзіць, бо прыйшлі адразу з цэхаў, абцёршы рукі касмыком паклі.

У дзвярах тоўпіліся іншыя.

— Давай, Валодзя, пачынай. Мы прыйшлі...

Валодзя замітусіўся, глянуў на мяне.

— Яшчэ не ўсе. У шостым цэху не адпусцілі нікога. Пабягу туды.

Я глядзеў на хлопцаў і дзяўчат, якія сядзелі ў зале, і думаў: «Хто вы? Што вы? Чым жывяце?» Многіх з іх я ведаў у твар, мы лічыліся добрымі сябрамі, ва ўсякім разе, ведалі адзін аднаго не адзін дзень. Але ведаў я і тое, што адкрываюцца яны мне не да канца. І мне захацелася пажыць з гэтымі людзьмі, стаць з імі побач за станок і так, як яны, дзень у дзень працаваць і працаваць.

Валодзі няма. Зайшло яшчэ чалавек пяць, і паселі ў апошнім радзе.

— Эй, хто ведае, дадуць сёння зарплату ці не?

— Паспееш... Сказана табе — пасля сходу будуць даваць.

Сакратар прывёў яшчэ чалавек дзесяць. Зайшлі шумна, з жартамі. Здаровыя хлопцы, зусім маладыя, у куртках, світэрах, ватоўках. Ледзь не на кожным моцныя картовыя порткі з заклёпкамі каля кішэняў, з шырокімі цеснымі паясамі.

— Заходзь, пасядзім. Надоўга ты нас сюды, Валодзя?

— А гэта, як вы самі захочаце,— уставіў я слова.

— Нам хоць зараз канчаць. Мы гаварыць многа не ўмеем.

Валодзя ціха пытаецца:

— Сорак чалавек. Што будзем рабіць?

— Твая справа. Можаш і пачынаць, калі ніхто больш не прыйдзе.



— Пачнем.

Валодзя падышоў да хлопцаў.

— Канчайце, канчайце. Не нагуляліся? Самі ж сказалі, каб раней пачаць.

Тыя неахвотна складвалі шашкі і даміно. На іх наляцелі ўсе, хто тоўпіўся ў парозе. Пачулася каманда:

— А-ну! Злівай ваду — матай шлангі! Кончана дзела.

У зале рассаджваліся зручней.

— Валодзя, а дзе дырэктар завода? — пытаюся я.

— У яго інжынер па тэхніцы бяспекі. Нешта гавораць.

— Кліч абодвух. Сакратар партбюро тут?

— Быў, ды выйшаў. Ад партбюро Галоўчанка будзе.

— Што ж мы будзем ваду ў ступе таўчы? Пасынкі вы ў іх...

— Чакай, я зараз прыйду,— крутнуўся Валодзя і знік.

Моладзі на заводзе нямнога. Восемдзесят чалавек. Камсамольцаў пяцьдзесят з лішнім.

У клуб зайшоў сакратар парткома завода. За ім—Валодзя. Узбег на сцэну і, глытаючы словы, адкрыў сход.

Душа мая была не на месцы. Час ішоў. Весці сход даручылі мне, і адмовіцца не было як. Ды дзе знойдзеш лепшую мажлівасць апрабіраваць сваё ўменне валодаць аўдыторыяй?

Пакуль Валодзя рабіў даклад, я глядзеў у залу і думаў пра кожнага з юнакоў і дзяўчат. Сам Валодзя Ланюкоўскі — добры хлопец. Просты, бывае часам грубаваты. Голас густы і жорсткі, з такой жа густой хрыпатой. У рухах павольны і асцярожны, амаль як і ўсе людзі, якія маюць справу з цяжкімі прадметамі — малатком, гаечным ключом, разцамі і сталёвымі загатоўкамі.

Але я ведаю Валодзю і другім. Любімы яго занятак — танцаваць і спяваць. Можа да світання спяваць з усімі «Апошнюю электрычку», «Ручнікі», «Наш сусед». Калі хочаш — тут жа прадэманструе твіст, шэйк.

Нат часам цяжка зразумець, чаго ў ім больш — ад такога вось засяроджанага на адным юнака, які ходзіць па цэху, спыняецца ля сваіх хлопцаў (любяць яны яго, я ведаю: што ні скажа — зробяць для яго любую справу), альбо ад таго вясёлага, спрытнага.

Недзе на сярэдзіне даклада дзверы ў залу адчыніліся, і на першы рад, згорбіўшыся, прайшоў і сеў дырэктар завода. Па радах прайшоў лёгкі шум.

— Таварышы, даклад скончаны. У каго будуць якія пытанні?

Валодзя стаяў, як на споведзі, твар ад хвалявання быў у белых пісягах, бы парэзаны сухім сенам.

— Таварышы камсамольцы! Ёсць прапанова запрасіць у прэзідыум нашага сходу дырэктара завода Мікалая Фадзеевіча Цімохава.

— Выцягнулі мяне, старога камсамольца, такі. Столькі неадкладных спраў...— лагодна бурчаў дырэктар, заходзячы за стол.

«А тут што, не справы? — карцела не змоўчаць дырэктару.— Часу ў нас няма куды дзяваць, ці што?» Так думалася, а разам усплывала думка пра дамашні абавязак, які з раніцы лёг на плечы. Трэба неяк паспяшацца: дома чакаюць.

Выступалі члены камітэта, сакратары цэхавых арганізацый — тыя, хто ніяк не мог выкруціцца. Хто год назад ведаў, што ім давядзецца выступаць на справаздачным сходзе.

Яшчэ некалькі выступленняў, і можна было заканчваць сход. Не так і позна.

Сяджу і думаю. Што, гэта і ўсё? Так і разыдземся, напалавіну вы-

казаўшыся? Майстар цэха, дырэктар... Не тая цяпер моладзь. Цудоўная, добрая, але можна, каб была лепшая. Ах, як спакойна гучаць словы...

Дайшла чарга выступаць, глянуў у залу — нат разгубіўся. Ёсць два шляхі. Першы — хуткі і просты, па якім ішлі ўсе, хто выступаў да мяне. Другі — доўгі, супярэчлівы, толькі сход зацягнецца.

Што сказаць ім? Так важна мець, што сказаць людзям. Як ліха на мяне найшло. Адштурхнуў я тую крыгу ад берага, на якой стаяў, паплыў. Трэба выбіраць другую дарогу, хай цяжэйшую і даўжэйшую, але сваю, шчырую і адкрытую.

— Не ўбачыў я вас, хлопцы і дзяўчаты, як жывых людзей на сходзе. Фігуркі нейкія. Так хацелася ўведаць пра Пяцігорца, Шостака, Адрыну, Манкевіча. Што добра працуюць — ведаю. А вось ажаніўся Шостак і нікому ў сваім пакоі не сказаў. Раскажу яшчэ адзін выпадак. У спісе выбыўшых без зняцця з уліку камсамольскай арганізацыі гадоў пяць лічылася Вайніловіч Ніна. Што ні рабілі, каб яе адшукаць! Пісалі ў Саратаў, Мурманск, Кастраму, Омск — былі такія адрасы. А яна ў вас у шостым цэху працуе. Нікуды і не ездзіла, увесь час на заводзе працавала. Выйшла дзяўчына замуж, змяніла прозвішча, адышла ад камсамольскай арганізацыі. Быў час — яна з малым дзіцем не магла знайсці нават прыватнай кватэры, ніхто не памог. Пазней, як уладкавалася, нікому і не прызналася, што яна камсамолка.

Адвёў вочы ад залы, глянуў у акно, на вуліцу. Сціснуў зубы: калі, нарэшце, прывыкну і не буду так моцна хвалявацца? Перасіліў сябе, пачаў гаварыць далей.



— У трэцім цэху два хлапчукі, маладыя яшчэ, парабілі сабе крыжыкі металічныя, прыгожанька абтачылі. Носяць дэманстратыўна, фанабэрацца. Праўда, яны не камсамольцы. Днямі ім даверылі станкі. Ці памятае хто з вас, як прынялі хлопцаў у сваю рабочую сям'ю? Што змянілася ў іх жыцці?

Разварушваліся цяжкавата. Выступіў парторг, яшчэ некалькі чалавек. А потым і пайшло. Не змоўчаў Лагуноў Ваня, Танюша Кірпач, Зімінскі, Кулакоў. Думалася, канца не будзе. Няма месц у інтэрнатах... Чаму б не ўзяцца камсамольцам і не давесці да ладу заводскі стадыён... А як мы праводзім нашы вечары... Чаму завод аддаў першынство горада па лёгкай атлетыцы...

Апошні выступіў дырэктар завода. Потым — Валодзева заключнае слова. Абралі новы камітэт камсамола. Віншаваў Ва-





лодзю з сакратарствам. Толькі пасля доўгіх поціскаў рук на парозе сказаў усім, хто праводзіў:

— Прабачце, спяшаюся. У дачкі сёння дзень нараджэння.

— А-а-а, калі так, то трэба бегчы. Адпусцім. Там госці, пэўна, чакаюць...

Бягу па заводскім двары міма карпусоў і не ведаю, куды бліжэй падацца: да аўтобуса ці да тралейбуса.

Прыехаў дадому і застаў карціну, якую не забуду ніколі. Святочна прыбраны пакой, чысты белы абрус на стале, белыя накрухмаленыя пакрывалы на ложках, стол адсунуты ўбок, а пасярэдзіне хаты, як вялікая, ходзіць дачка. Сядзе, ізноў падымецца, ходзіць.

— Ты чаму так позна? Госці з табой ідуць ці трохі затрымаюцца?

Жонка нагатавала столькі ўсяго смачнага, а я стаяў і думаў: хто паесць гэта ўсё, калі не будзе гасцей?

— Чаго ты маўчыш? — Люся замарылася за цэлы дзень і была злосная.— Я так і ведала...

Адышлася, стаіць разгубленая.

— П'яны прыйшоў...

— Ды што ты, Люся!

— Не веру я табе. Разумееш, не веру. Сумлення ў цябе няма, вось што. А-а-а, ды што я кажу! Навошта яму дом?

Люся ад роспачы заплакала і пабегла на кухню, а мяне апанавала злосць на самога сябе, на Люсю за тое, што не разумее ўсіх акалічнасцей маёй работы, і яшчэ чорт ведае на каго. Больш за ўсё на сябе...

— Ну, не мог я, зразумейце... Паўдня званіў па тэлефоне. Думаў застану на рабоце Васіля ці Тамару. А потым я не змог.

— Паблудзіў ты, чалавеча, так і скажы...— з горыччу і дакорам устаўляе свае словы цешча.—Не помніш сам, што робіш. Думаеш, што ты адзін ва ўсім свеце. Пара, каб на памяці што было. То не прыбіраліся б, каб ведалі гэткае шчасце...

Я зрываю плашч з вешалкі і вылятаю за дзверы.

**5**

Дзесьці каля адзінаццаці гадзін на таксі я пасабіраў сваіх гасцей і прывёз дамоў. Падняў некаторых з ложка, і добра, што яны аказаліся кампанейскімі людзьмі. «Выпіць мы гатовы, хоць уночы. Разбудзі — і мы прыедзем...»

Дзень нараджэння дачкі гулялі да трох гадзін ночы.

**6**

**22 кастрычніка 1966 года.**

— Гэта так будзе ўвесь час? Хай яна згарыць, твая работа...

— Люся, ты ведаеш, я не шукаў. Мяне паслалі.

— А ты ж збіраўся ў аспірантуру паступаць?

— Сама бачыш — абставіны. Увесь дзень на нагах. Затое пагляджу жыцця.

— Аж моташна будзе — нахапаешся. Увесь век будзем канцы з канцамі зводзіць.

— Атрымаем кватэру, менш прыйдзецца плаціць, будуць і ў нас грошы.



— Чакаў год — пачакаеш яшчэ чатыры. Што табе кватэра? Усё роўна — дома не бываеш ніколі.

— Але ж я не магу рабіць інакш. Гэта мой абавязак.

— Па мне хоць зусім не прыходзь... Надакучыла. Маці даймае, упікае...

— Нельга ж зрабіць, каб усім добра было. Каму-небудзь трэба прымірыцца.

— Ты глядзіш, абы табе добра...— Яна адварочваецца ўбок.— Як сабе хочаш, а каб другі раз гаварыў, куды ідзеш і ці надоўга. Сядзі, як дурная, гадай: прыйдзе — не прыйдзе.

Што ты тут скажаш? Іншы раз я сам не ведаю, куды мяне пашлюць пад вечар.

— Яшчэ раз прыйдзеш позна — заяўлю ў райком партыі. Хопіць. Сям'я ж у цябе ўсё-такі ёсць.

З кухні заходзіць цешча. Яна ўсё чула. З надзеяй я гляджу ў яе бок. Стары чалавек, перажыла многа. Няўжо не зразумее? У самой дзеці ледзь не ўсе на такой рабоце.

— Скажыце хоць вы... Не мог я прыйсці раней, не мог.

— А што мне табе гаварыць! Ці ты паслухаеш мяне?

— Чаму вы так думаеце?

— Слухаеш, пакуль гавару. А як адыдуся — до і слухаць. Думаеш, не ведаю, старая, дзе ты ходзіш? На якой рабоце да ночы? Ы-ы-ы, даўно гаварыла, што так будзе.

Паспрабуй, дакажы, што ты не вярблюд...

— Што з цябе хацець? Ты такім быў, не пераменіш цябе. Чорт вас бяры. Не хочаце жыць — з'еду, абы не бачыць вас. Жывіце, як хочаце.

Час позні. Спіць Танька.

— Ідзіце вячэраць. А гэтаму не будзе канца. Не пераменіш...

**7**

**21 лютага 1966 года.**

Валянцін Рынчук, першы сакратар, вельмі любіў складаць усялякія спісы. Аркуш паперы разбіваўся на дзве графы, і спіс складаўся так, каб, скажам, на семінары ці ў якую-небудзь паездку трапляла пароўну хлопцаў і дзяўчат.

Гэта стала прывычкай.

Валянцін — рупны, гаспадарлівы хлопец. Да райкома камсамола працаваў на механічным заводзе інжынерам-канструктарам. Узначальваў заводскую камсамольскую арганізацыю, яшчэ раней быў сакратаром факультэцкай арганізацыі інстытута. На стале пад шклом у Валянціна ляжыць чарцёж-план шуфлядак яго стала. Дакладна распісана, дзе што ляжыць. Валянцін любіць даваць заданні.

— Ну, заворг,— скажа ён мне аднойчы,— давай рыхтуйся! Заданне самае складанае. Трэба падрыхтаваць даклад «Аб стане і мерах па паляпшэнню стылю работы апарату». Табе, як начальніку штаба, і карты ў рукі. Давай, будзем чакаць...

Я задумаўся: як бы тут найлепш разабрацца. Мы многа працавалі ў тыя дні. Сядзелі ледзь не да поўначы кожны дзень, бо амаль усе былі маладыя работнікі. Дома мяне папікалі на кожным кроку: «Што за работа да цёмнага?»

У той дзень мы сабраліся ўсе разам у пакой Рынчука. Валянцін аб'явіў:

— Будзем думаць, як нам наладзіць сваю работу. Каб ніводнае пытанне не ўплывала з-пад нашай увагі. У той жа час, каб не распыляліся, не хапаліся за многае.

Рынчук папярэдзіў мой уступ, і мне прыйшлося пачаць адразу з нашых няўдач.

— Чаму мы не можам правесці людскага мерапрыемства ў раёне? Штодзённая работа не дазваляе. Нявыкрутка.

Запісы, над якімі я пацеў некалькі начэй запар, не спатрэбіліся. Словы ішлі самі сабой.

— Я мяркую, што не будзе ў нас плённых вынікаў, калі пасля таго, як Надзя ды і любы з нас прабяруць сакратара камсамольскай арганізацыі, таго ж самага Якімчука, а ён зойдзе да першага сакратара, і той нават не ўспомніць яму пра справы. Першы сакратар пакрывае сваіх сяброў...

Мне прыгадваліся новыя эпізоды, і іх хацелася выкласці да канца.

Потым гаварылі астатнія. Рынчука нібыта не закранула маё выступленне.

— Я згодзен поўнасцю з аналізам стылю нашай работы, які зрабіў тут Васіль Грамніца. Многае сапраўды так. Большасць палажэнняў і абгрунтаванняў абсалютна правільныя, і мы мусім у далейшым шмат папрацаваць, каб пазбавіцца недахопаў. І толькі ў адным я дазволю сабе не пагадзіцца з Васілём Грамніцам. Маё становішча прымушае трымацца моцнага сяброўства з многімі нашымі актывістамі, з усёй моладдзю, што прыходзіць у райком. Урэшце, у мяне многа асабістых сяброў. Скажы, Васіль, хіба гэта дрэнна?

— Вельмі добра.

— Дык што ж, па-твойму, мне трэба з імі трымацца афіцыйна?

— Не абавязкова. Толькі гэта не сапраўднае сяброўства, калі цябе падводзяць у рабоце. Панібрацтва...

— Назаві, хто дрэнна адносіцца да работы?

— Янушкевіч, Давыдка, Хатынін... Усе яны ўзначальваюць буйныя арганізацыі і — амаль завальваюць работу. А ты можаш з імі як ні ў чым не бывала правесці вечар. За бутэлькай...

— Ну, ведаеш!.— Рынчук ускіпеў.— Не кідайся такімі словамі. Мы яшчэ з табой пагаворым на гэту тэму...

**8**

**10 сакавіка 1966 года.**

Люся гразіла не дарэмна: учора яна пазваніла Рынчуку і сказала, што расквітаецца з абодвума, калі і далей так будзе працягвацца. Пасля ўчарашняга вечара, калі я вярнуўся з бюро райкома камсамола а палове дзесятай вечара, яна зусім перастала размаўляць са мной. Ходзіць сумная, але зразумець нічога не хоча.

«Высахла ўся. Аж выпетрала... Вось бачыш, галубка. Слёзы вочы выядаюць, а жыццё як не бачыла, так і не ўбачыш...» Гэта цешча так «суцяшае» яе.

Стараюся тлумачыць, як магу. Але што ты зробіш, калі раніцай думаеш, што прыйдзеш у шэсць вечара, а вернешся ў дзевяць-дзесяць? Заводскі сход, дзяжурства, вечар...

Апоўдні заходжу да Рынчука. Крыва ўсміхаецца і запытальна глядзіць на мяне.

— Як справы?

— Нязгорш. Паціху...

— Што, уляцела ўчора ад жонкі?

— Адкуль ты ўзяў? Як можа ўляцець, калі мы нават не размаўляем? Не ведаю, як і выкруціцца.

— Позна дадому прыйшоў?

— Вядома.

— Не бядуй. Прывыкне. Мне не так пападала. Я сваю хутка прывучыў.

Я ўсміхаюся. Занадта добра я ведаю Люсю, каб цешыць сябе хоць такой надзеяй. Ды што можна зразумець на трэцім годзе сумеснага жыцця...

— А яна ў цябе злосная. Ледзь змікіціў, як ёй адказаць. Гаворыць: «Калі твая жонка мірыцца, што ты позна з работы прыходзіш, то я не жадаю».

Валянцін ператрасае паперы, устае і нерухомее, сагнуўшыся над сталом.

— Памятаеш, Валянцін, аднойчы мы былі ў гасцях у Раі, нашай машыністкі. Ты пайшоў з Латошнікам і Раяй у лес касцёр паліць. Твая Вера ехала тады з намі да горада. Мы спяшаліся да Танькі. Вера хадзіла апошнія месяцы цяжарнай. Люся мая так перажывала за Веру. Як быццам за сябе. Ты нічога не сказаў, махнуў на развітанне. Вера і выгляду не падала: «Няхай пагуляе, мой Валька, апошнія дні. Стане бацькам — забудзецца». Люся табе ніяк не можа дараваць, што ты тады адправіў Веру адну.

— Ці мала бывае ў сямейным жыцці? Хіба ўсё ўспомніш?

Я ўспамінаю Валянцінаву жонку. Вострая на язык, нават з'едлівая, яна сядзела звычайна на рагу стала і ўстаўляла шпільку ў кожную фразу, якую, па звычцы, асабліва не абчэсваў Валянцін. Яна аспірантка і, па-мойму, лічыць, што склад яе думак для іншых недасягальны.

— Скажы, твая Люся можа нават і начальству пайсці паскардзіцца?

— Можа.

— Гэта дрэнна. Я адразу зразумеў. Рашучая.

Я не пачуў у яго голасе ніводнай ноткі віны. Агульнай нашай віны, што мы так неразумна выкарыстоўваем рабочы час. Хіба ён не думае інакш арганізаваць свой рабочы дзень?

Нязгода з гэтым чалавекам у мяне расла. Валянцін, выйшаўшы з заводскай камсамольскай арганізацыі, не рос як сакратар райкома. Ён проста ўдасканальваўся. Новыя звычкі, новы тон размовы...

Няўжо мне давядзецца пакінуць работу?...

**9**

**20 мая 1966 года.**

— Хадзем, Юрка, да возера!

Юрка, доўгі стройны хлопец у акулярах, па-блазенску ўсміхаецца аднымі губамі і касавурыцца. «А што? Хіба можна адмовіць сабе ў такую спёку пасядзець ля вады? Зачахнем на каменным грунце, браток».

Ён адразу бярэ кірунак на залацісты жалабок сцяжынкі ў невысокім ельніку пры дарозе. Неўзабаве яго не згледзець. Цікавы, памойму, чалавек, гэты Юрка. Я іду ззаду за ім і ўспамінаю не зусім звычайныя абставіны, пры якіх адбылося наша знаёмства. То былі першыя дні маёй работы ў райкоме камсамола. Адразу пасля раённай канферэнцыі мы рашылі разабрацца з усімі, хто адсутнічаў або

не дабыў да канца канферэнцыі. Каб увайсці ў курс справы, разабрацца ў людзях, для мяне тое было якраз дарэчы. Я выклікаў хлопца па тэлефоне. На чацвёрты ці пяты мой званок ён, нарэшце, забег у райком — хударлявы, падцягнуты, з доўгім прыгожым тварам, памужчынску вуглаватымі сківіцамі. Уся яго пастава, спакойны да абыякавасці позірк выдавалі ў ім інтэлектуала. Постаць у хлопца атлетычная, добра натрэніраваная.

— Здрасце. Мяне выклікалі.

Я бачыў, як неахвотна прыйшоў сюды ён. Спяшаецца, каб найхутчэй адкараскацца. «Навошта я звязваўся....» — было напісана на хлопцавым твары.

— Цябе нядаўна абралі камсамольцы сваім важаком?

— Два тыдні.

— І дэлегатам тады ж?

— Але.

— Колькі камсамольцаў?

— Пятнаццаць.

— Шчыра думаеш выконваць свае абавязкі, сакратар, ці так толькі? Як прыйдзецца?

— Нічога не паробіш, трэба выконваць...

— Не вельмі хочацца?

— А каму хочацца. Падаў голас на сходзе камсамольскім, вось і сакратар. *Кожны* — абы з сябе спіхнуць. Я *лепш* бы ў радавых хадзіў. А можна мне вызваліцца ад сваіх абавязкаў?

Усё зразумела. Управы на хлопца не знаходзілі ніякай, вось і знайшлі выхад — выбраць камсоргам.

На першым жа пасяджэнні бюро райкома я вынес прапанову аб'явіць Юрку Бесарабскаму вымову.

Так адбылося наша знаёмства.

На ўзлеску, каля высахлых, смалістых камлёў, мы прыселі, паскідалі з сябе ўсе апранахі, у плаўках пабрылі па пясчаным беразе пляжа. Пераняўшы вопратку на бярэма, мы ступалі след у след і аблюбоўвалі, дзе прымасціцца.

— Ты падобны на Дон-Кіхота,— крычу я Юрку, які ідзе ўперадзе.— Глядзіш далёка наперад, на другі бераг возера. Быццам дойдзеш туды — не запнешся.

— Ты будзь маім верным сябрам і аружаносцам,— выгуквае Юрка, не прыпыняючыся.

Мы селі каля вады. Перакінуліся двума-трыма словамі, і гаворка неяк сама сабой звялася да абставін нашага знаёмства.

— Я разумею цябе, чаму ты так тады паступіў, закаціўшы мне вымову,— прызнаецца Юрка.

— Навучыць цябе хацеў. Прымусіць думаць над любой справай, якую табе даручаюць. Вынес, браце, для сябе назаўсёды: нельга ніколі рабіць па канец рук. Іначай, усё роўна павернецца табе на шкоду. Альбо не рабі, калі душа не прымае, а калі ўзяўся — шчыруй да поту.

— Табе падабаецца твая работа?

— Падабаецца. Колькі сябе памятаю, мяне выбіралі куды-небудзь. За гарластасць маю, ці што? А ты б змог працаваць?

— Не ведаю. У мяне цікавая творчая работа. Давялося б многім паступіцца.

— Калі-небудзь я напішу пра ўсё гэта. Пра работу, пра людзей. Толькі ці атрымаецца?



— Так, цяжка расказаць поўна і да канца.

— Хочацца, каб ведалі, чым жыў гэтыя гады, што трывожыла. Разумееш, мае сябры, аднагодкі, з кім разам працаваў ва ўніверсітэцкім камсамоле, зараз працуюць у розных партыйных і камсамольскіх камітэтах. Разумееш, ад таго, якімі мы будзем, многае залежыць.

Юрка маўчыць, пра нешта засяроджана думае. Я не дачакаўся адказу.

— Ой, Юрка, як важна быць самім сабой!

У той дзень мы гаварылі з Юркам доўга. Спахапіліся, калі стала холадна. Мы даўно ляжалі ў цені. Пясок павільгатнеў, зверху прышэрх і пацямнеў.

Бралася к вечару.

## 10

**20 мая 1966 года.**

Палатачны гарадок гарадскога семінара камсамольскага актыву гудзеў, капашыўся. Людзі сноўдаліся з палаткі ў палатку, разыходзіліся па лесе: цяжка было разабраць, чым хто заняты. Быў вольны час пасля лекцый.

— Дзе ты ходзіш? — накінуўся Рынчук, ледзь згледзеў мяне.

— З Бесарабскім да возера хадзілі.

— Знайшоў з кім хадзіць... Ён тут з лекцый уцякае, жыве па сваім распарадку.

— Таму я з ім і пайшоў.

— Вось ты гаварыў мне, Вася, сяброўства моцнае перашкаджае ў рабоце. А ў цябе самога так. Разумееш, хлопцы мітусяцца, арганізоўваюць, а цябе не відаць. Не зжыўся ты з калектывам.

— Розныя характары ў людзей.

— Усё роўна. Ты павінен мець многа сяброў. Асабістых. А з нашага актыву іх у цябе няма.

Як заўсёды, Рынчук не дачакаўся, каб выслухаць думку другога, некуды заспяшаўся, кінуўшы на хаду:

— Падумай пра гэта.

Што ж, няхай будзе так. Я ўсміхнуўся і пайшоў міма палатак шукаць Юрку.

## 11

**3 кастрычніка 1966 года.**

Пасяджэнне бюро ў гэты чацвер крыху запазнілася. Палова трэцяй, а каманды заходзіць у кабінет першага сакратара райкома камсамола яшчэ не было.

— Чаму ты не збіраеш усіх да мяне? — афіцыйна пытае Валянцін Рынчук.

— Яшчэ не ўсе члены бюро прыйшлі.

— Будзем пачынаць — хто ёсць. Падыдуць.

Калі першы распарадзіўся, трэба пачынаць бюро. Па-сяброўску моцна і гучна вітаўся з усімі Валянцін. Так вітаюцца госці на вяселлі, сустрэўшыся перад тым, як сесці за стол.

— Таварышы. Я прапаную бюро абмеркаваць адносіны некаторых работнікаў апарату да захавання дакументацыі сваіх аддзелаў.

Члены бюро насцярожыліся. Гэта была навіна, ды не абы-якая.



Мала хто ведаў, у чым справа, маглі толькі здагадвацца. Перад самым пасяджэннем я спрабаваў пярэчыць Рынчуку—гэта ён настояў, каб такое пытанне было вынесена на абмеркаванне.

— Наш загадчык арганізацыйнага аддзела знарок не ўнёс пытання ў парадак работы бюро райкома камсамола. Я лічу неабходным паведаміць членам бюро, што падобныя факты назіраюцца апошні час і за другімі работнікамі апарату. Пара канчаць падобную практыку.

— Але вінавацяць аднаго мяне. І пры тым, я лічу, што абвінавачванні зусім неабгрунтаваныя. Папярэдняга разбору не зроблена.

— Пачакай, Васіль, не кіпяціся. Паспрабуем разабрацца, у чым справа,— гэта гаварыў Мікола Збойчык, важак камсамоліі ўніверсітэта. У ім я не сумняваўся. А вось заводскія сябрукі Рынчука Міша Мацейка, Толік Чычароў невядома, як паставяцца да ўсяго.

— Так, толькі пра цябе будзе размова. Трэба будзе — пагаворым і з астатнімі работнікамі.

Гэта што, змова? Выпад Рынчука, каб прыпомніць усё ранейшае?

Ты недаацэньваў ролю сяброўства? Як бы спатрэбілася табе цяпер сяброўства з Рынчуком!

— Дакладваю сутнасць справы. Учора пакой арганізацыйнага аддзела застаўся пасля работы незамкнёны на ключ. Мала таго, на рабочым стале быў пакінуты чарцёжны графік правядзення справаздачна-выбарчых сходаў. Там не толькі ўсе дадзеныя па арганізацыях нашых, але і ёсць графа, хто рэкамендуецца для абрання сакратарамі камітэтаў камсамола. Не варта напамінаць членам бюро, што дакумент мае сакрэтнасць. Ды і наогул...

Цяжка было стрываць. Можна лічыць сябе вінаватым ці не вінаватым, можна даказваць рознае, але ў той час, калі ты трапіў на абмеркаванне, ты — падсудны. Я часта задумваўся над гэтым. Замест таго, каб разам параіцца і вырашыць правільна тую ці іншую справу, адбываецца звычайная накачка: табе «мыляць» шыю.



Я гляджу на Міколу, Валодзю Гільнянскага, Івана Крапіўца, хочацца бачыць у іх аднадумцаў. Ці адзін раз яны гаварылі, што не вельмі правільна кіруе Валянцін Рынчук? Але ж яны ведалі, што Рынчук вельмі самалюбівы. Пакрыўдзіцца. Дый навошта ўспамінаць. Промахі ва ўсіх бываюць...

— Таварышы, я вам скажу больш. У апошні час за нашым загадчыкам арганізацыйнага аддзела наглядаецца нейкая расхаладжанасць у рабоце, прытупленне баявітасці. На апошнім семінары, таварышы...

Абмеркаванне ішло сваім ходам. Бурна, горача.

У чым была мая віна? А чацвёртай гадзіне я пайшоў на сход у адну з камсамольскіх арганізацый. Графік заставаўся на стале, бо ён мог спатрэбіцца для работы. У пакоі сядзяць яшчэ два работнікі: рабочы дзень не скончыўся...

— Больш таго. Я магу сказаць, што калі б падобны факт адбыўся тады — я думаю, мяне разумеюць таварышы,— то цябе за гэта па галоўцы не пагладзілі б.

Хацелася закрычаць, выбегчы з кабінета. Ды калі ўжо гаварыць пра такія рэчы, то трэба пачынаць з самога Рынчука.

«А што змянілася? — хацелася спытаць у прамоўцы.— Што? Пераламаўшы старое, мы яшчэ не пераламалі сябе».

Калі дайшла чарга да мяне, я паспрабаваў выкласці ўсё разам. Атрымалася блытана і неакрэслена. Было няёмка: могуць падумаць, быццам я хачу абвінаваціць другога і выгарадзіць сябе. Чаму маўчаў дагэтуль? Сапраўды, чаму?

Паспакайнела крыху на душы, як выступіў Жорка Паўлухін. Гаварыў шчыра, ад душы. Мяне не апраўдваў, але прайшоўся і па Рынчуку.

Гільнянскі і Крапівец таксама паўшчувалі Рынчука за гарачнасць і паспешлівасць.

Але факт ёсць факт.

Абмеркаванне было непрыемнае. Я перажываў моцна. Трэба было выказаць Рынчуку ўсё, што думаю пра яго.

**12**

**26 снежня 1966 года.**

Валянцін паклікаў мяне да сябе і па-змоўніцку сказаў:

— Цябе выклікаюць у абком.

Я пайшоў да чалавека, якога ведаў бліжэй,— трэцяга сакратара Валерыя Вайткевіча. Зусім нядаўна ён з брыгадай абкома камсамола правяраў работу нашага райкома.

Нямала нерваў нам каштавалі тыя дні, але ўражанне ад Вайткевіча засталося ва ўсіх добрае. Гэта быў удумлівы і разважлівы важак моладзі, які ўмеў аналізаваць вынікі любой справы. У час, калі ішла размова пра нашу работу, я не раз адкрываўся Вайткевічу, расказваў шчыра, без утайкі. Я бачыў, што ён разумее мяне. Магчыма, варта было расказаць яму ўсё.

Прыйшоўшы назад да Рынчука, я паглядзеў яму проста ў вочы. Ён усміхнуўся і адвёў позірк убок. Значыць, ведаў, а не сказаў.

— Пойдзеш?

Што адказаць? Дзе б я ні працаваў, я буду старацца. Але як быць з нявырашанай спрэчкай? Так хацелася б, каб час вырашыў яе!..

**13**

**10 студзеня 1967 года.**

Мы з Валодзем Нядзельчанкам стаім ля карты нашай вобласці. Валодзя цяпер мой сябар і калега. Я наглядаю за ім, і мне гэта прыемна. Валодзя расказвае мне пра першыя дні сваёй работы.

Разглядаем, якія лепш узяць раён для шэфства.

— Ведаеш, хочацца цікавейшыя раёны абраць. Каб ехаць было ахвотней. Усвіж, напрыклад, возера Сінява, альбо Калійныя Солі, Узбярэжскі раён.

Трэці налева пакой, калі падымаешся на другі паверх абкома камсамола,— інструктарская. З-за таго, што пад пакой абсталявана ніша (на ўсю шырыню праёма калідора прыладжана велізарная рама з цьмяным, як малако, шклом і ўстаўленымі ў сярэдзіне дзвярыма, таксама шклянымі), усе называлі пакой «крыштальнай залай». Размяшчаліся ў пакоі, бадай, усе інструктары арганізацыйнага аддзела. Стаяла шэсць сталоў, і болей не было нічога. Да сцяны моцна прыстаў пажоўклы распарадак руху прыгарадных і далёкіх маршрутаў аўтобусаў і паяздоў. На стале, у попельніцы, чарнеюць раструшчаныя недакуркі.

Колькі народу перавярнулася ў гэтым пакоі! Калі яшчэ ў аддзеле прапаганды інструктары трохі затрымліваюцца, то ў арганізацыйным аддзеле яны прасейваюцца, як скрозь сіта. Нат рабочыя сталы не



паспяваюць ачышчаць: у іх накапілася незлічоная колькасць пастаноў, інфармацый, даведак, запісак ад інструктараў мо чацвёртага калена. Да слова будзе сказаць — паперы дарма не залежваліся. Тэкст іх пастаянна перапісваўся на новую паперу і зноў трапляў у тыя ж сталы, размножаны на ратапрынтах ў дзесятках экземпляраў.

Інструктарская — вотчына загадчыка арганізацыйнага аддзела. Ён адзін тут можа разабрацца, што робіць кожны з іх, шасцярых інструктараў.

Загадчыкаў аддзела таксама перавярнулася многа. Наколькі я памятаю, пасаду гэту займалі вопытныя і ўмелыя сакратары райкомаў. Валодзя па старой сяброўскай звычцы ўводзіць мяне ў курс усіх спраў. Многа расказвае пра сябе, пра тое, як сам пачынаў.

Валодзін стол — першы ад дзвярэй. Хлопец любіць часам засяродзіцца, папрацаваць адзін. Нядзельчанка робіць аналіз стану камсамольскай работы ў сваіх раёнах, піша справаздачу па камандзіроўках. А часцей яго куды-небудзь пасылаюць. Даручы яму любую справу, і ён адразу кінецца выконваць.

У першыя дні — смешна ўспомніць — як у арміі з салагаў, падсмейваліся з яго. Жора Жмуроўскі, загадчык спартыўнага аддзела, аднойчы папрасіў:

— Валодзя, збегай у аблвыканком. Там на трэцім паверсе сустрэнеш такога і такога чалавека, перадасі ад мяне. Пачакай яго, калі не будзе.

Пайшоў хлопец, а Жора і забыў пра яго. Забегаўся, закруціўся — хіба ўспомніш усё? Сам жа прызнаваўся аднойчы: «Рукі і ногі Жмуроўскага ніколі не падводзілі, а вось галава...»

Валодзя пайшоў у выканком, прачакаў там гадзіны чатыры — ніхто не трапляўся яму на вочы і — прыйшоў назад, з чым пайшоў.

— Чаго ж ты там чакаў? Ну, пабыў трохі, дый назад,— Жора не знаходзіў апраўдання.

Інструктар у абкоме — пасада асаблівая. Акрамя таго, што ён мала затрымліваецца на гэтай рабоце, тут ён праходзіць выпрабаванне. Работа ў абкоме для яго — пляцоўка для ўзлёту. І ў раён таксама.

Валодзя атрымаў рабочы стол, і на гэтым усё ўладкаванне на работу закончылася. «Што тут давядзецца рабіць?» — непакоіцца хлопец. Не навічок у камсамольскай рабоце, а замаркоціўся. Неўзабаве нарадзілася яму ехаць у Плыты. А дванаццатай гадзіне падаўся на вакзал. Перад гэтым забег у буфет, прыхваткам пад'еў перад дарогай. Наглытаўся, як бацян, на ходу і — у дарогу. Пытанні, па якіх ён ехаў у раён, былі нескладаныя. Ішоў абмен камсамольскіх дакументаў.

Раённыя гарадкі вобласці — у нечым падобныя адзін на адзін. Але ўсё ж Валодзя любіў бываць на кожным новым месцы. Шчымлівым летуценнем прамільгнула дарога на Плыты. У райкоме было ціха, самотна. У бакавым пакойчыку сядзела чалавек пяць. У калідорах і пакоях — цішыня. Распрануўся, пахадзіў па калідоры. Наважыў зайсці ў кожны пакой.

У кабінеце сакратара райкома сядзела пяцёра дзяўчат.

— Таварышы! Вам трэба тлумачыць правілы ўліку? Не трэба? Ну, я коратка...

Сакратар трымаў новыя карткі для ўліку, камсамольскія білеты і тлумачыў кожны пункт правіл.

— Віншую вас усіх з абменам камсамольскіх білетаў. Жадаю новых поспехаў.

Хлопец паціснуў дзяўчатам рукі і ветліва запрашаў прыходзіць у райком.

Валодзя выйшаў у сенцы ўслед за дзяўчатамі.
— Задаволены, дзяўчаты? — спытаў.
— Ды так. Нішто сабе.
Разгаварыліся. Дзяўчаты працуюць на льнозаводзе. Распытаў у іх пра заробак, пра адпачынак, пра бацькоў, пра вёскі, з якіх усе яны прыехалі ў райцэнтр. Аказалася, інтэрната на заводзе няма, работа кожны дзень новая, нормы не цвёрдыя і расцэнкі таксама. «Ці то не даходзіць да нас, ці начальства займаецца рознымі махінацыямі з аплатай?» — сумняваюцца дзяўчаты. Скардзяцца, хоць і не ведаюць, з кім размову вядуць. Работа сезонная. Зімой.
— А летам?
— Хто дзе. У калгасе большасць. На зіму ізноў спяшаемся ўладкавацца.
Валодзя развітаўся, падзякаваў дзяўчатам. Зайшоў да сакратара.
— Ты хто па спецыяльнасці?
— Эканаміст.
— Ты быў хоць раз на льнозаводзе?
— Быў.
— Як там справы? Дзяўчат гэтых, што ў цябе нядаўна мянялі білеты, сустракаў там?
— Здаецца, бачыў.
Нічога тады не сказаў інструктар абкома. Прамаўчаў. Узяў з сабой інструктара райкома і прыйшлі з ім на льнозавод. Пабылі ва ўсіх начальнікаў і ва ўсіх кутках гаспадаркі. Блакноцік набрыняў ад запісаў, лічбаў, прозвішчаў.
Вечарам Валодзя сабраў усіх работнікаў райкома камсамола.
— Для чаго вынесена рашэнне з'езда аб замене камсамольскіх дакументаў? Толькі дзеля таго, каб старыя білеты замяніць новымі?
Ён расказаў работнікам усё па парадку. Колькі нараканняў у камсамольцаў ільнозавода, колькі ў іх праблем. Жыллё, работа, адпачынак, дом, вучоба — усё адны праблемы.
— Людзі прыходзяць да вас у райком, то пагаварыце ж вы з імі, выслухайце, памажыце.
— Часу ж няма! Так за дзень толькі чалавек пяць-шэсць памяняюць білеты.
— А хто вас падганяе?
Прынеслі зноў графік абмену, перагледзелі, якія арганізацыі колькі часу будуць мяняць білеты. Спрачаліся да ночы.
Дамовіліся ісці назаўтра раніцай да першага сакратара райкома партыі.

●

Выйшаў на дарогу. Чамусьці хацелася пайсці на мясцовы аэрадром. Аэрадром у такім кутку, як Плыты! І звычна і не звычна. Што раён прымаў з «Вялікай зямлі» самалёты ў акупацыю, Валодзя ведаў, але як наладжаны рэгулярныя паветраныя зносіны з абласным цэнтрам цяпер, не ўяўляў. Вось, праўда, надвор'е няважнае.
Усё-такі пайшоў на аэрадром.
За пасёлкам стаяла адзінокая будыніна, белы прамавугольнік — запалкавы карабок, пастаўлены бокам, з адным акном і шыльдай, на якой вялікімі літарамі напісана: «Аэрадром, г. п. Плыты».
За цаглянай будынінай — чыстае поле. Раўнютка ўсюды, але так і не разабраць — гразка там ці суха.



Марнаваліся ля станцыі яшчэ чалавек са два. Камандзіровачныя, мусіць, такія ж самыя.
Было невядома — будзе самалёт у той дзень альбо не будзе. Сядзі і гадай. Хоць бы аб'яву напісалі, ці што?
І тут непарадак. Ёсць жа гаспадар на гэтай пляцоўцы.
«Вярнуцца. Зайсці назад у райком...» — жаданне ўсплыло само сабой.
Потым падаўся на аўтобусны вакзал. Так яно пэўней. «Не апошні раз у гарадку»,— падумалася. А самому собіла выправіць і гэтую загану. Каб іншым людзям было лацвей...

**14**

**28 красавіка 1967 года.**

— Вось так, браце. Тут табе ўпынку не будзе, з камандзіровак не будзеш вылазіць. Я два дні пабуду і еду зноў.
Валодзя прайшоўся па пакоі.
— Нічога, браток, прывыкнеш. Нават падабацца будзе. З жонкай, праўда, хоць бяры развод. Цяжка...
Я думаю, што мая Люся і так ледзьве трывае, а цяпер зусім не захоча цярпець.
Я люблю ўсякую дарогу. Калі толькі прыйдзецца дзе ехаць, сэрца маё захліпаецца ад радасці новых сустрэч, новых мясцін.

## ПАЛІТРАБОТА — ЦЯЖКАЯ РАБОТА

Дарога Мінаева — Ракаўшчына шнурам слалася наўсцяж, то зыходзячы з гары, то ўзнімаючыся пад гару, уціскалася ў бярозавы гай ды выскоквала на роўнае, гладкае поле. Напэўна, калі глядзець здалёк, можна ўбачыць, як быццам плыве вялізны гарбаты «Ікарус», губляючыся, а потым зноўку купаючыся ў блакіце сонечнага неба.
З акна аўтобуса відзён адзін і той жа прасцяг. Суцэльныя абшары зялёнай ярыны цягнуліся па абодвух баках дарогі. Трохі адскочыўшы ад зямлі, перыны ранняй пшаніцы і аўса гойдаліся пад ветрам ледзь бачнай хваляй. Далей пайшло цёмна-зялёнае поле ячменю, перыны тут гусцейшыя і спарнейшыя, адна ў адну. Міжвольна на губы находзіць усмешка ад аднаго ўспаміну. Маленькі Валерык, які ўпершыню ўбачыў зялёны палетак маладога ячменю, закрычаў раптам: «Глядзі, глядзі, сколькі цыбулі расце! Цэлае поле!..»
Сапраўды, сакавітыя цёмна-зялёныя перыны купчастага ячменю нагадваюць цыбулю на градзе. «Хто яе паесць гэтулькі?» — шчыруе ў сваім пачуцці дзіця.
На дваццатым з гакам кіламетры аўтобус збочвае з шашы на каляіністую, добра выезджаную дарогу, доўга перабіраецца па глыбокім пяску з аднаго краю дарогі на другі. Дарога глыбіцца ў хвойны лес, дзе перад самым уездам вісіць палатно: «Лясная казка».
Пайшоў лес, густы і цёмны, і ўсё ў ім папраўдзе падобна на казку.
Глыбінны лес з гонкімі карабельнымі соснамі і з густымі вершалінамі, аж на зямлі цёмна. Хвіліна-другая, і вершаліны хвояў загойдаліся, захадзілі па блакіце неба, пачалі імгненна афарбоўваць яго ў цёмна-сіні колер. Быццам сотні пэндзлікаў пачалі працаваць у адзін момант. Унізе адразу пачало цямнець. У гэтым лесе можна сустрэць дзядзьку Чарнамора і дванаццаць асілкаў, казачнага ваўка і Чырвоную Шапачку.
Паглыблены ў думкі, я не заўважыў, як лес скончыўся і толькі тоўстыя ліпы і бярозы ўсё яшчэ вартавалі дарогу. Скрозь іх віднеўся шырокі прасцяг палёў, вялізныя белыя плечы каменняў-валуноў.

Там віднелася невялічкая вёска,— двароў сорак,— Замчышча. Хаты стаялі на самым узгорку. Іх было няшмат, але па тым, як купчаста гусціліся старыя ліпы, няцяжка было пазнаць даўняе паселішча.

Будынкі наўзбоч дарогі і на схіле горкі былі новыя. Магазін цагляны, атынкаваны і чысцютка пабелены. Наводдаль сярод грудаў жалеза і ржавых калёс стаяла кузня. Выкладзеныя цэглай вуглы і шулы нагадвалі пра даўнасць будыніны. Мабыць, калісьці гэта была панская стайня. А сярод старадаўніх ліп праступаў будынак, які ніяк нельга было назваць новым. Ён стаяў тут здавён, як ліпы і ўзгоркі.

То была сама мінуўшчына. Быў тут калісь маёнтак ці фальварак пана. Будынак быў аднапавярховы, вялікі. Па пяці вуглах высіліся невысокія востранькія вежы ў два паверхі. Сцены, выкладзеныя з чырвонай цэглы, цешылі вока немудрагелістай, але мілай архітэктонікай сваіх ліній.

Цяпер тут размяшчаўся Замчышчанскі сельскагаспадарчы тэхнікум. Побач з ім — два пяціпавярховыя інтэрнаты, дзе жылі студэнты.

Навокал узгоркамі ляжала поле. Узгоркаў было многа, яны высіліся адзін ля другога.

Тут нельга было не зачаравацца. Успомніліся раманы Уладзіміра Караткевіча і назвы вёсак Раўбічы, Півошчы. Недалёка ад нас і цяпер ёсць такая мясцовасць — Раўбічы. То мо адтуль і ўзяў гэтую назву пісьменнік. Прыступкі ганка, вузенькая дарога ў калідорчыку ліп, узгоркі, узгоркі, густыя лясы навокал. Крыху бліжэй да лесу — запусцелае багнішча колішняй сажалкі.

Якія цудоўныя мясціны ёсць у нас! Як добра, што яны цяпер нашы, што тут размешчан тэхнікум, моладзь вучыцца гаспадарыць на святой бацькоўскай зямлі!

Не стрываў — ледзь скончыў гутарыць з сакратаром камітэта камсамола Ірынай Засулька, дырэктарам тэхнікума Ігнатам Сцяпанавічам, выйшаў на ўзлесак агледзець ваколіцы. На душы стала нявыказна хораша.

Падабалася тут многае. Вялікая армія моладзі рабіла неблагія справы. Наладзілі выдатную практыку — вучыцца працаваць на зямлі. У тэхнікуме вялікая тэхнічная база, трактары, сеялкі, майстэрні. Аблогі наваколля поўнасцю абрабляюць і засяваюць студэнты.

Культурнае жыццё ў іх таксама нязгорш. Запрашаюць да сябе ў клуб тэатры са сталіцы. Ёсць свая самадзейнасць, эстрадны аркестр. Усё як след.

Ледзь прыкметнай сцежкай я пратупаў да ўзгорка, дзе пачынаўся лес. Узабраўся на самую вяршыню. Так і лёг бы, здаецца, на прасторны, натруджаны дол твой, зямля, прыпаў бы да цёплых грудзей і набраўся сілы ад тваіх узгоркаў! Жыць бы без смерці, колькі жыве зямля...

Краю мой родны! Я ў даўгу перад табой, як і кожны з нас на гэтай зямлі. Ці змагу я спаўна сплаціць гэты доўг, спраўдзіць надзеі твае...

Спускаўся з пагорка — на краі поля сустрэў дзядзьку. Той корпаўся ў сеялцы.

— Хораша ў вас тут. Таямніча і чароўна. Як у сне ўсё роўна ці ў кіно.

— Вам, маладым, кіно, а мне слёзы вочы выядаюць, як успомню, што перанесла гэтая зямля.

— А чый гэта быў маёнтак?

— Памешчык пабудаваў. Прыгожая мясціна. Сам ён не часта пры-





язджаў сюды: увесь час у Францыі жыў. Людзі тутэйшыя навялі хараство і аздобілі куточак. Майстры...

— А далей што сталася? Як паноў палілі, не згарэла?

— Якое там палілі? Пана самога тут не было. Перамяніліся часы — іх паслугачы хвасты падціснулі.— Дзядзька разагнуў спіну, агледзеў вакол.— Э-э-э, мілы ты мой! Многае можна расказаць пра гэтыя мясціны. Гісторыя — у гэтых курганах, узгорках. Ты, скажам, чалавек прыезджы, а што ўведаў пра наш куток роднай зямлі? Не шануем мы памяці...

Захацелася запярэчыць. Дзядзька як бы адгадаў мае думкі:

— Мала таго, што мы робім. Вельмі мала. У вайну тут была своеасаблівая крэпасць. Партызаны гаспадарылі. Там, за ляском, брацкая магіла ёсць. Даглядаюць яе, не скажу нічога. Мітынгі праводзяць, камсамольскія білеты ўручаюць. А ты думаеш, адна магіла тут? Што значаць курганы і замчышчы для навакольных людзей? Эх, браце ты мой...

Ад'язджаў і зноў выглядаў з акна аўтобуса белую крамку на ўскрайку, сажалку, зацягнутую зялёнай цвіллю, ледзь бачны чырвоны будынак тэхнікума. Якая цудоўная мясціна!

## 15

**14 ліпеня 1967 года.**

Мы сядзім з Вайткевічам у яго кабінеце. Я падзяліўся ўражаннем ад Замчышча. Ненарокам даведаўся — Вайткевіч захапляецца старажытнасцю. Вывучае гісторыю роднага краю. Ён гаворыць:

— Што будзе, не ведаю. Але думаю, што дурней я ад гэтага не стану.

Вайткевіч пазірае з-пад акуляраў вострымі зрэнкамі і пачынае даказваць мне пры дапамозе пальцаў абедзвюх рук.

— Вось глядзі. Асоба, якая не ведае сваёй гісторыі, свайго мінулага, не можа лічыцца ў поўнай ступені паўнацэннай і быць глыбока патрыятычнай.

Я ведаю, Вайткевіч перачытвае старыя летапісы, робіць супастаўленні. Нядаўна я дзіву даўся, калі ўбачыў, што ён ухапіўся за «Астраномію». Ці не закахаўся дзед Вайткевіч? Я не здзівіўся, калі аднойчы ён папрасіў мяне пашукаць у букіністычных магазінах Масквы кнігу «Астранамічнае тлумачэнне гістарычных з'яў».

Колькі таямніц могуць расказаць курганы роднай зямлі, гарадзішчы, замчышчы, селішчы і котлішчы радзінных хат! Колькі людзей загінула, каб не даць у ганьбу свой родны куток зямлі! Дзесьці разбурылі замак, дзесьці бульдозер без дай прычыны зруйнаваў гарадзішча... Людская нядбайнасць? А як патрэбна нам сівая мінуўшчына, каб яшчэ гучней загаварыла наша сучаснае.

З сённяшняга дня я з задавальненнем прыходжу да Вайткевіча і слухаю яго расказы аб мінулым. Ён умее цікава і дэталёва раскрываць любое паняцце. Калі толькі ён знаходзіць час на ўсё? У такія мінуты мне хочацца быць падобным на яго.

## 16

**22 ліпеня 1967 года.**

Аўтобус выскачыў на пагорак, спыніўся. Трэба было выходзіць. Зноў другія людзі, новыя мясціны. Прыгадваю, якія пытанні трэба паставіць на бюро абкома камсамола, што ўдалося зрабіць у тых арганізацыях, дзе пабываў. Два дні ў тэхнікуме. Два дні дасканалага вывучэння. Разбор спраў моладзі, пасяджэнне камітэта камсамола сумесна з дырэкцыяй і партыйным бюро тэхнікума. Задаволеныя засталіся і камсамольцы і дырэкцыя. Столькі цікавых спраў як з вадой прынесла да іх берага. Выхаванне, брат! Успомнілася, як сам выбраляў нагамі, выгульваючы са студэнтамі тэхнікума на вечарынцы. Потым да раніцы будзілі наваколле гарластымі камсамольскімі песнямі. Не, не скажаш, што абывацелямі жывуць юнакі і дзяўчаты тэхнікума, дзе і пайсці няма куды: адзін тэхнікум на ўсю ваколіцу.

Цяпер спяшайся да другіх людзей. Усё разам складае для цябе жыццё моладзі сённяшняга дня. Якая твая роля ва ўсім гэтым жыцці? Ты вымушаны ісці ад адных людзей да другіх, пакідаць любімыя мясціны, хлопцаў і дзяўчат, якія табе спадабаліся, з кім здружыўся, можна сказаць. Жыць увесь час з імі! Невядома, чым сустрэнуць у другім месцы. Але ты ідзеш, каб зведаць жыццё людзей, каб увайсці ў справы тваіх равеснікаў — быць заўжды не госцем, а працаўніком у любым доме, на любым полі.

Там, у абкоме, цябе хопіць толькі на тое, каб падумаць пра справы моладзі, зрабіць аналіз іх дзейнасці, чымсьці дапамагчы. Ці не мала таго?

Кожны раз я думаю аб тым, каб аднойчы застацца назаўсёды з тымі цудоўнымі людзьмі.

А Вайткевіч будзе дамагацца аднаго: «Дай аналіз. Пакажы формы іх работы, тое, што яны робяць. Раскрый метады, якімі яны карыстаюцца ў сваёй рабоце. Падкажы задачы. Дай кірунак. На тое ты і важак. На цалю ўперад трэба ісці».

І перад табой узнікае цэлая сістэма. Пагляд аў, ацэнак, спраў. Для цябе ўжо не проста адбыўся вечар клуба баявой і рэвалюцыйнай славы. Пачынаеш усведамляць вялікую работу па выхаванню на патрыятычных традыцыях і разбіраць у гэтым плане вечар як адну з форм выхавання.

Простае на першы погляд і будзённае паўстае перад табой як адно вялікае і цэлае.

Тады самому хочацца аглянуцца на сябе і сказаць, як кажа Гук: «Палітработнікі, падцягнуцца!»

Прыходзіцца спрачацца з сябрамі. Кожны дзень на новым месцы.

— Санітары мы. Мы не дактары, а толькі санітары. Прымочкі, кампрэсікі. Фортачку зачыніць... Вутку падаць...

Афарызм пайшоў, мабыць, ад таго, што ва ўсіх нас, абкомаўскіх інструктараў, у дарогу спакаваны невялічкія баульчыкі. Пузаценькія, з адной ручкай і на адным замку. Сумка нагадвае доктарскі саквояж. У дарозе вечна з ім...

Сыходжу па шырокай шашы, высыпанай гравіем, бяру кірунак напрасткі да вёскі. Трэба зайсці ў саўгас, які так і называецца «Юбілейны».

У цэнтры саўгаса сказалі:

— Сакратара вам? О, гэта ў нас самая багатая нявеста! На птушкаферме, пэўна. Дзе ж ёй яшчэ быць...

Паплёўся за вёску да рэдзенькага ляску ўзбоч поля. Там стаялі невялічкія пабудовы, быццам дахі дамоў з кроквамі разам паздымалі і парасстаўлялі блізка адзін ад аднаго. Так выглядала птушкаферма.

Пра камсамольцаў саўгаса можна многа расказваць. Я чуў пра іх яшчэ да таго, як завітаў сюды. Узнагароды, прэміі, пашана і слава. Хацелася не чуць такога: абрыдлі хвальбошчы, дзе людзі пачынаюць быць сімваламі. Хацелася ўбачыць звычайных людзей, лепш за ўсё дома, за сталом альбо на вечарынцы. Здарава было б прыпільнаваць

каторую пад ручку з хлопцам, калі ідуць з вечарынкі. Ці пазаляцацца да каторай самому?

Дзядзька ў расшпіленай тэнісцы заступіў уваход у брамцы.

— Стой, чалавеча! Нельга ўваходзіць. Прыезджым — тым больш...

Прыйшлося чакаць, пакуль Соня выйдзе з памяшкання.

Мы ідзём з ёй да пасёлка, падымаемся па ўсохлай дарозе на ўзгорак, сцежкай тупаем да яе хаты.

— Сама не ведаю, як атрымалася. Працавала. Старалася. Год. Другі. Трэці. Усё неяк неўзаметку ішло. Глядзіш — шосты год пайшоў! І дзяўчаты за мной пайшлі, стала нас многа. Добра працавалі...

Дзяўчына падыходзіць да шафы, нагінаецца над шуфлядкай і дастае адтуль маленькі карабок і тоненькія вокладкі пасведчання.

— Вось. Неяк вечарам зайшла на пошту, а там кажуць, што мяне ордэнам Леніна ўзнагародзілі. Газету паказваюць. Прачытала і — не веру... Думала, што не я гэта, а хтосьці іншы.

Дзяўчына сядзіць за сталом, пабурачкавелі яе шчокі.

— Прыйшла дадому, кажу маці. Тая не верыць. Ніхто ані не верыў. Газеткі ў мяне, як на тое, не было пры сабе...

Соня кладзе на стол лёганькую ордэнскую планачку, а за ёй літы цяжкі дыск з сілуэтам Ільіча. О, якое адчуванне! Першы раз ордэн трымаў у сваёй руцэ.

Ордэн мацаваўся з ордэнскай планкай малюпасенькім вушком і фабрычным колцам. Колца разагнулася, відаць, раней, і цяпер ордэн мацаваўся да планкі звычайным медным дроцікам, старанна загнутым.

— Разагнулася...— апраўдваецца дзяўчына, угледзеўшы, як я пільна прыглядаюся да дроціка.— Бацька дроцікам прымацаваў...

Мілае дзяўчо. Я назнарок дасачыў, як яна хавае вялікую ўзнагароду. Загарнула ў чысцюткі рагавічок хусткі, акуратненька склала ражкі і палажыла ў шуфлядку на самае дно.

Потым, калі быў зноўку адзін каля праўлення, спытаў:

— Чаму Соня ў вас самая багатая нявеста, як вы яе называеце?

Аказваецца, акрамя ордэна, у дзяўчыны яшчэ на кніжцы ашчаднай ляжыць паўтары тысячы. Камсамольская арганізацыя ў мінулым годзе ўзяла самы запусцелы папар. Паднялі яго, разаралі, пасадзілі капусту на ўсім палетку. Восенню сабралі ўраджай. Усё рабілі ў вольны ад работы час. Вось і прыйшлося на камсамольскую арганізацыю столькі даходу. Потым нядзельнікі. Усе грошы даверылі ёй, свайму важаку камсамольскай арганізацыі. Завялі рахунак у ашчаднай касе на імя Соні.

— Э-э, каб хто паглядзеў, як клуб дзяўчаты прыбралі! Гаспадыні. А самі як пяюць, як танцуюць — дзень бы слухаў, каб можна было.

А я яшчэ падумаў: гэта не толькі Соню, перадавую птушніцу і камсамолку, узнагародзілі ордэнам, а ўсіх дзяўчат іх саўгаса. І раёна. Увесь камсамол у гэтай узнагародзе. Камсамольскія работнікі таксама. За гэта варта адбіваць ногі, не ведаць ні дня ні ночы.

**17**

**11 жніўня 1967 года.**

## НЕ БЯДУЙ, ХЛАПЧЫНА

Летнім гожым днём мы праехалі ў з'езджаным, распоўзлым «Масквічы» кіламетраў дваццаць пяць — трыццаць і ў самы прыпар апынуліся ў глухой невялічкай вёсцы Мінаеўскага раёна, недалёка ад Матыля. Хаты стаялі ў засені вішань і чаромхі, навокал вёскі віднеўся лес.



Тут была калісь партызанская зона. Затуленасць і прахалодная свежасць ад вішняку і чаромхі лагодзіла сэрца і вока. Было лёгка і свежа, толькі пясок пасярэдзіне вуліцы дыхаў цеплынёй.

Мы пакінулі машыну пад самымі вішнямі каля нямоцнай агароджы з доўгіх акораных папярэчных жэрдак. Мязга — мяккая плеўка пад карой — высахла і пакруцілася ў тоненькія завіткі. Я абапіраюся абедзвюма рукамі і пагойдваюся на гнуткай жэрдцы. Хочацца прыпасці да шурпатай лускі акоранага дрэва, уставіцца ў зелень каля агароджы і пастаяць гадзіну-другую. Без тлумных думак, без клопату ў галаве.

Мяне вабіла шчырая вёсачка, дзе я меркаваў прабыць апошнія паўдня.

Школа была недалёка. Мы паслалі хлапчукоў, каб паклікалі піянерважатую: яна была сакратаром камсамольскай арганізацыі. Дзяўчына прыбегла тут жа. Яна аказалася гаваркая, хоць і сарамлівая.

У саўгасе пяцьдзесят чалавек моладзі, шэсць маладых спецыялістаў, пяць механізатараў і шафёраў. Яшчэ сямёра працуюць на ферме. Астатнія на палявых работах. Восем чалавек з тых, хто скончыў нядаўна дзесяцігодку, лічы, не надзейныя людзі ў саўгасе. Па часе паступяць вучыцца, альбо паедуць на работу ў горад.

Мы распытваем у Валі пра ўмовы жыцця, пра работу клуба, бібліятэкі, якія кіно ідуць. Ці даўно сама ў горадзе была?

Са мной яшчэ адзін інструктар абкома, Тамара. Зрэдку я перастаю гаварыць, даю мажлівасць запытаць тое-сёе і ёй. Гаворка пераводзіцца на арганізацыйныя справы: ці часта збіраюцца камсамольскія сходы, што на іх рашае моладзь, ці рэгулярна здаюць узносы?

— Абмен камсамольскіх дакументаў закончылі, як мне сказалі ў райкоме камсамола.

— Праўда. Усе абмянялі. Толькі адзін застаўся. Але ён абмяняе. Ён хворы. Да калена ногі адняло. Параліч. Маці ў яго таксама хворая.

— Раскажы нам пра яго.

Сумная гісторыя паўстала перад намі. Я глядзеў на платы, хаты, на сінеючы ўдалечыні лес, і думалася: дзесьці тут, побач, жыве чалавек, з якім жорстка абышлося жыццё. Будзе бяда, калі з ім сурова абыдуцца і людзі...

Схілялася к поўдню. Мы пахадзілі па вёсцы, зайшлі ў кантору да старшыні калгаса. Зайшлі ў школу.

— Вузка, цесна, мала,— сустрэў нас вядомымі цётчынымі словамі дырэктар мясцовай школы.— Гэтулькі зроблена! Няма дзе выставіць... Паказаць...

Мы праціскаемся ў малюсенькі піянерскі пакой. Школа драўляная, класаў нямнога, і калідоры малыя.

Дырэктар выкладвае на стол фотаздымкі, архіўныя даведкі, копіі архіўных і гістарычных матэрыялаў. Лістоўкі, газеты. Даўнія, 42—43 гадоў, і нядаўнія, з успамінамі. Дырэктар — былы партызан брыгады «Штурмавая». Паказвае фатаграфіі і расказвае пра людзей, якіх ведаў асабіста.

— А вось гэта дзеці самі напісалі гісторыю. Тры лётчыкі — Сашыхін, Ільін і Пятруха — вялі паветраны бой над вёскай у першыя месяцы вайны. Самалёт падбілі. Экіпаж ратаваўся з парашутамі. Аказалася, адзін з тых людзей жывы. Напісалі пісьмо. Адказаў. Знайшлі сваякоў двух другіх лётчыкаў.

— Наш зямляк,— уставіла сваё слова і Валя.— Генерал-маёр. Родам з нашай вёскі.

Мае запісы не месціліся ў блакноціку...

Аказваецца, калі чалавек з душой возьмецца за справу, зацікавіць другіх — вунь колькі зрабіць можна! Адноўлены цудоўныя старонкі жыцця вёскі. Вучні школы пішуць гісторыю даўнішнюю, але блізкую кожнаму сэрцу.

Пасля абеду мы рушылі да партызанскіх зямлянак. Ускрай лесу, акурат на заваротцы, стаіць хатка. Каля самай хаткі — пачарнелы слуп, але правады да хат не даходзяць. Значыць, там няма ні святла, ні радыё.

— Хто тут жыве?

— Чалавек. Жанчына адна.

Дзіўна! Вядома, чалавек. Але чаму ён так ад свету адасоблены?

І шафёр расказвае.

Жыве тут самая прыгожая некалі дзеўка на ўсё наваколле. Адна ў маці была. Старая маці набожная. Узяла ў галаву, што конча павінна нядобрае стацца з яе дачкой. Не адпускала яе ад сябе ні на крок. Дваццаць гадочкаў, як адну часіну, трымала на хутары дарослую дачку. Маці памерла, а з дачкой невядома што сталася. Не паказваецца на людзі нізашто. Выйшла з гадоў — замуж так ніхто і не ўзяў. А кажуць, прыгожая была, ды яно і цяпер відаць.

— Звякуе так: мала засталося. А вось не дадуць мне зманіць — у доме мужчына не быў...— закончыў шафёр і ўсміхнуўся.

— На якія ж сродкі яна жыве?

— Пенсію калгас дае, як састарэлай.

— Паспрабуйце перацягнуць яе хатку ў вёску. Зімой — можна з душою развітацца аднаму чалавеку...

Зямлянкі стаялі ў лесе на тым жа месцы, як і ў партызанку. Лес навокал выразалі аж да груду, а па другі бок груду хвоі стаялі ў белых зарубцаваных шрамах падсочкі. Няўжо не знайшлі іншага месца, каб збіраць смалу?

Шэсць зямлянак стаяць такія, нібыта ў іх і цяпер жывуць. Надпісы на сценах: «Узрыўнік дзядзька Нечыпаловіч». Малюнкі вуглем і крэйдай на ўсохлай тонкай кары маладых хваінак. Шафёр ахвотна вёў нас ад адной зямлянкі да другой.

Вярталіся назад — ледзь не задыхнуліся ад паху бэзу на ўскраіне. Спынілі машыну каля самага куста. Белы і сіні бэз распасцёрся на ўсю ўскраіну лесу. Тут ляжала котлішча колішняй хаты. Мы станавіліся на гліняны грунт, на каменне падмурка і нахілялі доўгія лапы бэзу.

Увесь гэты час, пакуль былі ля зямлянак, у школе, думалася, што мушу зайсці да камсамольца, які ляжыць хворы. Так не хацелася заходзіць у двор прыезджым чалавекам. Колькі б даў, здаецца, каб узысці на ганак як добры знаёмы гаспадара.

У хаце было, бадай, як ва ўсякай іншай. Толькі ложкі разабраныя і абодва занятыя. Маці была таксама хворая. Яна глуха стагнала, натруджана, нямогла хакала.

Хлопец памарудзіў трохі, з цяжкасцю пасунуўся на край ложка. У яго асаблівы характар: здавалася, пачуццё крыўды і душэўнага болю ў яго месцяцца на самым версе. Слова скажаш, бачыш — адвёў убок вочы хлапчына, замаркоціўся...

— Маці вось цяжка... Я што... Ногі можна і новыя прыставіць.

Аднымі губамі ён крыва ўсміхаецца.

— А ў бальніцу не спрабаваў класці?

— Ляжала і ў бальніцы. Трохі палепшала — выпісалі. Увесь жа час таксама не будзеш у бальніцы ляжаць. Вось і мне няма як палячыцца. Не кінеш маці.



— Сакратар камсамольскай арганізацыі была ў цябе? Як людзі адносяцца?

— Была... Чым яна паможа?

— Усё ж — камсамол...

— Што — камсамол... Вы гаворыце: камсамол, камсамол... А што ён можа зрабіць? Прывыклі на энтузіязме, грамадскіх пачатках... Цяжка прабіць якога-небудзь аднаго дуба, які вядзе ўсе гэтыя справы. Скажы мне хоць адзін прыклад, дзе камсамол памог, дзе ён сам вырашыў? Якія правы ў яго?..

Моўчкі слухаю. Якое знаёмае нараканне! Хацелася нагадаць мноства прыкладаў, калі менавіта камсамол памог маладому чалавеку ўладзіць свой лёс.

— Пакінуць маці я не магу. А калі б мог, хто будзе мяне глядзець у санаторыі? Добра як добра. А бывае ж, што я не магу падняцца. Малое дзіця — не больш...

У хату зайшлі шафёр і Тамара. Клічуць ехаць. Я выходжу з імі ў двор.

— Вось што, хлопцы і дзяўчаты,— звяртаюся да сяброў, хоць іх усяго двое,— едзьце вы адны. Без мяне.



Яны выйшлі за веснічкі. З акна святло падала на бліпічасты верх «Масквіча».

— Вы вось што: скажаце сакратару райкома, каб прыехаў сюды паслязаўтра з выпісаным бланкам камсамольскага білета. Ды папярэдзьце, што я застаўся тут. Ну, бывайце.

— Паслухай. Лепш едзем. Заўтра прыедзеш зноў.

— Не. Я застаюся... Бывайце!

**18**

**28 жніўня 1967 года.**

Вечарамі застаюся на рабоце адзін. Мне падабаецца сядзець у апусцелым пакоі, метадычным кабінеце, дзе многа кніг, гаворыць радыё і можна ўключыць тэлевізар — спакойна думаць і рабіць якую-небудзь справу, што не паспеў зрабіць за сем-восем гадзін рабочага дня.

Аднойчы — гэта было ў чацвер — я пачуў, што на другім паверсе я не адзін. Нехта хадзіў па калідоры, тупаў у суседнім пакоі. Час даволі позні, каб можна было меркаваць, быццам нехта яшчэ строчыць якую-небудзь паперу.

Яшчэ больш здзівіўся, калі пачуў музыку. Яна то рвалася, распіраючы сцены і рассоўваючы цесны калідор ушыркі, то паціху лашчылася, як лёгкі ветрык у лісці чаромхі, то нікла, як чаромха асыпалася. Гукі ўвабралі ў сябе ўсё разам: водар чаромхі, густы пах зеляніны і хараство пачуцця да каханай дзяўчыны. Здавалася, заходзіцца песняй твая душа...

Я адчыніў дзверы, з-за якіх чулася музыка, і сумеўся. На сярэдзіне пакоя, паміж чатырма сталамі стаяў Валодзя Нядзельчанка. Стройны, гнуткі, адкінуўшыся назад, як на сцэне, ён іграў на баяне. Быццам чарадзей, хлопец закругліў мелодыю, паціху апусціў сваю песню дзесьці за гаем далёкім, у рамонкавыя лугі, на майскія травы.

Асела песня, не прымяўшы маладой траўкі, не стросшы лёгкі пылок з лугавых дзьмухаўцоў.

Застыла рука, ледзь-ледзь варухнуліся пальцы, а гукі плывуць, плывуць... Словы немудрагелістыя: «Заметелилось вечером, снег кружит над землёй...»

Я пачуў упершыню гэту песню ноччу, у лесе. Песня гучала сярод цішы лесу таямніча і чароўна. Яна ішла ад кастра разам з яго святлом, ад аднаго дрэва да другога, гублялася ў вершалінах хвой, усплывала ў прасторнае сіняе неба, у зорную ліпеньскую ноч. Ці даводзілася вам слухаць песню ноччу ля кастра?

Валодзя нечакана заўважае мяне ў дзвярах, перастае іграць. Думалася, хлопец сумеецца, а насустрач — усмешка, белазубая, адкрытая.

— Ты што?

Я гатовы спытаць у яго тое самае, хоць абодвум не патрэбен адказ. Мы разумеем, чаму засталіся да цёмнага на рабоце. Кожны з нас думаў, што ён адзін пануе тут і адзін толькі ён здолеў залучыць у палон самотнага творчага настрою самога сябе. Мы весела, шчыра смяемся.

— Іграй, Валодзя. Іграй...

— Даўно не іграў,— прызнаецца Валодзя.— Дзе ты бачыў, усё часу няма... Ганяеш па вобласці штодня — то ў адзін раён, то ў другі. А так захочацца іншы раз заіграць, што ніякая работа не лезе ў душу. Я ж многа іграў раней...

У той вечар мы нагаманіліся ўволю. Распыталі ўсё адзін у аднаго, ад нараджэння да сённяшняга вечара. Цікава, калі застанеш чалавека на адзіноце самога з сабой, яго лёгка выклікаць на шчырасць.

У Валодзі вялікая мара. Ён хацеў бы так іграць на баяне, так валодаць ім, каб выклікаць і слязу і смех.

Успамінаю, на адным семінары Валодзя падышоў да мяне і папрасіў:

— Уключы і мяне ў праграму канцэрта.

Ён любіць спяваць не толькі для сябе. За гэта Валодзю любілі.

**19**

**12 кастрычніка 1967 года.**

Сёння — якраз апоўдні — сустрэўся са сваім таварышам, былым інстытуцкім сябрам. Не аднойчы я думаў, што ён ходзіць недзе тут, але ні разу мне не даводзілася з ім пабачыцца. Увесь гэты час у мяне былі два жаданні: сустрэцца і — абысці да часу...

Я выскачыў з будынка, перабег пад скразным ветрам вуліцу і ступіў у затулены калідорчык сцежкі ў скверыку. Убачыў сябра шчэ здалёк. І хутчэй адчуў, чым зразумеў, што асаблівай радасці нам сустрэча не прынясе. Бокам, паўз край асфальту ішоў доўгі юнак. На ягонай галаве трымаўся неглыбокі берэт, які мне нагадваў закураную попельніцу. Апрануты мой сябар на замежны лад, як «эўрапеец». Апранахі сядзелі на ім досыць такі спраўна — гэтага нельга было не заўважыць.

Яркім зайчыкам бліснулі выпуклыя шкельцы акуляраў у тоненькай пазалочанай аправе. Быццам прамільгнулі паўз цябе, зыркнуўшы святлом промня, дзве адзінокія шыбы даўно апусцелай хаты.

— Здароў, браток!

— Маё шанаванне.

— Куды ідзеш?

— Да сябе. На факультэт.

— Як жывеш? Навіны ёсць?

— Нічога сабе. Няма.

Гаворка, як у людзей, якія моцна пасварыліся і гавораць толькі з ветлівасці.

— У Вільнюсе купіў?

Я знарок тыцкаю пальцам яму ў грудзіну.

— Так, там.

— Усё па-старому?

— Па-старому. Прабач, спяшаюся...

Ён працягвае мне тры доўгія пальцы правай рукі, і я нават не цісну, а толькі дакранаюся да халодных пішчыкаў.

Ён пайшоў па сцежцы, выпучыўшы вузкую грудзіну, задраўшы галаву, з уціснутымі ў плечы лапаткамі, як бы яму хто закінуў за каўнер кавалачак ільду. Доўгі, тонкі, уцяты ў сябе. Нібы сашчэплены.

**20**

**1 лістапада 1967 года.**

Ён пайшоў. Важны, мілы, эстэтны малады чалавек. Поўнасцю заняты сваім клопатам, сваімі высокаінтэлектуальнымі справамі. Мы калісьці мелі адны ідэалы, марылі прысвяціць сябе, сваё жыццё служэнню любімай справе, прафесіі. Але вось я альбо любы з такіх,

як я, перайшлі на камсамольскую работу. Грамадская работа адарвала ад любімай справы. І гэта ўспрымаецца тваімі сябрамі, як здрада любімай справе. Чаму так? Дзеля такіх жа, як мой сябар, прыходзіцца столькі біцца, каб што-небудзь зрабіць...

Інжынер, механік, хімік, настаўнік, мастацтвазнаўца — кожны з іх з сумам думае, што не зможа на поўную сілу працаваць на заводзе, у школе пасля пяці-шасці гадоў камсамольскай работы. «Які з яго інжынер...» А колькі іх, першакласных спецыялістаў, працуе ў камсамоле...

І яшчэ я думаю: там патрэбны першакласныя спецыялісты, якія ведаюць справу, умеюць арганізаваць яе.

Я вымушаны весці грамадскую работу на правах арганізатара і важака сотні і, нават, тысячы маладых людзей, даваць ім адказ, адстойваць іх правы, прыносіць карысць... Я аддадзены гэтай рабоце. Часам думаеш: якімі, магчыма, плёнымі былі б тыя дні, гады, каб займаўся толькі літаратурай ці яшчэ чым, што мог бы многае спасцігнуць за гэты час. Хто вымерае гэту страту для цябе?..

Пачыналі свяціцца вокны дамоў, хоць вулічнае святло яшчэ не ўключалі. У адной з кватэр гарыць лямпа дзённага святла. У зеленавата-бялёсай смузе свеціцца кропачка тэлевізара. Калі заглядваць з вуліцы, здаецца, быццам глядзіш у прасторны акварыум за тоўстым двайным шклом. Мне думаецца — гэта і ёсць тая глыбіня, якую шукае не толькі рыба.

Не выходзіць з галавы наша сустрэча. Адчуванне такое, быццам у паветранага акрабата, які ў час вялікага напружання,— пераваροту ў паветры,— раптоўна не знайшоў перакладзінкі на тросах...

Няўжо гэта адыход ад любімай справы?

— Тады — у імя чаго?

**21**

**21 лістапада 1967 года.**

Пад вечар вецер улёгся, стала зацішней. Стыў пукаты асфальт. Людзей на вуліцы мала. Холад такі, што, здаецца, язык у роце мерзне, зубы ломіць ад кожнага глытка паветра.

Аўтобусы сноўдаюцца па вуліцы, як вярблюды, марудныя і вялізныя. Тужліва стогнуць і хрыпяць ад натугі. Снуюць туды-сюды імкліва, як чаўнок у нічэльніцы, хуткія, прыземістыя «Волгі». Мільгаюць высокія «Масквічы» і гарбаценькія «Запарожцы». Вуліца кішыць, вуркоча, стогне, быццам жывая.

Ступаю на пасак асфальту і спяшаюся дабегчы да сярэдзіны вуліцы. Больш не прабяжыш. Другая палавіна вуліцы таксама пачынае жыць — адкрыты ход машынам. Яны абкружаюць мяне з усіх бакоў.

За пераходам,— на тым баку,— з адной паласы вуліцы раптам зрушваюць усе машыны. Так даюць старт гонкам. Уперад заўсёды выскачаць нізкія, лабатыя «Волгі», за імі падгалья «Масквічы», нецярплівыя «Запарожцы». Быццам гайня сабак, кідаюцца яны наўгрунь праехаць перакрыжаванне вуліц, ірвуцца наперад.

Ступаю ледзь не пад калёсы аўтамашын, каб найхутчэй перайсці дарогу. Яны праносяцца міма мяне імкліва, а то, раптам запрудзіўшы вуліцу, марудна плывуць, як касякі рыбы, шчыльна ціснуцца адна да другой. Я стаю і праводжу машыны вачыма. Скрозь запацелае шкло «Волгі» спрабую зазірнуць у сярэдзіну машыны, каб убачыць людзей і застаць іх усмешку, пагляд.



Вуліца жыве, і хораша адчуваць сябе пасярод вялізнага суцэльнага палетка дарогі, сустракаць і праводзіць машыны. Лёгка на душы: здаецца, кінуўся б услед за любой машынай, ускочыў у яе прасторнае нутро і памчаў. Альбо проста соваўся б, як непрытомны, між машын, каб яны штурхалі пукатымі лбамі, як неразумныя цяляты...

Я люблю стаяць пасярэдзіне вуліцы і адчуваць, як б'ецца яе пульс. Я люблю слухаць, як жыве вуліца...

Слухаць таксама дарогу, якая многае перанесла на сваіх плячах.

**22**

**24 лістапада 1967 года.**

Зайздрошчу трошкі хлопцам. Я ўпэўнены: яны даб'юцца свайго. Вечна калупаюцца ў літаратурных часопісах, ловяць навінкі. Крэмзаюць цішком «геніяльныя» творы ў добрай надзеі некалі здзівіць свет. Забяруць у галаву адну думку і ходзяць з ёй, як з галаўным болем.

І заўсёды выходзіць па-іхняму!

І Валодзя, які вечарамі застаецца на рабоце, іграе на баяне.

І Гук. І Віцька Ціханчук, які ў неверагодных пакутах напісаў «Даведнік камсамольскага работніка». Як ён яму даўся?!

Пачынае даходзіць, што ў гэтым вартасць нашага жыцця. У тым, што нельга чакаць выпадку, адкладваць работу на пасля, цешыць сябе думкай, што вось прыйдзе час і ты пачнеш працаваць як след, на поўную моц.

Спачатку чакаеш, каб усталявацца, стаць добра на ногі ў жыцці. Пазней чакаеш, пакуль падрастуць дзеці. Чакаеш кватэры, выходнага дня, настрою, натхнення.

Я не кідаў пісаць ніколі, але прызнаюся шчыра — многа адкладваў і не заканчваў напісанае да канца толькі з гэтых меркаванняў.

Я не здзівіўся, калі аднойчы, прыйшоўшы раніцай на работу, знайшоў на стале нумар літаратурнай газеты, якая змясціла апавяданне Міхася Гука.

А ў часопісе на адной са старонак я прачытаў: «У наступным нумары апавяданні маладых...» Сярод іншых — імя Міхася Гука.

Гэтага трэба было чакаць.

Кожны дзень табе дадзены, каб ты паставіў яго на службу сваёй вялікай мэце.

Радуйся кожнаму новаму дню, які прыходзіць, смуткуй на зыходзе яго. Табе дадзены жыццём адзін дзень, і ты зрабі яго, як жыццё, поўным. Інакш застанецца табе толькі махнуць рукой услед цягніку жыцця, як адыходзячаму дню.

**23**

**20 студзеня 1968 года.**

— Вася, заходзь. Дам такую рэч пачытаць, якой ты ніколі не чытаў.

— Ну, няўжо? Не веру...

Я заходжу ў кабінет да Генрыха Палецкага, і той, пакапаўшыся ў шуфлядках стала, дастае зачытаныя лісткі з машынапісным тэкстам. Кожны лісток абцёрты на краях, пачарнелы. Радасць зашавялілася ў душы, павага да хлопца. Я лічыў яго халодным айсбергам. Хацелася хутчэй пачытаць яго таямніцу.

— Во, паэма цэлая! Твардоўскі напісаў. Знаеш Твардоўскага?

Я гатовы дараваць яму гэту фразу, чорт яго бяры, толькі б тое, што даваў ён пачытаць, было што-небудзь цікавае.

Я не верыў розным лісткам, у якія перапісваюцца з розных кніжак вершы. А тут, каб такога аўтара ды — машынапіс! Што ж ён там напісаў?

Падумалася на першым часе, што гэта падман, што хочуць узяць на голы кручок. Не выйдзе!

— Толькі нікому не давай. Бачыш — зачыталі. Мне далі хлопцы знаёмыя...

— Што за кніга?

— «Цёркін на тым свеце». Во хлёстка! На, пачытай. Яшчэ не друкавалася нідзе...

Не мог прыйсці ў сябе. Душылі злосць, жаль, смутак. Я сустракаў розных людзей — закарэлых, шэрых, сапраўдных дубоў. Але напаткаць такое... Чалавек зусім не чытае кніг. Не сочыць за літаратурай наогул. Кнігу выдалі некалькі выдавецтваў вялікім тыражом. Ды пайдзі ты ў кнігарню год назад — кніга ляжала на прылаўках...

— Дык бярэш ці не? Кажы дзякуй...

— Ты спазніўся, Генрых. Ты проста намнога спазніўся ў сваіх думках, Генрых...

Стала смешна. Вар'яцкая ўсхваляванасць падхлынула да горла, я захлёбваўся, бы давячыся. З горла ў мяне вылятаў толькі смяшок, сутаргавы, парывісты.

— Эх ты...

Павярнуўся і выйшаў.

## 24

**21 студзеня 1968 года.**

Факт той стаў анекдотам. Я сабраў са стала паперы, пастукаў старчма па стале, раўнуючы, сашчаміў драцяной зашчапкай і скруціў у трубачку.

— Пайду.

— Будзе помсціць табе за тое, што ты расказаў пра рукапіс.

— Будзе разумны — выправіцца. А дурню ўсё адно...

Я павінен быў панесці на зацверджанне пастанову. Зайшоў да Генрыха.

Палецкі кінуў вокам, прагледзеў адзін аркуш паперы, другі. Аддаў назад.

— Што! У чым справа?

— Не чотка. І скараціць трэба.

Погляд яго, арганізацыйніка, прайшоўся па паперы і не знайшоў адной звыклай фразы: «Заслушав и обсудив...» Я назнарок не пісаў гэтых слоў, каб пазбегнуць надакучлівага канцылярскага штампу.

— На, дапрацуй.

Прыходзіцца працаваць і так. У такі момант становіцца прыкра.

Заходжу ў свой пакой.

— Ну што, пойдзе пастанова?

— А нічога, пойдзе...

— Што ён сказаў?

— Так. Абмяняліся думкамі... Заходзіш да начальніка са сваёй думкай, выходзіш — з яго...

— Дурань ён, твой Генрых.

— А я што, не так думаю?..



Хочацца як мага хутчэй паехаць у камандзіроўку. З'ехаць на тыдзень, месяц. Радуешся любой перамене. Самае страшнае — чуць, як гадзінамі такі чалавек будзе павучаць на любым пасяджэнні цябе і прысутных, не ўяўляючы, што трэба вучыцца самому.

## 25

**9 лютага 1968 года.**

— Ты чаго такі вясёлы? У камандзіроўку едзеш?

— У камандзіроўку, дружа. У камандзіроўку на ўсё жыццё. А што? Мо і так.

Нядзельчанка выскаляецца белазубай усмешкай, ляпае мяне па плячы.

— Вось так, брат. Жыццё, нічога не скажаш. Ніколі б не падумаў...

— Дык скажы, што адбылося?

— Еду ў Балгарыю з турысцкай групай. Прыязджаю — перавожу чамадан у Рачное. Прыпісваюся на пастаяннае месца жыхарства ў Круглянкаўскім раёне.

Перада мной праходзяць Валодзевы шляхі-дарогі ад Сімферопаля. Служба ў Мінску. Камандзіроўкі.

Я засумаваў. Прыходзіла адчуванне выпадковасці сваіх удач, сумнення ў сіле трываць дзень у дзень на рабоце, якой не відаць.

Дакуль можна вытрымаць?

— Трымай руку, сябар. Прыеду ў госці.

Валодзя Нядзельчанка ехаў у Круглянкаўскі раён, дзе доўгі час быў інструктарам зоны. Хлопцы і дзяўчаты раёна абралі яго сакратаром райкома камсамола.

## 26

**21 лютага 1968 года.**

— Ты не можаш жыць без сваёй работы. Табе б усё жыццё арганізоўваць, дабівацца нечага...

Люся мала зважае на мае довады. Нечым занята сваім, збіраецца.

— Колькі гадоў б'ёмся вось так на прыватных кватэрах. Пра цябе хто паклапаціўся? Вечна ў яго высокія матэрыі... У водпуск, як чалавек, не можаш паехаць.

Расказаць ёй свае трывогі? Як цяжка і горка бывае на рабоце. А мо кінуць усё? З якім задавальненнем я перайшоў бы працаваць, як раней, у школу. Невялічкую школу, дзе ёсць твой клас, твае дваццаць восем вучняў... А тут ты адказваеш за кожнага стрэчнага-папярэчнага. Якім будзеш ты, малады чалавек?..

— Ты прывык. Уцягнуўся. Іначай ты не зможаш жыць...

●

Якраз тое месца — узгорак, на які вымчала мяне восем гадоў назад грузавая машына. Кукурузы на гэтых палях больш не сеюць. Жыта, бульба, буракі, узмежак поля засаджаны густой і дробнай морквай. Ураджай убралі, засталіся неператораныя бульбянішчы.

Мы з бацькам у апошні дзень майго водпуску выворваем свой палетак бульбы.

З гэтай гары бачыў я глыбокае-глыбокае неба і птушкі-крэсачкі далёка ад зямлі.

Я вяду баразну. Трымаю плуг моцна ў руках, але роўна не атрымоўваецца: то камень пападзе пад лямеш, то моцна наляжаш на ручкі — плуг выскачыць з зямлі. Прыгадваецца цудоўнае айтматаўскае параўнанне. Як грыву каня, пласт зямлі адгортвае плуг. На гэтым полі мы капалі бульбу. Заморышся за дзень — спіна крукам стане. Затое, я навучыўся кланяцца зямлі ў пояс.

Нельга забывацца кланяцца роднай зямлі нізка.

Адсюль відаць далёка. Аратага можна ўбачыць за пяць-шэсць вёрст. Да бальшака ляжаць палі. Далёка стаяць купкай хвоі, асіны, ліпы. З-за іх выглядвае двухпавярховая школа. Яе толькі што пабудавалі, і вучацца там першы год. Я не быў там яшчэ ні разу.

Крыху далей ад вёсак, улева ад школы, стаяць адразу два хутары. Адзін бліжэй, маленькі астравок, другі — большы. Першы астравок у полі — Бранкевічаў хутар — даўно знеслі. Засталіся толькі прысады. Яблыні, вішні, чарэшні. Наўскасяк ад школы, якраз пасярэдзіне дарогі, стаіць дарагі сэрцу хутар. Ён захаваўся ўвесь. Пра хутар я мог бы расказаць многа. Лепшыя ўспаміны майго дзяцінства і юнацтва звязаны з гэтай мясцінай. Захаваліся два драўляныя будынкі. Тут была наша школа. Называлася яна па назве большай вёскі з усяго наваколля — Абрыншчынскай. Настаўніцкая, хімкабінет, школьны буфет катушком былі ў нізенькай, падпёртай хатцы. Зімой там да вокнаў падсыпалі пяску, каб не выпусціць цяпло. Дзверы, як запалкавы карабок. Згінацца, каб увайсці, прыходзілася ў тры пагібелі, як у зямлянку, хоць на свет божы хатка глядзела весела. Мы заўсёды шпацыравалі па вуліцы пасля званка, бо бачылі, як выходзілі настаўнікі, каб ісці на ўрок.

Вакол яблыневы сад. Тоўстыя ліпы акружалі хутар з усіх бакоў. Дарог вяло са школы многа. Выйшаў і пайшоў у які хочаш бок.

У Абрыншчыне, дзе пабудавана новая школа, шнур вёсак упіраецца ў прыгожы Нёман. Да яго ўздоўж вёсак цячэ невялічкая рачулка Вуза. Спяшаецца да Нёмана.

Якія мясціны ў нас!

Сэрца заходзіцца ад радасці.

Ні кропелькі няма смутку. Не хочацца ехаць у тлумны горад. Быў бы заўсёды тут. Атрымалася так, нібы чалавек доўгі час бег-бег, аж у вушах пачало звінець, а потым раптам спыніўся.

Я жыў у горадзе, працаваў, бегаў цэлымі днямі. Дазваньваўся, дагаворваўся, выконваў заданні, спяшаўся на аўтобус, выкройваў час, турбаваўся за пільную справу. Тут жа цішыня палёў. Жывуць тут твае бацькі. На поле едуць людзі. Тут нараджаліся мары, тут абдумваў і загадваў сваё жыццё.

Пласт за пластам тчэцца разора. Блага, можна не асцерагацца, шырока ці вузка зоймеш. Ары сабе як хочаш. Прасторна, прывольна.

Старонка за старонкай гартаюцца дні майго жыцця. Моцна далася мне камсамольская работа, калі тут, удалечыні, я ўспамінаю кожную дробязь... Якая яна, мая дарога?..

Успомніў Рынчука, Палецкага. Яны — на адзін твар. Хлопца, што змучаны цяжкай хваробай, дзяўчат з ільнозавода.

Колькі нявырашана яшчэ ў жыцці? Ці толькі гэта?

Значыць, трэба гарэць у любую хвіліну. Не спускаць Рынчуку. Не паддавацца Палецкаму. Усё роўна зразумела, хто пераможа. Даказаць ім.



Як жыве той хлопец сёння? Заглянуць у тэхнікум? Кладзецца мая баразна. Большае ўзаранае поле.

Неба пачынаюць зацягваць невялічкія хмаркі. Імжыць дождж, нізкі, густы. З-за лесу паказаліся жураўлі. Востры клін выцягнуўся. Жаласліва курлыкаючы, расцягнуліся наўскасяк да небасхілу. Нізка нада мной, над зялёнай рунню. У восеньскую чарнату неба мкнуць яны спорна і курлыкаюць ціха-ціха.

«Гусі, гусі, скіньце па пяру — і я з вамі палячу...»

Далёка-далёка, у канцы зялёнага поля, ледзь бачна вырысоўваецца клінок жураўлёў. Жураўлі адлятаюць...

Дык вось што карцела запісаць... Увачавідкі бачу — жураўлі вяртаюцца назад.

...У акно прабіваецца ранак. Відаць два дамы насупраць. У пад'ездах гараць агні. З-за крайняга дома моцна праступае попельна-ружовая палоска. Пачынае світаць. Трэба класціся спаць, каб не запазніцца. К дзевяці гадзінам ізноў на работу...

ПАЭЗІЯ



• *Трыпціх*

**Раман ТАРМОЛА**



*Адна в'етнамская дзяўчынка сказала:*
*«Хачу жыць там, дзе няма неба».*
*(З газет).*

## 1. СКАРГА НЕБА

Здаўна, як хадзіў па зямлі яшчэ прашчур,
Я позірк ягоны любіла палашчыць.
У дзікіх вачах я запальвала зоры,
І ён забываўся пра голад і гора.
І дужыя рукі насустрач працягваў,
А блісну маланкай—губляў ён адвагу.
І цвёрда лічыў мяне чорнаю смерцю.
Вы дзіўныя, людзі, да скону вы дзеці...
Праходзяць гады і мінаюць стагоддзі,
Здавалася б—хопіць!
Здавалася б — годзе!
Навошта за войны мяне вінаваціць?
За што мне праклён пасылаеце, маці?
Я часам палохаю толькі маланкай,
Ды ліўнем, ды громам...
Затое уранку
Я вам адчыняю такія прасторы!
Гайдаюся ў вашых вачах,
нібы мора.
І вы забываеце ўмомант пра беды,
І позірк ваш ходзіць за сонейкам следам.

## 2. АДКАЗ МАЦІ

Зірні ў нашы вочы,
Бяздонная просінь.
І мы таго ж хочам!
І мы таго ж просім!



У вочы дзяцей нашых, Неба, зірні—
Даўно нараджаюцца дзеці ў агні.
Дачушка расце ў мяне, птушка малая.
Гляджу на яе — і, здаецца, палае
Сукенка на ёй і чырвоныя банты.
О, Неба, прашу: калі можаш, пазбаў ты
Мяне ад пакут і штодзённага страху...
Зямля як страшэнна вялікая плаха,
Бо смерць кожны дзень апускаецца зверху
На нашы галовы
і нашыя стрэхі.
І я пасылаю забойцам праклёны.
Я, маці, раблюся тады, як шалёная
У выбухах бомбаў,
у полымі,
ў дыме.
Здаецца, і ты, Неба сіняе, з тымі,
Хто смерць пасылае на нашы галовы.
Тады падбіраць вельмі цяжка словы...
Даруй, Неба, даруй!..

## 3. ДЗІЦЯ

Калі самалёты зацягвалі сонца,
Маленькай дзяўчынцы,
танюткай сасонцы,
Спачатку здалося,
што гэта прырода
Прыслала спякотлівым днём прахалоду.
І хмары крылом ёй памахвалі моўчкі,
І ззялі удзячнасцю чорныя вочы.
І тут—прахалода завыла па-воўчы!
І з чорнае хмары спярша, як дажджынкі,
Закапалі бомбы.
Дзяўчынка! Дзяўчынка!
Хіба ты схаваешся пад парасонам?
Хіба ты падыхаеш чыстым азонам?
Бяжы, куды можаш —
пад пальмы, пад пальмы:
Дождж гэты прыносіць асколкі з напалмам.
. . . . . . . . . . . . . . . .

Не гром пракаціўся,
а з полымем выбух,
Адно парасон з рук маленечкіх выбіў.
На вуснах усмешка,
на вуснах пакута.
А позірк да чыстага неба прыкуты.
І яркае сонца так свеціць сягоння
Праз чорныя дзірачкі у парасоне.
Ні лялек не трэба, нічога не трэба.
Яна жыве там,
дзе няма болей Неба.

ПРОЗА

● Раіса ШОЛАХАВА

● Мал. І. ДАВІДОВІЧА



# СПАТКАННЕ

## АПАВЯДАННЕ

Раніца светлая, ясная.

Сонца выкупала ў рэчцы румяны твар і весела ўсміхаецца наваколлю.

Паша ўскінула на плячо мокрую бялізну і пайшла сцяжынкаю да рэчкі.

Вось і рэчка. Стала на кладку, палажыла бялізну на траву.

Трэба спяшацца, але навокал такі спакой і прыгажосць, што яна нейкі час стаяла, як зачараваная.

— Дзень добры!

Ад неспадзеўкі ледзь не ўпала ў ваду. Ухапілася за галінкі вярбы, заўважыла, як у глыбіні рачулкі асляпляльна ўспыхнула сонца.

— Палахлівая.— Пятро, ступіўшы на кладку, падтрымаў яе за руку.

— Не вельмі старайся,— разгублена сказала яна.

— Яшчэ папросіш...— Ён пачаў пагойдваць кладку.— Зараз упадзем у ваду.

— Сам не надта смелы...

— Ага! — засмяяўся ён.— Адзін увечары баюся хадзіць.

На яе твар нібы набегла хмурынка.

— Гэта ведаюць усе.

— З табой было б не так боязна.

Яна пакрыўдзілася. «Смяецца яшчэ...»

Няласкава адказала:

— Без мяне хапае.

Ён усміхнуўся.

«Вясёлы які. Так і свеціцца ўвесь». Яна нахілілася над бялізнай.



— Злосная. Хоць бы раз усміхнулася.

— Надта ласы ты да дзявочых усмешак.

— Пашка! Укіну ў ваду.

— Невядома яшчэ, хто ў вадзе апынецца.

— Ну, дзяўчына! — з захапленнем ці то здзіўленнем прамовіў ён.— Прыйдзеш вечарам у сад пад старую бярозу?

Яе раззлаваў яго самаўпэўнены тон.

— Не прыйду, прыбягу. Не ведаю, як дачакацца вечара.

Ён, здалося, пакрыўдзіўся.

— Брытва. Табе сур'ёзна нічога не скажы.

Застаўшыся адна, пачула, як моцна калоціцца сэрца. Што ён нагаварыў ёй?

Ледзь дачакалася вечара. Што б ні рабіла, увесь час успамінала размову з Пятром. А можа — яна падабаецца яму? Каб не, дык не стаў бы ён гэтак усміхацца і ўважліва ўглядацца ў яе. Яна і раней заўважала гэта, ды баялася паверыць.

Спяшаючыся, раздавала пошту. Нават не скончыла работу, частку пакінула да наступнай раніцы.

Надвячоркам доўга збіралася ў клуб. Маці здзіўлена, уважліва паглядзела на яе. Паша пачырванела і адвярнулася.

Ніяк не магла рашыць: ісці на спатканне ці не. Раздумвала: «Не ідзі. Калі што, ён пойдзе праводзіць цябе сам». Другі голас упарта падказваў: «Не пойдзеш — ён плакаць не будзе. Гэтулькі чакала...»

Ужо добра сцямнела, калі яна выйшла на вуліцу. З цвёрдым намерам: «Не, не пайду!» прайшла міма калгаснага саду. Спяшалася хутчэй мінуць спакуслівае месца.

Але ў самым канцы саду звярнула на ледзь прыкметную сцяжынку.

Калацілася сэрца. Пужліва аглядалася: каб хаця не ўбачыў хто.

Толькі глянуць на тое месца, упэўніцца, праўду ён сказаў ці не.

Пад старою бярозаю нікога не было.

Ён нават не назначыў час спаткання.

Вярталася з саду паволі, бы нясла на плячах вялікі цяжар.

Вакол раскашаваўся майскі вечар. Свежае паветра поўнілася духмянымі пахамі кветак, маладой травы і нагрэтай зямлі. У старой сажалцы лагодна квакалі жабы. За садам, у цемры, трывожна гукала нейкая птушка.

Было балюча, крыўдна і крыху смешна, што так хутка, па-дурному, паверыла.

Разважала: «Што ў ім прыгожага? Росту невысокага, не надта стройны, голас глухі, як з пограба». Але ж дзіва: не можа забыць яго, як ні стараецца. Усё роўна як прыгажэйшы за ўсіх...

Дурная! Ён жа сябруе з Верай, дачкой галоўнага бухгалтара калгаса.

Навошта Вера жыве ў іхняй вёсцы? Калі б не яна, Паша, здаецца, была б у гэтую вясну самым шчаслівым чалавекам.

Слоў няма, Вера прыкметная дзяўчына. З хлопцамі ветлівая і ласкавая, яны да яе ліпнуць, як мухі на мёд. Паша куды працейшая. Ды і маладзей за яе, не навучылася яшчэ моднаму абыходжанню з хлопцамі.

Паша адламала важкую галінку бэзу, што густа разросся вакол саду, і выйшла на дарогу.

Далёка рыпнуў гармонік, данесліся дзявочыя галасы і смех.

Яна прыслухалася. Дзяўчаты сядзелі на вуліцы. У клуб не ішлі — вельмі хораша на волі.





Паша падышла да іх. Двое дзяўчат адсунуліся на лаўцы, яна села.

Вера, убачыўшы Пашу, знарок адвярнулася. З такімі, як Паша, яна не сябруе. «Любіць, каб у вочы дзяўчаты расхвальвалі яе прыгажосць ды кемлівасць».

У глыбіні душы тлее думка: яна ведае, што Пятро звяртае ўвагу на яе, Пашу, і — злуецца.

Падыходзіў гурт хлопцаў.

— Дзе Пятро? — пытаюць дзяўчаты.— Хто нам будзе іграць?

— Працуе Пятро. Засумавалі па ім, бедныя,— не спяшаючыся, адказвае Іван, сябар Пятра.— Я прыйшоў, а яны нуль увагі.

Усе засмяяліся.

Іван штукар. Жартуе з самым сур'ёзным выглядам, і гэта здаецца асабліва смешным.

Вера штосьці не ў гуморы. Разы два заявіла, што ёй сёння сумна.

— Канешне, сумна. Хлопцаў не хапае,— чапляе яе даярка Маня.

— Не хапае! — смяецца Вера.— Хочаш, твайго адаб'ю?

— Хоць сёння. Калі ён за табой пабяжыць, мне больш не патрэбен.

Вера, не адказваючы, павярнулася да Пашы:

— Чаму сядзіш маўклівая? Чакаеш каго?

— Ды ўжо ж чакаю,— нехаця адказала Паша.

— Можа хто спатканне назначыў, а прыйсці забыўся?

Пашу агнём апяклі яе словы.

«Пятро сказаў Веры? Рашыў пажартаваць. Ніколі не думала, што ён здатны на такое...»

— Ваня, ідзі сюды,— ласкава кліча Вера.

Іван неахвотна садзіцца каля яе, але, па ўсім відаць, яму падабаецца яе ўвага.

Усё-такі прыгожая Вера — вачэй не адвядзеш. Белы выпеставаны твар, акуратна падведзеныя бровы, высокая прычоска. Сама тонкая, стройная. Паходка — залюбуешся.

Уздыхае Паша: куды ёй супроць такой прыгажуні.

Здзіўляе толькі Пашу Верына жорсткасць: яна можа абразіць кожнага чалавека. Не раздумваючы, навярзе на дзяўчыну такое...

І гэткую кралю кахае ён. А можа, не кахае?..

Уздрыгнула, учуўшы вясёлы голас:

— Вось яны дзе!

Пятро абхапіў рукамі цэлы гурт дзяўчат. Паша, нібы ў сне, адчула на сваім плячы цяпло яго рукі. Дзяўчаты крычалі, смяяліся, вырываючыся з яго рук.

Вера сярдзіта глянула на Пятра. Ён перайшоў на другі бок і сеў тварам да дзяўчат. «Не насупраць яе...» — падумала Паша.

Вера стала ласкавай, кволай, у голасе — стоеная млявасць і пяшчота.

Некалькі разоў яна, бы незнарок, звярталася да Пятра з пытаннямі. Ён невыразна адказваў ёй і ўсё жартаваў з дзяўчатамі.

Ён ні разу не глянуў на Веру, а разы са два (ці толькі здалося?) уважліва паглядзеў на яе, Пашу.

Паша сядзела моўчкі, задуменна перабірала ў руках пахучую галінку бэзу.

Нечакана Пятро выхапіў у яе з рук кветку:

— Хто табе падарыў?

— Аддай! — памкнулася яна да Пятра.

— Чаго яна да мяне чапляецца? — жартаваў ён.

— Я ведаю, хто падарыў,— умяшалася Вера.

Паша адступілася ад яго і змоўкла.

— Не сярдуй, малая,— лагодна сказаў ён да Пашы.

— Пятро, чаго ты сёння, прыбраўшыся, у сад хадзіў, як сцямнела? — спытаў Васіль, і ўсе прымоўклі, чакаючы, што яшчэ выдумае гэты балбатун і перасмешнік.

— Трэба было.

— Ведаю. Верка надакучыла, другую шукаеш.

— Не балбачы,— злуецца Пятро.

— Гляджу, праступе наш кавалер — нічога не бачыць перад сабой. Прама ў сад. Я — за ім. Пахадзіў там, назад сунецца. Прызнайся, каго шукаў?

— Зараз ты нашукаеш на сваю галаву...— злуецца Пятро.

— Глядзі, Верка, праваронііш свайго ненагляднага,— смяецца Васіль і, на ўсякі выпадак, садзіцца далей ад Пятра.

Да чаго злосны язык у Васіля! Прыгажосцю ды ростам бог не надзяліў, затое язык — на дзесяць чалавек хопіць. Дзяўчаты ўсе стараюцца не заводзіць з ім размову.

Толькі Пашу ён не чапае. Ну і што з таго? Усё роўна — ён не падабаецца ёй.

Нават самаўпэўненая Вера баіцца яго калючых жартаў. І зараз ёй не да спадобы Васілёва балбатня. Усе трое — Паша, Вера і Пятро — напружана маўчаць. Паша выразна адчувае гэтае напружанне.

Няўцям Васілю, што сваім брыдкім языком ён нечакана ўзрадаваў Пашу. Значыць, Пятро прыходзіў у сад, толькі пазней, і яны размінуліся. Шчасце, што Васіль не заўважыў там яе, Пашу.

Вера непакоіцца недарэмна. Адчувае: дружба ў яе з Пятром нетрывалая.

Паша глядзіць на яе, прыціхлую, сумную, і ў душы прападае непрыязнасць і крыўда. Веры таксама нялёгка. Можа, яна толькі на людзях паводзіць сябе бойка і незалежна.

— Можа пройдзем да клуба? — прапанаваў хтосьці з дзяўчат.

— Хопіць бадзяцца, дамоў пара! — нецярпліва перабівае Вера.

— Праўда, дзяўчаты, заўтра рана ўставаць,— сказала Маня.

Дзяўчаты нехаця ўставалі.

— Паша! Заснула ты, ці што? — таўханула яе ў плячо Маня.

— Дзяўчаткі! Куды так рана? — ускінуўся Пятро.

— Не бядуй, твая застаецца,— засмяялася Маня.



— Каторая тут мая? Ніяк не разбяруся.

Вера прыпынілася, размаўляючы з дзяўчатамі.

Пятро стаяў бы ў роздуме. Да яго падышла Ала, сяброўка Веры.

— Нам, здаецца, у адну дарогу.

Ён спрабаваў адмаўляцца — яна ўладна ўзяла яго за руку.

— Вось гэта па-сучаснаму! — сказала Маня.

— Дзяўчаткі, можа б сёння я адпачыў ад вашай увагі? — спытаў Пятро.

— Маўчы, пакуль церпім цябе,— азвалася Ала і паклікала Веру.

Паша паволі ступала побач з Маняй. Крыўда і боль запоўнілі, здавалася, усю істоту.

Маня весела расказвала вясковыя навіны. Што Паша не слухала яе, Маню не трывожыла: ёй абы гаварыць. Яна нават не заўважала Пашынага настрою.

Каля дому Маня развіталася з Пашай і яшчэ штосьці гаварыла, ідучы да дзвярэй.

Паша паціху ішла па вуліцы.

Вёска спала.

Цёплы ветрык казытаў яе твар.

Пякучы боль у грудзях не глух. Ён перамясціўся толькі бліжэй да сэрца.

Падышоўшы да свае хаты, Паша спынілася.

Павярнула назад.

Зноў пайшла да старое бярозы.

Старая бяроза сонна шапацела лісцем.

Яна прытулілася тварам да шурпатай кары. Слёзы апяклі шчокі.

Як неахвотна ішоў Пятро за Верай... Але ж пайшоў з ёй...

Крыўда перайшла раптам у злосць. Чакай жа! Я табе адплачу, калі так. Не будзеш смяяцца.

Сёння яму прыйшло аднекуль пісьмо. Яна прачытае яго, парве і ніхто не будзе ведаць.

Яна заспяшалася дадому. Хутчэй!

Ля дзвярэй прыпынілася.

Чытаць чужое пісьмо? Прыйдзе ж у галаву такая брыдота...

Што дрэннага зрабіў табе Пятро? Абразіў чым? Ці насмяяўся?

Яна перабірала ў памяці кожнае яго слова. Зноў прыйшла ўпэўненасць, што Веру ён не кахае.

Але ж ён ходзіць з ёю...

Паша зайшла ў хату ціха, не разбудзіла маці.

Прысела ў цемры за сталом.

Успомніліся словы сяброўкі Клавы:

— Нейкая ты безуважная да ўсяго. Апранаешся абы-як. Твая прычоска табе не ідзе...

«А як жа,— у думках запярэчыла цяпер яна,— выскокваць наперад ды крычаць мацней за ўсіх, каб на цябе звярнулі ўвагу? Гэта, канешне, модна. Але ж — сорамна».

Зноў успомніўся Пятро. Нечакана сумная сёння Вера.

Што гэта ўсё значыць?

Яна падумала аб тым, ужо лежачы ў пасцелі. Заснула хутка, усміхалася і ўсхліпвала ў сне.

# ПАЭЗІЯ







## Уладзімір КАРЫЗНА

●

Бацька пайшоў з работы —
І ўспыхнуў
у небе
зорамі
Сярэбраны звон сякеры,
Якой ён
Праз дзень махаў.

Бацька пайшоў з работы —
Засумавала работа,
Чорную хустку надзела,
Заплакала
цішынёй.

Бацька прыйшоў з работы —
Запахла у хаце хлебам,
Запахла сякера зрубам,
Запахла у хаце сілай.

Бацька прыйшоў з работы
Са стомленымі рукамі —
Пявуху узяў балалайку
І рукі сабе вярнуў.



Ёсць розныя
на свеце
помнікі,
А гэты —
лесу шум...



Здаецца, чую:
як крочаць партызаны,
Як цяжка дыхаюць яны,
Як хрумстаюць
чыгунку прагавіта
Стальныя зубы
У палях начных...
Шум лесу—
самалётаў гул над намі,
Над намі—
птушанятамі без гнёзд.
Шум лесу—
просім есці,
паміраем,
І дождж пячэ
мацней
за жоўтых вос...
Шум лесу —
я, здаецца, бачу
Пад елкаю
дзяцінства ў грозны час:
Гергечуць немцы,
Маці моўчкі плача
І цёплым шэптам укрывае нас...
Ёсць розныя
на свеце
помнікі,
А гэты —
лесу шум...



На золку,
калі сон звонкі,
Як кляновыя дзверы,—
Стукаюцца ка мне Дрывяты
Зялёнай хваляй,
Зялёным промнем усходу,
Зялёнай галінкай з бору.

Стукаюцца мае настаўніцкія гады
Дзіцячымі крокамі,
Вясновымі ўсмешкамі,
Сярэбранымі званкамі.

Стукаюцца ка мне
былыя сустрэчы
Шчырымі галасамі,
Звонкімі песнямі,
Сяброўскімі сэрцамі.

Прахопліваюся
зялёным дасвеццем,—
Гудуць успаміны
цецівою напятай...
Вось зараз
стралою
Так і шугану на Дрывяты...

# ПРОЗА

Леанід КАЛОДЗЕЖНЫ

Мал. А. ВОЛКАВА



*Пісаць пачаў даўно, яшчэ ў школе. Але да апошняга рабіў гэта час ад часу, каб засведчыць захапленне бачаным і чутым. Роздум над жыццём, над праўдамі і крыўдамі прымусілі ўзяцца за пяро.*

*Летась газета «Літаратура і мастацтва» надрукавала мае першыя апавяданні.*

*Нарадзіўся я ў 1935 годзе ў вёсцы Солаўе, на Аршаншчыне. Цяпер жыву ў Оршы. Працую мастаком-афарміцелем.*

*Леанід КАЛОДЗЕЖНЫ.*

# ДВА АПАВЯДАННІ

## ДЭРАШ

Ён збавіўся ад хамута, што намуляў за дзень шыю, і, хоць вабіла дзяцеліна і цягнула да вады, усё ж наважыў пакачацца. Адышоўшыся ад канюшні, лёг і з прыемным стогнам перавярнуўся раз, другі. Хацеў яшчэ, аднак, не адчуўшы той млявай асалоды, якая ўпачатку разлівалася па натруджаным целе, перадумаў — ускочыў, страсянуўся, фыркнуў і толькі тады выправіўся на поплаў.

На поплаве, рассоўваючы лазняк, пятляла рачулка — вузкая, беражыстая. Месцамі яна ціха бруілася або танула ў бахатах; месцамі, пры жвірыстым дне, мялела, даходзіла вераб'ю да калена і бойка картавіла сярод каменьчыкаў. Насупраць аборы рачулка нечакана развіналася, бліпічэла азярынай. Дэраш глыбока не пайшоў у ваду, ступіў крок і праз зубы пацягнуў вадкае неба, прыпраўленае раннім маладзічком. У пустым жываце аддалося водгулле. Па жылах, вяртаючы страчаную сілу, пабегла свежасць.

Піў без перадыху, жалобна і асцярожна, быццам збіраўся выцадзіць да дна завіну, ды баяўся заглынуць востры, як адточанае лязо, маладзічок. Урэшце, раняючы з губ гарошыны срэбра, адарваўся,— хопіць, наталіўся.

Выган ужо чарнеў конскімі постацямі. Коні рассыпаліся па ім і старанна глыжылі страўлены дол. Бліжэй, ад усіх наводшыбе, хадзіла лапавухая з віслым жыватом Вішня. Ля яе, хвост памялом, бегала жарабя. Крыху далей і таксама асобна сноўдаўся белы, у яблыках жарабок. Ён не столькі пасвіўся, колькі стрыг вушамі, страчаў кожнага, хто падыходзіў: калі кабылка ці жаробка — выгінаў шыю і ржаў, калі конь — касавурыўся, пагрозліва сарпаў ноздрамі. Во і цяпер, ледзь угледзеў Дэраша, бліснуў налітымі крывёю бялкамі, забіў капытом.

Прыцемкам конюх Лукаш, гарбаценькі дзядзька ў ватоўцы, гумавых ботах, абвешаны путамі, сабраў табун, пагнаў на начлег. Коні рушылі касяком. Беглі, абганялі адзін другога, кусаліся, ускідвалі азадкі. Дэраш не любіў гэтай сумятні. Трухаў апошнім — спакайней.

Начлежнічалі вярсты за тры, у пойме той рачулкі, што вілася ля аборы. Месца там хоць куды: з поўначы і захаду — зараснікі крушыны, чаромхі, вербалозу, з усходу — грывы рослых хмызоў. У золь трымаецца між іх парная цяплынь. Раскошна, за ноч не выхадзіць, ды і трава — не зраўняць з выганам — высокая. У нізах, узбоч ракі — сінюха, падвей, медуніца; вышэй, ля кустоў — шаўкавісты гусінец, пырнік, там-сям сіўчык, дзікая канюшына.

Лукаш з коньмі дабраўся да гэтай мясціны, як добра ўцямнела. Ваўчынай крадкай поўз туман, зацягваў даліны. Нейкі час коні азіраліся, нават усхропвалі, але патроху асвойталіся.

Дэраш таптаўся на пятачку. Іншыя ўжо абнікалі паўсвета, а ён так і не ўзнімаў галавы, скуб шорсткую асочку, мінаў папоўніцы.

Усё жывое, што днём безупынку шчабятала, пстрыкала, пішчэла, неўпрыкмет угамавалася. Нават ветрык і той улёгся.

Апоўначы спакой парушыла сямейка ныркоў: бязладна пралапатала над прырэччам, свіснула ў астоенай цішы і па той бераг упала ў траву, забылася. Толькі адзін недарэка склязнёнак хрыпла прасіў літасці, ламаючы трыснячок, біў нямоцным крыллем, раз'юшана, упарта. Ды нядоўга. Хутка замоўк і ён. Мабыць, здзеялася трагедыя — павячэрала лісіца.

Сярод лугу зазырчэла цяпельца. Пры ім нязграбным прывідам



сядзеў Лукаш. Тады-сяды ён спахопліваўся, падкідваў сушняк, ражном варушыў галавешкі. Языкастае полымя прыкметна шустрэла, азарала строгі, з адметнай для гарбуноў смуцінкай, твар. Дэраш міжволі падаўся да агню. Ён з начы ў ноч круціўся побач — травы хапала. Пасвіўся ці то драмаў, або, калі конюх заводзіў песню, поўную тугі, узнімаў галаву, станавіўся так, што ў адным воку танцавалі водсветы,—другое з ласкі раззлаванага дзецюка зацягнула бяльмом,— і слухаў. А было — хінуўся да Вішні, пасвіўся ў пáры. Але як у сяброўкі паявілася жараб'я і яна адвярнулася, упадабаў гарбуна.

У табуне, не лічачы Ціхахода, Дэраш самы стары. Не адзін дзесятак гужоў зношана ім за век, не мала чаго пераробленa ў полі і на лузе. У апошні год ён раз'язны — возіць тоўсценькага, клешчаногага ветэрынара. Работа няхітрая, гуляшчая, але нудная. Забяруцца ў вёску, падвернуць да якой хаты, скіне яздок пацёртай саломы, ботам капырне — еш, а сам са скураным партфелем у руцэ — тэп, тэп — пайшоў. Добра, калі пад плотам дзядоўнік трапіцца, крапіва альбо палын — чарвяка заморыш. Не натрапіцца ж — саломкай сілкуйся. Вядома, калі б ветэрынар рабіў сваю справу, дык не страшна б чакаць, бо што там праслухаць занямоглую рагулю ці нейкага парсючка зрабіць звычайным свінчом. Лічаныя мінуты. Бяда — доўга затрымліваецца ў хаце. Здарaецца, паўдня міне, здараецца і цалюткі дзень, пакуль вываліцца адтуль потны, чырвоны.

Маладзічок штось хутка праслізнуў па краі неба і дзынкнуў за пагорак. На небе шчодрым сейвам высыпалі зоркі. Буйныя, вірластыя. Зіхацелі адна перад другой, праменіліся.

З забыцця яго вывеў Лукаш. Ціха падышоў, паклаў на шыю руку. Дэраш ціхенька заржаў і пацягнуўся да гарбуна. Ад ватоўкі знаёма шыбанула дзёгцем, кіславатай сырамяццю, гаркавым дымком.

Доўга конь цёрся аб крысо цёплай храпай. Лукаш увесь час нешта гаварыў, гладзіў яго ды кудлаціў грыву. Напаследак, маўляў, хопіць, даражэнькі, трэба збіраць табун, ён паляпаў па плячы і жыватом узваліўся на востры хрыбет. Дэраш счакаў троху, а калі той усеўся, асцярожна, абыходзячы купіны, рушыў у цемру.

Нібы жарства, на луг пала раса. З травы, з хмызоў, варта зачапіць, сыпалася градам.

Дэраш без цяжкасці,— гарбун і не правіў,— знаходзіў коней. Толькі хрусне дзе, зашуміць куст, данясецца хрумстанне ці не стрымаецца, азавецца сам які прастак, ён — туды. А Лукашу на руку — займае і пугай, каб не нікаў.

Далей ад усіх адбіўся жарабок — дабраўся аж да ўзлеску, дзе быў клін аўса. Уварваўся ў шкоду і, гучна фыркаючы, ласаваўся. Конюх загэйкаў, замахаў зводдаль пужкай, аднак не набліжаўся: баяўся. Так і патурыў яго перад сабой.

Да цяпельца вярнуліся мокрыя. Лукаш адразу падсеў сушыцца, а Дэраш пераборліва зачмыхаў у траве, скубануў раз-другі і адцураўся.



Астатак ночы ён драмаў. Блюзнілася поле сярод распупышанага алешніку. Ён хадзіў у парцы з Ціхаходам. Востра пахла млелая зямля. Яна яшчэ ліпла. Асабліва ў лагчынах і там-сям на скатах. У такіх месцах араты нокаў, угаворваў не спыняцца, узяць. І Дэраш з Ціхаходам, напінаючыся, бралі. Час ад часу чалавек даваў ім адхланне, пускаў ля кустоў на траўку. А сам, пакуль, абсыхалі, тупаў каля іх, клапатліва мацаў пад лямцамі плечы.

Абудзіўся Дэраш ад волкай свежасці, ці хутчэй — дзянніцы, якая лезла ў вочы. Цяпельца ўжо ачахла, узялося шызай намíткай. Над ім курыўся дым і цененькай пасмачкай віўся ўверх. Ля папялішча ляжаў скурчаны Лукаш. Як ні мацаваўся, а перад днём назойлівая санлівасць улашчыла і яго.

Ніштo больш — ні сон, ні трава — не гарнулі Дэраша. Не да таго было. Ведаў — час збірацца ў вёску. А там з аброццю стрэне ветэрынар і, як учора і заўчора, на доўгі дзень ушчэміць у аглоблі.

## ГЛУШЭЦ

Смалякі шугалі дружна. Чыгунная грубачка ўраз зачырванелася, дыхнула гарачынёй. Яша пакруціўся ля яе, адаграваючыся з ночы, паёрзаў, ды не стрываў гарачыні — адсунуўся на сярэдзіну лавы, што цягнулася ўздоўж сцяны. Тут яшчэ стаяла вострая стынь. Усё цяпло з леснічоўкі вычхалася, бо, як памёр стары аб'ездчык, яна падзіравілася — і там свішча, і там дзьме, а агледзець некаму, хоць ніколі не зачыняюцца дзверы за паляўнічымі. Праз адзінае акенца цурочкам цадзілася святло. Скупенька-скупенька. Па закутках, нат цяпер, з сонцам, падпольна туліўся змрок — цемра-цемрай. За акенцам на рабіне няўрымсліва скакала сарока, з чыста жаноцкай цікавасцю цэлілася ў шыбу: і так, і сяк, але шкло блішчэла, і ёй нічога не было відаць.

Ад цеплыні, ад вясёлага зарыва, якое пырскала праз дзверцы і гулліва скакала па сцяне, Яшу зрабілася ўтульна і суцішна. Ён аблакаціўся на пабіты шашалем падаконнік і доўга любаваўся крыкліва-пярэстым сарачыным убраннем.

На прагаліне заскрыпеў снег. Сарока застыла, утаропілася на дарогу. Яе ахапіў неспакой і ледзь не пагнаў прэч. Аднак цікаўнасць утрымала на рабіне.

Як наблізіліся крокі, страх усё ж перамог — яна з незадаволеным чычыканнем пакінула ўпадабанае месца.

«Шэф, ці, можа, Кручына,— зварухнуўся Яша.— Шэф,— зірнуў ён на дарогу.— Нешта ж хутка сёння».

Паўз акенца мільганула постаць. Жаласліва закрактаў лядок. Яшчэ жаласней рыпнуў ганак. Адчыніліся дзверы. У леснічоўку з бялёсымі клубамі веснавога холаду ўвайшоў Мікалай Патапавіч. Леснічоўка нібыта паменшала, пацяснела.

— Яша, паглядзі, каго я ўходаў! Цэлых два заряды ўсадзіў!

На стол, змудраваны з гарбылёў, шмякнуў глушэц.

— Мажны птах! З паўпуда, калі не больш.

З-за хваін ударыла сонца. На чырвана-чырвоным твары Мікалая Патапавіча заззялі пянькі шчэцця. У вузкіх шчылінках бліснулі вочкі.

Яша падышоў да стала. Сапраўды, глушэц слаўны: барадатая галава, чорная, з сіне-зялёным адценнем грудзіна, шырокі, вугальнаматавы, у пырсках белага, хвост.

Глушэц ужо задубеў. Дужыя на ярка-белым падбоі крыллі распла-



станы. Непадатліва апруцянелі і стаяць праўцом ногі. А зусім нядаўна, калі зорка вызвоньвала неба, ён быў трапяткі. Сядзеў на суку і, напружваючы шыю, дробна трасучы крыллем, спяваў. Стройныя гукі ліліся з гарляка. Быццам у захапленні ад іх, ваколле пачціва аціхла. Ні шолаху нідзе, ні зыку. Ані-ні. Толькі воддаль гэтак сама заўзята заходзіліся два ці тры такія ж певуны, ды сярод балотца млява, стараючыся звярнуць на сябе ўвагу, падавала голас маладзенькая курка.

— Прыгожы! — крануў Яша халоднае пер'е.— Прыгажэй за сароку.

Мікалай Патапавіч усміхнуўся, паказаўшы падобныя да часнаку зубы.

— А ты каштаваў калі глушаціну? Не? Э-э! Во, скажу табе, любата! Асабліва тушаная, з бульбачкай. Ні карыцы не трэба, ні яшчэ якой акрасы — сваёй духмянасці хоць адбаўляй: і асінкай гарэніць, і хвойкай ялчыць. Ясі — душа спявае. А яшчэ калі шкалік настойкі, тады глядзі, каб язык не праглынуць!

Басавіты шэфаў голас гуў несціхана і груба ў пустой каморцы. Аглушаны ім, Яша толькі пераміналася з нагі на нагу ды далікатна кашляў у кулак.

Асекся Мікалай Патапавіч, калі парог пераступіў ссінелы Кручына.

— А-а, Яўген Дзянісавіч! — загуў ён зноў.— Ну, з чым цябе?

Кручына махнуў рукой.

— Што ж ты? Хадзіў на глушца, а варон страляў! — не то ад смеху, не то так ад чаго задрымкала ў акенцы шыба.— Паглядзі во, хто мне трапіў!

У Кручыны перахапіла дух.

— Бугай, ці не праўда?

— О-о, экземплярчык рэдкі! — нарэшце адазваўся той.

— А ты вазьмі ў руку.

— Я і так бачу.

— Не, не, вазьмі, узваж!

— Цяжкі.

— То-та. Не дарэмна ж цэлых два зарады ўсадзіў. Раз бухнуў — мала. Сядзіць. Я — другі. Дык тады зваліўся.

— Мікалай Патапавіч,— ублытаўся Яша,— не спазніцца б на работу. Мо пара машыну заводзіць?

Шэф упачатку не зразумеў, чаго хочуць ад яго. Калі ж зразумеў — злосна, што перапынілі на самым цікавым, кінуў:

— Давай...

А потым куды лагадней:

— Вядома, пара. Яшчэ ж дамоў трэба завярнуць і парадаваць Усеваладаўну.

У зацішку на ўгрэве блішчэла адталая зямля. Трымала пакуль у цяньку. Па-ранейшаму бойка,— цяпер на сухаверхай сасонцы,— стракатала сарока. Стракатала галасней, чым перад акенцам. Здавалася, апавяшчала: асцярожна, у лесніčоўцы людзі.



# ПАЭЗІЯ



Павел ПРУДНІКАЎ



Па небе бяздонным хмары
плывуць,
У кожнай свая пуцявіна...
Пад хмарамі дзікія ветры равуць,
І чуецца крык жураўліны.
У кожнай істоты заўсёды сваё:
Свае намаганні, турботы,
Дарогі-шляхі і арліны узлёт,
І песні свае і работа.
У гэтым спляценні арбіт і дарог
І я са сваёй пуцявінай
Лятаю пылінкаю, пухам-пяром,
Кладуся ў падмурак цаглінай,
У гмахі будоўлі, у роздуму плён,
У мір, што завуць цішынёю,—
Каб вечна шумелі з бярозаю клён,
Не змятыя страшнай вайною.



ПРОЗА



● Уладзімір АЛЯХНОВІЧ

● Мал. В. ЮРЧАНКІ

# ПАЛЕСКІЯ НАВЕЛЫ

## БЕЛЫЯ МАТЫЛЬКІ НА СТАНЦЫІ ЛЯСНАЯ

Такое можна ўбачыць толькі на беларускім Палессі. За акном мільганула мачта семафора, праплыла невялікая станцыйная будка з надпісам «Лясная», і цягнік спыніўся пасярод лугу.

Пахла чаромхай і сенам, сажалкай і яшчэ нечым вельмі моцным, п'янкім. Пахі напоўнілі купэ.

Раптам я ўбачыў, што ўвесь луг закіданы белымі вянкамі, сплеценымі з палявых рамонкаў. Напэўна, дзеці, гуляючы на лузе, пасплятalі тыя вянкі, а потым пакідалі іх.

Пільней прыглядзеўшыся, я заўважыў, што вянкі ледзь-ледзь калышуцца. Я пачаў пільна разглядаць праз адкрытае акно незвычайныя тыя вянкі. І тут усё зразумеў: гэта былі матылькі! Сотні і тысячы іх прыпалі да ямінак з вадой. Стаяла гарачыня, і матылькі наталялі смагу.

Мой сусед па купэ, нарыхтоўшчык нейкай абласной канторы, на імгненне адарваўшы позірк ад газеты, хмура сказаў:

— Гракоў на іх няма!..

А цуд не канчаўся.

## ПАКІНУТЫ БУСЕЛ

Бусліную чараду мы заўважылі ранкам. Над пустынным асеннім плёсам кружыла іх добрая сотня. Клякочучы, буслы ўзляталі да шэрых асенніх воблакаў. Там, у паднябессі, яны гуртаваліся ў невялікія чародкі і кружылі. Тады іх клёкат рабіўся асабліва жаласным.



Праз якое імгненне буслы паяўляліся зноў, зніжаліся. Іхні крык нарастаў, зліваючыся ў адну трывожную сімфонію.

І толькі тут мы заўважылі сярод рэдкага пачарнелага трыснягу адзінокага бусла. Ён, коўзаючыся на тонкім лёдзе, узмахваў адным крылом, спрабуючы ўзляцець. Другое крыло бяссільна вісела, як чужое.

Упэўніўшыся, што ўзляцець не ўдасца, птушка знерухомнела, застыла. У яе клёкаце чулася роспач. Здавалася, што яна плача. Гэта быў ужо не клёкат, а стогн. Грудны чалавечы стогн. Ён нёсся над пустынным плёсам, зліваючыся з жалобнай песняй асенняга ветру.

Бусліная чарада, зрабіўшы апошні круг над плёсам, прапала ў небе.

— Трэба яго злавіць,— сказаў мой калега па экспедыцыі Жэнька Груша,— бо інакш ён замерзне.

І, не чакаючы майго адказу, Жэнька падаўся на плёс.

Стоячы на пагорку, дзе была наша палатка, я глядзеў, што будзе далей. Мне чамусьці здавалася, што Жэнька не зловіць бусла. Я быў упэўнены, што бусел, нават з перабітым крылом, бегае, як той страус. І ён абавязкова ўцячэ ад чалавека.

Жэнька ішоў да бусла. Вось ужо паміж імі засталося метраў дзвесце.

Я ўбачыў, як Жэнька пакаўзнуўся на лёдзе і ўпаў. Бусел, які да гэтага стаяў нерухома, уздрыгануў і хутка паклыпаў насустрач. Здавалася, што ён спяшаецца на дапамогу чалавеку.

Жэнька падняўся. Бусел зноў заціх у нерухомасці. Выцягнуў уперад галаву, быццам да нечага прыслухоўваючыся.

Жэнька спыніўся ў некалькіх кроках ад бусла. Было відаць, як ён дастаў нешта з кішэні, напэўна, хлеб, і паклаў на працягненую далонь. Бусел асцярожна падышоў да чалавека, злаўчыўся і схапіў дзюбай хлеб.

Назад, да нашай палаткі, чалавек і бусел ішлі разам.

## ВАНДРОЎНЫ ЗУБР

Паявіўся ён на світанні. Ішоў да статка павольным, упэўненым крокам. Пад ягонымі нагамі, як запалкі, патрэсквалі сухія галінкі. Касмылі поўсці звісалі да самай зямлі. З ноздраў вырываліся фантаны пары.



Ад здзіўлення Юрка адкрыў рот. Дзівіўся ён не таму, што ўпершыню бачыў на волі ляснога волата, здзіўляла другое: зубр набліжаўся да статка, а каровы не разбягаліся — спакойна пасвіліся.

З кожным крокам зубра ў Юркавых грудзях нешта халадзела. Ён чакаў страшнага. Вось ужо толькі крокаў дваццаць заставалася зубру да пярэстай каровы. Юрка не сумняваўся, што зубр вось-вось парне яе кароткімі магутнымі рагамі.

«Уцякай, Зорка! Уцякай!» — хацелася закрычаць Юрку, але камяк сціснуў горла.

Між тым, зубр мінуў карову, кіруючыся на сярэдзіну статка. Каровы на яго не звярталі ніякай увагі, і зубр асцярожна абыходзіў іх. Нарэшце ён выбраў свяжэйшы лапік травы, апусціў галаву і пачаў пасвіцца.

І толькі тут Юрка апамятаўся. «Трэба хутчэй бегчы да будана і разбудзіць дзядзьку Васіля»,— мільганула думка.

Спатыкаючыся аб купіны, Юрка некалькі разоў падаў, падымаўся і зноў бег. Вось і будан. Тут Юрку чакала новае дзіва. Дзядзька Васіль не спаў, а стаяў каля будана і курыў.

— Зубр, дзядзька Васіль! Зубр! — хрыплым голасам вымавіў Юрка.

— Бачу, сынок. Бачу,— спакойна адказаў дзядзька.

— Трэба ратаваць статак, дзядзька! Трэба адагнаць яго ад кароў!

Але дзядзька не спяшаўся. Ён кінуў на зямлю акурак, старанна расціснуў яго ботам, сеў на шырокі пень.

— Не бойся, сынок,— кладучы на Юркава плячо руку, сказаў дзядзька Васіль,— ён іх не кране. Сумна яму аднаму. Калісь у гэтых мясцінах пасвіліся цэлыя статкі зуброў. А цяпер іх мала. Скажы, Юрка, табе весялей хадзіць на раку з хлапчукамі, чым аднаму?

Юрка кіўнуў галавой.

— Вось і зубр шукае сабе блізкіх. Цяжка яму...

Пастух і падпасак доўга сядзелі і назіралі за вандроўным волатам.

Вечарам, калі сонца кранулася вершалін дрэў, зубр пайшоў у пушчу. Ішоў ён павольна, нізка схіліўшы галаву.

Больш яго ў гэтых мясцінах не бачылі.





**Вясной гэтага года ў Мінску адбылося чарговае пасяджэнне савецка-балгарскага клуба творчай моладзі. За дыскусійным сталом маладыя балгарскія пісьменнікі, артысты, музыканты сустрэліся з творчай моладдзю нашай сталіцы. На адной з сустрэч у клубе Саюза пісьменнікаў Беларусі было вырашана шырэй азнаёміць беларускіх чытачоў з дасягненнямі сучаснай балгарскай літаратуры. Крытык Энча Мутафаў напісаў спецыяльна для «Маладосці» кароткі агляд сучаснай маладой літаратуры Балгарыі.**

**У гэтым нумары публікуюцца пераклады з балгарскай мовы.**

# НЕПАДОБНЫЯ

За апошняе дзесяцігоддзе ў балгарскую літаратуру прыйшло пакаленне паэтаў, якое адразу прымусіла чытачоў загаварыць аб ім. Уладзімір Башаў (адзін з ініцыятараў стварэння клуба балгара-савецкай творчай моладзі), Нікола Інджоў, Петэр Караангаў, Андрэй Германаў, Слаў Караславаў, Любамір Леўчаў, Эўцім Эўцімаў, Дамян Дамянаў — гэта ўсё імёны, без якіх сёння нельга ўявіць сучасную балгарскую паэзію. Яны востра адчуваюць пульс сучаснасці, жывуць яе радасцямі і засмучэннямі, цесна звязаны з жыццём.

Зразумела, кожны з гэтых паэтаў — яркая індывідуальнасць. Башаў і Леўчаў прытрымліваюцца вострага рэфлектыўнага пачатку, Караангаў — майстар мяккай, пастэльнай мовы. Германаў упэўнена авалодвае інтэлектуальным паэтычным стылем, але пры тым здаровы «вясковы» інстынкт не здраджвае яму. Нешта адпаведнае знаходзім і ў Караслава, толькі з той розніцай, што набытыя ўражанні ад сельскай прыроды ў яго болей падкрэслены. Эўцімаў вельмі ўдала спалучае публіцыстычны і лірычны пачаткі. Нікола Інджоў часта трывожыць інертныя густы яскравай вобразнасцю, нібыта неахайна накіданай лексікай і своеасаблівай сінтаксічнай будовай верша, але дапытлівае вока заўсёды ўбачыць за гэтым сапраўдную паэзію.

Не менш цікавыя і тыя крыху маладзейшыя паэты, якія вось ужо колькі год спаборнічаюць з больш вопытнымі калегамі. Іх індывідуальнасці яшчэ ярчэй падкрэслены. Вершы Хрыста Фоцева, аўтара трох паэтычных зборнікаў, надзвычай эмацыянальны. Такія ж і ў Вані Петкавай, у якой прысутнічае вострае адчуванне першаснага, стыхійнага і натуральнага ў жыцці. У адрозненне ад яе Крысцё Станішаў аддае перавагу глыбокаму філасофскаму роздуму. Адным з тых паэтаў, творчасць якіх заўсёды выклікае спрэчкі, з'яўляецца Стэфан Цанеў. Ён заўсёды імкнецца да абнаўлення верша, да эксперыменту. Яго лепшыя дасягненні — у галіне экспрэсіўнага верша. Вельмі арыгінальны і Нікалай Кынчаў. Ён імкнецца да стварэння больш замкнёных, герметычных лірычных урыўкаў, якія часта ўяўляюць даволі складаную метафарычную структуру. Мацей Шопкін выяўляецца пераважна ў патрыятычнай тэме. Гаворачы аб інтэлектуальнай паэзіі, неабходна ўспомніць і вершы Хрыста Ганава з іх імкненнем паглыбіцца ў сутнасць праблемы быцця. Арыгінальны почырк мае і Нядзялка Іярданаў са сваім па-дзіцячы чыстым бачаннем свету.

Пра цікавыя працэсы ў нашай літаратуры сведчыць і творчасць наймалодшых паэтаў. Гэта пераважна студэнты, якія яшчэ шукаюць сваё месца ў жыцці. Нечаканую паэтычную сталасць выявіў у сваёй першай кнізе Георгі Канстанцінаў. Моцнае ўражанне пакідаюць творы Івана Цанева сваім псіхалагізмам, Лучазара Эленкава — своеасаблівасцю тэматыкі, Рэджэба Кюйчу — глыбокім паэтычным самавыяўленнем, Івана Вылева — атмасферай думкі.

Варта спыніць увагу на імёнах яшчэ двух маладых паэтаў — Стэфана Гечава і Драгаміра Пятрова. Абодва вылучаюцца багатай эрудыцыяй як перакладчыкі сучаснай паэзіі. Гэта, мабыць, зрабіла ўплыў на іх пошукі складанага асацыятыўна-метафарычнага верша.

Аднак не менш значныя, а магчыма, найбольш значныя і цікавыя поспехі нашай маладой белетрыстыкі. Рашучы штуршок для развіцця нашай прозы, мне здаецца, далі Іярдан Радзічкаў і Генча Стоеў. Яркі, гратэскавы і парадыйны пачатак у апавяданнях Радзічкава; яго паэтычнасць і рамантызм — усё гэта стварыла яму імя таленавітага

белетрыста. Цікава, што яго ўплыў на маладзейшых празаікаў не выклікаў эпігонства, як, напрыклад, у Дзімітра Вылева, у цэнтры апавяданняў якога наша сельскае жыццё з яго складанымі праблемамі, канфліктамі паміж старым і новым. У зборніку апавяданняў «Карэнні» малады празаік Васіль Папоў звяртае ўвагу на першаасновы жыцця балгарскай вёскі і адлюстроўвае трагізм старога, якое адыходзіць.

Генча Стоеў выдаў толькі дзве кнігі — раман «Непрыемны дзень» і аповесць «Цана золата», але і гэтага дастаткова, каб назаўжды застацца ў нашай літаратуры. Моцнае ўражанне пакідаюць кінематаграфічнасць формы гэтых твораў, лаканізм і сінтэтычнасць у паказе рэчаіснасці і характараў герояў. Раман «Непрыемны дзень» вызначаецца адчуваннем сучаснасці, аналізам станоўчага і адмоўнага ў жыцці моладзі, паказам перспектывы руху да камуністычнага ідэалу ў свядомасці. Аповесць «Цана золата» асэнсоўвае падзеі Красавіцкага паўстання 1876 года, яскрава малюе атмасферу таго часу.

Творы Дзіка Фучаджыева напісаны вельмі паэтычна і пластычна, жывой і каларытнай мовай. Фучаджыеў звяртае ўвагу чытача на гераізм звычайнага жыцця і на складаныя філасофскія праблемы.

Паэтычнасць у адлюстраванні рэчаіснасці знаходзім і ў Георгія Мішава. Любімы яго герой — малады чалавек, які скінуў фальшывую вопратку мяшчанскага крывадушша і ненатуральнасці ў паводзінах. Да жыцця моладзі на будоўлі звяртаецца Коста Странджаў. Яго апавяданні сваім пругкім рытмам набліжаюцца часам да нарыса і рэпартажу.

Георгі Маркаў — празаік, у цэнтры твораў якога заўсёды моладзь. Пісьменніка цікавяць перш за ўсё маральна-псіхалагічныя аспекты той ці іншай жыццёвай з'явы. Таму яго аповесці і апавяданні насычаны драматычнымі і вострымі канфліктамі.

Вялікія надзеі мы ўскладаем і на самых маладых белетрыстаў. І ў сваіх апавяданнях і ў аповесці «Мужчыны без гальштукаў» Донча Цончаў выяўляе здольнасць да пластычнага адлюстравання жыцця і стройнай кампазіцыі. Паэтэса Ліляна Міхайлава выдала зборнік апавяданняў, у цэнтры якіх — вобраз сучаснай жанчыны са сваім пяшчотным і чыстым духоўным светам. Георгі Велічкаў паказвае ў сваёй першай кніжцы імкненне асобы да духоўнага ўдасканалення.

Індывідуальным стылем вылучаюцца і апавяданні Дзімітра Паунава. Аўтар даследуе прычыны непаразуменняў паміж людзьмі і дасціпна і глыбока аналізуе іх. Імкненне вырашыць такія ж праблемы наглядаецца і ў схільнага да псіхааналізу Мілчы Радзева ў яго рамане «У суботу вечарам».

Трох самых маладых белетрыстаў — Кольо Ніколава, Дарыну Гераву і Ольгу Крысцеву — аб'ядноўвае раскрыццё свету дзіцяча-юнацкай чысціні, рамантычнасці.

У кароткіх нататках, зразумела, нельга ахапіць усе з'явы і факты маладой балгарскай літаратуры. Мне хацелася спыніцца на самым характэрным, што робіць самае моцнае ўражанне на чытача. Акрамя названых аўтараў, у нас ёсць яшчэ вялікая колькасць маладых літаратараў, якія ў той ці іншай ступені дапамагаюць развіццю і станаўленню нацыянальнай літаратуры.

**Энча МУТАФАЎ.**

## ● Мацей ШОПКІН

### *Узрост*

Свет нам адкрываўся з гор шурпатых
Над крутымі хвалямі лясоў.
Мы былі вясёлымі і ўпартымі,
Без узнагарод і без грахоў.

Бегалі мы ў полі пастушкамі,
Лёталі на конях, што віхор...
І ішлі не простымі шляхамі
З гордым сэрцам мы па стромах гор.



А пасля нас гарады сустрэлі.
Тэарэмы і лірычны дым
Прагна мы ўспрымалі, бо хацелі
Сэнс на свеце адшукаць ва ўсім.

А пасля — армейскія калоны.
Там — каля знямелых батарэй —
Сталі мы ў суровых батальёнах
З хмурнымі маршчынамі на лбе.

Бачыш — па-над полем і гарамі
Воблакі ляцяць, як жураўлі...
Мы бацькі сягоння, хоць хлапцамі
Быццам толькі ўчора шчэ былі.

У парыве дзёрзкасці, бяссоння
Сэнс глыбокі ў памяці жыве:
Боцева равеснікі мы сёння!
Вечнасць,— мы равеснікі твае!

А ўспыхнем — не згарым, як дрэвы.
Гора, шчасце — лёсу берагі.
Боцева узрост...
З гарачай верай
Носім акрылёныя сцягі.

## ● Хрыста ГАНАЎ

### *Кампанела*

Празрысты сонечны прамень
Дрыжыць ад страху у пакоі.
Студзёны вецер цэлы дзень
Яго чакае за сцяною.

Нязваны, але мілы госць,
Прамень уцёк сюды, у схованы,
Нібы чакае, што яго
Дагоняць,
Светлага, і схопяць.

Маўчыць і хоча адпачыць,
І ціха толькі зззяе-свеціць;
Але рашыўшы: быць — не быць,
Ён выбірае —
Вольны вецер.

З балгарскай мовы.
Пераклад **Віктара ЯРАЦА.**

● ДЗІКА ФУЧАДЖЫЕЎ

● Мал. В. ШАРАНГОВІЧА

# Б Э З

АПАВЯДАННЕ

Здавалася, што гадзіннік на вежы б'е кожную хвіліну, а не чатыры разы ў гадзіну. Меладычны звон доўга стаяў у паветры над дамамі і вуліцамі, як апошні гучны акорд чароўнай музыкі. Гадзіннік адмерваў час, і хлопец, што сядзеў на лаўцы, уздрыгваў пры кожным яго ўдары. Быў цёплы вясновы вечар.

Хлопец узіраўся ў цёмныя абрысы дамоў, у чорныя кроны дрэў, у бледныя кругі цьмяных ліхтароў. Яму хацелася назаўсёды запомніць усю прыгажосць гэтай ночы: і халаднаваты паўзмрок алей, на якіх мільгалі светлыя плямы, і пах мокрай зямлі, запомніць, як булькоча вада ў канале,— запомніць увесь гэты свет, чужы і такі бясконца блізкі, свет, які ён можа страціць у гэтую ноч. Па тратуары ішоў афіцэр, малады і зграбны. Побач з ім стукала абцасікамі дзяўчына. Ён нават не адчуваў нянавісці да іх абодвух, якія з «тых». Не, не было за што. Яны былі маладыя, як і ён, любілі прыслухоўвацца да гукаў вясновай ночы, ішлі, пераплёўшы свае гарачыя пальцы, гатовыя чакаць раніцы. Не, не было за што іх ненавідзець, ён толькі ім зайздросціў.

Ён не ведаў, колькі цяпер часу, таму што не лічыў удараў гадзінніка. І без таго час ляцеў даволі хутка, і ніхто не мог яго спыніць. Бульвар апусцеў. Ён зразумеў, што ўжо адзінаццаць. Ён ведаў тут кожнае дрэва, кожную лаўку, кожны дом... Колькі вечароў яны сядзелі з Нявянай, як закаханыя, вось на гэтай лаўцы каля маленькай белай бярозы. Учора была апошняя сустрэча. Ён зламаў некалькі галінак ліловага бэзу. Падарыў ёй кветкі, пажартаваўшы: «Цяпер мы падобны на сапраўдных закаханых». Яна ўзяла букет і прыціснула яго да сябе... Усё навокал пахла тады бэзам...

Нявяна—прыгожая, маладзейшая за яго, рэмсістка *, як і ён. Цяпер яму здалося, што калі яна іграла сваю ролю, яна прыцікалася да яго пляча мацней, чым гэта было патрэбна. Ён і цяпер адчуваў яе гарачае дыханне і гэты чароўны бэзавы пах. А можа яна любіць яго? Глупства! Яна проста добра іграла сваю ролю.

Ён нечакана ўздрыгнуў: нечыя крокі пачуліся на алеі. Потым супакоіўся. Ішлі дзве маладыя дзяўчыны. Ён разгарнуў газету, не гледзячы на іх. Але яны спыніліся. Ён не бачыў іх, але зразумеў гэта, бо больш не чуў крокаў. Мяккі, нізкі голас спытаў:

— Чаму такі самотны? Ці не прымеце нас у кампанію?

— Дзякую, чакаю другіх,— адказаў ён, не апускаючы газеты.

— Шкада,— сказаў той жа голас.

Яны не адыходзілі. Вецер прынёс пах бэзу... Дзяўчаты размаўлялі шэптам за некалькі крокаў ад яго:

— Прыгожы. Зірні — светлыя, саламяныя валасы.

* Рэмсістка—член РМС (рабочага маладзёжнага саюза). Так да 9 верасня 1944 года называўся балгарскі камсамол. **(Заўвага перакладчыка.)**





— Злосны...
— Чаму ж?
— Бачыш: дзве зморшчынкі ў кутках вуснаў... І вусны тонкія.
— Хоць і злосны, але прыгожы.
Яны засмяяліся і пайшлі. Ён супакоіўся, калі зразумеў, што яны ўжо далёка. Схаваў газету і ўсміхнуўся. Што яны ведаюць пра гэтыя зморшчыны?
Сёння на ім была белая куртка і шэрыя габардзінавыя штаны. Усё гэта даў яму Стары. Каб ён ні ў кога не выклікаў падазрэння, быццам бы сапраўды чакае кагосьці на лаўцы.
Ён нават не ведаў імя Старога. Прывёў яго да Старога Мілан, кіраўнік партячэйкі на тэкстыльнай фабрыцы. Па дарозе Мілан увесь час маўчаў, хмурыўся. У маленькім скверыку яны сустрэлі старога чалавека ў шапцы чыгуначніка.
— Гэта — наш чалавек,— сказаў Мілан. І пайшоў. Чыгуначнік,— ён вырашыў, што стары працуе на чыгунцы,— узяў яго пад руку і павёў.
З таго часу мінула дзесяць дзён. Кожны вечар яны сядзелі з Нявянай на лаўцы перад чатырохпавярховым домам альбо гулялі па бульвары. У гэтым доме з прыгожым дваром жыў «той»—Балджыёў, былы член раённага партыйнага камітэта, правакатар. «Таго»,— Стары ніколі не называў яго імя і наогул хмурыўся, калі гаварыў аб ім,—трэба было забіць. Інакш нельга прадухіліць небяспеку. Выкананне прысуду даручылі яму, дзевятнаццацігадоваму рэмсісту.
Пад вечар ён быў у Старога, на ўскраіне горада. Яны сядзелі за сталом і вячэралі. Твар чыгуначніка нібыта змарнеў. Вочы суха бліщчалі, ён прымушаў сябе смяяцца. За яго смехам хавалася напружанасць, нервовасць. І рухі былі рэзкія, незавершаныя, недакладныя: ён нібыта страціў свой звычайны спакой. Калі яны паелі, ён выцягнуў новую куртку, штаны і сказаў:
— Давай апранайся!
Ён скінуў сваю старую вопратку. Упершыню ён апранаў такое прыгожае адзенне. Доўга стаяў перад люстэркам, увесь у захапленні ад перамены. Забыў нават пра заданне. Стары пакашляў, і ён схамянуўся. Той глядзеў на яго спакойна і ўсміхаўся.
— Прыбраўся, як на вяселле... альбо на пахаванне.
Чыгуначнік пабялеў, але сказаў спакойна:
— Зялёны ты яшчэ, каб думаць пра такое...
Яны змоўклі. Настала цішыня. Здавалася, узмахнеш у паветры молатам — і яна са звонам разляціцца на тысячы кавалкаў. Потым Стары сеў, пазваў яго да сябе, прашаптаў:
— За сто метраў ад аптэкі Савава цябе будзе чакаць грузавік са смеццем. Скончыш — і бягом да яго. Адразу ў кабіну — шафёр цябе ведае. Далей усё будзе проста.
Ён моўчкі слухаў. Стары гаварыў, а яго цяжкая рука ляжала на яго плячы. Потым Стары ўстаў. Падняў рукой яго падбародак, зірнуў у вочы і спытаў:
— Боязна?
Яму хацелася сказаць, што ён не баіцца, але зразумеў, што схлусіць. Вытрымаў суровы позірк і адказаў ціха:
— Так.
— Інакш і не можа быць. Кожны баіцца, але не кожны мае сілы перамагчы страх. Калі адчуваеш, што не хапае сілы, адмаўляйся. Я веру, ты паспееш. Усе таварышы вераць. Пісталет вельмі добры. Выпрабаваны.



Стары нечакана збянтэжыўся, голас яго памякчэў. Падвёў да дзвярэй:
— Не забудзь: на рагу цябе чакае машына.
Яму здавалася, што ўсё гэта адбылося толькі што. А прайшло ўжо некалькі гадзін...
Ён раптам адчуў сябе зусім самотным. Пачуцці абвостраныя, як ніколі. Ён нібы імкнуўся ўвабраць у сябе ўвесь свет, гэты свет, такі чужы і такі дарагі... Успомніў маці... Як плакала яна, калі выключаны з гімназіі шасцікласнік паехаў і пакінуў яе адну ў сяле. Ён быў адзіным сынам. Што б яна сказала, каб ведала пра гэту ноч? Яе маленькі хлопчык пайшоў на забойства... Ён жа не можа зарэзаць курыцы. Яна папракала яго ласкава, калі сама рабіла гэта:
— Увесь ты ў бацьку, бог яму дарue... Мяккае сэрца ў цябе. Хто ведае, якім ты мужчынам станеш?
Чаму — станеш? Ён нарадзіўся мужчынам.
Яго ахапіў страх. Ён не ўпершыню сустракаўся з небяспекай. Пісаў лістоўкі, удзельнічаў у сутычках з паліцыяй. У яго на вачах згарэў эшалон з бензінам. Ён падпаліў яго разам з таварышамі. І тады ён баяўся. Але цяпер страх быў большы. Ён узмацняўся адзінотай. І ўсё ж ён ведаў, што рука яго не задрыжыць. У яго даручэнне, і ён свабодны ад абавязку шкадаваць другіх. Свет такі вялікі і такі малы,— і вось шляхі дзвюх жывых істот фатальна перакрыжаваліся. Што будзе мацаваць яго руку: нянавісць або любоў? І тое, і другое. Было што любіць і што ненавідзець у гэтым свеце.
Перад домам спынілася чорная легкавая аўтамашына. З яе нехта вылез, і машына хутка знікла. Ён анямеў. Пазнаў яго. «Значыць, яны прывозяць яго на машыне? І хутка знікаюць, каб ніхто не ўбачыў...»
Ён, нібы загіпнатызаваны, глядзеў на згорбленую постаць высокага мужчыны. Гэта была не постаць, а цень, які спяшаўся да варот жалезнай агароджы. Ён задрыжаў, адчуў, што ногі не слухаюць яго. Але рука машынальна апусцілася ў кішэню, намацала вальтэр. Вось яна, страшная і непаўторная хвіліна! Халодная сталь апякла яго, і ён выпрастаўся, быццам нехта штурхнуў яго ў спіну. Хутка пайшоў да варот. Навокал было пуста, сэрца білася непрыемна востра. Праз сілу стрымліваў сябе, каб не пабегчы.
Цень быў ужо на двары, калі ён штурхнуў вароты агароджы і накіраваўся за ім. Цень уздрыгнуў — магчыма, пачуў шум,— і пайшоў хутчэй. Вось ён ужо на прыступках і бярэцца за ручку ўваходных дзвярэй. Яшчэ адно імгненне, толькі адно імгненне...
— Пане, скажыце, калі ласка, ці не тут жыве пан Крысцеў з міністэрства юстыцыі?
Як спытаўся, якім голасам! Нават не чуў сябе.
Высокі мужчына павярнуўся.
— Які Крысцеў?—спытаў мужчына і пацягнуў дзверы так, што закрыў палову свайго тулава.
Ён убачыў яго твар — буйны, цёмны ад трывогі.
Ён непрыкметна паставіў левую нагу паміж дзвярыма і парогам. Няўлоўным рухам прыткнуў пісталет да грудзей мужчыны.
Мужчына памкнуўся быў зачыніць дзверы, але не паспеў.
Ён нават не чуў свайго стрэлу. Адчуў толькі, як нешта штурханула яго руку. І ўбачыў перакрыўлены твар з чорнымі раскрытымі вуснамі, з якіх не пачулася ніводнага гуку.
Ён выцягнуў сваю нагу з-пад дзвярэй, і ў той жа момант мужчына кінуўся бегчы па цёмных прыступках. Бразнулі дзверы, на лесвіцы ўспыхнула бледнае святло.

Што здарылася? Ён не пацэліў? Але ж стрэліў амаль ва ўпор!

Яго галава быццам бы разрывалася на кавалкі. Бездапаможна павярнуўся назад. Усё яшчэ нікога не было, можна было спакойна збегчы. А «тсй»? Калі ён застаўся жывы? Яго вабіла, прыцягвала да сябе сталёвымі канатамі гэтая чорная пустэча, якая магла праглынуць яго, схаваць.

Адным скокам ён апынуўся на пляцоўцы. Дзверы кватэры былі расчынены, і святло лілося адтуль. Праз імгненне ён быў ужо ў слаба асветленым холе. На персідскім дыване распластаўся мужчына, ён хрыпеў, цяжка дыхаў, у горле яго нешта булькатала. Ён стрэліў некалькі разоў амаль у тое ж імгненне, калі ў пакой убегла жанчына ў начной кашулі, уся ўскудлачаная, растрапаная. Утаропіла позірк у мужчыну, яе вільготныя вочы сталі шырокія ад жаху. Яна не магла вымавіць ні слова, па яе шчоках цяклі слёзы. Яна ўзняла рукі, быццам бы імкнучыся абараніцца ад некага.

Ногі яго адразу пацяжэлі, і ён не мог адарваць іх ад дывана, хоць і трэба было спяшацца. Адкуль узялася гэтая бездапаможная, уся ў слязах жанчына? Чаму яна не крычыць? Ён мог бы яе напалохаць пісталетам, ударыць, прымусіць маўчаць...

Ён зрабіў крок наперад з адзінай мэтай супакоіць яе, сказаць ёй што-небудзь суцяшальнае. Ахопленая жахам, жанчына абаперлася спіной аб сцяну і ціха прастагнала... Потым закрыла твар рукамі... Ён зразумеў, што робіць тое, што не мае ніякага сэнсу. Гэта была самая высокая сцяна, якая калі-небудзь існавала паміж двума чалавечымі істотамі. Яны былі бясконца чужыя адно аднаму і стаялі адно насупраць другога толькі таму, што адзін трымаў у руках пісталет, а другі абараняўся ад яго.

Ён рэзка павярнуўся і выбег на лесвіцу. Нібыта праз сон пачуў галасы. Хутка прабег цераз двор. Святло аўтамабільных фар мільганула па асфальце вуліцы. Трывожна азваўся свісток, пачуўся тупат коней.

Ён зразумеў, што спазніўся. Грузавік не дачакаўся яго. Заплаканая жанчына таксама не дачакалася свайго мужа, а ўбачыла толькі яго труп... Але яе няшчасце меншае, бо ёй засталося жыццё. А яму нічога не засталося, ён страціў усё, таму што жыццё — гэта ўсё, у чым чалавек добры альбо дрэнны, малады альбо стары, шчаслівы альбо нешчаслівы. Усё... Кепска ўладкавана гэтае жыццё, у якім не ведаеш, калі ты болей нешчаслівы: калі забіваеш другога на вачах у заплаканай і бездапаможнай жонкі, альбо калі паміраеш сам...

Ён адчуў пах бэзу і глыбока ўздыхнуў. Калі пачуў першае «стой!», ён быў зусім спакойны. Стрэліў наўздагад у цемру. Нехта там зароў, і ён злосна ўсміхнуўся. Пачаў паўзці ўздоўж агароджы, каб вылезці на бульвар. Але адтуль пачалі страляць у яго. Ён дапоўз да адной бярозкі. Уздрыгнуў. Гэта была тая, іхняя лаўка. Іх маленькая белая бярозка. Ён застаўся за ёй, хоць яна і не магла яго схаваць. Адна постаць падбегла зусім блізка. Трапным стрэлам ён паклаў яе на зямлю.

Раптам яго асляпілі аўтамабільныя фары. Застрачыў аўтамат. Зноў ён стрэліў у тым кірунку і выпусціў пісталет. Адчуў, нібыта яго грудзі нечым перарэзаны. Галава яго ўпала, і ён убачыў барвовыя плямы на белай кашулі. Абняў бярозку, апошнюю сваю апору, і паціху стаў апускацца долу.

З балгарскай мовы.
Пераклад **Ванкарэма НІКІФАРОВІЧА.**

● **Янко ДЗІМАЎ**

## *Красавіцкі настрой, ці спроба аўтабіяграфіі*

**Светлы край,**
**нібы светлы гук.**
**Лілаватая сінява.**
**Нада мной неўгамонны жаўрук.**
**Пада мной расяная трава.**

**У аздоблены дзень сінявокі,**
**ў красавіцкі расквечаны міг,**
**дзе бруяцца і думы і сокі,**
**спасцігаю, што не спасціг.**

**Хай прабачыць мне Чарльз Дарвін,**
**не рабіце заўваг, анатамы,**
**але веру, пачаўся ўладарны**
**род чалавечы нястомны**
**не ад нейкага там прымата,**
**а ад птушкі —**
**такой, як арлы,—**
**недаступнай для сетак і קратаў,**
**недасяжнае для стралы.**

**І жыве яна зараз ва мне,**
**Бы ў пупышцы**
**затоены плод,**
**і мяне неадольна імкне**
**ў красавіцкі вялікі палёт.**

● **Ваня ПЕТКАВА**

## *Праводзіны*

**Не разбіраючы дарогі,**
**дождж у сандаліках драўляных**
**ідзе,**
**і неба мне пад ногі**
**кладзецца сеткай разасланай.**
**А хата свеціцца знутры**
**пасляабедзенна і сонна,**

ды пахнуць
рыбаю салёнай
пананізаныя шнуры.
Пакорліва мяне праводзіш з хаты,
нібы рукой праводзіш па лязу.
І не чапае дождж напяты
тваю слязу.
Мяне на адзіноту асудзіла,
любіць неўтаймаванасць закляла
і закляла ў крыві насіць радзіму,
як носіць песню гнуткая страла.
Закрыла веснічкі старанна...
І рушыў дождж ускрайкам луж
ў сваіх сандаліках драўляных,
як разлюбёны муж.

З балгарскай мовы.
Пераклад Алеся **РАЗАНАВА.**

**ЛІЛЯНА МІХАЙЛАВА**

# АДНА

## АПАВЯДАННЕ

Учора судзілі маіх тату і маму...

Швейцар не хацеў пускаць мяне на суд — малая... Я пачакала, пакуль пройдуць усе, і ціхенька, каб не заплакаць, пачала прасіцца:

— Дзядзечка, пусціце, судзяць жа маіх тату і мамку...

Прапусціў.

Я ніколі яшчэ на разглядвала твары сваіх бацькоў здалёку. Успамінаю толькі, як аднойчы на вечары ў эсперанцкім клубе мама спявала нейкую фракійскую песню, а я баялася нават глянуць на яе, саромелася, думала — спявае дрэнна. І ўзняла вочы толькі тады, калі ўсе запляскалі ў далоні, але мамы на сцэне ўжо не было.

А ўчора магла глядзець на іх, колькі хацела, праўда, здалёк —ад кутка, дзе я сядзела, да лаўкі падсудных... Вось якія яны — немаладыя, знясіленыя, учарнелыя ад хвалявання. На шчацэ ў бацькі свежая драпіна ад брытвы. Я добра ведаю, што ён можа парэзацца толькі тады, калі спяшаецца ці нервуецца. Аднойчы я атрымала двойку па алгебры. Дамоў прыйшла акурат, як ён на кухні галіўся. А я такая, што двойкі напісаны ў мяне на твары, нібы ў дзённіку...

— Па чым? — спытаў ён адразу.

— Па алгебры...

— Ну, віншую! — сказаў бацька, і белая пена ў яго на барадзе пачырванела ад крыві.

Учора тата сядзеў з краю, на самым краёчку, быццам тым самым хацеў паказаць, наколькі малая яго віна ў той няшчаснай «мучной аферы». Прыдумалі ж людзі назву, нават смешна: «мучная афера»...



Каб падсудных рассаджвалі ў залежнасці ад іх віны, старога Манолава трэба было пасадзіць якраз у цэнтры.

Я ўзненавідзела яго яшчэ тады, калі ён з'явіўся да нас упершыню. Ён вылазіў са службовай машыны важна, цяжка нахіляючы яе аж да зямлі, і як толькі ступаў на тратуар, «Волга» з палёгкай выроўнівалася. Яны з бацькам надоўга зачыняліся ў вялікім пакоі, а пасля мама казала мне праветрываць яго і ачышчаць попельнічку, у якой заўсёды было поўна сасмактаных дарэшты акуркаў. А найбольш злаваў мяне гэты чалавек, калі, выходзячы ад нас, спыняўся перада мной і моцна зашчэмліваў маю шчаку сваімі жоўтымі, заскарузлымі пальцамі:

— Ну што, свавольніца, як справы?

Я маўчала, а мама прыходзіла на дапамогу:

— Думаем, таварыш Манолаў, на восень уладкаваць яе ва ўніверсітэт. Хай вучыцца далей.

А пасля мяне папікалі.

— Бач, якая ты! Мы гэтага чалавека на руках павінны насіць, а ты...— гневаўся найбольш татка.

Мяне гэта вельмі смяшыла. Тады я яшчэ не ведала, чаго зялёная «Волга» так часта спыняецца каля нашых варот. Калі не прымаць пад увагу тое нахабнае шчыканне, дык мне было нават прыемна, што да нас прыязджала машына. Дзяўчынкі з нашага класа, бывала, пыталіся — чыя гэта— а я з абыякавым выглядам маніла, што аднаго мамінага сваяка і што ён дазваляе мне ездзіць, каб навучыцца, але мне проста неахвота.

Учора на судзе, пазней за бацьку, убачыла я і гэтага Манолава. Калі ён паўстаў перад судом на невялічкай трыбуне, у яго быў такі ўрачысты выгляд, нібы ён збіраўся абвясціць навагодні тост. Пад яркім святлом люстры яго сівыя валасы свяціліся высакароднасцю і гонарам. Вельмі крыўдна было глядзець на яго сівую галаву. Ён гаварыў як быццам спакойна, а яго рукі на поручні прыкметна ўздрыгвалі. Махінацыі з мукой ён спрабаваў звесці да звычайнай памылкі.

Тая мука, вядома, нічым не адрознівалася ад іншай. Не магла ж яна пачарнець ад таго, што яе ўнеслі праз чорны ход, а мой бацька высыпаў яе ў мяхі да законнай мукі.

А я любіла хадзіць у магазін, дзе працавалі мае тата і мама. Дзяўчынкі часта з зайздрасцю пыталіся ў мяне:

— Ты ясі там шакалад?

— Колькі хачу.

— Добра табе...— уздыхалі яны.

А на самай справе, я ўжо даўно перастала любіць шакалад. І цяпер мне здаецца, што ён ніколі і не быў для мяне прынадным. Відаць, пакуль чалавек любіць шакалад, ён яшчэ дзіця.

Увесь час, пакуль ішло следства, магазін, дзе тата з мамай прадавалі незаконную муку, быў зачынены. Рэвізоры адразу наляпілі на дзверы нейкія паперкі з подпісамі і пячаткамі.

Учора мама сядзела разгубленая, прытуліўшыся да таты, а я баялася, каб хто-небудзь з залы не паглядзеў бы на яе сіні жакецік з бронзавымі гузічкамі. У гэтым самым жакеціку я была на нашым выпускным вечары.

...Бесталковы ён быў, наш выпускны вечар. Хлопцы адразу панапіваліся, танцуючы, наступалі нам на новыя туфелькі і лезлі цалавацца. Пад поўнач класны ўзняў апошнюю чарку, віно цякло ў яго па пальцах, а ён гаварыў:

— Адсюль, дарагія мае хлопчыкі і дзяўчынкі, вы пойдзеце прама ў жыццё...

А мне, выпіўшы кілішкі чатыры за вечар, здавалася, што жыццё спынілася, як той сіні аўтобус ля прыступак рэстарана, і з расчыненымі дзвярыма чакае, каб мы хутчэй адсюль выйшлі.

Выкладчыца малявання была ў каралях з зялёных гранацікаў у тры рады вакол шыі. Яна пажадала нам «шчаслівай дарогі, усцеленай кветкамі». Усё ж якая адказнасць — жадаць выпускнікам нешта такое! Мая «дарога», напрыклад, адразу аказалася пасыпанай незаконнай мукой. Дакументы ва ўніверсітэт я так і не адправіла. У анкеце ёсць такая графа: «Бацькі ёсць? Прафесія бацькоў?» Ні на адно з гэтых пытанняў я не здолела б адказаць. А хацела ж паступаць на юрыдычны факультэт... Учора была мая першая і апошняя лекцыя па крымінальнаму кодэксу. Я хацела нават прадугледзець пакаранне і аказалася больш жорсткай, чым самі суддзі: прысудзілі ім толькі год турмы і далі штрафу.

Пазней, пасля ўсяго, нам дазволілі пагаварыць. Мы стаялі ў пустым калідоры — утраіх адзін перад адным, аднекуль цягнула холадам, мама ўвесь час захіналася ў жакецік і шаптала адно і тое ж:

— Што будзе... Божа, што будзе...

Татка гаварыў нешта пра грошы, наказваў, каб я шанавала сябе — гэтак жа бязладна і бессэнсоўна, як у часе развітання на вакзале.

— Пайшлі,— сказаў нехта ззаду.

Яны мяне пацалавалі, а я і да гэтай пары не магу ўспомніць — пацалавала я іх ці не. Пайшла адразу, не азіраючыся. Чула толькі, як недзе далёка стукнулі дзверы. Праз увесь горад бегла, не ўзнімаючы ад зямлі вачэй.

Дома пад дзвярыма я знайшла квіток на электрычнасць — тры левы, на імя бацькі. Відаць, падсунула інкасатарка...

У першы дзень, як рэвізоры апячаталі магазін, тата прыйшоў дамоў раней, чым звычайна, ад яго патыхала ра́кі.

— Ты павінна ведаць... што б ні здарылася — мы ўсё рабілі дзеля цябе...

Я нічога не ведала. Ён быў п'яны, перапалоханы і шукаў апраўдання нейкай сваёй віне. Што я магла яму адказаць?

Дома я нічога не магла рабіць. Заслала газетамі іх спальню і замкнула яе на замок. Хадзіла з пакоя ў пакой, адмыкала і замыкала па парадку ўсе дзверы і шуфляды, і тады мне прыйшло ў галаву паехаць куды-небудзь. З'ехаць абы-куды, толькі не быць цэлы год адной і баяцца выйсці на людзі. Хацелася есці. Я намыла талерку вінаграду, села ў крэсла і заснула. Апошняе, што адчула я, было халоднае дно талеркі, якая непрыкметна апусцілася мне на калені.

Разбудзіў мяне тэлефон. Гэта смешна — тэлефон у такім гарадку, як наш, дзе кожнага можна сустрэць хоць тры разы на дзень. Але мама любіла тэлефон, гэта быў яе капрыз. Яна ўпрыгожвала яго вышыванымі сурвэткамі і была вельмі шчаслівая, калі магла сказаць якой-небудзь сваёй прыяцельцы: «Пазвані мне дадому».

Званіла Людміла. Я адразу пазнала яе па голасе. Яна яшчэ ў дзесятым класе перапісвалася з нейкім мараком з Тэксіма, атрымлівала пасылачкі ў карабках з-пад цыгарэт, і цэлы ўрок, бывала, пад партамі з рук у рукі пераходзілі розныя зіхоткія штучкі. Чуўся шэпт: «Глянь, што ў Людмілы...» У адзінаццатым класе ў яе ўжо быў чарнявы інжынер з Сафіі, што прыязджаў разам з групай праводзіць у нас нівеліроўку. Пасля былі і яшчэ.





— Гэта ты? — зноў спытала Людміла.
— Я. І цэлы год буду толькі я.
Яна памаўчала. Не гледзячы ні на што, яна была разумнай дзяўчынай, цішыню ў трубцы зараз трэба было разумець як спачуванне.
— Што ты робіш?
— Сплю...
Мяне раптам ахапіла жаданне гаварыць, і я ўзрадавалася, што магу пагаварыць з Людмілай, бо яна была, бадай, адзіная, хто не лез бы цяпер з суцяшэннем.
— Заўтра вечарам ты нічога не будзеш рабіць? — яна гаварыла паспешліва, напэўна — з вулічнага аўтамата. Было чутно, як гудуць машыны і як яна прыкрывае трубку далоняй, каб з нейкім прывітацца.— Добра, тады заўтра а сёмай чакай. Я зайду па цябе, так?
Чорная трубка чакала адказу. Я не ведала, што сказаць, і, нарэшце, згадзілася — я была зусім-зусім адна, на сэрцы было тужліва, і на вочы самі сабой набягалі слёзы.
Павячэрала я вінаградам і да поўначы не магла заснуць. Тады я ўспомніла, што ў шафе мама хавала парашкі для сну. Чамусьці заўсёды думалася мне, што тыя парашкі былі проста яе капрызам, як і тэлефон. Але выпіла два. І толькі дайшла да ложка, як змарыў мяне сон — цяжкі і гаркотны, што боль.
Затое выспалася. Устала аж у пяць гадзін. Сэканоміла абед і абмінула непрыемнае ваганне — ісці ці не ісці? Каб не спала, то думала б увесь час пра Людмілу і пра гэтае — ісці ці не ісці. А так лепш, раблю выгляд, што нічога яшчэ не здарылася і нікуды я не збіраюся. Праз дзве гадзіны яна з'явіцца, я апрану сваю самую лепшую сукенку, і мы пойдзем... У пакоі прыцемна і ціха. Завешанае газетай акно вестыбюля паружавела ад заходу сонца, газету можна чытаць нават здалёку. Спачатку я не звярнула ўвагі на тую аб'яву... Тэкстыльнае вучылішча ў Плоўдзіве запрашае на вучобу дзяўчат...
Я памылася ў халоднай вадзе і прычасалася пад шыньён. Праз гадзіну прыйдзе Людміла. Урэшце, мы з ёй аднакласніцы, і адзін раз выйсці разам яшчэ нічога не азначае.
...У тым вучылішчы дзяўчаты спяць, напэўна, разам, у вялікай зале і адна ў адной крадуць пісьмы з-пад падушак. Але ўсё ж трэба прачытаць гэту аб'яву больш уважліва: ага, заўтра яшчэ не позна.
Я адчыніла гардэроб, каб дастаць сваё белае плацце. Тут вісеў бацькаў касцюм, а на штрыфлі яго пінжака яшчэ ад Першага мая застаўся чырвоны бант...
Усяго паўгадзіны засталося да прыходу Людмілы. Калі не ўключу святло — пазвоніць, пачакае, падумае, што я некуды паехала, і пойдзе...
Толькі не забыцца перад ад'ездам заплаціць за электрычнасць...

З балгарскай мовы.
Пераклад Уладзіміра **АНІСКОВІЧА.**

# ПУБЛІЦЫСТЫКА



- Арсень ВАНІЦКІ
- Залман ДАВІДОВІЧ
- Сямён БУКЧЫН
- Алесь ЗАКІС
- Ніна МАРЧАНКА
- Уладзімір КАЛАЧЫК
- Ізідор НІСНЕВІЧ
- Іван НАВУМЕНКА
- Альберт ЛЯПІЧ
- Алесь ЯСКЕВІЧ
- Сяргей ПРАЧ

*Арсень* **ВАНІЦКІ,**
**сакратар ЦК ЛКСМ Беларусі**

# ЮБІЛЕЙ КАМСАМОЛА— СВЯТА ЎСЯГО НАРОДА

З сотень — адзінкі, з тысяч — толькі дзесяткі людзей без асаблівага хвалявання прыгадваюць сваю камсамольскую маладосць. Можа ім не давялося быць у дружнай камсамольскай сям'і, можа іх не захапляла рамантыка цяжкіх дарог або проста іх сцежкі праляглі ў баку ад вялікіх і гаманкіх дарог, па якіх крочыла акрыленая марай моладзь?..

Нялёгка нам, камсамольцам шасцідзесятых гадоў, прыгадаць імёны ўсіх, хто на працягу пяцідзесяцігадовага шляху будаваў, ваяваў, аднаўляў разбуранае, хто загінуў у барацьбе са шматлікімі ворагамі Радзімы, ворагамі камсамола. 90 мільёнаў савецкіх людзей былі ў шэрагах ВЛКСМ. Колькі моладзі выхаваў камсамол? Ці не лепш пра гэта раскажа пуцілаўскі рабочы — бацька камсамольскай дынастыі, сівы прафесар, які і сёння з хваляваннем ідзе ў камсамольскі камітэт, суровы генерал, што аддае чэсць сакратару камітэта камсамола.

— Мае вучні збіраюцца на Магнітку. Я павінен ехаць са сваімі выхаванцамі. Там мая маладосць...

— Хіба ноч, бяссонная, у паходзе, не падаравала мне новыя гады жыцця?..

— Я з вамі, я ў страі, замест загінуўшага сына...

Такія словы можна пачуць сёння ў кожным камсамольскім камітэце. Іх гавораць людзі, якія стваралі саюз моладзі і потым прайшлі ў яго шэрагах увесь радасны і цярністы паўвекавы шлях.

Клапатлівыя, добрыя людзі! Колькі натхнення даяце вы моладзі! Колькі душэўнай шчодрасці перадаяце сваім сынам і дочкам! Багатыя ўсходы даюць пасеяныя вамі зярняты. З вас пачынаюць любы расказ пра камсамол.



22 тысячы маладых рэвалюцыянераў у грозны васемнаццаты год заявілі аб сваім адзінстве з партыяй, аб гатоўнасці кіравацца рэвалюцыйнымі ідэаламі бальшавікоў, несці і пашыраць ідэі камунізма. 29 кастрычніка 1918 года яны прыслалі на свой першы з'езд у Маскву дэлегатаў.

Так пачалася біяграфія камсамола, біяграфія саюза, напісаная пад грукат кананады на палях грамадзянскай вайны. Гэта яны, камуністы і першыя выхаванцы камсамола, добраахвотнікі, разарвалі кола блакады, разграмілі ўнутраную і знешнюю контррэвалюцыю. Веліч рэвалюцыйнага духу рабочых і сялян стала ўсемагутнай







Так займалася зара Кастрычніка. Сакавік 1917 года. На Заходнім фронце мітынгуюць салдаты і афіцэры.

зброяй супраць голаду, галечы і разрухі.

Людская памяць назаўсёды захавала словы С. М. Кірава: «Тыя з нас, якія былі на фронце, памятаюць, якую вялізарную, я б сказаў, выключную ролю адыграў тады камсамол. Трэба, таварышы, шчыра сказаць, што мы, бальшавікі, наогул кажучы, народ, які можа змагацца, не шкадуючы свайго жыцця, і то іншы раз з зайздрасцю глядзелі на герояў, якіх даваў тады камсамол».

Стойкасцю і мужнасцю вызначыліся на франтах грамадзянскай вайны камсамольцы Беларусі. Легендай сталі подзвігі Аляксандра Снятко і Івана Мурава, 23-гадовага камбрыга Уладзіміра Азіна.

Калі буржуазная Польшча напала на нашу краіну, амаль усе камсамольцы Беларусі пайшлі на фронт. У баях з белапольскімі інтэрвентамі праславіўся мінскі каравульны камсамольскі батальён. Атакуючы адступаючых акупантаў, атрад маладых разведчыкаў — 17 чалавек з чатырма кулямётамі — трапіў у акружэнне. Чырвонаармейцы не разгубіліся: ноччу, узняўшы страляніну, напалі на штаб варожай дывізіі і прымусілі ворага адступіць.

24 верасня 1920 года ў Мінску адбыўся I з'езд камсамола Беларусі. З гэтага часу рэспубліканская арганізацыя існуе як нацыянальны Камуністычны Саюз Моладзі Беларусі. Працэс фарміравання



1918 год. Бронецягнік пад чырвоным сцягам ідзе на фронт, каб адстаяць заваёвы сацыялістычнай рэвалюцыі.




1919 год. На Заходнім фронце змагаюцца за ўладу Саветаў маладыя патрыёты Партноў і Смірноў.



1931 год. Дэлегацыя беларускага камсамола на IX Усесаюзным з'ездзе ВЛКСМ.



1932 год. На калгасныя палі Беларусі прыйшлі «сталёвыя коні». Каму, як не камсамольцам, іх асядлаць.



1939 год. Новае жыццё занялося над Заходняй Беларуссю. Сяляне Ваўкавышчыны выйшлі дзяліць панскую зямлю.

ЛКСМБ своеасаблівы. Сацыялістычныя маладзёжныя ячэйкі з'явіліся ў Гомелі, Мінску яшчэ ў 1904—1905 гг. У гэты ж час пад кіраўніцтвам камітэта РСДРП быў створаны Палескі маладзёжны агульнаадукацыйны рабочы саюз. Значна актывізавалася палітычнае жыццё моладзі ў дні Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. У 1918 годзе саюзы моладзі ўзніклі амаль ва ўсіх гарадах Беларусі. Яны называліся «Сацыялістычны саюз моладзі», «Юныя марксісты», «Юныя бальшавікі».

У канцы снежня 1918 года адбыўся з'езд саюзаў моладзі Заходняй вобласці, у якую ў той час уваходзілі Смаленская, Мінская, Віцебская і Магілёўская губерні. Пасля ўтварэння БССР у студзені 1919 года Заходні абласны камітэт РКСМ пераехаў у Мінск і аб'явіў сябе Цэнтральным Камітэтам КСМ Беларусі. Затым пасля стварэння Літоўска-Беларускай рэспублікі быў створаны адзіны саюз моладзі Літвы і Беларусі, які дзейнічаў са студзеня 1919 па ліпень 1920 года. На першым з'ездзе камсамола рэспублікі была завершана вялікая ідэйная і арганізатарская работа Камуністычнай партыі Беларусі па стварэнню адзінай палітычнай маладзёжнай арганізацыі.

Напрамак дзейнасці камсамола вызначыў III з'езд РКСМ, прамова У. І. Леніна. Формы і метады работы камсамольскіх арганізацый рэспублікі ў мірных умовах абмеркаваў II з'езд КСМБ, які адбыўся ў красавіку 1921 года.

У гісторыю Ленінскага камсамола перыяд мірнага будаўніцтва ўвайшоў сімваламі камсамольскай рамантыкі — Магніткай, Днепрагэсам, Камсамольскам-на-Амуры. Ішлі бурныя гады стварэння нацыянальнай эканомікі, індустрыялізацыі краіны, калектывізацыі сельскай гаспадаркі. Разам з усімі савецкімі людзьмі камсамольцы самаахвярна змагаліся за выкананне планаў першай пяцігодкі, за перабудову вёскі на сацыялістычны лад.

Да 1930 года па ўсёй краіне,









Вера Харужая. Мікола Гойшык.

Слаўныя дзеці беларускага камсамола.

быццам вясновыя ручаіны, разлілося сацыялістычнае спаборніцтва. Усюды панаваў дух наватарства, на заводах і фабрыках перавыконваліся планы, павышалася прадукцыйнасць працы. Трэба было будаваць заводы, электрастанцыі, якіх яшчэ не мела краіна. Будаваць хутка і добра, а ўмовы працы былі цяжкімі. І справіцца з тымі задачамі маглі людзі асобага складу — валявыя, мужныя. Нараджаўся масавы маладзёжны працоўны гераізм. За гады першай пяцігодкі па пуцёўках камсамола на навабудоўлі было накіравана 350 тысяч юнакоў і дзяўчат.

Сацыялістычнае будаўніцтва, якое разгарнулася ў краіне, патрабавала ліквідацыі непісьменнасці. Быў аб'яўлены паход моладзі за павышэнне культуры ў горадзе і вёсцы. Культпаход камсамола Беларусі пачаўся з суботніка ў дапамогу школе. Мінская акруговая камсамольская арганізацыя стварыла 551 пункт ліквідацыі непісьменнасці, дзе навучалася больш за 13 тысяч чалавек, 16 школ для малапісьменных. У 1929—30 гадах у рэспубліцы працавала каля 10 тысяч лікбезаў, у якіх навучалася 294 тысячы чалавек. У кастрычніку 1928 года быў праведзены двухтыднёвы культпаход піянерскай арганізацыі пад дэвізамі: «За вучобу і пісьменнасць», «За культуру ў грамадстве і асабістым жыцці». У выніку работы, праведзенай партыяй і камсамолам, агульная пісьменнасць нашай рэспублікі ў сакавіку 1932 года складала 80 працэнтаў, супраць 31,5 працэнта ў 1920 годзе.

У вёсцы ствараюцца цэнтры выхаваўчай і культурна-масавай работы — хаты-чытальні. У іх працавалі сельскагаспадарчыя курсы і гурткі, калектывы мастацкай самадзейнасці, чыталіся лекцыі і даклады, арганізоўваліся калектыўныя чытанні кніг, газет і часопісаў, праводзілася антырэлігійная работа. Камсамольскія арганізацыі ўкаранялі ў быт моладзі новыя абрады і традыцыі.

Сакавік 1924 года. «Чырвоныя хрэсьбіны» адбыліся ў вёсцы Бедавіцы Лепельскага павета ў сям'і Гарынакаў. На ўрачыстасці прысутнічала большасць жыхароў вёскі, іграў струнны аркестр. Камсамольская ячэйка ўзяла шэфства над нованароджаным.



Камандзір Брэсцкага партызанскага злучэння С. Сікорскі і сакратар ЦК ЛКСМБ К. Мазураў гутараць з партызанамі.



Яны змагаліся за Беларусь.

Фота **У. Лупейкі.**

Вёска Даўговічы Расонскага раёна. Сялянка Кудрачова на сваім «чырвоным вяселлі» паздымала са сцяны абразы і сказала пры гэтым: «Бабуля благаслаўляла абразом маці, калі яна ішла замуж за бацьку. Ды благаславенне не прынесла шчасця сям'і: маці памерла, пакінуўшы мяне грудным дзіцём. У тым жа годзе памерлі мае брат і сястра. Я перастала верыць у бога. Гэты абраз, са згоды бацькі, перадаю камсамолу».

У выніку вялікай работы, праведзенай Кампартыяй і Ленінскім камсамолам, у рэспубліцы былі падрыхтаваны кадры спецыялістаў народнай гаспадаркі, выхадцаў з рабочых і сялян, узброеных глыбокімі ведамі, адданых справе будаўніцтва сацыялізма. На першае студзеня 1941 года ў народнай гаспадарцы БССР працавала 87,6 тысячы спецыялістаў з вышэйшай і сярэдняй адукацыяй, у тым ліку 14,5 тысячы інжынераў і тэхнікаў і 5 тысяч спецыялістаў сельскай гаспадаркі. І гэта ў той час, калі да Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі ва ўсіх беларускіх губернях налічвалася ўсяго 200 інжынераў і тэхнікаў, а спецыялістаў сельскай гаспадаркі і таго менш.



Гродзенскі гісторыка-краязнаўчы музей захоўвае меч колішняга нямецкага рыцара з надпісам: «Пі кроў». Даўно спарахнеў у беларускай зямлі крававжэрны гаспадар мяча, але яго следам спрабавалі ісці многія захопнікі. Шляхі, якімі ішлі на нашу зямлю інтэрвенты, захаваліся ў народнай памяці. «Шведскі» курган, «французская» гара, «вітаў» шлях, «нямецкія» акопы — назваў гэткіх многа на нашай зямлі.

У цяжкую часіну ярка раскрываўся характар народа, выяўлялася ўсё лепшае і каштоўнае, увасобленае ў маладым пакаленні: любоў да свабоды, свяшчэнная нянавісць да ворага, гатоўнасць да самаахвярнасці. Асабліва ярка і пераканаўча праявіліся гэтыя якасці ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Баявыя справы выхаванцаў Ленінскага камсамола ў гады барацьбы з нямецка-фашысцкімі захопнікамі ўвайшлі яркай старонкай у гераічны летапіс савецкага народа. У першыя дні вайны па заклiку ЦК ВЛКСМ 900 тысяч камсамольцаў пайшлі ў Чырвоную Армію. Кожны камсамолец лічыў сябе мабілізаваным на барацьбу з ворагам.

Маладое пакаленне, якому выпала абараняць Айчыну ад фашысцкага нашэсця, нарадзілася і вырасла пры Савецкай уладзе. Яно шчодра карысталася здабыткамі сацыялізма. З сацыялістычнай Радзімай было непарыўна звязана сучаснае і будучае моладзі. Вось крыніца таго масавага гераізму камсамольцаў і моладзі, які ў многім забяспечыў перамогу краіне, свабоду народу, шчаслівую будучыню моладзі. З вуснаў у вусны, з пакалення ў пакаленне будуць перадавацца легенды пра адважных воінаў, юных маладагвардзейцаў, няўлоўных мсціўцаў. Легенды панясуць у бяссмерце імёны бясстрашных сокалаў Радзімы, якія збівалі па 9 варожых самалётаў у адным баі, нават смерцю сваёй знішчаючы ворага.

У невялікім гарадку Обалі ёсць музей камсамольскай славы. Пра многае расказваюць яго залы...

Ад фашысцкай кулі ў 19 гадоў памірае сакратар падпольнага Любчанскага райкома камсамола Люся Сячко...

Наперадзе байцоў ідзе ў атаку камсорг батальёна гамяльчанін Барыс Царыкаў, якому за дзень да яго семнаццацігоддзя прысвоена званне Героя Савецкага Саюза...

Шаснаццацігадовы камсамолец Мікалай Гойшык з Івацэвіч цаной свайго жыцця перагароджвае шлях варожаму эшалону, які спяшаўся на фронт...

За галаву Элы Шубянок, арганізатара Тураўскага камсамольскага падполля, акупанты вызначылі ўзнагароду — 25 тысяч марак...

Цікавы лёс у віцебскага хлопца Юрыя Жданко: у дзесяць гадоў ён, стаўшы армейскім разведчыкам, здабыў план камандавання фашысцкай часці, вывеў батальён з акружэння. У адзінаццаць гадоў ён атрымаў права быць прынятым у рады Ленінскага камсамола.

Дарогі вайны — розныя. Адны вялі сыноў і дачок беларускага народа на перадавую, другія — да партызанскіх зямлянак, трэція ішлі насустрач цяжкасцям і смяротэльнай небяспецы камсамольскага падполля.

На Пулкаўскіх вышынях паблізу Ленінграда праславіў сябе снайпер, камсамолец з Быхаўшчыны Хвядос Смалячкоў.

Вызваляючы Румынію, кінуўся са звязкай гранат пад фашысцкі танк камсамолец са Смалявіч Віктар Тумар. Героем Алерона стаў мазыранін Уладзімір Антоненка.

Сыны і дочкі Беларусі ваявалі з фашыстамі ў Польшчы, Чэхаславакіі, Балгарыі, Югаславіі, Францыі, Італіі, яны разам з другімі здабывалі перамогу і сустрэліся ў Берліне.



Так адплаціла Беларусь за пакуты.

Серыя здымкаў **У. Дагаева.**



Мнагалюдная дарога вядзе да музея камсамольскай славы. Ідуць па ёй юнакі і дзяўчаты з усіх канцоў краіны — маскоўскія школьнікі, рабочыя Ленінграда, студэнты Ташкента, вучні Невеля... Іх бацькі таксама праходзілі тут, па нашай зямлі, з баямі. Многія аддалі за Беларусь сваё жыццё.

Блізкія людзям подзвігі абаронцаў Радзімы, іх хвалюе экспазіцыя музея, яны пакідаюць шчырыя запісы ў кнізе водгукаў. «Цяжка вы-



**Так бывае штогод. Учора здадзен апошні залік, а сёння пачынаецца працоўны семестр. Цягнік ідзе на цаліну.**

Фота **У. Дагаева.**



**На ўдарнай камсамольскай у Нова-Лукомлі.**

Фота **М. Мінковіча.**

казаць словамі, якое вялікае ўражанне зрабіла на нас усё, што мы ўбачылі ў музеі. Яно захаваецца на ўсё жыццё ў маёй памяці. Раскажу сваім выхаванцам падрабязна аб усім, пра што я даведалася і што ўбачыла», — піша Ганна Ціхамірава з Калініна. А масквічка Галіна Караленка дадае: «Кожны **дакумент — жывая праўда, якая** гаворыць пра тое, як смела і рашуча змагалася наша моладзь, не шкадуючы сябе, у імя светлых ідэалаў, у імя свабоды і шчасця роднай зямлі».

★

Яшчэ дыміліся пасля вайны руіны Мінска, а побач з лозунгам «Няхай жыве доблесная ўсеперамагаючая Чырвоная Армія» маладыя рукі прымацавалі ўжо заклік: «Хутчэй адновім сталіцу Беларусі — родны Мінск».

Па пуцёўках камсамола Беларусі больш за трыццаць тысяч маладых патрыётаў адбудоўвалі Мінск, Віцебск, Гомель і іншыя гарады, узнімалі з попелу спаленыя вёскі, будавалі заводы. У маі 1946 года камсамольцы Мінска звярнуліся да моладзі рэспублікі з заклікам пачаць ударнае камсамольскае будаўніцтва трактарнага і аўтамабільнага заводаў «Няхай удзел у будаўніцтве трактарнага і аўтамабільнага заводаў стане справай гонару кожнага з нас, — пісалі яны, — каб ужо ў самыя бліжэйшыя гады беларускія аўтамашыны пачалі свой імклівы бег па дарогах краіны, а беларускія трактары выйшлі на палі родных калгасаў».

Усяму свету вядомы вынікі самаадданай працы моладзі ў цяжкі пасляваенны час. Цяжкасці загартоўвалі моладзь. Разам з камсамолам краіны камсамольскія арганізацыі Беларусі пачалі масавае ўдарнае будаўніцтва важнейшых для народнай гаспадаркі аб'ектаў. Ударныя будоўлі трывала замацавалі пасляваенную славу камсамола. Больш дзесяці тысяч камсамольцаў за першую пасляваенную пяцігодку выканалі два пяцігадовыя заданні. У калгасах і саўгасах рэспублікі ўжо ў 1946 годзе працавала пяць тысяч камсамольска-маладзёжных звенняў высокага ўраджаю. Рэкордны ўраджай жыта — трыццаць цэнтнераў з гектара — сабрала палеская камсамолка Тамара Шкурко. Яна першая з маладых сельскіх працаўнікоў рэспублікі атрымала званне Героя Сацыялістычнай Працы.





★

Клапатлівыя і моцныя рукі лячылі параненую вайной рэспубліку. Гэта былі камсамольскія рукі. Цяжка было сцерці з твару зямлі сляды фашысцкага варварства. Але і на гэты раз, як заўсёды, савецкі народ, абапіраючыся на сваё падрастаючае камсамольскае пакаленне, з гонарам выйшаў пераможцам.

Яркай старонкай гераічных здзяйсненняў камсамола ў імя камунізма ўвойдзе подзвіг маладых патрыётаў, якія асвоілі 40 мільёнаў гектараў цалінных і абложных зямель Алтая і Казахстана.

Высокае пачуццё абавязку, рамантыка цяжкіх дарог прывялі каля 100 тысяч пасланцоў камсамола рэспублікі ў цалінныя стэпы, на будоўлі далёкай Поўначы і Усходняй Сібіры. Праца маладых беларусаў укладзена ў будаўніцтва Брацкай і Куйбышаўскай ГЭС, ліній высакавольтных перадач у неасвоеных раёнах краіны. Камсамол Беларусі актыўна шэфстваваў над будаўніцтвам складанай па інжынерных збудаваннях чыгункі Абакан — Тайшэт.



**Іх шмат на Беларусі — будоўляў, над якімі ўзяў шэфства камсамол. Гэта — капралактамавы завод у Гродне.**

**Фота Ю. Іванова.**



**На ўдарнай камсамольскай у Наваполацку. Ідзе мантаж устаноўкі газаразмеркавання.**

Фота **А. Саладухіна.**

Іван СТАСЕВІЧ. Клятва.

**З ВЫСТАЎКІ, ПРЫСВЕЧАНАЙ 50-ГОДДЗЮ ЛЕНІНСКАГА КАМСАМОЛА.**



Валянцін ЖДАНОВІЧ. Тачанка. З выступлення харэаграфічнага ансамбля Цэнтральнага дома культуры працоўных рэзерваў на юбілейнай спартакіядзе ў Мінску.



Мантажнік камсамолец Іван Вашкевіч на будоўлі капралактамавага свае зменныя заданні перавыконвае штодзень.

Фота **А. Мызнікава.**

Нялёгка было камсамольцам. Выстаялі. Кожны разумеў, што лёгкіх шляхоў у жыцці не бывае, а да шчасця вядуць цяжкія дарогі.



★

На працягу ўсіх пяцідзесяці гадоў камсамол не ведае супынку ў барацьбе і працы. Маладыя заўсёды будавалі і стваралі сваю будучыню, змагаліся за яе. І ў суровыя гады ваенных выпрабаванняў і ў гады напружанай стваральнай працы Ленінскі камсамол з гонарам спраўляўся з пастаўленымі перад ім Камуністычнай партыяй задачамі. Яго выхаванцы заўсёды былі ў авангардзе савецкай моладзі.

Жыццё пераканаўча даказала адзінства ўсіх камсамольскіх пакаленняў. Кожнае новае пакаленне савецкай моладзі ўносіць у будаўніцтва камунізма нешта сваё, адметнае. Інакш яно не было б новым пакаленнем, якое, абагуліўшы вопыт папярэдніх, на яго аснове забяспечвае далейшы прагрэс.

Складаныя і адказныя задачы ставіць перад Ленінскім камсамолам сённяшні дзень. Амаль палову насельніцтва нашай краіны складае моладзь. З кожнай тысячы інжынерна-тэхнічных работнікаў 430 — маладыя людзі. 45 працэнтаў моладзі — сярод навуковых супрацоўнікаў.

З кожнай тысячы токараў 700 — маладыя рабочыя. Маладзей за 30 гадоў кожны трэці работнік літаратуры і мастацтва.

Маладое пакаленне прымае на свае плечы ўсё большы і большы цяжар тых задач, якія стаяць перад грамадствам. У сувязі з імклівым развіццём народнай гаспадаркі, нараджэннем новых галін прамысловасці павышаюцца патрабаванні да прафесіянальнай кваліфікацыі.

Сёння іншы, чым раней, павінен быць агульнаадукацыйны і культурна-тэхнічны ўзровень моладзі. Задачы камуністычнага будаўніцтва патрабуюць ад юнакоў і дзяўчат заўсёднага неспакою, прагі ведаў, творчых адносін да працы, аналітычнага асэнсавання працэсаў і жыццёвых з'яў.

Характэрнай рысай работы камсамола ў наш час з'яўляецца рознабаковасць. Саюз моладзі ў нашы дні аб'ядноўвае ў сваіх радах большасць маладых рабочых і калгаснікаў, вучняў і маладой інтэлігенцыі.

У сувязі з гэтым усё больш і больш прыкметным становіцца ўклад Ленінскага камсамола ва ўсе галіны народнай гаспадаркі, навукі, культуры. Пераканаўчыя сведкі гэтага — біяграфіі людзей.

Пасля заканчэння сельскагаспадарчага тэхнікума Ганна Гарнак была накіравана на работу ў Аршанскі раён. Працавала аграномам калгаса, сакратаром камсамольскай арганізацыі. Паступіла на завочнае аддзяленне Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі ў Горках. Рэкамендавана райкомам камсамола старшынёй калгаса імя Калініна. Сёння Ганна Гарнак — дырэктар саўгаса «Бабінічы». Ёй 26 гадоў...







Шліфавальшчыца Ірына Жданава — член цэхавага камітэта камсамола на Кобрынскім рамонтным заводзе.

Фота **Я. Макарчука.**

Свінарка калгаса «17 верасня» Столінскага раёна Ніна Бакунец у 22 гады атрымала званне Героя Сацыялістычнай Працы...

Адным з першых у краіне «Ганаровым знакам ВЛКСМ» узнагароджаны Васіль Нікіценка, брыгадзір камсамольска-маладзёжнай брыгады будаўнікоў Салігорскага камбіната...

Яшчэ ў камсамольскім узросце атрымліваюць ступень доктара навук Уладзімір Спрынджук і Уладзімір Платонаў...

У 23 гады Галіна Лагунова выбіраецца намеснікам Старшыні Вярхоўнага Савета БССР...

Ва ўсіх кутках краіны выконваюцца песні, напісаныя маладым кампазітарам Ігарам Лучанком...

Сталі вядомымі ў краіне архітэктарамі лаўрэаты прэміі Ленінскага камсамола Беларусі Леанід Левін і Валянцін Занковіч...

Сотні славутых імён, тысячы патрэбных народу гераічных спраў, патрыятычных пачынанняў. У гэтым цудоўная асаблівасць нашага часу.

Сёння 840-тысячны атрад камсамола Беларусі, аб'яднаўшы ў сваіх радах лепшых сыноў і дачок нашага народа, умацоўваючы свае рады ў буднях вялікіх будоўляў, у штодзённым жыцці, становіцца ўсё больш і больш прыкметнай сілай грамадства. Наш саюз гатовы выканаць любое заданне Камуністычнай партыі. Традыцыі Ленінскага камсамола, якія ствараліся ў першыя гады Савецкай улады, загартоўваліся ў барацьбе з нястачай, з ворагамі Радзімы, у барацьбе за ўмацаванне ідэй сацыялізма, сягоння працягваюцца. Яны — у працы будаўнікоў ударных камсамольскіх аб'ектаў, у справах маладых наватараў і рацыяналізатараў, перадавікоў сельскай гаспадаркі, у творчых здабытках вучоных і інжынераў. Юнацтва рэспублікі за апошнія гады пабудавала гарады камсамольскай славы: Белазёрск, Наваполацк, Салігорск, Светлагорск.

Ударнае камсамольскае шэфства ажыццяўляецца над новай чаргой Салігорскага калійнага, Магілёўскага сінтэтычнага, Гродзенскага капралактамавага камбінатаў, Гомельскага суперфасфатнага завода, Лукомльскай ДРЭС. Юбілею

камсамола папярэднічала эстафета ўдарных камсамольскіх будоўляў. Яна як бы падводзіла вынікі выканання камсамольскіх абавязацельстваў. На ўсіх важнейшых новабудоўлях рэспублікі эстафета прайшла пад дэвізам «Пяцігодку — датэрмінова, якасць будаўнічых работ — выдатная, пускавым аб'ектам — ударныя тэмпы!»

На заводах і фабрыках, у калгасах і саўгасах камсамольцы і моладзь на працягу гэтага года, прымаючы высокія сацыялістычныя абавязацельствы, адкрывалі асабістыя рахункі працоўных падарункаў юбілею. Вядучымі сярод удзельнікаў спаборніцтва сталі камсамольскія арганізацыі Мінскага аўтамабільнага завода, завода «Гомсельмаш», калгаса «Іскра» Івацэвіцкага раёна і саўгаса «Навасёлкі» Петрыкаўскага раёна, камсамольскія арганізацыі гарадоў Мінска, Брэста, а таксама Навагрудскага, Нясвіжскага, Шклоўскага, Докшыцкага раёнаў.

Працоўную вахту ў гонар 50-годдзя ВЛКСМ нясуць тысячы маладзёжных калектываў. Для прыкладу возьмем дзве камсамольскія арганізацыі: завода «Гомсельмаш» і саўгаса «Сялецкі» Касцюковіцкага раёна. У юбілейным годзе моладзь «Гомсельмаша» важнейшай сваёй справай лічыць павышэнне прадукцыйнасці працы, якасці прадукцыі, эканоміі і беражлівасці. Вялікіх поспехаў дамагаюцца маладыя рацыяналізатары завода: толькі за шэсць месяцаў юбілейнага года яны падалі 321 рацыяналізатарскую прапанову. Ад укаранення ўжо ёсць 220 тысяч рублёў эканоміі.

Камсамольскія арганізацыі цэхаў, брыгад спаборнічаюць за права насіць імя 50-годдзя ВЛКСМ. На заводзе праводзяцца конкурсы на лепшага токара, фрэзероўшчыка, слесара і г. д. У 1968 годзе сто маладых людзей атрымалі званне «Лепшы малады рабочы завода», дзвесце членаў ВЛКСМ маюць званне ўдарнікаў камуністычнай працы.

Моладзь завода свята шануе памяць герояў-сельмашаўцаў, якія загінулі ў гады вайны. Ля мемарыяльнай дошкі з іх імёнамі гарыць вечны агонь, а права несці вахту ля яго прадастаўляецца лепшым камсамольцам. Штогод у Дзень Перамогі на заводзе праводзіцца эстафета, прысвечаная памяці першага сакратара камсамольскай ячэйкі завода Мікалая Дворнікава.

Па ініцыятыве камітэта камсамола на заводзе створаны спартыўна-аздараўленчы лагер, дзе праводзіцца падрыхтоўка дапрызыўнай моладзі. Сёлета тут усе 320 прызыўнікоў здалі нормы на значок «Гатоў да абароны Радзімы».

Асаблівым клопатам камсамольскіх арганізацый з'яўляецца павышэнне агульнаадукацыйнага і прафесіянальнага ўзроўню моладзі. Камсамольскія арганізацыі ўважліва сочаць за ростам маладых рабочых, рэкамендуюць лепшых у склад розных выбарных органаў. Шэсць маладых перадавікоў завода выбраны дэпутатамі гарадскога і раённага Саветаў дэпутатаў працоўных.

У саўгасе «Сялецкі» 157 членаў ВЛКСМ: 22 з іх працуюць у жывёлагадоўлі, 19 — механізатарамі і 109 — у паляводстве. Сярод брыгадных камсамольскіх арганізацый, у камсамольска-маладзёжных калектывах, на фермах, у механізаваных звеннях разгарнулася сацыялістычнае спаборніцтва за званне лепшага працаўніка па прафесіі. Кожная камсамольская група, кожны член ВЛКСМ прысвячае юбілеям канкрэтныя працоўныя абавязацельствы. І яны паспяхова выконваюцца. Даяркі Ніна Чэпікава, Раіса Лістраценка, Алена Сцебунова за першае паўгоддзе выканалі свае гадавыя абавязацельствы на 70 працэнтаў.

Вынікі сацыялістычнага спаборніцтва рэгулярна падводзяцца на камсамольскіх сходах, пасяджэннях камітэта камсамола. Пераможцы ўзнагароджваюцца граматамі, пераходнымі вымпеламі, каштоўнымі падарункамі, іх імёны заносяцца ў «Кнігу камсамольскай славы».

Камсамольцы і моладзь саўгаса аднаўляюць партызанскія зямлянкі ў вёсцы Трусок, даглядаюць брацкую магілу воінаў у вёсцы Сялецк, пабудавалі помнік-абеліск.

Па рэкамендацыях камітэта камсамола і дырэкцыі саўгаса вучацца завочна ў інстытутах і тэхнікумах 36 камсамольцаў (35 з іх — у сельскагаспадарчых), 13 юнакоў і дзяўчат займаюцца ў школах рабочай моладзі.

Па ўсёй рэспубліцы шырыцца агляд тэхнічнай творчасці моладзі, што праходзіць пад лозунгам: «Пяцігодцы — майстэрства і пошук маладых». Здзяйсняецца новая праграма ўдзелу камсамола ў далейшым павышэнні культуры вёскі.

Добры падарунак юбілею Ленінскага камсамола зрабіла студэнцкая моладзь рэспублікі. 15 тысяч студэнтаў вышэйшых навучальных устаноў і тэхнікумаў у часе працоўнага семестра будавалі 33 школы, 26 клубаў, 8 бальніц, 12 дзіцячых садоў і ясляў і шэраг іншых важных аб'ектаў. Асвоена 11 мільёнаў рублёў капіталаўкладанняў.



Важнейшы вынік дзейнасці камсамола — выхаванне цудоўнай савецкай моладзі, ідэйна загартаваных, палітычна пісьменных будаўнікоў камунізма. Відавочным з'яўляецца той факт, што павышэнне пачуцця класавай самасвядомасці моладзі, інтэрнацыянальнага абавязку, праяўленне высокіх маральных якасцей узаемазвязаны з актыўнай работай камсамола, якую ён вядзе пад кіраўніцтвам партыі.

Верны свайму інтэрнацыянальнаму абавязку, Ленінскі камсамол актыўна садзейнічае згуртаванню радоў прагрэсіўнага маладзёжнага руху свету, вядзе барацьбу супраць агрэсіўных імкненняў імперыялізму.

Падрыхтоўка да 50-годдзя Ленінскага камсамола ў гэтым годзе мела свой спецыфічны напрамак.

Па-першае, выхаванне моладзі праходзіць пры канцэнтраванні ўвагі на ўсім гераічным шляху Ленінскага камсамола. Камсамольскія арганізацыі выкарыстоўваюць вялікі выхаваўчы патэнцыял, створаны за паўвека дзейнасці ВЛКСМ, што дазваляла вельмі актыўна фарміраваць чалавека — грамадзяніна, змагара, патрыёта.

Па-другое, святкаванне юбілею камсамола супала са святкаваннем 50-годдзя БССР і КПБ, у сувязі з чым узнік заканамерны працэс узмацнення прапаганды гераічнага шляху Кампартыі і камсамола Беларусі, паказу дасягненняў нашага народа. Тых дасягненняў, якія вывелі раней адсталы і цёмны край дрымучых лясоў і палескіх балот у магутную савецкую сацыялістычную рэспубліку з развітай індустрыяй, эканомікай і культурай.

Па-трэцяе, узмацненне агрэсіўнай палітыкі імперыялізму, абвастрэнне міжнароднай абстаноўкі, агрэсія амерыканцаў у В'етнаме, узмацненне ідэалагічных дыверсій Захаду яшчэ больш дакладна вызначылі патрыятычную накіраванасць работы камсамола рэспублікі.



Урок грамадазнаўства ў дзесятым класе Верцялішскай школы на Гродзеншчыне вядзе старшыня калгаса «Прагрэс» дэпутат Вярхоўнага Савета БССР Фёдар Сянько.

Фота А. Мызнікава.



На барысаўскай фабрыцы піяніна. Фота Г. Бяліцкага.

Дастойная сустрэча паўвекавога юбілею Ленінскага камсамола — гэта і ўмацаванне нашай Радзімы, і актыўны ўдзел моладзі ў працы, і праяўленне стойкасці, актыўнасці і рашучасці ў барацьбе за перамогу ленінскай палітыкі Камуністычнай партыі. Сіла ідэйнай перакананасці маладога пакалення ў многім вызначаецца глыбінёй пазнання юнакамі і дзяўчатамі вопыту змагання старэйшых пакаленняў з класавымі ворагамі, пранікненнем у гісторыю станаўлення і развіцця сваёй сацыялістычнай Радзімы.

Кожнае новае пакаленне, уступаючы ў жыццё, імкнецца асэнсаваць і праверыць на сваім вопыце ідэалы і традыцыі сваіх папярэднікаў. Гэта ў поўнай меры адносіцца і да сучаснай моладзі. Ісці шляхамі рэвалюцыйных, баявых і працоўных традыцый стала сёння адзнакай эпохі, сімвалам нашага часу. Паход па месцах народнай славы ператварыўся за апошнія гады ў самы масавы і значны па глыбіні патрыятычны рух моладзі. Кожны яго ўдзельнік крочыць гераічнай жыццесцвярджальнай дарогай.

Ля вытокаў Ленінскага камсамола стаяла Камуністычная партыя. Пад яе кіраўніцтвам камсамол прайшоў слаўны, баявы шлях. Усімі сваімі поспехамі камсамол абавязаны пастаяннаму партыйнаму кіраўніцтву, бацькоўскім клопатам партыі аб лёсе падрастаючага пакалення — маладых будаўнікоў камуністычнага грамадства.

Наш народ можа з поўнай падставай ганарыцца сваім падрастаючым пакаленнем. Камуністычны Саюз Моладзі Беларусі, сустракаючы паўвекавы юбілей камсамола, яшчэ раз прадэманстраваў сваю вернасць традыцыям бацькоў-камуністаў, традыцыям старэйшых камсамольскіх пакаленняў.





# НА ЎСЁ ЖЫЦЦЁ

З успамінаў

Бабруйск — горад майго дзяцінства. У пярэдадзень Кастрычніка 1917 года там панавала незвычайнае ажыўленне. На вуліцах кожны дзень было шмат народу. Ішлі бесперапынныя маніфестацыі салдат і рабочых. Чырвоныя сцягі, лозунгі, чырвоныя банцікі на грудзях — усё гэта бударажыла нас, чатырнаццацігадовых падлеткаў, цягнула на вуліцу. І мы беглі за дэманстрантамі.

Запомнілася, як у адзін з веснавых дзён калона салдат звярнула з Мураўёўскай (цяпер Сацыялістычнай) вуліцы на Адамаўскую і спынілася каля дома гарнізоннага начальніка. На выклік дэманстрантаў выйшаў тоўсты, чырванашчокі царскі генерал. Салдаты патрабавалі, каб зняў пагоны, але ён адмовіўся гэта зрабіць: няма на тое загаду вышэйшага начальства. Два салдаты ўзняліся на ганак і сарвалі з яго пагоны, сказаўшы пры гэтым: «Вось табе і загад!»

У памяшканні гарадской гімназіі на рагу цяперашніх Сацыялістычнай і Гогалеўскай вуліц бесперапынна засядаў Бабруйскі Савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў. Вокны залы пасяджэнняў насцеж расчынены, і на вуліцы чутны галасы прамоўцаў. Мы паўзбіраліся на падаконнікі і слухаем іх. Сярод прамоўцаў пазналі прадстаўнікоў ад партыі бальшавікоў: Серабракова, Бральніцкага і іншых. Пазналі таму, што і раней чулі іх на мітынгах у гарадскім садзе. Прамовы бальшавікоў выклікалі гарачае адабрэнне дэпутатаў. Савет ішоў за бальшавікамі, за Леніным.

У свае чатырнаццаць гадоў я ўжо меў трохгадовы працоўны стаж. Бацькі вельмі хацелі даць мне хоць бы сярэднюю адукацыю. Але ва ўмовах царскага



Група сакратароў валасных камітэтаў і ячэек камсамола Бабруйскага павета. 1922 год.

ладу гэта было недасягальна. І замест вучобы ў вышэйшым пачатковым вучылішчы, куды я рыхтаваўся, я пайшоў працаваць, каб памагчы нашай вялікай сям'і. На дрывяным складзе я грузіў дровы на падводы, што развозілі іх па казармах.

У 1918 годзе Бабруйск быў акупіраваны корпусам белапольскага генерала Доўбар-Мусніцкага. Потым прыйшлі нямецкія акупанты. Бальшавікі пайшлі ў падполле, і з імі адным жыццём жыла рэвалюцыйная моладзь. Група моладзі, звязаная з бальшавіцкім падполлем, стварыла «Камсекнавуч» (камуністычную секцыю навучэнцаў). Яна разгарнула работу сярод падлеткаў, якія вучыліся ў шаўцоў, краўцоў, шчаціншчыкаў. Сярод гэтай моладзі ў той час вядомы ўплыў мела нацыяналістычная арганізацыя «Югендбунд». «Камсекнавуч» змагалася за тое, каб адарваць яўрэйскую моладзь ад «Югендбунда». Неўзабаве значная частка яе ўступіла ў камсамол.

Лістапад 1918 года. Бабруйскі камсамол выходзіць з падполля. З дапамогай гарадскіх камсамольцаў ствараюцца камсамольскія ячэйкі ў вёсцы. У Парычах, Старых Дарогах, Шчэдрыне былі арганізаваны валасныя ячэйкі.

У Бабруйску па Пушкінскай вуліцы ў двухпавярховым доме, адабраным у сіяністаў, быў заснаваны камсамольскі клуб. Многія камсамольцы запісаліся ў атрад, які пад камандаваннем Малаковіча накіраваўся на падаўленне стракапытаўскага мяцяжу ў Гомелі. Каля ста камсамольцаў-добраахвотнікаў пайшло на франты грамадзянскай вайны.

З вясны 1919 года бабруйскі камітэт камсамола стаў выдаваць у газеце «Коммунист» — органе павятовага камітэта КП(б)Б — сваю старонку «Красная молодежь». На гэтай старонцы пісалася, што газета будзе асвятляць шлях да пралетарскай рэвалюцыі, клікаць моладзь на бязлітасную барацьбу за дыктатуру пралетарыяту. У ліпені таго ж 1919 года адбыўся з'езд павятова-гарадской арганізацыі, дзе было прадстаўлена 300 камсамольцаў, з іх 50 было ў парыцкай ячэйцы, 30 — у шчэдрынскай, 15 — у старадарожскай. З'езд вітаў ад ЦК КПБ і ўрада БССР А. Р. Чарвякоў. У тым годзе меркавалася склікаць з'езд камсамола Літвы і Беларусі, але ў сувязі са становішчам на франтах з'езд быў адкладзены і замест яго скліканы дэлегацкі сход ад усіх мясцовых арганізацый. Толькі ў 1920 годзе, пасля вызвалення рэспублікі ад белапольскіх акупантаў, адбыўся першы з'езд камсамола Беларусі ў г. Мінску.

Восенню 1919 года Бабруйск зноў акупіравалі белапалякі. Насталі чорныя дні. Акупанты жорстка распраўляліся з бальшавіцкім падполлем. Удзельнікі падпольнай канферэнцыі — бальшавікі Баброва, Камінскі і іншыя былі расстраляны. У маі 1920 года акупанты расстралялі восем маладых партызан і іх кіраўніка, бабруйскага камсамольца Андрэя Кейпэ. Камсамолец Геклер быў пакараны за тое, што хаваў зброю. Такі ж лёс напаткаў і другога камсамольца — Золаціна, які распаўсюджваў падпольныя лістоўкі.

## З КАМСАМОЛЬСКАГА ЛЕТАПІСУ

### БАДЗЁРА І СМЕЛА ІДЗІЦЕ ДА ПЕРАМОГІ КАМУНІЗМА

Дарагія таварышы!

Сёння канчаецца пяты год існавання і дзейнасці вашага Саюза. Камуністычная партыя Беларусі з асаблівую ўвагаю сачыла за працаю і ростам вашага Саюза, бачачы ў ім найлепшага саюзніка свайго ва ўсе моманты рэвалюцыйнай барацьбы і будаўніцтва Савецкай улады.

У грамадзянскай вайне, у стварэнні Савецкай улады, у эканамічным узняцці краю, у прафесіянальнай дзейнасці,— усюды ваш Саюз быў нязменным і гарачым насіцелем ідэй камунізма, ідэй перамогі дыктатуры пралетарыяту.

З асаблівай надзеяю глядзела Камуністычная партыя Беларусі на вашу дзейнасць на вёсцы, дзе ваш Саюз ужо здолеў падняць, асвяціць, арганізаваць найбольш актыўную, свядомую частку сялянскай моладзі.

Вашу дружную сям'ю, шчыра аддану справе рэвалюцыі, нязменна верную інтарэсам працоўных мас, поўную імкнення да святла і навукі, да новага быту,— любяць і цэняць рабочыя і сяляне Беларусі.

Камуністычная партыя Беларусі шле сваё гарачае прывітанне ў дзень пятай гадавіны вашай упартай працы і жадае вам і надалей таксама бадзёра і смела ісці да перамогі камунізма, як ішлі вы да гэтага часу.

Цэнтральнае Бюро Камуністычнай партыі (бальшавікоў) Беларусі.

Газета «Савецкая Беларусь», 15 снежня 1923 г.





Чырвоная Армія ў ліпені 1920 года выгнала акупантаў з Беларусі, вызваліла Бабруйск. Гарадская камсамольская арганізацыя, выйшаўшы з падполля, узялася за аднаўленне свайго старога клуба, адабранага ў сіяністаў. Была праведзена перарэгістрацыя членаў камсамола, выбран камітэт.

Наш клуб быў цэнтрам збірання сіл і выхавання моладзі. Мы стварылі ў клубе бібліятэку і чытальню, драмгурток, спартыўныя гурткі. Кіраваць драмгуртком да нас прыйшоў беларускі артыст У. Уладамірскі, цяпер народны артыст СССР; Я. Цікоцкі, цяпер народны артыст СССР, тады кіраваў у нас музычнай часткай.

У нашым клубе працаваў буфет, дзе кожны мог бясплатна атрымліваць чай і хлеб з павідлам. Гэта было натуральна для таго часу: маладыя рабочыя прыходзілі сюды адразу пасля работы.

Пытанні інтэрнацыянальнага выхавання былі ў цэнтры ўвагі камсамола і яго клуба. Тады мелі месца праявы нацыяналізму, нацыянальнай абмежаванасці. Праўленне клуба прыняло меры, каб у хоры гучалі песні, любімыя нашай моладдзю: «Смела, таварышы, ў ногу», «Варшавянка», песні грамадзянскай вайны.

У асеннія дні 1920 года камсамол паслаў мяне на работу ў павятовае аддзяленне Цэнтрадруку. Уся літаратура тады раздавалася бясплатна. Перш за ўсё, вядома, забяспечваліся калектывы і арганізацыі. У нас былі творы класікаў — Талстога, Чэхава, Пушкіна, Лермантава, Горкага, палітычная літаратура — перш за ўсё творы Маркса і Леніна, брашуры пра бягучы момант і газеты.

Наша аддзяленне кожны тыдзень арганізоўвала ў гарадскім садзе «жывую газету». Самі аўтары чыталі свае артыкулы, фельетоны, вершы, паведамленні. Да ўсяго, што складае змест друкаванай газеты, дадаваліся ўперамешку канцэртныя нумары, якія выконвалі артысты, музыканты. Наша «жывая газета» збірала ў парк многа людзей і выклікала вялікую цікавасць.

У верасні 1920 года зноў аднавілася выданне камсамольскай старонкі ў газеце «Коммунист» пад назвай «Юный коммунист». У 1922—1923 гадах мне давялося яе рэдагаваць.

У 1921—1922 гадах гарком камсамола горача ўзяўся за стварэнне камсамольскіх ячэек у валасцях і вёсках павета. Мне, як супрацоўніку павятовай палітасветы, летам давялося абысці ледзь не палавіну валасцей павета, дзе адкрываліся хаты-чытальні, праводзіліся камсамольскія сходы і ствараліся новыя ячэйкі. У той час у нас ужо былі моцныя ячэйкі ў Гарбацэвічах, Асіповічах, Парычах, Старых Дарогах, Бацэвічах і інш. Адтуль выйшлі потым відныя камсамольскія дзеячы — сакратары ЦК ЛКСМБ Леў Соскін і Платон Галавач. Пасля першы з іх стаў інжынерам-хімікам, а другі — вядомым беларускім пісьменнікам.

З бабруйскай арганізацыі на партработу і ў навуку рушылі Коля Адзінец, Пеця Пячонка, Ваня Галодка, Віця Воінаў, Ваня Лук'яновіч, Марыя Давідовіч, Яша Ізакаў, Павел Казімірчык і многія іншыя. Нашы камсамоль-

## З КАМСАМОЛЬСКАГА ЛЕТАПІСУ

### ГЭТЫМ НАС НЕ ЗАПАЛОХАЮЦЬ

Заслухаўшы інфармацыю аб забойстве камсамольца юнселькора таварыша Лебедзева, пленум Гомельскага губкома РЛКСМ пастанаўляе:

Канстатаваць, што факт забойства юнселькора таварыша Лебедзева з'яўляецца не адзінкавым фактам подлых забойстваў з-за вугла сельскіх карэспандэнтаў з бандыцкіх абрэзаў.

Кулаччо хоча забойствамі лепшых прадстаўнікоў Савецкай улады ў вёсцы прымусіць нас пайсці на ўступкі, прымусіць нас здаць свае пазіцыі ў вёсцы.

Няхай жа ведаюць подлыя забойцы, што гэтым яны нас не запалохаюць: замест аднаго стануць сотні, якія, як і раней, цвёрда будуць працягваць сваю справу на баявым пасту камуністычнага друку. Абапіраючыся на іх, вясковая бедната праз свае сельсаветы зможа згуртавацца для дружнага адпору нахабнаму кулаччу.

Пленум губкома заяўляе: смерць таварыша Лебедзева цясней згуртуе камсамольскія карэспандэнцкія рады. Савецкі друк праз сваіх селькораў будзе зоркай сачыць за інтарэсамі беднаты ў вёсцы. Але гэтае забойства не можа застацца безпакараным.

Ад імя 5 тысяч камсамольцаў і многіх тысяч рабоча-сялянскай моладзі пленум губкома патрабуе ад пралетарскага суда паўтарыць прыгавор па справе забойцаў Маліноўскага. Тысячамі галасоў наша моладзь на гэта забойства дружна адкажа: «Прэч абрэзы, кулаччо, знай сваё месца!»

Газета «Набат молодёжи», 20 лістапада 1924 г.



Бабруйскі павятова-гарадскі камітэт камсамола ў 1922—1923 гадах.

скія актывісты былі, у поўным сэнсе, прыкладам для моладзі. Яны працавалі самаахвярна, не шкадуючы сіл і часу.

Актывісты, што жылі ў горадзе, увесь дзень і вечар знаходзіліся ў камітэце або клубе. Часта і начавалі там. Не раз ноччу сакратар гаркома паднімаў нас, актывістаў, і пасылаў у вёску, каб паспелі да раніцы туды, памагчы бюро ячэйкі скласці план, правесці сход, зрабіць даклад.

А мы ж былі зусім розныя і па характары і па душэўным складзе. Пеця Пячонка быў мяккі, дабрадушны, заўсёды ўсміхаўся, уважліва слухаў субяседніка і ўмела яго папраўляў. А Віця Воінаў—прамая супрацьлегласць: бурчаў, часам злаваўся, але абодва былі добрымі важакамі.

Не магу ўстрымацца, каб не ўспомніць добрым словам Яшу Ізакава. Гэта быў масавік і забаўнік, цудоўны артыст у драмгуртку. Пазней, стаўшы агітпропам, ён сабраў павятовую нараду ўсіх гарманістаў, каб пагутарыць з імі пра камсамол, пра партыю, зрабіць іх запяваламі сярод моладзі. Гэта была цікавая, карысная справа. Потым гарманісты скліканіся таксама ў маштабе рэспублікі.

Яша Ізакаў цяпер—дырэктар хіміка-фармацэўтычнага завода ў Свярдлоўску. Гэта прадпрыемства камуністычнай працы.

Восенню 1921 года ў наш камсамольскі клуб імя К. Лібкнехта прыйшла незнаёмая дзяўчына. Вельмі таварыская і абаяльная, яна адразу заваявала сэрцы нашай камсамоліі. Гэта была Вера Харужая—ураджэнка Бабруйска. Яна вярнулася з сям'ёй з Мазыра, дзе вучылася ў сярэдняй школе. Вельмі хутка яна з усімі пазнаёмілася, з многімі пасябравала, стала актыўным удзельнікам нашага камсамольскага жыцця. Заўсёды хадзіла на суботнікі, на заняткі ЧОНа, удзельнічала ў гуртках, была прапагандыстам. У нас яна тады ўступіла ў партыю. Ад нас паехала ў Мінскую саўпартшколу, а потым на падпольную работу ў Заходнюю Беларусь.

Праз многа гадоў, у 1932 годзе, будучы на нарадзе ў ЦК КП(б)Б, я даведаўся ад Адама Славінскага (у той час віднага дзеяча Кампартыі Заходняй Беларусі), што неўзабаве на граніцы з Польшчай адбудзецца сустрэча былых палітзняволеных, якія прыязджаюць у СССР у парадку абмену. Сярод вядомых дзеячоў нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі была і Вера Харужая.

Разам з дэлегацыямі ад партыйных, прафсаюзных і камсамольскіх арганізацый я выехаў на пагранічную станцыю Коласава. Глыбока запала ў памяці, як вязні фашысцкіх засценкаў ішлі да пагранслупа і, ступіўшы першы крок на савецкай зямлі, кланяліся ёй. Я адразу пазнаў Веру. Яна была ўсё такая ж, толькі бледная ў твары. Пераходзячы граніцу, былыя вязні спявалі «Інтэрнацыянал».





Работа нашага павятова-гарадскога камітэта тых гадоў абапіралася на самадзейнасць камсамольцаў. Апарат наш у 1922—1923 гг. складаўся з некалькіх чалавек. Напрыклад, я быў загадчыкам агітпропа, але зарплату атрымліваў у ваенкамаце, дзе таксама працаваў намеснікам начальніка ўсевеннавуча па палітчастцы. Гэты орган быў у складзе ваенкамата, і яго галоўнай задачай была ваенная і палітычная падрыхтоўка моладзі для службы ў Чырвонай Арміі. Смеласці ў нас было дастаткова, а вопыту і ўмення зусім мала.

Неўзабаве мяне выклікалі ў Мінск. Тых, хто працаваў па ўсеваеннавучу, сабралі ў Нарваенкамаце рэспублікі на нараду, якую праводзіў Мікалай Ільіч Падвойскі, адзін з відных удзельнікаў Вялікага Кастрычніка, саратнік У. І. Леніна. Мікалай Ільіч гутарыў з намі пра задачы ўсеваеннавуча, аб падрыхтоўцы палітычна пісьменных, фізічна загартаваных байцоў Чырвонай Арміі, якія валодаюць ваеннымі ведамі. Упершыню ў яго прамове прагучаў заклік да аб'яднання ўсеваеннавуча са спортам, да стварэння Спартцэнтра, галоўнай задачай якога з'яўлялася арганізацыя масавага фізкультурнага руху ў краіне.

І яшчэ аб адным масавым руху таго часу, арганізатарам якога быў камсамол. У 1923 годзе да нас у Бабруйск прыехаў Юры Каплан. Ён быў камандзіраваны ЦБ юных піянераў пры ЦК ЛКСМБ, каб арганізаваць піянерскі рух у нашым горадзе. На першым часе была створана агульнагарадская піянерская дружына пры гарадскім камітэце камсамола, затым пачалі ствараць піянерскія атрады на прадпрыемствах з дзяцей рабочых і служачых. Імі кіравалі камсамольскія ячэйкі.

У 1924 годзе мяне вылучылі на работу ў Мінскі акругком ЛКСМБ. Мінская камсамольская арганізацыя пад гэты час прыкметна ўмацавалася. З ростам прамысловасці ў горадзе выраслі і кадры рабочай моладзі. Уцягнуць яе ў камсамол, выхаваць, згуртаваць вакол партыі Леніна—такая была задача. Наша «Акцябрка»—так моладзь называла гарадскі райком камсамола, які працаваў сярод моладзі Мінскага чыгуначнага вузла. Сакратаром яго ў 1923—1924 гадах быў Сяргей Файланд. Хаця ён быў наш аднагодак, але прыйшоў у камсамол як пасланец партыі бальшавікоў, членам якой быў з 1918 года. Гэта быў вясёлы хлопец, палымяны прамоўца, любімец моладзі. Усебакова развіты, ён маляваў трапныя карыкатуры на актывістаў, потым яны былі выдадзены асобнай кніжкай.

У маёй памяці захавалася выступленне Сяргея Файланда на жалобным агульнагарадскім сходзе актыву партыйных, савецкіх, камсамольскіх і прафсаюзных арганізацый Мінска, прысвечаным памяці У. І. Леніна. Яго яркая, пранікнёная прамова была тады, у 1924 годзе, апублікавана ў газеце «Звязда».

«Акцябрка» была сапраўднай кузняй кадраў. Са школы фабрычна-заводскага навучання пры заводзе імя Мяснікова ўзялі тады старт на вялікія справы многія камсамольцы.

Мінскі акругком камсамола ў 1924—1925 гадах сярод многіх спраў асаблівую ўвагу аддаваў і літаратурным аб'яднанням, якія ў той час нараджаліся. Мінскія камсамольцы, паэты і празаікі, некаторыя з іх былі студэнтамі універсітэта і педтэхнікума, стварылі тады «Маладняк»—пісьменніцкую арганізацыю маладых літаратараў. Зачынальнікамі «Маладняка» былі Міхась Чарот, Андрэй Александровіч, Анатоль Вольны, Алесь Дудар. Пазней прыйшлі ў гэта аб'яднанне Платон Галавач, Пятрусь Броўка, Паўлюк Трус і іншыя.

Акругком і ЦК ЛКСМБ няспынна мацавалі сувязі са школамі і настаўніцтвам. Памятаю, у 1925 годзе нас, групу работнікаў ЦК, акругкомаў і райкомаў камсамола, паслалі ў Маскву на Усесаюзны з'езд настаўнікаў. Да адкрыцця з'езда ўсіх сабралі спачатку ў ЦК ВЛКСМ, а затым у ЦК ВКП(б) і папрасілі расказаць пра тое, як камсамол трымае сувязь з настаўніцтвам. Ад нашай дэлегацыі выступіў Сямён Ашаровіч, культпроп Кастрычніцкага райкома камсамола

## З КАМСАМОЛЬСКАГА ЛЕТАПІСУ

### КОЛЬКІ НАС!

...Камсамол Беларусі за апошнія 6 месяцаў узрос на 11 тысяч 408 чалавек. Усяго ў камсамоле Беларусі налічваецца 54 688 камсамольцаў (у тым ліку 2 875 кандыдатаў), 1 868 камсамольскіх ячэек...

Газета «Чырвоная змена»,
11 лістапада 1926 г.

г. Мінска. На з'ездзе настаўнікаў у Вялікім тэатры мы слухалі вельмі цікавыя выступленні выдатных дзеячоў партыі і дзяржавы — Наркомваенмора М. В. Фрунзе, правадыра нямецкага рабочага класа Эрнста Тэльмана і палымяную Клару Цэткін. Іх словы запалі глыбока, да гэтага часу, чую як яны гучалі...

Мінскі акругком камсамола праводзіў шырокія масава-палітычныя мерапрыемствы. Памятаю выступленні моладзі на вуліцах Мінска з яркімі дэманстрацыямі: у сувязі з забойствам у Варшаве савецкага пасла Войкава, магутную дэманстрацыю моладзі ў сувязі з забойствам на граніцы з буржуазнай Польшчай двух польскіх афіцэраў — Багінскага і Вечарковіча, якія павінны былі ў парадку абмену прыехаць у СССР. Такія выступленні служылі справе выхавання камсамольцаў у духу баявітасці, патрыятызму, згуртаванасці вакол партыі.

І яшчэ пра адну памятную сустрэчу хачу расказаць. У 1934 годзе мне давялося з групай дзіцячых пісьменнікаў і работнікаў Дзяржаўнага выдавецтва БССР быць на прыёме ў Надзежды Канстанцінаўны Крупскай. У дэлегацыі былі пісьменнікі Андрэй Александровіч і Алесь Якімовіч. З намі Надзежда Канстанцінаўна доўга гутарыла. Мне запомніўся яе расказ пра тое, як Уладзімір Ільіч цаніў добрую рускую казку, як строга адносіўся ён да афармлення кніжак для дзяцей, як абураўся тымі мастакамі, якія малявалі чалавечкаў з палачкамі замест рук і ног. Іменна для дзяцей мастак павінен даць малюнак рэалістычны, сапраўды мастацкі і пераканаўчы. Дзеці фальшы не прымаюць, — казала тады Надзежда Канстанцінаўна.

...Яшчэ было многа важных падзей і цікавых сустрэч. Але пра гэта іншым разам.

Залман ДАВІДОВІЧ,
член КПСС з 1924 года.

## З КАМСАМОЛЬСКАГА ЛЕТАПІСУ

1 чэрвеня 1934 года.

### НА КІРУЮЧАЙ ПРАЦЫ Ў КАЛГАСАХ

У вясенне-пасяўную кампанію ў выніку работы палітаддзелаў з асяроддзя камсамольцаў вылучана значная частка кіраўнікоў калгаснай вытворчасці. Па 26 палітаддзелах камсамольцаў старшынямі калгасаў працуюць 54 чалавекі, брыгадзірамі паляводчых брыгад — 157 чалавек, брыгадзіраў трактарных брыгад па ўсёй МТС налічваецца каля 200 камсамольцаў, прычым ў такіх МТС, як Капыль, брыгадзіры трактарных брыгад усе камсамольцы, па Рагачоўскай МТС — 3 камсамольцы, па Сенненскай МТС — 2 камсамольцы, па Дзяржынскай МТС — 3 камсамольцы.

Камсамольскія брыгады ішлі ўперадзе; у такіх палітаддзелах, як Дзяржынскі, Капыльскі, Хойніцкі, камсамольскае кіраўніцтва ў калгасах займае значнае месца.

Капыльская МТС — 4 старшычі калгаса камсамольцы, 18 брыгадзіраў; Хойніцкая МТС — 5 старшынь, 27 брыгадзіраў; Дзяржынская МТС — 3 старшыні, 16 брыгадзіраў; Заслаўская МТС — 5 старшынь, 4 брыгадзіры.

З фондаў партархіва ЦК КПБ. Арыгінал. Машынапіс.



**У МЯНЕ НА СТАЛЕ ДВА ФОТАЗДЫМКІ.** На адным — худзенькі хлапчук у касаваротцы і старой шапцы, з пачкам папер пад пахай. На адвароце надпіс: **«Грыша Лапіцкі. Хутар Кабанаўка Стрэшынскага раёна Бабруйскай акругі. 1925 год».**



Рыгор Лапіцкі.

На другім фотаздымку... О, гэты партрэт знаёмы многім! Не могуць не застацца ў памяці глыбокі жаночы позірк, высакародныя рысы твару і ледзь прыкметная ўсмешка на вуснах: **Ларыса Рэйснер.**

Самую выразную характарыстыку даў ёй часопіс «Красная новь»: «Ёй трэба было жыць і трэба было памерці дзе-небудзь у стэпе, у моры, у горах, з моцна сціснутай вінтоўкай ці маўзерам у руках, таму што яна вызначалася духам шукальніцтва, нястомнай рухомасці, смеласці, прагнасці да жыцця і моцнай воляю. Гэты ваяўнічы дух, не шкадуючы сябе, яна аддала рэвалюцыі».

Гэтая «нястомная рухомасць, прагнасць да жыцця» і скрыжавалі шляхі славутай публіцысткі і сялянскага хлопца з глухога беларускага хутара. Упершыню яны сустрэліся 14 лютага 1925 года ў Мінску ў зале Дома культуры на пасяджэнні Вышэйшага суда Беларускай рэспублікі. Яна прыехала на судовы працэс у якасці карэспандэнта газеты «Известия». Да гэтага Ларыса Рэйснер напісала ўжо нарысы пра баі на Волзе, пра баявы паход ад Ніжняга да Энзелі, аб Афганістане, аб Германіі, карэспандэнцыі з Урала і Данбаса. Дарэчы, яна не адна прысутнічала як карэспандэнт на гэтым працэсе — тут былі прадстаўнікі ўсіх цэнтральных і рэспубліканскіх газет, таму што ў лютым 1925 года вельмі горача было ў Мінску. Ад «Правды» прыехаў таленавіты фельетаніст Аляксандр Зорыч. Былі і замежныя журналісты. «Нават прадстаўнік жоўтай прэсы,— адзначала тады «Звезда»,— нью-йоркскага «сацыялдэмакратычнага» органа «Наперад», нібы «выпадкова» прысутнічае тут».

А прычынай усяму быў ён, Рыгор Лапіцкі з хутара Кабанаўка. Яго імем і быў названы гэты працэс: **«Справа селькора Лапіцкага».**

У беларускім аддзеле Дзяржаўнай бібліятэкі імя У. І. Леніна ёсць падшыўка «Звезды» за 1925 год. На яе старонках справа Лапіцкага асвятляецца больш чым на працягу дзесяці дзён — з нумара ў нумар амаль на ўвесь разварот.

...Малады чырвонаармеец Рыгор Лапіцкі, вярнуўшыся пасля грамадзянскай вайны, пачаў наладжваць савецкае жыццё ў роднай Кабанаўцы. Гэта было вельмі цяжка. Была пераможана знешняя контррэвалюцыя, але глыбока затаілася, замаскіравалася ўнутраная — кулацтва. Са свайго падполля яна і вяла смяротную барацьбу з Савецкай уладай. Кулакі пралезлі ў камітэты ўзаемадапамогі, у сельсаветы, а дзе-нідзе ў партыйныя органы. І, хоць у іхніх дзеяннях не апошнюю ролю адыгрываў абрэз, на першым месцы была хітрая тактыка выкарыстання цяжкасцей, якія сустракаліся ў першыя гады савецкай улады на вёсцы, тонкая дэмагогія.

Вось у такіх умовах і распачаў сваю працу новы сакратар Кабанаўскага сельсавета Рыгор Лапіцкі. І толькі ўнікнуўшы ў гэтую абстаноўку, можна зразумець, чаму на старонках «Звезды» ў спісе абвінавачваемых стаяць побач прозвішчы гарадскіх і вясковых «дзеячоў» — Дамброўскага, Аўсянікава, Лавецкага і іншых. Гэты працэс сапраўды стаў «зрываннем усіх і ўсялякіх масак».

# ШТОСЬЦІ БОЛЬШАЕ, ЧЫМ ЛІТАРАТУРА...

У абвінаваўчым акце сказана нібыта пра ўсё. І пра тое, як змагаўся Лапіцкі з мясцовым багацеем, арганізатарам «сельгаскамуны» кулаком Васіленкам, які прысвоіў зямлю беднякоў; і як патрабаваў сакратар сельсавета выселіць шайку зладзеяў і бандытаў Палятнёвых, якія тэрарызавалі ўсю акругу; і як пісалі падкулачнікі на сакратара брудныя даносы і паклёпы ва ўсе інстанцыі; як упершыню ў жыцці звярнуўся Рыгор Лапіцкі за дапамогай у газету (гомельская «Новая деревня» надрукавала яго заметку «Шайка махляроў»); як паслугачы кулакоў зрывалі нумары насценгазеты «Наш селькор», што выпускалася ў Кабанаўцы, як адбіралі яны ў селькора кнігі і забаранялі весці падпіску на газеты і часопісы; і як яго, прывязанага да падводы, працягнулі праз усё сяло і пасадзілі ў яму, нібы «контррэвалюцыянера».

І вось суд. Ён праходзіў аднначасова з Першым Усебеларускім з'ездам селькораў. Гэта стварыла на з'ездзе наэлектрызаваную атмасферу, якую добра перадае заметка М. Грузінава, надрукаваная ў «Звезде»:

*«І тут, на з'ездзе, рыхтуецца навальніца. Кожнае «такое» выступленне, дзе растворана крыўда, дзе на твары высечаны сляды ганенняў, сустракаецца бурою воплескаў. А ў іх — і боль знявагі, і нарастаючы гнеў, і ўпэўненасць у магутнай абароне партыі...*

*— На з'ездзе брат забітага селькора Ракушава! Ёсць прапанова запрасіць яго ў прэзідыум!*

*Грыміць гром... Гэта воплескі.*

*— Слова ў спрэчках атрымлівае таварыш Лапіцкі!..*

*Магутным выбухам — воплескі...*

*— Нас не спалохалі калчакоўскія маўзеры. Нас не спалохае кулацкі абрэз,— гаворыць Рыгор Лапіцкі.*

*Нарастае бура... Ужо бліскаюць маланкі.*

*Адчуваецца блізкасць «справы Лапіцкага».*

*Героі абрэза, устаць! Суд ідзе!».*

Суд доўжыўся дзесяць дзён. Такі тэрмін спатрэбіўся, каб высветліць ступень віны кожнага з дзесяці падсудных. Дзесяць дзён разблытваўся на вачах у трох тысяч сведкаў клубок брудных кулацкіх камбінацый, даносаў, крадзяжоў... Адкрытых замахаў на Рыгора Лапіцкага не было. Усё зводзілася да таго, каб ашальмаваць, зганьбіць працу селькора, аб'явіць яго контррэвалюцыянерам... Разабрацца ва ўсім гэтым было не так проста. І Ларыса Рэйснер з уласцівай ёй прагай ісціны ўзялася за справу.

У Маскве ў аддзеле рукапісаў Дзяржаўнай бібліятэкі імя У. І. Леніна ў фондзе Л. М. Рэйснер захоўваецца папка з надпісам: **«Матэрыялы, звязаныя з паездкай у Беларусь. 1925 г.».** У папцы два невялікія вузкія блакноты, спісаныя дробнымі літарамі, простым алоўкам. Частка запісаў на нямецкай мове. Прачытаць запісы ў блакнотах даволі цяжка. Але для тых, хто знаёмы са справай Рыгора Лапіцкага, з гэтых запісаў ясна паўстае малюнак карпатлівай штодзённай працы журналісткі на судовым працэсе. Здзіўляе мноства запісаў пра сацыяльна-эканамічнае становішча Беларусі наогул і беларускай вёскі ў прыватнасці, запісаў пра сельскую гаспадарку і пра землеўпарадкаванне рэспублікі. Вывучыўшы становішча ў вёсцы, Ларыса Рэйснер зрабіла тонкі аналіз характару многіх удзельнікаў працэсу. У абодвух блакнотах некалькі дзесяткаў запісаў — кароткіх біяграфій кожнага падсуднага і сведак.

А побач запісы-партрэты, неабходныя для будучых нарысаў. Вось некаторыя з іх:

*«Дамброўскі (пра яго гаварылі, што гэта падпольны адвакат). Сцвярджае, што не ведаў, што Лапіцкі — селькор. Адмаўляе сваю заяву: «Усе, хто выпісаў газеты праз Лапіцкага, іх не атрымаюць».*

*«Калі б людзі насілі вопратку, адпаведную свайму ўнутранаму сэнсу, мог бы выбраць кашулю паласатую, як шлагбаум».*

*«Палятнёў Іван. Ведае за што яго ўзялі — вялікі пярэпалах сапраўднага бандыта».*

*«Васіленка. У час польскага наступлення Васіленка едзе за Беразіну з планам да памешчыка Пляханава. Паказвае, дзе бальшавікі».*

Асобная старонка ў блакноце пад загалоўкам **«Парадак»** раздзелена на шэсць пунктаў. Гэта план мерапрыемстваў Рыгора Лапіцкага — як ён збіраўся поўнасцю ўстанавіць савецкі парадак.

*«1. Лапіцкі ў сельсавеце з лістапада 1922 года па лістапад 1923.*

*2. З першых дзён работы — барацьба з Васіленкам за свіран і хутары, раздача хутароў людзям.*

*3. Заметка ў «Новой деревне» — супраць Новікава.*

*4. Выкрыццё зладзеяў і ліквідацыя зброі.*

*5. Занясенне на чорную дошку, каб не пралезлі ў сельсавет — Васіленка (кулак), Новікаў (царкоўнік) і зладзеяў — усю шайку.*

*6. Перавыбранне камітэта ўзаемадапамогі».*



На трэці дзень працэсу ў «Звезде» быў надрукаваны пачатак нарыса Ларысы Рэйснер **«Селькор Лапіцкі»**. 15 лютага было змешчана яго заканчэнне. 17 лютага «Звезда» надрукавала нарыс «Лясны чалавек» — пра Аўсянікава. Гэтыя нарысы ў значнай ступені садзейнічалі выкрыццю злачынцаў. М. Жываў пісаў пра гэта ў «Известиях» 11 лютага 1926 года, праз два дні пасля смерці Ларысы Міхайлаўны Рэйснер:

«Ёй мала было сядзець на судзе, сачыць за ходам працэсу і запісваць звычайныя ўражанні.

— Адчуваю,— расказвала яна,— што тут нешта недагаворана... Адклікаю Лапіцкага і кажу: «Паслухай, таварыш Лапіцкі, прыходзь да мяне вечарам. Пагутарым...»


Ларыса Рэйснер.

Лапіцкі прыйшоў. За поўнач зацягнулася гутарка, амаль уся ноч спатрэбілася, каб напісаць артыкул, а раніцай быў перададзены па тэлефоне ў «Известия» фельетон пра былога гарадавога Васіленку (Жываў памыліўся, гэта быў нарыс пра Аўсянікава «Лясны чалавек».— **С. Б.**), да таго часу непрыкметную фігуру на працэсе, проста сведку. Калі газета з фельетонам прыйшла ў Мінск, яе трымалі перад сабой і суддзі, і падсудныя, і сведкі... Васіленка злоснымі і пагрозлівымі вачыма пазіраў на гэтую «храбрую жанчыну», што асмелілася зняважыць «яго гонар». Але артыкул даў вынікі: Васіленка са сведак быў пераведзены ў падсудныя і ўзяты пад варту. І так заўсёды і ва ўсім...»

Не толькі Аўсянікаў пазіраў з лавы падсудных са смяротнай нянавісцю на Ларысу Рэйснер. Былі такія вочы і ў глядзельнай зале. У тым жа аддзеле рукапісаў Дзяржаўнай бібліятэкі імя У. І. Леніна ёсць пісьмо да Ларысы Рэйснер ад хітрага і злоснага ворага, дакумент, прасякнуты тонкай дэмагогіяй. На канверце адрас: «Спешна. Наркамюст, публіцыстцы Ларысе Рэйснер». Зваротны адрас: «Мінск, зала суда па справе Лапіцкага». Ліст падпісаны: «Беспартыйны селянін Андрэй Якімовіч». Звярніце ўвагу на стыль і лексіку «беспартыйнага селяніна»:

*«Ларысе Рэйснер і А. Зорычу. Дазвольце ісці напраcткі. У вашай асобе я бачу сапраўдных мастакоў слова. Я рады за Мінск, рады за «Звезду», што святкуе свой бенефіс, змяшчаючы Вашы моцныя хірургічныя артыкулы. Чаго варты «Лясны чалавек» Рэйснер або «Невядомы грамадзянін» Зорыча? Ваша роля ўдзячная і своечасовая. Але чаму Вы ўдзельнічаеце ў непрыстойнай гульні? Чаму перагінаеце палку?.. Я гэтым не хачу сказаць, што не трэба жалезным прасам выводзіць такія плямы на савецкім жыцці, як Аўсянікаў і Шырокаў, але Дамброўскі і Маршакоў, ва ўсякім выпадку, нічым не горшыя ад ўслаўленага Вамі Лапіцкага; магчыма, яны больш сумленныя, чым ён. Навошта ж Вы акружылі арэолам стаіцызму і бескарыслівасці Лапіцкага і зрынулі ў прах гэтых двух нешчаслівых працаўнікоў Савецкай улады? Гэта недаравальнае перабольшанне першага і інсінуацыя да двух апошніх. Гэты ж фарс зараз стане вядомы буржуазнай прэсе, якая будзе мець права перад сваімі рабочымі звергнуць Вас з прастола непадкупнай Савецкай прэсы. Вашым вострым пяром трэба знішчаць сапраўдных ворагаў краіны Саветаў і выступаць у абарону яе дастойных сыноў. Але тут канфуз, тут зусім недарэчы Вы так старанна ўзялі пад сваё крыло такога шмагграннага «тыпа», як Лапіцкі... Калі Ларыса Рэйснер так тонка разбіраецца ў душы «гарадавога, цыгана і пагранічніка», дык ёй трэба не праз дымчатыя акуляры, не захапляючыся працэсам, а бліжэй прыглядзецца да тыпу Лапіцкага. Магчыма, ён прыстойны селькор, але мае патрэбу ў добрай адцяжцы, магчыма, звыш меры зазнаўся. Калі Вам гэтая задача акажацца не пад сілу, звярніцеся за дапамогай да добрага псіхолага, знаўцы людзей, але не перагінайце палкі... Вярнуўшыся ў Маскву, скажыце, каму належыць, што нам даўно пара ўжо спыніць гэтыя шабаш ведзьмаў. Аб атрыманні гэтага пісьма не адмоўце паведаміць у паштовай скрынцы «Звезды» па маім адрасе.*

*Прабачце за дзёрзкасць парады, але пішу Вам, як верны сябар і гарачы Ваш прыхільнік.*

*Беспартыйны селянін*
*Андрэй ЯКІМОВІЧ.*

*18 лютага 1925 г.».*

Кіпела нянавісць і свярбелі рукі не толькі ў аўтара «сяброўскага» пісьма «беспартыйнага селяніна», які сядзеў у зале суда. Справа Лапіцкага літаральна прыводзіла ў шаленства эмігранцкі белагвардзейскі друк. Газета «Руль», што выходзіла ў Берліне, пісала: «Селькоры сапраўды прадстаўляюць найвялікшае зло, яны сапраўды каламуцяць вёску, нацкоўваюць адну яе частку на другую, і не дзіўна, што нягледзячы на ўсе прынятыя меры, жорсткі гвалт над селькорамі працягваецца, ператварыўшыся ў бытавую з'яву». І пра самога Лапіцкага: «Хітры шэльма,— не зусім дакладна або, у кожным разе, няпоўна характарызуе Лапіцкага».

Газета «За свободу» проста захлыналася шалёнай слінаю: «Само па сабе катаванне селькораў (і камуністаў наогул, што таксама робіцца бытавою з'явай) можна толькі вітаць, як знішчэнне агентаў бальшавіцкай улады, як знішчэнне шкодных гадаў, народжаных брудам і ядавітаю цвіллю чэкісцкага падвала, у якую павергнута наша няшчасная краіна».

Вось так знешняя контррэвалюцыя ў асобе банкіра Камінкі, выдаўца «Руля», і Арцыбашава, публіцыста газеты «За свободу», працягнула руку ўнутранаму ворагу Савецкай улады, жыркаўскаму «цару і богу» Аўсянікаву.

Ларыса Рэйснер не адказала «беспартыйнаму селяніну», таму што ўсё было сказана ў яе нарысах. Як адказ яму прагучала прамова грамадскага абвінаваўцы Аляксандра Зорыча, сказаная вечарам 18 лютага. Зорыч заявіў: **«І трэба сказаць тут з усёю упэўненасцю, што ўскрыццю гэтага нарыву мы, у першую чаргу, абавязаны Лапіцкаму, хлапчуку-чырвонаармейцу з закінутага, абстралянага хутарка».**

Рыгор Лапіцкі не здаваўся ні перад якімі пагрозамі. Ён пісаў адну заметку за другой, выкрываючы ворагаў. А калі стала зусім невыносна, напісаў у «Праўду». Газета адразу ж адгукнулася на пісьмо селькора. З гэтага і пачалося...

Пісьмы, заметкі Лапіцкага... З якой беражлівою ўвагаю вывучала іх Рэйснер. З якой пранікнёнасцю аналізуе славутая журналістка творчасць свайго калегі:

*«Лапіцкі ніколі не быў выдумшчыкам-літаратарам у звычайным сэнсе гэтага слова. Страсным журналістам яго зрабіла барацьба за рэвалюцыю і яе правы. За селькораўскае пяро ён узяўся, як браўся на фронце за вінтоўку і кулямёт. У яго руках яно стала страшнай зброяй класавай барацьбы — кожная новая заметка, як снарад, разрывалася над галавою лютуючай банды. Падпісчыкаў сваёй газеты ён вербаваў, як добраахвотнікаў у партызанскі атрад. Як на фронце перадавыя пасты — абходзіў іх у любое надвор'е, удзень і ўначы, пешшу па пустых дарогах мясцовасці, занятай ворагамі, рызыкуючы быць падстрэленым з-за кожнага вугла. Пісьменнік-воін, карэспандэнт, які змацоўваў крывёю кожны радок сваіх кароткіх, нібы баявыя загады, заметак, узрыўнік, які адзін працуе у тыле — самым сэрцы кулацкай і дэзерцірскай крэпасці.*

*Газетны аркуш — дрэннае ўкрыццё. Гэта вайна без адступлення. Селькор заўсёды на вачах, заўсёды на тым жа месцы прыкаваны да сценкі, на якой вывешана створаная ім насценгазета. Лёгка нам: пішам дзесьці на недасягальнай вышыні — пайдзі, злаві вольнага газетчыка! Але пісаць і жыць сярод тых, на каго нападаеш, пісаць пад дулам абрэза, пазіраючы ў твар непазбежнай адказнасці,— штосьці большае, чым літаратура».*

20 лютага працэс закончыўся. Суддзі пасля васьмігадзіннай нарады вынеслі прысуд. Аўсянікаву расстрэл замянілі пазбаўленнем волі са строгай ізаляцыяй на дзесяць гадоў. Дамброўскі быў асуджаны на пяць гадоў. Па заслугах атрымалі і астатнія...

...Раз'ехаліся ўдзельнікі вялікага працэсу. Ларыса Рэйснер паехала ў Маскву. А Рыгор Лапіцкі застаўся ў Мінску вучыцца на курсах селькораў. Але сяброўскія адносіны, што ўзніклі паміж імі ў часе суда, не абарваліся. У архіве Л. Рэйснер захаваліся два лісты Рыгора Лапіцкага да яе. Першы, віншавальны, напісаны 8 сакавіка 1925 года. Р. Лапіцкі ўласнаручна ўпрыгожыў канверт святочнай сімволікай: чырвоныя сцягі, чырвонаармеец са зброяй... Аптымізм юнага селькора, які толькі што атрымаў вялікую перамогу, проста бурліць у гэтым пасланні...

*«Масква, вул. Гранойскага, д. 3, кв. 98. Ларысе Міхайлаўне — ад селькора прывітанне!*

*...Шлю сардэчнае селькораўскае прывітанне жанчынам усяго свету, якія адстойвалі, адстойваюць і будуць адстойваць заваёвы Кастрычніка. Жанчына-сялянка і сельскую гаспадарку трымала адна, без мужчын, добраахвотныя ахвяраванні несла Чырвонай Арміі, разгортку плаціла і з падводай у першыя шэрагі агню трапляла... Разняволення дамагліся жанчыны. Трэба толькі яго ўтрымаць!»*

Праз два дні пасля адпраўкі гэтага ліста Р. Лапіцкі быў ужо ў Маскве і паслаў Л. Рэйснер запіску, якую ён напісаў на роднай мове:

*«Цётка Рэйснер!*

*Я сёння маю шчасце папасць на Усесаюзны з'езд селькораў. Вельмі цікаўлюсь, каб пабачыць цябе, цётка Мар'я (Лапіцкі чамусьці падумаў, што па беларуску будзе не Ларыса, а Мар'я.—* **С. Б.**). *Я б табе сказаў бы, што зрабіў таварыш Хрыд, бо я яго бачыў сёння: ён ехаў у Віцебск чыгункай. Я ж зараз маю шчасце быць у прэзідыуме з'езду вясковых карэспандэнтаў у Маскве.*

*3-й дом Саветаў.*

*Вітаю цябе, Мар'я Міхайлаўна.*

*Селькор Г. К. Лапіцкі.*

*11 сакавіка 1925 года».*




**Рэгулярна вяла газета «Беларуская вёска» раздзел «Куток селькора», у якім часта выступаў Рыгор Лапіцкі.**

На гэтым з'ездзе сакратар «Правды» Марыя Ільінічна Ульянава ўручыла Р. Лапіцкаму ганаровую грамату.

Ці сустрэліся тады ў Маскве Ларыса Рэйснер і Рыгор Лапіцкі — пакуль невядома... Відавочна, сустрэча адбылася, проста не магла Л. Рэйснер быць у Маскве і не пайсці на гэты з'езд.

У гадавіну з дня працэсу ў Мінску Ларысы Міхайлаўны не стала. А як жа склаўся далейшы лёс Рыгора Лапіцкага? Ніякіх дакументаў адшукаць не ўдалося. Тады я накіраваўся ў Жлобінскі раён, у склад якога зараз уваходзяць вёскі Кабанаўка і Жыркаўка, дзе ў сярэдзіне дваццатых гадоў разгарнуліся апісаныя вышэй драматычныя падзеі. Высветлілася, што малодшы брат Лапіцкага Цімох Конанавіч прадаў нядаўна бацькаў дом у Кабанаўцы і пераехаў у суседнюю вёску Шыхаў. Там, у Шыхаве, і пачуў я ад яго сціслае апавяданне пра лёс старэйшага брата. Рыгор Лапіцкі закончыў у Мінску Вышэйшую сельскагаспадарчую школу. Пасля працаваў на ўмацаванні калгасаў у Халопеніцкім раёне. Працаваў у хаце-чытальні, быў настаўнікам, старшынёю калгаса. У пачатку трыццатых гадоў яго накіравалі выкладчыкам рускай мовы ва Узбекістан, станцыя Гразь. Праз год Р. Лапіцкі пераехаў у Ташкент і працаваў там у школе. У 1947 годзе Рыгор Конанавіч Лапіцкі памёр там жа, у Ташкенце. Вось, уласна, і ўсё...

У Жыркаўцы адшукаў я яшчэ аднаго сведку, дакладней, не сведку, а актыўнага ўдзельніка тых далёкіх падзей — Галакціёна Чырвонцава. Таго самага Чырвонцава, якога жыркаўскія сяляне паслалі разам з Рыгорам Лапіцкім у Мінск пасля няправільнага падзелу зямлі кулакамі. Чырвонцава тады кулакі з дапамогай стрэшынскай міліцыі затрымалі і пасадзілі ў турму, а Рыгору Лапіцкаму ўдалося прабрацца да Мінска, трапіць на прыём да сакратара ЦВК Чарнушэвіча і перадаць яму заяву сялян.

Галакціёну Іванавічу больш за семдзесят. Але ён бадзёры, здаровы і цудоўна ўсё памятае: і як заступіліся сяляне за Рыгора Лапіцкага, калі яго хацелі арыштаваць; і як прыязджаў у Жыркаўку і хадзіў па хатах, апытваючы людзей, маскоўскі журналіст Аляксандр Зорыч; як у дні працэсу Ларыса Рэйснер,— «можа ведаеце, славутая была такая пісьменніца, вельмі прыгожая жанчына»,— сустракалася з Лапіцкім, гутарыла са сведкамі.

— А што вы ведаеце пра далейшы лёс Рыгора Лапіцкага?

Галакціён Іванавіч разводзіць рукамі... Так, жыццяпіс яго яшчэ не закончаны. Ларыса Рэйснер напісала ўсяго некалькі, напэўна, самых яркіх яго старонак. Яно яшчэ чакае сваіх даследчыкаў, гэтае незвычайнае жыццё беларускага селькора Рыгора Лапіцкага.

**Сямён БУКЧЫН.**

## ІМЁНЫ СТАЛІ ВЯДОМЫЯ

Слаўнымі баявымі справамі ў гады фашысцкай акупацыі адзначаны шлях камсамольцаў-падпольшчыкаў Брэста. Юныя краязнаўцы выявілі невядомыя імёны ўдзельнікаў брэсцкага камсамольскага падполля, дапамаглі раскрыць іх подзвігі.

...На адным з дамоў Пушкінскай вуліцы вывешана мемарыяльная дошка. На ёй напісана: **«Тут у гады Вялікай Айчыннай вайны па заданню партыйнага падполля працавала ў аптэцы Галіна Аляксандраўна Аржанава — сакратар падпольнай камсамольскай арганізацыі, сувязная партызанскіх атрадаў. У снежні 1943 года пасля зверскіх катаванняў гітлераўцы павесілі адважную патрыётку».**

Хто ж яна, гэтая бясстрашная дзяўчына?

Галя Аржанава нарадзілася 5 красавіка 1922 года ў горадзе Валакаламску Маскоўскай вобласці ў сям'і служачага. Вучылася ў Ленінскай няпоўнай сярэдняй школе, якую закончыла ў 1936 годзе. Паступіла потым у Маскоўскі фармацэўтычны тэхнікум, які скончыла ў 1940 годзе і атрымала накіраванне ў Брэст.

Вайна застала Галю ў Брэсце. Па заданню падпольшчыкаў яна паступіла на працу ў аптэку і перадавала медыкаменты для партызанскіх атрадаў.

У адпаведныя дні ў аптэку прыходзілі сувязныя Марыя Жыгмант і Аляксандра Несцерава. Галя ўручала ім пакецікі, якія праз явачныя кватэры перадаваліся партызанам.

У снежні 1943 года на след падпольшчыцы напаў правакатар. Галю арыштавалі. Пра тое, як яе дапытвалі, відаць з Галінай запіскі, перасланай Кацярыне Цітаўне Семянковай: «Злітуйцеся нада мною, мая родная! Перашліце мне атруту. Лёс мой вырашаны. Цяжкая не смерць, а катаванні. Няма сілы цярпець. Пашкадуйце мяне. Бывайце! Галя».

Усе спробы выкупіць Галю не ўдаліся. Гітлераўцы пасля здзекаў і катаванняў павесілі яе на турэмным двары ў канцы снежня 1943 года. На грудзях у яе вісела дошчачка з надпісам: «Партызанка».

Імя Галіны Аржанавай цяпер вядома ўсім брэстаўчанам: актыўная патрыётка пасмяротна ўзнагароджана ордэнам Айчыннай вайны І-й ступені.

●

У абласным краязнаўчым музеі ёсць фотакартка маладой прыгожай жанчыны. Усмешлівы твар, прыгожыя вочы. Гэта Антаніна Васільеўна Касаткіна. Камсамолка. Бясстрашная гераіня брэсцкага падполля.

Застаўшыся ў акупіраваным фашыстамі Брэсце, Антаніна Касаткіна звязала свой лёс з падполлем. Спачатку падпольшчыкі збіраліся ў яе на кватэры па вуліцы Гогаля, 13. Тут кіраўнікі падпольных груп Пятро Жулікоў і Васіль Несцярэнка праводзілі нарады, давалі заданні сваім людзям, наладжвалі новыя сувязі.

Неўзабаве і другая кватэра ў доме № 53-а па Камсамольскай вуліцы, куды пераехала Антаніна Касаткіна, стала месцам яўкі. Падпольшчыкі прымалі па радыё звесткі Саўінфармбюро, размнажалі і распаўсюджвалі іх у горадзе.

Захаваўся здымак, зроблены ў 1942 годзе ўдзельнікам брэсцкага падполля Уладзімірам Лупейкам: падпольшчыкі на кватэры Антаніны Касаткінай слухаюць перадачу з Масквы.

У канцы 1942 года і вясною 1943 года, калі ў горадзе пачаліся масавыя арышты, многія падпольшчыкі вымушаны былі пайсці ў лес, да партызан, але Антаніна Касаткіна засталася на баявым пасту. Гэтая мужная жанчына рызыкавала не толькі сабою, але і жыццём сваіх дзяцей. У той час яе сыну Барысу было крыху больш за тры, а дачцы Эльвіры каля двух гадоў.

У маі 1943 года Антаніна перадала партызанам каштоўныя звесткі. Яе нечакана схапілі гестапаўцы і чатыры дні па-зверску катавалі, а потым расстралялі.






Галіна Аржанава.


Антаніна Касаткіна.



Тоня Дрозд.

Захаваўся ўспамін настаўніцы А. Палхоўскай пра апошнія хвіліны жыцця разведчыцы. «Гэта было ў маі 1943 года. Неяк надвячоркам я корпалася на гародзе. Гляджу, побач паліцаі капаюць яму. А потым прывялі жанчыну і паставілі яе на самым краі. Стройная, з русай касою, яна была вельмі прыгожая. Толькі твар у сіняках, і вопратка парваная. Рыжы ссутулены паліцай падышоў да яе блізка і нешта сказаў. Жанчына схамянулася, плюнула яму ў твар. У гэты момант грымнуў стрэл...»

●

Тоня Дрозд прыехала ў Брэст 10 чэрвеня 1941 года пасля заканчэння чацвёртага курса 1-га Маскоўскага мёдінстытута на практыку. Ёй было дваццаць два гады, калі пачалася вайна. У першыя гадзіны фашысцкага нападу на яе вачах памёр бацька, паранены снарадам. «У гэты час,— піша ў сваіх успамінах былая падпольшчыца,— першая думка была пра тое, каб як памагчы людзям. Я пайшла ў бальніцу, дзе знаходзіліся раненыя байцы і камандзіры, і дапамагала ратаваць ім жыццё...»

Потым Тоня звязалася з падпольшчыкамі, па іх заданню вынесла з бальніцы радыёпрыёмнік і прымала зводкі Саўінфармбюро. На перапісаных лістках захаваліся яе подпісы: «Лёлька» і «Лёля Белавежская».

Антаніна Іосіфаўна Дрозд цяпер жыве ў Нарыльску. За ўдзел у падпольнай барацьбе ўзнагароджана медалём «За баявыя заслугі».

г. Брэст.

**Уладзімір ГУРДА,**
**кіраўнік краязнаўчага гуртка Дома піянераў.**

## ЗАЎСЁДЫ З ВАМІ...

У той дзень, калі я вярнулася з Маладзечна, да мяне зайшоў таварыш Янак, адказны за аддзел тэхнікі ЦК Кампартыі Заходняй Беларусі (сапраўднае прозвішча яго Зільберман-Жукоўскі).

Пацікавіўшыся, што я зрабіла ў часе гэтай паездкі, Янак даў новае заданне — з'ездзіць на Слонімшчыну і арганізаваць там пункты для транспарціроўкі камуністычнай літаратуры.

— Добра, гатова,— адказала я.— Увечары выеду з Вільні.

У Івацэвічах я выйшла з цягніка. Адышоўшыся ад вакзала, пераапранулася ў вясковую вопратку і з клуначкам падалася дарогай да лесу.

Неўзабаве мяне дагналі двое на веласіпедах.

— Сконд і доконд едзеш, паненка? — запыталі яны.

— З Даманава ў суседнюю вёску,— абыякава адказала.— Цётка прасіла, каб памагла бульбу капаць...

— «Бу-льбу капаць»,—перадражніў паліцэйскі і паглядзеў на мае рукі — яны былі ў мазалях. Можа ўсё абышлося б добра, каб не гэты клуначак пад пахай. Як толькі паліцаі ўгледзелі гарадскую вопратку,— сумачку, капялюшык, басаножкі,— адразу крыкнулі:

— На пастарунак шагам марш!

На пастарунку мяне доўга не трымалі.

**Накіравалі ў Косаўскую дэфензіву. Закавалі рукі ў кайданы.**

**Дапытваў Шварц. На ўсе яго пытанні я адказвала адно: «Не ведаю нікога і нічога. А ішла ў Косава, каб наняцца на работу ў краму...»**

**— Панове, прыступайце,— паказаўшы плёткай на мяне, даў загад Шварц сваім памочнікам.**

**Ударам па галаве мяне збілі з ног. Бруднай анучай заткнулі рот, завязалі вочы. Па пятах пасыпаліся ўдары гумоўкай.**

**Замірала ўсё ад болю. Але вусны шапталі: «Нікога не выдам. Таварышы, я з вамі. Назаўсёды».**

**Кацярына ГЛАВІНСКАЯ,**
**былая падпольшчыца КПЗБ.**

**в. Палужжа**
**Карэліцкага раёна.**

# ПАЗЫЎНЫЯ МАСКВЫ

## БЫЛЬ

— Ты ж глядзі тут, Ваня...

— А вы на свежанінку, пан начальнік?— Ваня падняў ускудлачаную галаву, чарнявы твар засвяціўся хітраватай усмешкай.

— Штосьці ў роце перасмягла... А кум запрашаў...

Ваня ведаў таго кума. Ну і гад! Хадзіў па Краснаполлі з белай павязкай на рукаве, з карабінам за плячыма, надзіў «новы парадак». Неяк Ваня назваў паліцая Грасьськам. Дык не ўзлюбіў: «Які я табе Граська?! Я пан старшы паліцэйскі!» А Ваня ў адказ: «Ну і пан! Пан — трухой напхан!» За непавагу да пана старшага паліцэйскага доўга насіў хлопец сінякі.

Сёння паліцай абсмаліў парсюка, а цяпер балюе. На самагонку і свежаніну карціць і гэтаму гіцалю. Але нерашуча тупае каля дзвярэй, шморгае шызым, як прыхопленая марозам бульбіна, носам.

— Ты ж глядзі тут, Ваня!

Дзверы рыпнулі, і Ваня ўздыхнуў з палёгкай. Апражыцеся, злыдні, тым зеллем. Ваня рады, што Маскву паслухае. А то брэша Гебельс, як наняты. Быццам ажно да Урала гітлераўцы дайшлі. Быццам Чырвонай Арміі ўжо няма. Так і ў сваіх фашысцкіх газетах-брахалаўках пішуць.

У Краснаполлі, апрача бобікаў-паліцаяў, ніхто не дае ім веры. Пра навіны людзі з трывогай у Вані пытаюць:

— Як, Іванка, Масква?

— Стаіць! — адказвае Ваня. — Выстаіць!.. Паламаюць фашысты аб Маскву зубы...

Гаворыць Ваня шэптам, але ўсё Краснаполле чуе. З хаты ў хату, з вуліцы ў вуліцу ідзе: «Стаіць Масква... Выстаіць...»

Не думаў, не гадаў Ваня, што вось так спатрэбіцца радыёаматарства. Марыў плыць, як Крэнкель, на льдзіне, лавіць на Паўночным полюсе пазыўныя Масквы, размаўляць з усім светам. У школьным радыёгуртку гадзінамі корпаўся, адно збіраў, другое разбіраў, ні-таваў. Летам скончыў сем класаў і папрасіў начальніка раённага радыёвузла:

— Дзядзька Громаў, прыміце мяне да сябе.

— Чый ты?

— Галяркаў... Можа ведаеце Фадзея Галярку?

— А-а... Чуў пра цябе, чуў... Ваш школьны фізік расказваў,— пахваліў Громаў.—У спецыяльнай школе табе павучыцца б... Ну, але папрактыкуйся...

Толькі ж нядоўга давялося на радыёвузле практыкавацца: пачалася вайна.

Ваня тады яшчэ па-свойму разумеў, што такое вайна. У яго ўяўленні гэта былі адны подзвігі, геройствы. Ахапіла крыўда: зноў спазніўся. Пакуль станеш дарослым, на тваю долю нічога цікавага не застанецца... Рэвалюцыю дзяды зрабілі. На Хасане бацькі ваявалі. Гітлера біць — не вырас. Ваенком так і сказаў:

— Не дуры мне галаву, хлопец. Настане час — самі пазавём.

І зноў трывожнае чаканне ля прыёмніка. Гучаць словы: «Гаворыць Масква...»

Каля ваенкамата шуміць і вірыць. Тут хлопцы і пажылыя. А Ваня быццам лішні. Ваню ўсяго двух год не хапае, каб васемнаццаць... Каб хоць семнаццаць...

Краснаполле на водшыбе ад чыгункі і бойкіх дарог. Фашысты захапілі Краснаполле ў жніўні. Затарахцелі матацыклы. Па драўляным насціле-тратуары загрукалі боты. Вуліцы запрудзілі шэра-зялёныя мундзіры.

— Матка, яйка!.. Шнэль, шнэль!.. Капут!..

Былы начальнік радыёвузла — у Чырвонай Арміі. На яго месца знайшоўся прыблуда-паслугач. Памагаць яму прысілілі Ваню. А не — расстрэл. Загады аб расстрэлах фашысты перадаюць кожны дзень па радыё: «Усім грамадзянам гарадскога пасёлка і яго навакolля неадкладна, на працягу 24 гадзін, здаць у камендатуру агнястрэльную і ўсялякую іншую зброю, прыёмнікі і супрацьгазы. За невыкананне — расстрэл». Даў прытулак яўрэю — расстрэл. Накарміў акружэнца-чырвонаармейца — расстрэл. Коса зірнуў на салдата райха — расстрэл.

Вецер зрывае з клёнікаў, гоніць па пляцы пажоўклае лісце. Такой парой, бывала, вясёлым гуртам беглі ў лес па дзеразу. З яе плялі вянкі і гірлянды. Палымнелі піянерскія гальштукі: на свята ўсім класам давалі піянерскае абяцанне. А ўжо зусім нядаўна, перад першамайскай урачыстасцю, Ваня ўступіў у камсамол. Чым жа ты, Іван Галярка, адзначыш вялікае свята цяпер, калі над тваёю зямлёй вісіць чорная хмара?

Ваня часта слухае Маскву, расказвае праўду людзям. Вось і зараз, пакуль адзін на радыёвузле, паслухае зводку Саўінфармбюро.

Насцярожана зірнуў на вокны, дзверы. Уздзеў навушнікі. Па-змоўніцку падміргнула зялёнае вочка прыёмніка. Стрэлка пасунулася, заскакала па шкале з лічбамі і назвамі гарадоў. У навушніках біліся родныя словы. Песня! Сціснулася, затахкала ў грудзях сэрца. І раптам гарачае полымя адвагі забушавала ў грудзях юнака:

— Хай усе слухаюць!— і ўключыў у сетку перадачу з Масквы. Песня паляцела па правадах, загучала ў дамах, вырвалася на вуліцу:

Вставай, страна огромная,
Вставай на смертный бой
С фашистской силой чёрною,
С проклятою ордой...

Песня разбудзіла прыціхлае Краснаполле. Людзі выскоквалі з дамоў. Людзі верылі ў перамогу.

Як паспусканыя з ланцугоў сабакі, кідаліся па вуліцы паліцаі. Хто спявае? Адкуль песня? Услед за эсэсаўцамі пабеглі да радыёвузла, высадзілі прыкладамі дзверы.

Івана Галярку закатавалі фашысты. Але пазыўныя Масквы чула ўсё Краснаполле.

**Іван АНОШКІН.**

**г. Магілёў.**

# У РУЖАНСКАЙ ЗОНЕ

**У часе Вялікай Айчыннай вайны на тэрыторыі цяперашняга Пружанскага раёна дзейнічалі Пружанскі і Ружанскі падпольныя райкомы ЛКСМБ, якія ўзначальвалі Мікалай Смятана і Сямён Дурэйка.**

**Маладыя патрыёты пачалі падпольную дзейнасць пад кіраўніцтвам камуністаў у чэрвені — ліпені 1941 года. Камсамольскія арганізацыі былі створаны ў вёсках Беразніца, Байкі, Шчытна, Клепачы, Заполле, Куляны, Амяльянавічы, Бушнякі, Галоўчыцы і іншых. Камсамольцы-падпольшчыкі збіралі зброю, боепрыпасы, прымалі па радыё паведамленні Саўінфармбюро, перапісвалі іх ад рукі і распаўсюджвалі сярод насельніцтва. Потым зводкі, звароты і заклікі да моладзі пачалі друкаваць на пішучай машынцы ў вёсцы Беразніца, у хаце Сямёна Дурэйкі.**

**На пачатку вайны 14 камсамольцаў вёскі Заполле далі клятву змагацца з фашыстамі. На чале гэтай арганізацыі стаў настаўнік Яўген Гардзей. Вясной 1942 года запольскія камсамольцы сабралі шрыфт і стварылі сваю друкарню ў лазні Мікалая Гардзея. Тут друкаваліся лістоўкі, зводкі, газета «За Радзіму». Падпольшчыкі знішчылі тэлефонную сувязь паміж Ваўкавыскам, Слонімам і Пружанамі.**

**Многія запольскія камсамольцы не дажылі да светлага дня вызвалення. Быў схоплены і расстраляны пасля катаванняў Уладзімір Грэдка. Пры выкананні баявога задання трапіў у кіпцюры фашыстаў Іван Дзейка — яго таксама па-зверску замучылі. Іван Куніца падарваўся на міне. Коля Ярмак загінуў, змагаючыся ў партызанскім атрадзе.**

**У вёсцы Галоўчыцы дзейнічала падпольная камсамольская арганізацыя на чале з адважнай сувязной партызанскага атрада Алесяй Аўдзяйчук. Іх было чатыры сяброўкі, якіх выхаваў камсамол: Алеся Аўдзяйчук (цяпер Жмайлік), яе сястра Надзя (цяпер Вішнявецкая), Алеся Сапун (цяпер Куця) і самая маладая — Ніна Кірун. Падпольшчыцы размнажалі і распаўсюджвалі лістоўкі, дастаўлялі міны ў партызанскія атрады.**

**Вясной 1943 года пяцьдзесят камсамольцаў-падпольшчыкаў вёскі Беразніца са зброяй перайшлі ў партызанскі атрад імя Кірава. Яны стварылі сваю беразніцкую роту, у якой Мікалай Асташэня і Іван Дурэйка камандавалі ўзводамі, Мікалай Васілеўскі, Аляксей Макарэвіч, Мікалай Гардзей, Міхаіл Шайнюк — аддзяленнямі.**

**У шмат якіх аперацыях удзельнічаў і Сямён Дурэйка, сакратар падпольнага райкома ЛКСМБ. Цяпер ён працуе дырэктарам Дачкаўскай васьмігадовай школы, аддаючы шмат сіл і энергіі выхаванню падрастаючага пакалення.**

**в.Носкі**
**Пружанскага раёна.**

**Мікола КАСЦЮКОВІЧ.**

# ЯНЫ БЫЛІ ПЕРШЫЯ



**Напэўна, сярод іх ёсць Іван, Пятро або Мікола... Прозвішчы іх невядомыя. Акрамя аднаго. Той, што сядзіць у цэнтры — Георгі Гінько. 8 чэрвеня 1920 года ён узначаліў бюро Дрысенскай гарадской арганізацыі РКСМ. Праз некалькі месяцаў узніклі камсамольскія ячэйкі ў Кахановічах, Асвеі, Бігосаве. У грозным дваццатым годзе камсамольцы Верхнядзвіння аб'ядналіся, каб дружнай грамадою змагацца за светлы лёс маладой рэспублікі Саветаў.**

**На жаль, мы не ведаем прозвішчаў першых. Ды і яны называлі адзін аднаго часцей па імёнах. Так было прасцей і карацей. А чым прасцей, тым лепш, бо жыццё тады набірала такі тэмп, што не хапала часу на дробязі.**

г. Верхнедзвінск.

**Іван БЛАХІН.**

# УСПАМІНАЮЧЫ СЯБРОЎ І ПАХОДЫ...

Гэта было ў лютым 1944 года. Савецкая Армія гнала фашысцкага звера ў яго ўласнае логава.

Наш батальён атрымаў загад: выбіць праціўніка з «безымяннай» вышыні. У баі быў паранены камбат, яго замяніў начальнік штаба. Мне даручылі камандаванне ўзводам сувязі. А вядома, што ў наступленні без сувязі, як без рук. Сувязісты працавалі пад шалёным агнём. Каб наладзіць сувязь, сяржант Пятро Бандарэнка поўз па-пластунску, не зважаючы на посвіст куль і выбухі мін. Толькі звязалі провад, як мінай яго зноў абарвала...

Давялося паўзці мне пад градам куль і гаўканне «ішака» (так мы празвалі нямецкі шасціствольны мінамёт). Я знайшоў абрыў, звязаў провад. Узняўся, але да «НП» не дабег. Разарвалася граната, і адзін асколак слізгануў па касцы, а другі ўдарыў у грудзі, якраз па кішэні, дзе ляжаў камсамольскі білет і пісьмо франтавой сяброўкі.

Возле самого сердца торчал он в груди,
Этот вражий свинцовый осколок.
Не хватило в нём силы, чтоб дальше идти—
Ведь нельзя победить комсомол!..

Пасля быў медсанбат. А затым зноў баі за Варшаву, на Одэры...

Мой прабіты асколкамі камсамольскі білет захоўваецца ў Барысаўскім краязнаўчым музеі. Я сам родам з Барысава. А сяброўка, пісьмо ад якой я хаваў побач з білетам, цяпер мая жонка.

Калі жывыя вы, наш слаўны камбат Пеця Цюрын, мой украінскі сябар— сяржант Пятро Бандарэнка, адгукніцеся!

**Уладзімір МАКАРЧЫК,**
**удзельнік Вялікай Айчыннай вайны.**

**г. Пружаны.**

# ДЗЯКУЙ ВАМ, ДОКТАР

— Батарэя, смірна! Раўненне направа!..

Рукі абхапілі аўтаматы, твары павярнуліся да камандзіра. Чаканны крок па бетоне — толькі іскры з-пад абцасаў! Хлопцы, як арлы ўсе: і той, што на левым фланзе, самы маленькі, і тыя, што наперадзе — рослыя сержанты. Адзіны подых, адзіны крок. Бліпічаць зоркі на пілотках, і яшчэ мацней бліпічаць вочы. Войска ідзе.

Вунь там, сярод сержантаў, стройны, плячысты хлопец. На грудзях яго — знак выдатніка баявой і палітычнай падрыхтоўкі. Гэта значыць, што ён лоўка шпурляе гранату, трапна страляе, з аднаго маху бярэ перашкоды на штурмавой паласе, а баявую тэхніку ведае назубок.

Каб зараз спыніць строй і пагаварыць, скажам, з сержантам Алесем Дзядзюлем, мы пачулі б ад яго гісторыю незвычайную. Бо, перш чым прыйсці ў армію, хлопец перанёс цяжкія пакуты.

...З раніцы быў мароз, а пасля замжэла, затуманіла, пайшоў мяккі снег. Радасна ўзбуджаныя апошнімі падрыхтаваннямі да літаратурнага вечара, вучні адзінаццатага класа Станькаўскай школы кіраваліся дамоў. Алесь Дзядзюля ўскочыў у аўтобус, які адпраўляўся ў Селішча. Махнуўшы рукой сябрам, ён весела ўсміхнуўся:

— Да вечара!

— Да вечара, Шурка.

Але вечарам сябрам не давялося сустрэцца. На прыпынку ў Селішчы здарылася бяда — юнак трапіў пад колы цяжкага МАЗа.

Алеся прывезлі ў дзяржынскую бальніцу непрытомнага: пераломы таза і бёдраў. Дзяржынскія ўрачы толькі рукамі развodзілі. Здавалася, жыццё хлопца было на валаску.

Не хацелася ў гэта верыць. Ля яго ложка бесперапынна дзяжурылі настаўнікі і вучні Станькаўскай школы: дырэктар Міхась Юр'евіч Буцавіцкі, завуч Ніна Яфімаўна Вераб'ёва, класны кіраўнік Наталля Георгіеўна Калеснік, вучні Валодзя Гармаза, Мікола Факуліч, Ніна Арцюшэўская, Галя Каляда, Света Палаўчэня. Дзяўчаты не забыліся і пра Алесеву маці — памагалі ёй па гаспадарцы, суцяшалі і абнадзейвалі.

У Дзяржынск прыехаў урач Мінскай абласной бальніцы Алесь Лявонавіч Гуцаў. Ён дабіўся, каб хлопца перавезлі ў Мінск. У Мінскай абласной бальніцы ўзяліся ратаваць юнака. Прагледзеўшы рэнтгенаграмы, прафесар Алесь Васільевіч Маркс сказаў хвораму:

— Будзеш жывы і здаровы. Але больш пад машыну не трапляй...

Спачатку былі доўгія месяцы нерухомасці. Бясконцыя расцяжкі. Пільны догляд урачоў. Паступова адыходзіў боль. Нарэшце Алесю дазволілі ўставаць. Яму зноў давялося вучыцца хадзіць.

Першамай Алесь Дзядзюля сустракаў дома. Яго радасна віншавалі сябры. А потым усёй грамадой памаглі яму скончыць школу.

Калі настала пара ісці на вайсковую службу, на медкамісіі ніхто з урачоў нават і ўявіць сабе не мог, што перад імі чалавек, у якога былі такія цяжкія траўмы.

Алесю Дзядзюлю вярнулі здароўе не толькі высокакваліфікаваная дапамога дактароў, але і шчырае камсамольскае сяброўства.

**Іван ГРЫНЕВІЧ.**




# ЛІСТАПАД
# 1968


Помнік У. І. Леніну ля Дома ўрада ў Мінску.


Міхась Багун.


М. А. Безбародаў.

**7**

Перамога Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі (1917).

**7**

35 гадоў з дня адкрыцця (1933) у Мінску Дома ўрада і помніка У. І. Леніну.

**8**

60 гадоў з дня нараджэння (1908) М. Ф. Багуна, беларускага паэта.

**9**

50 гадоў назад (1918) Рэўваенсавет Заходняй арміі прыняў пастанову аб стварэнні Мінскага Ваеннага Савета.

**11—23**

60 гадоў назад (1908) у Гродна адбылася эканамічная забастоўка на тытунёвай фабрыцы Шэрашэўскага.

**13**

50 гадоў з часу ануліравання (1918) Савецкім урадам умоў Брэсцкага мірнага дагавору.

**14**

70 гадоў з дня нараджэння (1898) М. А. Безбародава, вучонага-хіміка, акадэміка Акадэміі навук БССР.

**18**

85 гадоў з дня нараджэння (1883) К. Э. Міронавай, заслужанай артысткі БССР.

**19**

60 гадоў з дня нараджэння (1908) М. А. Засіма, беларускага паэта.

**20**

50 гадоў з дня адкрыцця (1918) у Віцебску І-га губернскага з'езда камітэтаў вясковай бедноты.

**23**

50 гадоў назад (1918) у Смаленску адбыўся І з'езд камітэтаў сялянскай бедноты Заходняй Камуны.

**25**

60 гадоў з дня нараджэння (1908) А. В. Волкава, беларускага мастака.

**26**

50 гадоў з дня нараджэння (1918) У. М. Шахаўца, беларускага пісьменніка.

**27**

50 гадоў з дня стварэння (1918) Бабруйскага Рэвалюцыйнага Камітэта.

**29**

60 гадоў з дня нараджэння (1908) Я. Я. Красоўскага, беларускага мастака-жывапісца.

---

Падрыхтавана аддзелам навуковага выкарыстання дакументальных матэрыялаў і інфармацыі Архіўнага ўпраўлення пры Савеце Міністраў БССР на падставе матэрыялаў, прадстаўленых цэнтральнымі і абласнымі дзяржаўнымі архівамі рэспублікі.


К. Э. Міронава.


Мікола Засім.


Уладзімір Шахавец.

Я. Я. Красоўскі.





# МЫ—З ТРАКТАРНАГА

Кожную раніцу, калі я выходжу на заводскую плошчу, бачу дзве ракі, што сустракаюцца ля прахадной. Насустрач мне крочыць стомленая трэцяя змена. А я іду на першую. Туман, ці дождж, ці яснае сонейка, але кожную раніцу вітае мяне мой завод грукатам кузні, шыпеннем пары, цяжкім подыхам ліцейкі. Паўстае перада мной гіганцкая панарама чырвоных карпусоў, і я хвалююся. Другога такога завода ў рэспубліцы няма! Хіба толькі МАЗ можа паспрачацца з намі сваімі маштабамі. А 22 гады назад...

У кнізе А. Журава «У баях нараджаны» прыведзены ўспаміны аднаго з першых камсамольцаў трактарнага:

«Прыехаў у Мінск увечары. На вакзале нас сустрэлі прадстаўнікі завода. Селі на грузавікі, едзем. Уважліва ўглядаемся вакол. Цяжка на сэрцы: адны руіны. Дзе ж завод? Машына, зрабіўшы круты паварот, спыняецца ў рэдкім лясочку.

Нам кажуць: «Вось гэта і ёсць завод».

Тады, у 1946 годзе, па камсамольскай пуцёўцы тысяча юнакоў і дзяўчат з'явілася на гэтае будаўніцтва. Сярод іх быў і Мікалай Платонавіч Бераснеў, вядомы цяпер расточнік, узнагароджаны ордэнам Леніна за працоўныя подзвігі. Неяк нядаўна, на сустрэчы з камсамольцамі, ён расказваў:

«Жылі мы ў палатках, харч быў кепскі, вопратка — напаўваенная. Не хапала механізмаў, машын. Мы будавалі карпусы і адначасова вучыліся. Землякопы, муляры і тынкоўшчыцы станавіліся за станкі. У той час мы былі заклапочаны толькі адным, каб як мага хутчэй здаць завод, пачаць выпуск беларускіх трактараў. Каля дзвюх тысяч маладых будаўнікоў завода рэгулярна перавыконвалі норму выпрацоўкі».

22 гады — не так і многа для завода. Чалавек у гэты час толькі-толькі развітваецца з юнацтвам. А ў нас за 22 гады колькі слаўных падзей адбылося!

У 1953 з канвеера сышоў першы трактар беларускай канструк-



Канструктары распрацоўваюць новую мадэль МТЗ-100. Ёсць над чым падумаць і маладому інжынеру Віктару Яцкоўскаму.



Алесь Баброўнік (у цэнтры) нядаўна скончыў беларускі політэхнічны інстытут, а сёлета набыў званне лепшага маладога канструктара. Разам з слесарамі Алесем Алешкам і Іванам Савічам яны заняты выпрабаваннем пнеўмасістэмы трактара.



Заўзята працуюць кавалі-штампоўшчыкі Фадзей Загорскі і Іван Гайцюкевіч.

цыі. Мы назвалі яго «Беларусь». Трактар-універсал. Наш чырвоны конь. Цяпер ён вядомы ва ўсім свеце. А яго родны брат «Беларусь» МТЗ-52 на міжнародным кірмашы ў Лейпцыгу ўзнагароджаны залатым медалем.

У 1966 годзе, у дзень свайго 20-годдзя, за поспехі ў выкананні сямігадовага плана трактарны завод узнагароджаны ордэнам Леніна. У тым жа годзе малады ардэнаносец рапартаваў: ёсць пяцісоттысячны трактар!



Шліфоўшчыца Валянціна Высоцкая (справа) мае грамату Міністэрства трактарабудавання СССР за эканомію і ашчаднасць у працы. Свой вопыт яна перадае маладой шліфоўшчыцы Галіне Давідовіч.

І мы, камсамольцы, не стаялі ў баку ад гэтых вялікіх здабыткаў: у 1967 годзе сакратарыят ЦК ВЛКСМ ухваліў вопыт камсамольскай арганізацыі МТЗ па ўздзеянню на вытворчую працу і рэкамендаваў яго іншым прадпрыемствам краіны.

У гонар 50-годдзя Савецкай дзяржавы завод атрымаў Памятны чырвоны сцяг ЦК КПСС, Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР, Савета Міністраў СССР і ВЦСПС. І як сімвал працоўных перамог заводскіх камсамольцаў — Памятны чырвоны сцяг ЦК ВЛКСМ.

І сёння мы з гонарам гаворым:
— Вось гэта і ёсць завод.

●

Соль зямлі — рабочы чалавек. З маленства выхоўваем мы пашану да яго. Але выхаванне творчых адносін да сваёй працы — справа больш складаная. Тут ні словамі, ні прыкладамі не абыдзешся. Канкрэтнасць, якая цяпер бярэцца на ўзбраенне ўсімі камсамольскімі органамі, у вытворчых справах патрэбна, як паветра.

Яшчэ ў канцы 1965 года пачалі мы рух за эканомію і беражлівасць. Якраз перад гэтым адбыўся вераснёўскі Пленум ЦК КПСС, які прыняў пастанову аб паляпшэнні планавання прамысловых прадпрыемстваў і ўзмацненні матэрыяльнага стымулявання. Падставы правесці спаборніцтва ў нас былі. Але не было вопыту.

Мы сабралі сходы, прынялі на іх абавязацельствы — усё так, як рабілі раней. «КП» працуе, паказчыкі марудна, але растуць, значыць — спаборнічаем.

Аднойчы размаўляю я з адной нашай свідравальшчыцай. Яна расказала, што раней псавала шмат інструменту, а ў апошні час ніводнага свярдла не зламала. Я пацікавіўся, ці ўплывае гэта на аплату працы.

— Аніяк, адказала яна.

Пра спаборніцтва ведалі ўсе камсамольцы і большасць з іх хацела працаваць лепш, чым раней. Але як гэта зрабіць, ніхто пэўна не ведаў.

Тады мы арганізавалі эканамічную вучобу сярод маладых рабочых, у пярвічных арганізацыях сталі строга сачыць і за пасляховасцю і за рэгулярнасцю наведвання эканамічных гурткоў. На кожнага камсамольца ў цэхавых штабах мы завялі бланк асабістых абавязацельстваў. Іх распрацоўвалі старанна, з дапамогай эканамістаў. Кожны квартал падводзіліся вынікі спаборніцтва, пераможцы атрымлівалі прэміі. Шчыты, плакаты, стэнды з'явіліся ў кожным цэху, на кожным участку.

Спаборніцтва за беражлівасць і эканомію прывяло ў рух і тыя колы, якія дагэтуль круціліся толькі па інерцыі.

Перад уваходам у ліцейны цэх № 1 — вітрыны і стэнды. Зразумела, самы цікавы той стэнд, што расказвае пра наша спаборніцтва. Сярод лепшых рацыяналізатараў я бачу Пятра Махавікова. Хто ж гэты «тэхнар»? Мысліцель з позіркам, накіраваным у нерухомую кропку? Ахвяра адной палымянай страсці? Пятро — не такі. Ён можа ўсё: заспяваць песню ля турысцкага вогнішча, арганізаваць рэйд «КП», «выдаць» прыгожую, прадуманую тэхнічную ідэю, а вечарамі яшчэ і вучыцца ў інстытуце.

...Побач стэнд, які расказвае пра мастацкую самадзейнасць ліцейшчыкаў. Я ўспамінаю, як скептычна выслухалі мы летась заяву

Шмат клопату і ў камсамольскай брыгады, якой кіруе Таіса Чаброўская (другая справа) — каб хаця ўсе былі задаволены цэхавай сталоўкай.



Адразу на чатырох станках — так працуе токар Мікола Лешчанка. Яго ўчастак змагаецца за права насіць імя 50-годдзя БССР.

камсорга гэтага цэха Льва Бразоўскага, што іх цэх будзе ўдзельнічаць у заводскім аглядзе мастацкай самадзейнасці. Гэта ж не чарцёжная зала, а ліцейка! За змену чалавек знясільваецца так, што яму не да спеваў і скокаў. Ды і шмат ліцейшчыкаў жыве за горадам. Не так проста іх збіраць на рэпетыцыі. Ды ўсё ж ліцейшчыкі не толькі арганізавалі самадзейнасць, але і занялі прызавое месца на заводскім аглядзе.

Так творчыя адносіны да працы спалучаюцца з творчасцю ў грамадскіх справах. Адно без другога немагчыма. Сучасны трактаразаводзец змагаецца за план, за эканомію, ён спартсмен або спявак, і прытым — вучыцца ў школе, у тэхнікуме, у інстытуце.



Час яго распланаваны па мінутах загадзя на цэлы тыдзень. І калі групкамсорг дае яму даручэнне, дык ён павінен ведаць пра гэтую шчыльнасць дня. Але і тут шмат нявыкарыстаных магчымасцей: варта толькі своечасова высекчы іскру, як успыхне полымя творчасці.

Мноства нашых юнакоў і дзяўчат удзельнічаюць у паходах па месцах баявой, рэвалюцыйнай і працоўнай славы беларускага народа. Улетку і зімой, у спякоту і маразы, крочаць нашы турысты партызанскімі сцежкамі. Асабліва старанна вывучаецца падшэфны Лагойскі раён.

«Ужо прайшлі больш паловы шляху, пабылі ў шасці вёсках,— чытаю я ў дзённіку аднаго з такіх паходаў.— Учора, у мяцеліцу, ледзь дабраліся да Плешчаніц. Але нас так шчыра віталі, што мы адразу забыліся на стому... Пасля былыя партызаны паказалі нам рэшткі тае будыніны, дзе калісьці размяшчалася нямецкая камендатура. Тыя сцэны помняць здзекі фашыстаў з нашых людзей. Адсюль аддаваліся загады аб знішчэнні вёсак і хутароў, адсюль адпраўляліся карнікі... Тую камендатуру партызаны ўзарвалі... Вечарам мы наладзілі вялікі канцэрт і расказалі пра наш завод».

Удзельнікі турысцкіх паходаў паступова прыйшлі да згоды, што трэба было б пад Плешчаніцамі пабудаваць помнік загінуўшым савецкім людзям. Параіўшыся, вырашылі аб'явіць конкурс сярод прафесіянальных скульптараў на лепшы праект помніка, сабраць сродкі на яго будаўніцтва. Сродкі мы зарабілі, адпрацаваўшы ўсім камсамольскім калектывам адзін з выхадных дзён. А на конкурс было прадстаўлена дзевяць праектаў. Праекты абмяркоўвалі ўсе камсамольцы. Лепшым прызналі той, які зрабілі скульптар Генадзь Мурамцаў і архітэктар Уладзімір Крывашэеў.

І вось да таго месца, дзе вырашылі пабудаваць помнік, ідуць тры калоны: наша, трактаразаводская, плешчаніцкая і вайсковая. Мы спыняемся, стаім моўчкі, і ў гэты момант з каменя знімаецца пакрывала. На камені надпіс — абяцанне ўшанаваць памяць загінуўшых...

І яшчэ адзін конкурс запаў мне ў памяць. Конкурс рабочага ўмельца. 500 маладых металістаў прынялі ў ім удзел. Трое сталі пераможцамі:

лепшы малады слесар — Генадзь Субоцін;

лепшы малады фрэзероўшчык — Уладзімір Качан;

лепшы малады токар — Барыс Кукса.

Ім — прэміі і пачэсныя ўзнагароды. А колькі ёсць у нас узнагароджаных за працоўныя поспехі ганаровымі граматамі, значкамі і прызамі!

Кожны дзень у камітэт камсамола завода ідуць рапарты:

— У механічным цэху № 3 камсамольская брыгада ўстанавіла рэкорд на зборцы вузла пярэдняга маста!

— У ліцейным цэху № 1 — рэкорд!..

— Рэкорд у кузні!..

— Рэкорд на галоўным канвееры!..

А там, глядзіш, з заводскіх варот выйдзе першы МТЗ-100 — трактар, у два разы магутнейшы за цяперашнія. Потым ён стане на канвеер, і зноў мы будзем слухаць рапарты:

— Рэкорд! Рэкорд! Рэкорд!

У гонар 50-годдзя Ленінскага камсамола, у гонар 50-годдзя рэспублікі і Кампартыі Беларусі натхнёна працуе наша моладзь.

**Алесь ЗАКІС,**
**сакратар камітэта камсамола МТЗ.**

Фота **В. Ждановіча.**





# ПАРАВОЗ ВЯДЗЕ МІКАЛАЙ САМУСІК



**МІКАЛАЙ САМУСІК** прыгадвае свой першы рэйс, калі ён быў яшчэ памочнікам. Паволі рушылі з месца вагоны. Выбраўшыся з прыстанцыйных пуцей, паравоз набіраў хуткасць. Высунуўшыся з будкі, Мікалай на поўныя грудзі ўдыхаў ранішняе паветра, глядзеў, як беглі назад тэлеграфныя слупы, мільгалі палеткі... На нейкі момант ён нібы забыўся пра ўсё. Але тут жа ў яго за спіною пачуўся строгі голас машыніста:

— Чаго задумаўся, хлопча? Вугальку падкінь...

Мікалай паглядзеў на манометр і заліўся чырванню: ціск панізіўся. І пачаў кідаць шуфлем вугаль у пашчу топкі. Спыніўся, калі машыніст коратка кінуў: «Цяпер нармальна. Так трымаць!»

Каб стаць добрым машыністам, трэба шмат ведаць, а каб ведаць, трэба вучыцца. Калі паравоз ставілі на рамонт, Мікалай многія гадзіны праводзіў у майстэрні: памагаў слесарам, выконваў усякую «чорную» работу.

Тры гады быў Мікалай на вайсковай службе. Дэмабілізаваўшыся, зноў сеў на паравоз. Ездзіў памочнікам у таго ж Васіля Сямёнавіча. І ўвесь час адольвала нецярплівасць: «Хутчэй бы самому павесці лакаматыў».

Паступова прыходзіла ўпэўненасць. У Васіля Сямёнавіча Самусік вучыўся стрыманасці і вытрымцы, пераймаў уменне і майстэрства вадзіць паравозы. Нарэшце, пасля здачы экзаменаў па тэорыі і практыцы, пасля прынятай «абкаткі», Мікалаю Самусіку прысвоілі званне машыніста.

Здаецца, гэта было нядаўна. А ўжо за плячамі тысячы паездак, наезджана каля паўмільёна кіламетраў.

Брэст — Ковель — дарога, па якой штодзённа водзіць свае цяжкавагавыя паязды брыгада Самусіка і члены камсамольска-маладзёжнага комплексу, якім ён кіруе. Брыгады машыністаў Іосіфа Федарука, Мікалая Герасіменкі добра ведаюць шлях. І ўсё ж у іх комплексе абавязковае правіла: пры здачы змены паведамляць адзін аднаму пра ўсё, што заўважана ў дарозе. Найпершы закон чыгуначніка — пільнасць.

У гонар 50-годдзя БССР і Кампартыі Беларусі, у гонар юбілею Ленінскага камсамола паравознікі ўзялі высокія абавязацельствы. На дошцы паказчыкаў у дэпо адзначаны імёны лепшых. Сярод іх — Мікалай Самусік. Пры норме 1 800 тон ён бярэ на Ковель па 2 100 — 2 200 тон грузаў. А бывае — і больш. Сакратар парткома дэпо Станіслаў Ільіч Жабрун, заглянуўшы ў сваю запісную кніжку, дзе вядзецца ўлік работы машыністаў, паведаміў, што за паўгода, а дакладней за чатыры месяцы — два месяцы быў на курсах цеплавознікаў у Гомелі — Мікалай Самусік правёў 26 цяжкавагавых эшалонаў і перавёз звыш плана амаль дзесяць тысяч тон.

...Магутная машына ЭР789-20 з вымпелам «Камсамольска-маладзёжны паравоз» імчыцца наперад. Яе вядзе важак калоны імя 50-годдзя ВЛКСМ Мікалай Самусік.

— Пара? Вада? — зрэдку, не адварочваючыся, кідае ён памочніку.

Той з паўслова разумее яго. Запраўіўшы топку, звычайна адказвае:

— Мікалай Паўлавіч, усё ў норме.

Змяркаецца. Цішыня. Чуваць толькі, як дыхае лакаматыў ды перастукваюцца колы.

Мікалай глядзіць, як патанаюць у змроку навакольныя палі, пералескі і ў вёсках запальваюцца агні.

Вецер, то зласлівы, то ласкавы, прыемным халадком абвявае твар. Хораша на душы ў машыніста.

**Зінові ІЛЬЕЎСКІ.**
Фота **Я. Германа.**

**г. Брэст.**

# ЭТАПЫ ВЯЛІКАГА ШЛЯХУ

Жыццё і подзвігі савецкай моладзі заўсёды хвалявалі беларускіх мастакоў і знайшлі яскравае адлюстраванне ў творах многіх майстроў выяўленчага мастацтва. Напярэдадні юбілею Ленінскага камсамола жывапісцы, графікі і скульптары Беларусі падвялі вынікі шматгадовай працы ў гэтым напрамку, арганізаваўшы рэтраспектыўную выстаўку на тэмы з жыцця моладзі.

Тут мы сустракаем шмат твораў, даўно нам знаёмых па ранейшых выстаўках. Фондавыя запасы Дзяржаўнага мастацкага музея БССР адкрыліся ў гэтыя дні гледачам, каб напомніць пра галоўныя этапы вялікага шляху савецкай моладзі. Выстаўлены таксама і новыя творы маладых мастакоў, прысвечаныя юбілею.

Вобраз заснавальніка Савецкай дзяржавы хвалюе мастакоў усіх пакаленняў. Некалькі работ на выстаўцы прысвечаны Ільічу. Карціна Адольфа Гугеля «Ленін сярод раненых чырвонагвардзейцаў» і скульптура Заіра Азгура «Ленін з дзяўчынкай» раскрываюць прастату і сардэчнасць самага чалавечнага чалавека. Рэвалюцыйную страснасць і напружанне думкі вялікага правадыра падкрэслівае скульптар Павел Белавусаў.

Рэвалюцыя, грамадзянская вайна... Як бы далёка ні быў ад нас той час, пафас барацьбы працоўнага люду за светлую будучыню заўсёды будзе хваляваць мастака. «І, сурова нахмурыўшы бровы, рашуча рвецца ў бой «Арсеналец» — так называецца скульптура Уладзіміра Булыгі. Рэзка акрэслены твар барацьбіта выхаплены промнем пражэктара з далёкіх часоў.

У другім, песенна-лірычным плане, перадае эпоху грамадзянскай вайны Барыс Аракчэеў у карціне «Этапы вялікага шляху». Свет ліхтара выхоплівае з паўзмроку вагона-цяплушкі постаці чырвоных коннікаў. У іх вобразах мастак паказаў імкненне да мары, да творчасці.

Сёлетні выпускнік Васіль Чайка зрабіў роспіс для Палаца культуры калгаса «Рассвет» Магілёўскай вобласці. «Зямля» — так называецца яго дыпломная работа. Толькі што адспявала баявая труба, а па полі ідзе юнак і шырокім рухам раскідвае зерне. Мірная, стваральная, свабодная праца — вось для чаго рабілася рэвалюцыя. Так спалучаюцца гісторыя і ява, рамантыка і рэалізм. Прыемна адзначыць, што работа Васіля Чайкі хутка будзе пераведзена з падрамніка ў матэрыял. Рассветаўцы далі згоду на ажыццяўленне праекта.

І зноў па залах выстаўкі крочыць гісторыя. Яўген Зайцаў малюе нам юнага партызана. Вайна перакрэсліла яго светлы лёс. З дзіцячага твару знікла непасрэднасць. У вачах боль за патаптанае дзяцінства, жаданне помсціць ворагу.

Ні пакуты, ні здзекі, ні пагроза смерці не зламалі савецкую моладзь. Гінуць ад рукі фашыстаў дзве дзяўчыны. Гінуць мужна, горда ўзняўшы галовы. Гэта — «Нарачанская быль» Ісака Давідовіча.

З попелу адрадзіўся зруйнаваны фашыстамі Мінск. Яго будавалі юнакі і дзяўчаты. У карціне Уладзіміра Стальмашонка «Маладыя будаўнікі Мінска» вобраз юнага горада і яго будаўнікоў зліваецца ў адно цэлае. Палатно прасякнута рамантычным лірызмам.

Добра глядзіцца на выстаўцы паказаная асобна цэнтральная частка трыпціха М. Данцыга «На варце міру». Яна прасякнута святлом і радасцю мірнага жыцця.

Свайму сучасніку, маладому чалавеку, прысвяціў дыпломную работу «Провады ў армію» Антон Валатовіч. Карціна яго глыбока псіхалагічная. Можа не зусім дарэчы ў ёй паказаныя з адценнем гратэску вобразы двух падпіўшых мужчын, але ў цэлым свежасць і навізна рашэння тэмы, цудоўны малюнак, майстэрства кампазіцыі, выразнасць фарбаў сведчаць пра таленавітасць маладога мастака.

Зразумела, старэйшае пакаленне беларускіх мастакоў выпрацавала свой стыль і сваю тэхніку. Моладзь жа яшчэ ў пошуках. Старанна шліфуе свой тэхнічны арсенал графік Георгі Паплаўскі. Мікалай Лашкоў, які сёлета скончыў Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут, паказаў на выстаўцы два графічныя лісты, выкананыя ў тэхніцы літаграфіі.

Перад маладымі мастакамі яшчэ шмат няходжаных сцежак. Трэба смялей іх шукаць і больш грунтоўна вывучаць жыццё. Узбагачэнне жыццёвым вопытам амалоджвае талент мастака. Іншы раз менавіта фармальная прастата падкрэслівае глыбокі эмацыянальны склад твора. Аб гэтым сведчаць творы Аляксандры Паслядовіч: «Партрэт Наташы», «У садзе зязюлька кукуе», «Ой, рана на Івана», «Пайду па лужку». У народных песнях шукае свае вобразы мастачка, і нацыянальны каларыт выгадна вылучае яе творы.

У розных па характары творах, прысвечаных моладзі, ёсць агульныя рысы, якія іх аб'ядноўваюць. Гэта — імкненне адлюстраваць жыццё маладых праўдзіва, ярка, запамінальна.

**Ніна МАРЧАНКА.**



подзвіг працягваецца

# УСЕ КОЛЕРЫ ВЯСЁЛКІ

**На хімкамбінаце незвычайнае ажыўленне. Будаўнікі і эксплуатацыйнікі, радасна ўзбуджаныя, віншуюць адзін аднаго з перамогай: змены апаратараў Генадзя Сітнікава і Аляксандра Пашына атрымалі першы беларускі поліэтылен.**

**Люба Слабада, важак камсамольска-маладзёжнай брыгады будаўнічага ўпраўлення № 124, узяла жменьку яшчэ цёплых гранул і задумалася. У гэтых бліскучых крышталях закладзена праца тысяч людзей, якія сваімі рукамі стваралі гігант беларускай хіміі...**



Мінула два гады, як маляры брыгады Любы Слабады пачалі аддзелачныя работы. Даводзілася завіхацца з пэндзлем на вялікай вышыні, забірацца пад самыя аблокі, па тых канструкцыях, дзе нядаўна гаспадарылі мантажнікі.

Набліжаўся пуск хімкамбіната — самы гарачы, напружаны час. Ніхто з будаўнікоў не глядзеў на гадзіннік, ніхто не пакідаў пляцоўку, пакуль не выканае заданне.

Люба сабрала дзяўчат і сказала:

— Патрэбна тэрмінова здаць корпус змешвання і апрацоўкі поліэтылену, а на трэцім паверсе не закончаны малярныя работы. Майстар прасіў...

— Чаго там прасіць,— загаварылі маляры,— самі ведаем, што прахалоджвацца некалі. Застанемся пасля змены!..

Амаль цэлы тыдзень цягнулася ўдарная вахта. Зіна Віннікава, Валянціна Капусціна, Алена Токар, Галіна Зуй, Вера Іванько, Галіна Суханава, Ніна Маторына, Ніна Пэк — учарашнія выпускніцы прафесіянальна-тэхнічнага вучылішча — працавалі, не ведаючы стомы. Сацыялістычныя абавязацельствы, узятыя ў гонар юбілею ВЛКСМ, дзяўчаты выканалі як належыць, па-камсамольску.

Казімір КРУПКО,
рэдактар газеты «Сцяг новабудоўлі».
Фота інжынера А. Васечкі.

г. Наваполацк.

# НАВІЧКІ І ВЕТЭРАН

— Выведзем сцяну не за восем рабочых дзён, а за пяць,— прапанаваў муляр Іосіф Вайцяховіч, калі члены брыгады абмяркоўвалі новае заданне.

— Што ж, буду прасіць, каб выдалі акордна-прэміяльны нарад,— згадзіўся брыгадзір. Але тут жа запытаў: — А калі не ўправімся?..

— За нас будзьце спакойныя!

Сведкам такой размовы мне давялося быць у брыгадзе Міхаіла Чачоткі, якая працуе на «Лаўсанбудзе». Яе члены — самыя маладыя. Васілю Пашкевічу, напрыклад, толькі што мінула семнаццаць, астатнія крыху старэйшыя. А брыгадзіру — ветэрану будоўлі — дваццаць сёмы пайшоў...

Міхаіл Чачотка яшчэ да вайсковай службы стаў будаўніком. Ён будаваў кінатэатр «Мір» у Мінску, жылыя дамы ў



У згодзе жыве і працуе брыгада муляроў, якой кіруе Міхась Чачотка (злева). Побач з ім Раіса Каваленка і Пятро Максімчук.

Гродна, Краснаярску, Яраслаўлі. Дэмабілізаваўшыся з Савецкай Арміі, Міхаіл прыехаў у Магілёў. У кастрычніку 1965 года ўзначаліў брыгаду, якая закладвала падмурак першых карпусоў і муравала сцены доследнай устаноўкі. Толькі сёлета муляры тройчы заваёўвалі пераходны вымпел, выходзячы на першае месца ў сацыялістычным спаборніцтве.

Неяк Міхаіла сустрэў знаёмы бетоншчык.

— Што, брыгадзірам да навічкоў ідзеш? — спытаў ён.

— Іду.

— Глядзі, гэта ж — вясковыя юнакі і дзяўчаты. *Яшчэ кельму ў руках не ўмеюць трымаць.*

— Нічога, навучацца,— спакойна адказаў брыгадзір.

Той бетоншчык гаварыў праўду. Большасць юнакоў і дзяўчат, якія прыйшлі ў новую брыгаду Міхаіла Чачоткі, сапраўды не мелі будаўнічай прафесіі. Каб іх навучыць, кіраўнікі ўпраўлення стварылі брыгаду і параілі брыгадзірам Міхаіла Чачотку.

Прайшло тры месяцы. Мяне зацікавіла, як працуюць нядаўнія навічкі. Акуратная, роўная расшыўка. Прыемна глядзець, як працуе муляр Іван Гімбуціс. Разлічаныя, дакладныя рухі. Чалавек працуе быццам без асаблівага напружання. Побач з ім кладуць цэглу Іосіф Вайцяховіч і Васіль Пашкевіч. У іх пакуль крыху маруднейшы тэмп. Ды яно і зразумела: хлопцы яшчэ добра не натрэніраваліся.

Міхаіл пахваліў іх і, зірнуўшы ў мой блакнот, спытаў:

— А пра Уладзіміра Варэніча не чулі? Вось пра каго напісаць трэба было б. Стараецца. Муляром добрым стане. Камсоргам выбралі, таксама заслужана...

У брыгадзіра, акрамя Івана Гімбуціса, ёсць яшчэ адзін памочнік — Анатоль Малышаў. Ён нядаўна прыехаў на будоўлю па камсамольскай пуцёўцы з Піншчыны. Ужо атрымаў другі разрад і ўзначальвае звяно муляраў. У звяне дзяўчаты — Лена Багатка, Раіса Каваленка, Люба Сідаровіч. У іх таксама работа спорыцца.

— Думаю, што за лета мае навічкі стануць выдатнымі мулярамі,— кажа на развітанне Міхаіл Чачотка і дадае: — *А там паглядзім, можа нават — «старых»* абставім!..

Брыгадзір моцна цісне мне руку і займае месца на рыштаваннях.

**Рыгор БАРШЧЭЎСКІ.**
Фота **У. Фамічэнкі.**

***Магілёў, «Лаўсанбуд».***

**Неўзабаве**

**журналіст Віктар ГОВАР**

**выступіць з роздумам**

**пра пошукі маладых архітэктараў**

**Беларусі.**







**Герой Сацыялістычнай Працы**
**Уладзімір КАЛАЧЫК,**
**старшыня калгаса «Светлы шлях»**
**Маладзечанскага раёна.**

# ГАСПАДАРЫ ЗЯМЛІ

Хлебароб — гэта гучыць горда. Яго праца вельмі патрэбна людзям. І калі ты палюбіў ніву, калі не ведаеш, як і дзень пражыць без яе, значыць, смела можаш разлічваць, што на тым месцы, дзе да цябе рос адзін колас, абавязкова вырасце два. Буйныя, важкія.

Ганаруся, што лёс мне наканаваў быць хлебаробам. Ад бацькі, вядома, пайшло. Жылісты, цягавіты, ён найбольш хацеў аднаго, каб і дзеці выраслі гэткія ж працавітыя, як ён сам. Ніколі не забуду тыя дні маленства, калі бацька браў мяне з сабой у поле альбо на луг. Спякотнае сонца шурпатым языком увачавідкі «злізвала» сцюдзёныя кроплі расы, а мне, малому, няўцям было: чаму ж тады ўвесь час росны бацькаў твар?..

Калі крыху падрос, тое-сёе і кеміць пачаў. Падахвочвалі, пэўна ж, да гэтага і пуга, без якой падпасак не падпасак, і вілы, без якіх да гною не падступіцца.

— Міхаська, ці ж не абрыдла табе? — пачынаў нехта з аднавяскоўцаў, мусіць, каб выклікаць бацьку на шчырую гаворку.

— А што такое? — быццам бы ні аб чым не здагадваўся бацька.

— Увесь век у зямлі корпаешся, то дзеці ўжо, гэтае самае, няхай...

Бацька хітравата жмурыў вока.

— У горад, га?

Было ў гэтым прастадушным «га» нешта такое ўжо калючае для субяседніка, што ў таго адразу адпадала ўсялякая ахвота весці нейкія там дэбаты.

— То мо закурыць маеш, Міхась?

— Гэта можна...

Цяпер, калі шмат вады сплыло, мне ўсё выразней бачыцца тая неадольная сіла, якая прыцягвае чалавека да зямлі.

Прыгадваюцца словы Сяргея Сапача. Не так даўно была ў мяне з ім размова, калі хлопец, паблукаўшы па свеце нямаведама колькі і дзеля чаго, вярнуўся ў калгас. Ён так сказаў: «Ведаеце, што я заўважыў: у нас паветра больш насто-



**У шафёра Міхала Рака расце маладая змена. Лёня, Наташа і Толя любяць выйсці з бацькам у поле.**

енае». Ад Уладзіміра Руткоўскага ці Леаніда Дудкі, скажам, такога ніхто не чуў, але і яны, усім бачна было, радаваліся спатканню з нівай. Больш таго, перажывалі вельмі, што былі здрадзілі ёй.

Цяпер з нашага калгаса не ўцякае моладзь у горад, як гэта яшчэ бывае там-сям. Наадварот, тыя, хто па той ці іншай прычыне пакінулі вёску, вяртаюцца назад.

Развярэдзіла душу былое, незабыўнае. Адзінаццаць гадоў мінула, як мяне абралі старшынёй, але і сёння тая сходка да драбніц у памяці. Жанкі асабліва стараліся.

— А ці жанаты?

— Не, — кажу, — не паспеў яшчэ.

— Ну, толку ў гаспадарцы не будзе...

— Гэта ж чаму? — пытаецца таварыш, які прыехаў разам са мной з Маладзечна.

— То ж зялёны зусім, — выгукнуў нехта ля дзвярэй.

Мой «сват» і так і гэтак, а пасля, калі не было ўжо куды яму дзецца, пайшоў на кампраміс.

— Давайце вось як, сябры мае, дамовімся, — сказаў ён, — за старшыню няхай усё-такі ў вас будзе Калачык, — гэта думка райкома, — а правай рукой, першым, як кажуць, намеснікам яго — Алена Іванаўна Бельская, парторг ваш.

— Во, гэта іншая размова...

На тым і пагадзіліся. Былы старшыня перадаў мне пячатку.

Да гэтага я працаваў непадалёку ад Заскавіч учотчыкам, брыгадзірам, адзін час быў сакратаром камсамольскай арганізацыі. Скончыў Гродзенскую сярэднюю сельскагаспадарчую школу — паслалі намеснікам старшыні. Пасля ўжо — два гады сакратаром Маладзечанскага райкома камсамола. Апошняе, мусіць, і ўзяло верх — адразу мяне пацягнула да моладзі.

Пяскі, пяскі. Сумна было глядзець на сурэпку, якая аж шалела скрозь на палетках. Буяў асот.

— Колькі ж збожжа атрымліваеце з гектара? — цікаўлюся.

— Шэсць цэнтнераў...

Міжволі падумалася: «Скажы мне, колькі збожжа бярэш ты з гектара, і я скажу, які ты гаспадар». Бо хлеб усяму мера.

Зямля — карміцелька, родная маці — зямля. Сёлета, скажам, пяць цэнтнераў прыбаўкі далі збожжавыя. На наступны год павінна было б быць таксама пяць (здаецца ж, лагічна?), пасля — столькі ж. Але так не атрымліваецца. Ніву не параўнаеш хоць бы з тым жа домам. Там: гатовы адзін паверх — за другі бяруцца. І пайшоў угару, як па прыступках. На ніве кожны раз трэба пачынаць спачатку: сей, даглядай, жні. А тут то зіма лютая, то лета дажджлівае, то безліч іншых закавыкаў.

Зямля... Але гаварыць трэба пра таго, хто гаспадарыць на ёй, каму яна аддае і будзе аддаваць свае незлічоныя скарбы.

Каго ж назваць першым? «Аб усім можна сказаць прыгожа, але лепш за ўсё — слова пра добрага чалавека, песня пра добрых людзей», — сказаў Горкі.

Будучыня, гордасць і наша змена — камсамольцы, яны разам з усімі хлебаробамі памнажаюць славу калгаса, роднай зямлі.

Толькі што гутарыў з механізатарамі. Да чаго ж дасціпныя хлопцы Сяргей Бабей, Мікалай Бутор, Анатоль Клаўсюк, Васіль Монід, Міхаіл Асіповіч, Анатоль Козел... Ні многа ні мала — 70 чалавек. І ўсе маладыя, да працы здатныя. У іх руках уся тэхніка. А ў нас — 25 трактароў, 20 аўтамашын, 7 камбайнаў. Я ужо не лічу розныя механізмы, што аблягчаюць працу паляводаў і жывёлаводаў.

Чэснае слова, нельга не ганарыцца такімі працаўнікамі. Іду з майстэрні, — яна ў нас з выдатнымі станкамі і навейшым абсталяваннем, — а мне такое падумалася: аснова ўсяго — праца. Моцным, прыгожым чалавека рабіла і заўсёды будзе рабіць яе вялікасць Праца.

У чым, спытаеце, сіла камсамольскай арганізацыі нашага калгаса? Адказ вядомы: у партыйным кіраўніцтве. За работу брыгадных камсамольскіх груп нясе адказнасць камуніст, звычайна з немалым партыйным стажам. Як правіла, гэта — кіраўнік брыгады. Яму, як нікому іншаму, бачны ўсе справы моладзі, яе пошукі і знаходкі. У нас працоўнаму выхаванню надаецца самая сур'ёзная ўвага. Першы ў працы — табе і гонар, і слова падзякі, і шанаванне. Сёлета, напрыклад, толькі для прэміявання мы выдаткавалі 15 000 рублёў.

Ні для каго не сакрэт, што яшчэ не так даўно камсамольскія камітэты недаацэньвалі ўсёй важнасці працоўнага выхавання. Бывала, зойдзеш на камсамольскі сход, а тут усе размовы толькі і круцяцца вакол танцаў. Веселуна,



**У самы прыпар.**





маўляў, нам падавайце! А як чалавек працуе? Што можна зрабіць, каб мой, твой і яго крок быў спарнейшы? Пра гэта чамусьці мала гаварылася: маўляў, мы ж не гаспадарнікі. Няхай гэтым займаюцца праўленцы. Памылковы падыход? Безумоўна. Бо толькі чалавек справы можа стаць першапраходцам.

Камітэт камсамола задумаўся: умовы працы механізатараў патрабуюць паляпшэння. Неадкладна трэба ўводзіць двухзменку. Але ж не хапае трактарыстаў. Выхад быў падказаны (ці ўпершыню!) камуністамі калгаса. Пры вячэрняй школе стварылі «вучэбны камбінат». Выкладчыкі — свае спецыялісты і работнікі раённага аб'яднання «Белсельгастэхніка». Усе выдаткі, звязаныя з навучаннем моладзі, праўленне ўзяло на сябе. Глядзіш, праз год-другі ў гаспадарцы з'явіліся свае механізатары — цэлая армія.

Як былы камсамольскі работнік, бяру на сябе смеласць сцвярджаць, што камсамольская работа — гэта не што іншае, як навука. Навука фарміравання чалавечай асобы, якая добра знаёма і з псіхалогіяй, і з эканомікай, і, безумоўна, якой уласціва высокая мараль. Іншая справа, што ў гэтай навуцы далёка не ўсё яшчэ распрацавана як след.

Вернемся, аднак, да спраў у калгасе. У нас створаны ўмовы для плённай працы не толькі механізатарам. Возьмем жывёлаводаў. Чырвоныя куткі пры фермах, душавыя. Даяркі штогод маюць аплачаны адпачынак: многія праводзяць яго ў санаторыях. Ліда Бельская, Марыя Казаковіч, Ніна Шыман, Ірына Свірыда, Соф'я Іваноўская — даяркі, поспехі якіх вядомы ўсёй рэспубліцы. Кожная з іх надойвае ў сярэднім ад каровы па 4,5—5 тысяч кілаграмаў малака.

Цяпер аб праблеме «аседласці» сельскай моладзі. Пра гэта ў апошні час так многа гавораць і пішуць. З якіх вёсак моладзь уцякае ў горад? Сцвярджаю: адтуль, дзе яна не бачыць перспектывы, дзе ёй не створаны ўмовы для плённай працы і культурнага адпачынку. У нашым калгасе ў кожнай брыгадзе ёсць свой клуб, бібліятэка. У Заскавічах — цэнтры арцелі — да 50-годдзя ВЛКСМ адкрываецца новы палац культуры. Да паслуг моладзі — шырокаэкранная кінаўстаноўка, духавы аркестр, асобныя пакоі для заняткаў гурткоў мастацкай самадзейнасці. У праекце — калгасны стадыён з комплексам спартыўных збудаванняў. Калгас ужо мае сталоўку. Будуюцца дзіцячыя яслі. Сур'ёзна думаем пра будаўніцтва калгаснага дома адпачынку.

Паляпшаюцца ўмовы працы. Я маю на ўвазе не толькі механізацыю працаёмкіх працэсаў калгаснай вытворчасці, але і паляпшэнне санітарна-гігіенічных умоў, у якіх працуюць людзі, эстэтыку працы.

Перспектывы. Без іх ні ў якім разе нельга. Ці ж вялікая, скажам, радасць маладому хлопцу ўвесь час хадзіць з граблямі. Ён цягнецца да ведаў, хоча авалодаць складанай тэхнікай, каб працавалася і лягчэй, і больш плённа.

Смялей трэба, на маю думку, вылучаць моладзь на кіруючыя пасады. Вельмі ўжо мы іншы раз з недаверам глядзім на маладых. А дарэмна.

Прывяду такі прыклад. Працаваў у нашым калгасе Пятро Монід. Старанны хлопец, ніякай работы не цураўся. Удумлівы, гаспадарлівы. А тут якраз у трэцяй брыгадзе трэба было замяніць брыгадзіра — завалію справу.

— Каго ж паставіць? — пачалі мы раіцца з членамі камітэта.

За камсамольца Пятра Моніда прагаласавалі аднагалосна. Цяпер ён ужо член КПСС, брыгада, якой ён кіруе, лепшая ў гаспадарцы.

Або другі прыклад. Генадзь Губар працаваў шафёрам. Паступіў завочна ў тэхнікум. Няхай, думаем, павучыцца, а тады будзе відаць. Закончыўшы тэхнікум, хлопец вярнуўся ў родную вёску, яму даверылі трактарную брыгаду. І ён добра спраўляецца з работай.

Гэта ж можна сказаць і пра другіх.

Маладыя, працавітыя, няўрымслівыя. Прыемна пра іх расказваць. Яны здатныя на вялікія справы. Важна юнака ці дзяўчыну падтрымаць у іх імкненні да грамадскай дзейнасці. Сказаць пры ўсіх людзях, калі і бацькі тут, по-







Федзя Малчанаў — трактарыст.

бач, добрае слова — ці ж не акрыляе гэта?! Трымаючы ў руках падарунак, не можа не хваляваццa малады хлебароб. Разумее: яго працу заўважылі, яго цэняць. Хочуць, каб вырас дастойны чалавек, сапраўдны майстар.

З другога боку, а ці заўсёды можа даць належны эфект заслужанае пакаранне? Здарылася, скажам, такое: зрабіў юнак памылку. Здаецца, без пакарання тут не абысціся. Што ж, да іншага трэба падысці і з гэтай строгай меркай. Толькі ў кожным выпадку трэба мець на ўвазе чалавека. Пакарай каторага (а ў яго і так з рук усё валіцца) — і, акрамя шкоды, нічога гэта не прынясе. І таму ў камсамольцаў нашага калгаса такі непахісны закон: «Перш чым патрабаваць з таварыша — навучы яго!»

Мне думаецца, што самай шырокай падтрымкі заслугоўвае такая практыка ў рабоце нашай камсамольскай арганізацыі: лепшых работнікаў камітэт камсамола накіроўвае ў школы піянерважатымі-выхавацелямі. У часе канікулаў школьнікі — найпершыя памочнікі сваіх бацькоў на ферме і ў полі. Часта камсамольцы запрашаюць іх на свае сходы, на святы, прысвеча-



Заатэхніка Марыю Лях моладзь выбрала намеснікам сакратара камсамольскай арганізацыі.



На малочна-таварнай ферме працуюць камсамолкі Алена Грыб і Антаніна Шчарбакова.

ныя ўшанаванню лепшых з лепшых, на суботнікі і нядзельнікі.

Заатэхнік Марыя Лях, шафёр Сяргей Сарока, палявод Арсень Монід, сакратар камсамольскай арганізацыі Анатоль Рубін і многія іншыя юнакі і дзяўчаты трымаюць з мясцовымі настаўнікамі самую шчыльную сувязь.

Дырэктар Заскавіцкай сярэдняй школы Аляксей Іванавіч Маскаціна задаволены:

— Працаваць з такімі энтузіястамі — адно задавальненне.

Пажылыя хлебаробы хочуць, каб іх любоў да зямлі была перададзена дзецям, каб яны ішлі сцежкамі бацькоў, не здраджвалі хлебаробству.

Спытайце ў заслужанага калгасніка Барыса Міхайлавіча Асіповіча, і ён з задавальненнем пацвердзіць, што гэта, менавіта, так. Колькі разоў даводзілася яму па просьбе камсамольцаў выступаць перад школьнікамі! І кожны раз ён не можа не радавацца: расце моладзь прадаўжальніцай слаўных традыцый старэйшага пакалення. Яшчэ нядаўна, здаецца, слухала патомнага хлебароба Ніна Сарока. Сёння ж пра яе, агранома, узнагароджаную за старанную працу ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга, далёка чуваць. Яна сама ідзе ў школу разам з Барысам Міхайлавічам, каб падрыхтаваць сабе і такім, як сама, дастойную змену.

Якім чынам камсамольскі камітэт здолеў дабіцца таго, што моладзь у нас працуе з асаблівым стараннем? Сакрэт просты: спаборніцтва. Сапраўднае, дзейснае, дзе асабістая адказнасць кожнага — на першым месцы.

Так у нас заведзена: механізатары спаборнічаюць за званне лепшага працаўніка. Тое ж самае можна сказаць і пра жывёлаводаў ды паляводаў. Заваяваць званне «Лепшы механізатар», «Лепшы жывёлавод», «Лепшы палявод» можа кожны ўдзельнік спаборніцтва, але пры той умове, калі няспынна будзе павышаць свае веды. Для даярак, скажам, мы мяркуем увесці такі парадак: яны здаюць экзамен, пасля якога ім устанаўліваецца адпаведны разрад. У залежнасці ад разраду — заработная плата. Камісія, у якую ўвойдуць спецыялісты і члены камітэта камсамола, прысуджваючы разрад, будуць улічваць, па-першае, ступень тэарэтычнай падрыхтаванасці, па-другое, стаж работы, па-трэцяе, агульную адукацыю.

Наваселле за наваселлем ладзяць у калгасе.





Зубны ўрач Лена Свірыда скончыла Мінскае медыцынскае вучылішча і вярнулася ў родны калгас.

Чаго ж мы дамагліся? Калі раней даводзілася нярэдка ўгаворваць жывёлаводаў ісці вучыцца, а яны, спасылаючыся на розныя цяжкасці (не без падстаў, вядома), адмаўляліся, то цяпер, з пераходам на двухзменку, самі жывёлаводы зацікаўлены ў тым, каб вучыцца далей, павышаць сваё майстэрства.

На першы погляд, увядзенне разраду — справа чыста гаспадарчая. Нам жа думаецца, што менавіта яна дапаможа вырашыць вялікую выхаваўчую праблему. Моладзь убачыла перспектыву. Цяпер кожная даярка ведае, што яна без адрыву ад вытворчасці можа прадоўжыць вучобу ў інстытуце ці тэхнікуме. Тым больш, што калгас забяспечвае стыпендыяй.

Іншы раз чуеш: «А калі ж нам, паляводам, вучыцца?..»

Праўда, палявод не асабліва раскінецца часам: там няўпраўка, тут нявыкрутка... Вясной, летам, восенню. А зімой?

Зімой, што ні кажы, палёгка. Нават больш таго — не заўсёды работа знойдзецца. Само сабой зразумела, што гэты час самы зручны для вучобы.

Зіма. Ляжаць заснежаныя палеткі, спіць пад пушыстай коўдрай зямля. А хлебароб вучыцца. Ён пазнае сакрэты, без якіх нельга працаваць з найбольшай аддачай.

Раней у нашым калгасе такога не было. Можа таму, што той-сёй з былых кіраўнікоў схільны быў паразважаць прыкладна так: абы план, любымі сродкамі. Вось і не бачылі за лічбамі і працэнтамі людзей. У пачатку года, калі браліся абавязацельствы, усё выглядала як лепш не трэба: маўляў, і малако рэчкай пабяжыць, і ніва зашуміцьзагамоніць, і проста на вачах будуць расці-падбрыкваць парсюкі ды цялушкі. А пад канец года? Не, не было асабліва чым пахваліцца. І ўсё таму, што абыякава адносіліся кіраўнікі да вучобы хлебаробаў. Філасофія ў селяніна, вядома, якая: да ўсяго яму трэба прыглядзецца, прыкінуць, падлічыць, каб марна не траціць ні часу, ні сіл.

Гаспадарчы разлік, рэнтабельнасць, прыбытак... Гэтыя словы ў калгасе можна пачуць на кожным кроку. Такі быў выпадак. На адной з жывёлагадоўчых ферм устанавілі машыну для здрабнення кармоў. Добрая справа — і хутчэй, і лягчэй. А тут на табе — нечаканасць. Су-



За ваколіцай.

седняя ферма ўвачавідкі ў перадавіках апынулася. Чаму? Сутачная прывага гадаванцаў там большая.

Трэба было разабрацца. Як заўсёды, усё паставілі на сваё месца веды...

Заняткі вядзе заатэхнік Марыя Лях. Яна ж — намеснік сакратара камсамольскай арганізацыі. Палявода ўсю зіму вучыць галоўны аграном гаспадаркі, механізатараў — інжынер.

Аналіз, удумлівы падыход. Як гэта многа азначае! Нездарма ж у народзе кажуць: «Праз неразумную галаву і нагам спакою няма». Каб не здарылася такое, каб не траціць дарэмна сілы, хлебаробы вучацца. У вясну яны заўсёды крочаць з ведамі. І першымі тут — камсамольцы, моладзь.

На цэнтнер малака мы затрачваем не больш 13 рублёў 45 капеек, на цэнтнер мяса — 136 рублёў 96 капеек, свініны — 106 рублёў 29 капеек. Нядрэнныя, трэба сказаць, паказчыкі.

Пра многае яшчэ хацелася б расказаць сёння. Пра тое, што калгас будуе для калгаснікаў дамы з усімі выгодамі, што ажывілася спартыўна-масавая работа. Асаблівай пахвалы заслугоўвае футбольная каманда, якая лічыцца адной з лепшых у раёне.

А як хораша спяваюць нашы дзяўчаты! Трапіш на вечарынку — у адзін момант зачаруюць цябе іх галасы. А недзе там, за ваколіцай, уздыхае баян...

Вялікімі поспехамі сустракаюць хлебаробы, камсамольцы і моладзь нашага калгаса 50-годдзе роднай Беларусі, Кампартыі БССР і залаты юбілей Ленінскага камсамола. Калгас «Светлы шлях» за дасягнутыя поспехі ўзнагароджаны памятным Сцягам абкома партыі, аблвыканкома і аблсаўпрофа. Камсамольскай арганізацыі нашага раёна навечна ўручаны памятны сцяг ЦК ВЛКСМ.

Шчаслівы і радасны юбілейны год. Сёлета мы будзем мець на круг 25 цэнтнераў збожжавых з гектара (ячмень даў звыш 30 цэнтнераў), 280 цэнтнераў бульбы, 300 цэнтнераў цукровых буракоў, на 100 гектараў сельскагаспадарчых угоддзяў атрымаем па 617 цэнтнераў малака і 100 цэнтнераў мяса. Паўгадавы план продажу дзяржаве малака выканан на 253,6 працэнта, план продажу мяса — на 355 працэнтаў.

Мы не ўсё яшчэ зрабілі, што маглі: ёсць у нас нямала праблем, якія патрабуюць свайго вырашэння. Больш жывінкі, гарэння чакаем мы, старэйшыя таварышы, ад юнай змены. Але факт застаецца фактам: сумленна, аддана працуюць маладыя гаспадары зямлі. Яны скажуць сваё важкае слова. А поле, яно такое — заўсёды адгукнецца.

Фота **У. Мяжэвіча.**

# ДАЧКА КАМУНАРА



**Калі Янка Купала складаў радкі паэмы пра камуну над ракой Арэсай, Ірыны яшчэ не было на свеце, але яе бацька Сямён Шыкуноў, адзін з тых камунараў, якіх уславіў народны паэт.**

**Чорная навала мінулай вайны, якая забрала яе бацьку, запомнілася дзяўчынцы голадам і слязамі. Потым прыйшла перамога, пачало наладжвацца жыццё, і на Любаншчыне зноў загучалі звонкія песні.**

**У 1956 годзе, пасля заканчэння дзесяцігодкі, камсамолка Ірына Шыкунова пачала працаваць рахункаводам. Але праца не прыносіла задавальнення — трывожылі дзяўчыну, мучылі сумненні, пакуль яна, нарэшце, не пакінула сваю працу і не паступіла на двухгадовыя курсы па падрыхтоўцы ў Беларускую дзяржаўную кансерваторыю і не стала потым студэнткай вакальнага факультэта.**

**У 1964 годзе Ірына Шыкунова была прынята ў стажорскую групу Дзяржаўнага акадэмічнага ордэна Леніна вялікага тэатра оперы і балета Беларускай ССР. У яе рэпертуары былі ўжо падрыхтаваныя партыі Сусаны ў «Вяселлі Фігара» Моцарта, Марфы ў «Царскай нявесце» Рымскага-Корсакава, Тацяны ў «Яўгеніі Анегіне» Чайкоўскага, Нэды ў «Паяцах» Леанкавала, Катарыны ва «Утаймаванні свавольніцы» Шабаліна. Маладая спявачка пачала ўдзельнічаць у такіх спектаклях, як «Русалка» Даргамыжскага (Вольга), «Трубадур» Вердзі (Інэс), «Яснае світанне» Туранкова (Юзэфа). У мінулым сезоне яе залічылі ў асноўны склад опернай трупы. З гэтага часу пачаліся дэбюты Ірыны Шыкуновай у тэатральных прэм'ерах.**

**Ад партыі да партыі, ад спектакля да спектакля сталее майстэрства спявачкі, шырэй раскрываецца яе талент. Прыгадаем Ганначку ў оперы «Брэсцкая крэпасць» Малчанава. Вось яна марыць пра маці, пра родную вёску, пра сваіх блізкіх. Такую летуценнасць думкі, такую паэтычнасць і ўзнёсласць, якую надала гэтаму вобразу Ірына Шыкунова, рэдка можна сустрэць у оперных спектаклях.**

**Калі пачуцці гераіні «Брэсцкай крэпасці» раскрываюцца ў суровых, нават трагедыйных танах, дык хваляванні, смутак і туга Аксаны з оперы Семянякі «Калі ападае лісце» выкліканы лірычнымі перажываннямі. Здавалася б, сама роля дае артыстцы права праявіць «сентыменты» — яе гераіні, здаецца, што яна кахае без узаемнасці. Аднак добры мастацкі густ памагае Шыкуновай пазбегнуць слязлівасці, натуралістычнага вырашэння вобраза. Вельмі ўдала праводзіць яна сцэну, дзе ўспамінае пакінуты інстытут і свайго любага Радаслава. Цудоўным кантрастам да гэтай высакароднай тугі гучыць светлы па ўнутранай напоўненасці дуэт Аксаны і Радаслава ў фінале спектакля.**

**Звярнуў на сябе ўвагу яшчэ адзін дэбют Ірыны Шыкуновай, у якім яна выдатна праявіла сябе ў новай якасці. Гаворка ідзе пра беларускую тэлевізійную оперу Вагнера «Ранак», дзе Ірына выконвала цэнтральную партыю Арыны — жонкі кулака Касянка. Выканаўца не толькі адухоўлена спявае, але праводзіць дасканала і ўсе ігравыя мізансцэны без дублёршы—драматычнай актрысы, як гэта звычайна бывае ў тэлевізійных спектаклях.**

**Шматбаковасць таленту Ірыны Шыкуновай відавочная. Тыя, хто сустрэнецца ў тэатры ці ў канцэртнай зале з беларускай спявачкай, што прыйшла на нацыянальную оперную сцэну з берагоў Арэсы, перажывуць хвіліны сапраўднай асалоды.**

**Ізідор НІСНЕВІЧ.**



Да мяне Іван Навуменка ўпершыню прыйшоў у 1958 годзе сваёй кнігай «Хлопцы-равеснікі». З той пары памятаю многія яго раннія апавяданні, памятаю і пазнейшыя, але ніколі не забуду «Веранікі». Запомнілася яно можа таму, што я сам быў юнаком і мне блізкі і зразумелы быў рамантычна-ўзнёслы свет герояў апавядання, а хутчэй за ўсё проста таму, што яно зроблена было добрай пісьменніцкай рукой.

Мінае дзесяць год, і вось — наша асабістая сустрэча. У думках я з задавальненнем адзначаю, што пісьменнік і сёння не здрадзіў тэме юнацтва. А пра ўдзячнасць, якую адчувае да пісьменніка моладзь, сведчыць прэмія імя Ленінскага камсамола Беларусі, якой ён быў удастоены летась.

# Я—ЗА РАМАНТЫКУ

Гаворку з **Іванам Якаўлевічам НАВУМЕНКАМ** мне і захацелася пачаць з успамінаў пра тыя далёкія дні юнацтва і пра яго першыя апавяданні.

— **Першыя мае апавяданні «Семнаццатай вясной», «Сідар і Гараська» і «Эх, махорачка...»** — расказвае пісьменнік, — **былі надрукаваны ў 1955 годзе. Сюжэтная лінія ў іх аўтабіяграфічная ці блізкая да аўтабіяграфіі. Зразумела, быў і домысел. Я пісаў пра людзей, якіх ведаў — пра даваеннае пакаленне. А яно вельмі цікавае. Сваіх равеснікаў я бачыў у школе, на вайне, у падполлі. З нашага дзясятага класа на фронт пайшло шаснаццаць чалавек, а вярнулася чацвёра. Нас засталося вельмі мала, народжаных у сярэдзіне дваццатых гадоў. Гэтае пакаленне вызначаецца цэльнасцю характару. Мне яно асабліва падабаецца сваёй рамантыкай, марай пра подзвіг, цнатлівасцю, чысцінёй.**

— Што новага вы бачыце ў светаўспрыманні сённяшняй моладзі, калі параўнаць яе з моладдзю вашага пакалення?

— **Думаю, што істотнай розніцы няма. Багацце, разнастайнасць жыццёвых дарог свяціла тагачаснай моладзі, свеціць і сённяшняй. І сёння ёсць рамантыка далёкіх дарог — Брацкая ГЭС, казахстанскі цалінны стэп, будоўлі Беларусі. Студэнты Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, дзе я працую, штогод ездзяць на цаліну, на розныя будоўлі і ўспрымаюць гэтыя паездкі як важны момант сваёй біяграфіі. Ва ўсякім выпадку, фотавітрыны, якія расказваюць аб тым, што рабілі студэнты на цаліне, на будоўлях, не здымаюць са сцен калідораў філфака круглы год, пакуль не з'явяцца на замену новыя.**





**Як і ў часы Сцёпкі Баруты, вялікі напор моладзі ў навуку. Конкурсы пры паступленні ў вышэйшыя навучальныя ўстановы вялікія, гаварыць аб гэтым, бадай, не трэба. Відаць, намнога больш, чым у мінулыя дзесяцігоддзі, юнакоў і дзяўчат з сярэдняй адукацыяй ідзе і на вытворчасць — на заводы, фабрыкі, у калгасы. Гэтыя жыццёвыя працэсы вельмі мала вывучаны, як мне здаецца, сённяшняй беларускай літаратурай.**

— Можна часам пачуць нараканні, што сённяшняя моладзь пасіўная. Наколькі правамерная такая думка?

— **Я не лічу, што сённяшняя моладзь пасіўная. Калі гаварыць пра студэнтаў, то колькасць такіх, што правальваюць экзамены, дрэнна вучацца, адносна невялікая. Хтосьці правільна сказаў, што студэнт — гэта не пасудзіна, якую трэба напоўніць, а факел, што неабходна запаліць. Вельмі многае залежыць ад выкладчыкаў, ад дзейнасці нашых грамадскіх арганізацый, асабліва ад камсамола. Сярод студэнцкай моладзі ёсць невялікая частка, якая, як мне здаецца, кіруецца ў жыцці ўтрыманцкімі настроямі. Гэтыя і не думаюць пра рамантыку далёкіх дарог, стараюцца пасля заканчэння ўніверсітэта ўладкавацца там, дзе лепш наладжан побыт, або проста бліжэй да бацькоў, каб менш зведаць згрызот будзённага жыцця.**

— Вы ўспомнілі Сцёпку Баруту. Герой Якуба Коласа — сімвал свайго часу. Цікава, што гаворыць сучасная літаратура пра маладое пакаленне? Наколькі задавальняе самую моладзь сённяшняя літаратура пра моладзь?

— **Увогуле, беларуская літаратура заўсёды мела героя актыўна дзейснага, грамадскага. І тэма маладога пакалення — спрадвечная для яе. Аповесць «На прасторах жыцця» Якуба Коласа не адзіны, хоць, бадай, найбольш прыкметны твор беларускай літаратуры дваццатых гадоў пра маладога савецкага чалавека. Можна прыгадаць Рыгора Нязвычнага з «Сокаў цаліны». Мы чамусьці забываем, што герой Цішкі Гартнага быў малады. А Лабановічу колькі вы думаеце было? Дваццаць гадоў! А маладыя героі Міхася Зарэцкага! З вопытам свайго пакалення прыйшлі ў літаратуру Пятрусь Броўка, Пятро Глебка, Кузьма Чорны, Міхась Лынькоў, Максім Лужанін. Варта прыгадаць Аркадзя Куляшова, Пімена Панчанку, якія стварылі вельмі яркі вобраз маладога камсамольскага пакалення 30—40-х гадоў. Ды і Максім Танк, што працаваў па той бок мяжы, у былой Заходняй Беларусі, расказваў пра маладосць, што гартавала свае сілы ў агні рэвалюцыйнага змагання. Нарэшце, «Трывожнае шчасце» Івана Шамякіна і «Сустрэнемся на барыкадах» Піліпа Пестрака — гэта ж таксама пра маладое пакаленне свайго часу.**

**Герой даваеннага жыцця быў вельмі цікавы злітнасцю асабістага і грамадскага. Грамадскае падчас стаяла ў яго нават вышэй за асабістае. Свет для гэтага героя быў вельмі шырокі, бо перад ім адкрывалася мноства дарог. Істотнай розніцы паміж даваенным і пасляваенным героем я не бачу. Даваенны герой жыве тым, што адчувае: яму выпадуць вялікія, можа нават гераічныя выпрабаванні жыцця. Герой, у якім зліта асабістае і грамадскае, жыве і сёння. І ў Івана Пташнікава, і ў Барыса Сачанкі, і ў іншых пісьменнікаў.**

— Цікава, што ў нашай літаратуры не паявіўся малады герой-скептык, і «зорныя хлопчыкі» сталай прыпіскі не атрымалі.

— **Так, іх не было. Наш герой, праўда, становіцца ў нейкай меры крыху рэфлектыўным. Відаць, гэта таму, што ён яшчэ не ўступіў у жыццё. Сучасная беларуская літаратура, асабліва проза, вельмі добра расказала пра абпаленае вайной або пасляваеннымі нягодамі дзяцінства таго пакалення, якому сёння 30—35 гадоў. Гэта добрая, моцная літаратура, бо яна**

абапіраецца на асабіста перажытае, адчутае, на біяграфічнасць жыццёвага вопыту. Я маю на ўвазе творы Івана Пташнікава, Міхася Стральцова, Барыса Сачанкі, Івана Чыгрынава, Вячаслава Адамчыка. На маю думку, герой гэтай літаратуры павінен «пасталець», пісьменнікі павінны расказаць пра тое, як іх герой уступіў у самастойнае жыццё, з якімі жыццёвымі праблемамі сутыкнуўся, якімі рысамі і якасцямі вызначаецца яго духоўны воблік. Маладых пісьменнікаў, наколькі я ведаю, студэнцкая моладзь чытае ахвотна, чакае ад іх адказу на сённяшнія балючыя пытанні жыцця.

— Ці не думаеце вы напісаць твор пра сучасную моладзь?

**— Крыху пабойваюся пра яе пісаць. Хочацца напісаць аповесць пра студэнтаў-завочнікаў і аповесць пра першае каханне. Патрошку думаю пра раман «Сорак трэці». Праўда, героі яго будуць не толькі моладзь. Заўважаю, што паступова пераходжу ад лірычнай прозы, калі можна так сказаць, да прозы аб'ектыўнай.**

— Відаць, цяпер вы менш скарыстоўваеце свой асабісты вопыт?

**— Для «Сасна пры дарозе» яшчэ хапіла асабістага вопыту. А далей прыйшлося ездзіць, гутарыць, шукаць у архівах. Ездзіў не толькі на радзіму. Мне хочацца даць нейкае падагульненне таго, што я ведаю ва ўсіх ваколіцах — у Калінкавіцкім, Хойніцкім, Брагінскім і іншых суседніх раёнах. І наогул, я лічу, што літаратару трэба паблукаць па жыцці.**

— Я заўважаю, што рамантыкі жывуць не толькі будучыняй, але і ўспамінамі, думаюць пра мінулае.

**— Вы думаеце, Васіль Быкаў у аповесцях «Жураўліны крык» і «Альпійская балада» не рамантык? Ён яшчэ большы рамантык, чым я. Ён падыходзіць да чалавека з максімальнымі патрабаваннямі. А гэта ж галоўнае для рамантыка. Нашай літаратуры пагражае бытавізм, заземленасць. Мы адштурхнулі ілжэрамантыку, а з ёю і сапраўдную рамантыку. У нас забываюць, што нават Колас — рамантык. Вазьміце яго Лабановіча — вечна рвецца ўдаль, вечна нечага шукае. А каханне Лабановіча да Ядвісі — хіба гэта не самыя рамантычныя старонкі ў нашай літаратуры! Так што я за рамантыку, бо без яе ў жыцці не абыдзецца ні дарослы, ні, тым больш, моладзь.**

**Гутарку вёў Аляксей ГАРДЗІЦКІ.**

**У наступным нумары чытайце артыкул крытыка Алеся ЯСКЕВІЧА «НЕЎЛАДКАВАНАЕ ФІЛАЛАГІЧНАЕ СУМЕЖЖА».**





**Мікола ФЕДЗЮКОВІЧ. Зямля-магніт. Мінск, выдавецтва «Беларусь», 1968.**

# ЗЯМНОЕ ПРЫЦЯЖЭННЕ

Калі б на вокладцы кнігі Міколы Федзюковіча «Зямля-магніт» і не было грыфа «Першая кніга паэта», усё роўна няцяжка было б пазнаць, што паэт робіць у літаратуры першыя крокі. Дужа відавочныя ў кнізе прыкметы літаратурнага пачаткоўства.

Вось, напрыклад, трыялет «Нарачвозера — Нарач-мора, гулкі бераг, нямое дно...» Паколькі ў трыялеце з васьмі радкоў пяць, як вядома, паўтараюцца — тут ужо, бадай, усё і сказана. Практыкаванне студэнта літінстытута, не болей. «Ясельда — я сюды» — спроба складанай рыфмы. «Як замарожвала — заварожвала» — гульня ў словы (зрэшты, гэта і цытата з Я. Еўтушэнкі: «Ты завораживаешь, как замораживаешь»). Пошукі гэтыя — самамэтныя, яны ізаляваны ад зместу і атмасферы верша, з задумай звязаны слаба. І ці мае такое права на друк?! Але выдаткі вучнёўства ёсць выдаткі вучнёўства, і мы сутыкаемся з імі ў большай ці меншай ступені пры чытанні ледзь не кожнай першай кнігі. Больш істотнае для нас іншае: з **чым** прыйшоў да нас паэт, **хто** ён сам у сваіх вершах, як бачыць, адчувае і разумее ён жыццё ці ўмее выявіць у вершы свае пачуцці і думкі, наколькі плённы яго творчы кантакт з жыццём, з навакольным светам.

Прачытаўшы кнігу, бачыш, што ў маладога паэта ёсць свой пэўны жыццёвы і душэўны вопыт. Мікола Федзюковіч — з таго пакалення, на чыё дзяцінства прыйшлася вайна. «Балада пра буслоў», якой адкрываецца кніга, — спроба асэнсаваць уражанні дзяцінства. Пра згарэлыя хаты, пра зямлянкі, пра заўчасны груз дарослацці напісана ўжо шмат (Р. Барадулін, Г. Бураўкін, Я. Сіпакоў, А. Наўроцкі). Асобныя радкі балады дужа гучныя — паэт робіць акцэнты па другарадным, нагнятае экспрэсію, не знаходзячы «цішэйшых» слоў: «Я стаяў **нерухома** на **чорным** дзядзінцы. Прыляталі буслы і **бяссільна** кружыліся над маім трохгадовым **пякельным** дзяцінствам...» У параўнанні са сваімі папярэднікамі Мікола Федзюковіч прайграе: мала псіхалагічных адценняў, відаць намаганне ў пошуках слоў («мінае бусліны край гора» — косназыкая інверсія). Але адчуваецца, што вайна глыбока запала ў свядомасць паэта. У вершы, а яшчэ болей за вершам угадваецца першая дзіцячая разгубленасць. Ды і сама «агульнасць» уражанняў нам зразумелая, бо паэт карыстаецца вельмі раннімі ўспамінамі.

Мікола Федзюковіч любіць гаварыць прыўзнята, урачыста. Урачыстасць ёсць і ў «Баладзе пра хату», але як не стасуецца да верша нейкая безаблічная сімволіка («я ішоў з маленства ў даросласць па снягах між соснаў карабельных»), псіхалагічная недакладнасць («урачыста, быццам на вяселле, з імі крочыў я»), рамантычная расквечанасць («Выплывала хата брыганцінай...»). Як не чытаецца гэта вяселле, бо яно не з запасаў хлапчуковага вопыту, гэта брыганціна побач з горкімі і працэйшымі словамі: «А вайна для бацькі майго хату без дзвярэй, без вокан збудавала»!

Паэту ўвогуле неяк бракуе стрыманасці. Шалёныя стыхіі, ярасны пацалунак, у якім «зліліся і вера, і надзея і любоў...», плач «ад слодычы і шчасця» — усё гэта ў вершы «Навальніца» надта банальнае, пакідае ўражанне штучнай экзальтацыі («Ахвяра першай летняй навальніцы ляжала на абветранай далоні... і не было трагедыі страшней...»). Пагоня за гукапісам прыводзіць да недакладнасці: «Зялёныя бярозы схілялі **ветла вецце** перад **ветрам**». У малюнак «яраснай» навальніцы не ўпісваецца гэтая ветласць. «Высокі дуб, як дзікі волат, на неба раўнадушна пазіраў...» Пазіраць **раўнадушна, як дзікі волат**?.. Дзяжурная выдумка, а не натуральнае ўспрыняцце.

Вершаў «пра каханне» ў кнізе багата. Але тут паэта напаткала ці не найбольшая няўдача. Уласна кажучы, ка-

ханне ў кнізе «Зямля-магніт» не звязана з жыццём і вопытам канкрэтнага чалавека. «Цяпло пачуццяў маіх адвечных», «Раскосыя вочы, і губы, і раскошныя косы ўразлёт», «Паланіш ты знянацку густой навальніцай неабдымна ўтрапёных крутых валасоў»—у атмасферы такіх вось умоўнасцей страчваецца канкрэтнае аблічча, якое магло б належаць толькі аднаму чалавеку.

Дзе ж той хлапчук, якога буслянка над хатай не ўратавала ад вялікага гора? У зухаватым хлопцы, які не можа пазбавіцца «ад каляровых сноў і халастога тлуму» і сваю новую хату параўноўвае са шклянкай на стале, цяжка яго пазнаць. Не стасуюцца да чалавека з такім душэўным вопытам і многія іншыя лёгкаважкія радкі...

Але вось Мікола Федзюковіч дзеліцца з намі сваімі салдацкімі ўражаннямі. Проста, часам з усмешкай расказвае пра цяжкі пераход, пра прыезд «на пабыўку» дахаты, пра думкі, якія прыходзяць салдату, калі вартуе ён спакой Радзімы. Шчыра гаворыць паэт аб сваёй Радзіме, аб сваёй любові да яе:

Радзіма!
Твае вочы,
як дзве думы,
глыбокія і ясныя дзве думы,
глядзяць трывожна
на мяне.

Герой верша «Неба зоркамі вышыта»—салдат, які вартуе дзяржаўны рубеж. Зорнае неба здаецца яму матчынай хусткай і таму выклікае ў ім глыбокі хвалюючы роздум. Кожная знічка на небе ўяўляецца яму стратай блізкага чалавека:

Знічка ўпала...
Няўжо,
няўжо я
кагосьці зберагчы не змог?...

І тут, нарэшце, мы сустракаем вершы Міколы Федзюковіча, якія абнадзейваюць, што ў літаратуру ідзе паэт, а не версіфікатар. У гэтых вершах адгукаецца раптам (і значна глыбей) вопыт тых жыццёвых вытокаў, аб якіх напачатку паэт заявіў яшчэ даволі дэкларацыйна.

Мы,
ад поту
і пылу рыжыя,
лічым крокамі кіламетры.
Раз-два,
раз-два...
Салдаты зmoраны.
Ногі ныюць —
спачыну просяць.
Я прыгадваю край азёрны —
сенажаці
і нівы росныя,
і матулю з вачамі, поўнымі
неспакою,
тугі аб сыне...
Я прыгадваю бацьку-воіна,
пахаванага на чужыне.

Усё гэта прасцей, больш натуральна, бліжэй да самога сябе. Праўда, слова «крокамі» здаецца тут лішняе, а выраз «матулю з вачамі»—няўдалым, але адчуванне стомы і салдацкага роздуму тут перададзена дакладна.

Верш «Водпуск салдату» ўяўляецца мне сапраўднай і немалой удачай паэта. Ёсць у ім і шчыры настрой святочнасці, і бытавая дакладнасць: вясковыя дзеці бягуць за салдатам, з цікаўнасцю распытваюць яго, а герой верша, поўны прыязнасці да іх, адчувае сваю адказнасць за шчасце гэтай дзетвары. Як многа гавораць радкі:

Хлопчык
маленства зусім не трывожнага,
пяцігадовы сусед Міхаська,
на эмблемы паказвае:
—Дзядзька,
можна
пакратаць танкі?
— Ну што ж,
калі ласка...

Радуе гэтая натуральнасць паэта. Яна дае надзею, што Мікола Федзюковіч набліжаецца да самога сябе, што «зямное прыцяжэнне» перамагае нарэшце няплённую схільнасць да агульнай, абстрактнай узнёсласці.

Паэт гаворыць у сваіх вершах пра неабходнасць шчырасці паміж людзьмі, праўдзівасці, даверу. Вершы «О, як вы надакучылі, салісты...», «Усе трывогі, боль і хваляванні», «Парой я чую голас чалавека...»—скіраваны супраць фальшу, штучнасці, паказухі, якімі часам прыкрываецца адсутнасць сапраўдных чалавечых пачуццяў.

Амаль чуеш пошум бору, уваччу зіхацяць краскі лугу, адчуваеш дыханне касы, калі чытаеш вершы, у якіх малююцца краявіды роднай Беларусі:

Навокала —
трава-краса:
ні краю,
ні мяжы...
Звіні, каса,
спявай каса:
«Жу-ж-жых,
жу-ж-жых,
жу-ж-жых».

У сваіх лепшых вершах Мікола Федзюковіч умее гаварыць паэтычна, вобразна, цікава. Як, напрыклад, аб працы наборшчыка: «Лаўлю, сартую гукі сёння, каб заўтра людзі ўсе пачулі». І зусім інакш пра гукі музыкі:

Гук,
гарэзны,
звонкі
і вясёлы,
збег па струнах,
як хлапчук
па лесвіцы.

На апошняй старонцы кнігі «Зямля-магніт» ёсць такія радкі:

Сэрца —
вышыня,
заваяваная
пахаванымі
на вышыні
сябрамі.

Гэта — словы высокай адказнасці, выхад да шырэйшага вопыту, бо насычаны яны грамадзянскім пафасам. Радкі гэтага верша з ухвалаю адзначаліся ў дакладзе Максіма Лужаніна на апошнім з'ездзе пісьменнікаў Беларусі. Хочацца верыць, што да паэта прыйдуць новыя ўдачы, што Мікола Федзюковіч пазбавіцца тых «хвароб» росту, якія значна зніжаюць агульнае ўражанне ад яго першай кніжкі.

**Альберт ЛЯПІЧ.**






**Анатоль КУДРАВЕЦ. На зялёнай дарозе.**
Апавяданні.
**Выдавецтва «Беларусь», Мінск, 1968.**

# ВЁСКА... ЯКАЯ ТЫ СЁННЯ?

Усё ж, відаць, кожнае новае пакаленне прыносіць у літаратуру і новы погляд на жыццё. Удаецца гэта, магчыма, не ўсім і не адразу, з налёту, як таго хацелася б паспешлівай маладосці, але пасталелае думанае-перадуманае абавязкова праб'ецца, заявіць пра сябе. Гэтую навізну погляду нават на традыцыйныя з'явы, нейкую сваю танальнасць апавядання не-не ды і заўважыш і ў Івана Чыгрынава, і ў Міхася Стральцова, і ў Івана Пташнікава. Усё гэта, безумоўна, глыбокімі і нябачнымі сувязямі звязана з часам, з яго сімпатыямі і антыпатыямі, з яго пошукамі.

Сёння раптам вельмі адчулася, што наша проза, якая была асабліва моцнай у сялянскай сферы, неяк быццам бы «развучылася» пісаць пра вёску, разумець яе ў бурнаплыннай і зусім натуральнай зменлівасці сённяшняга дня.

Першая кніжка Анатоля Кудраўца «На зялёнай дарозе» цікавая сваёй нелітаратурнасцю погляду, спробай зразумець тое асноўнае, што жыццё з яго заўсёднымі драматычнымі і складанымі праблемамі працякае прытоена, пайшло некаторымі сваімі сферамі ў паўсядзённасць, побыт, як ідуць у пясок, у глебу вялікія воды.

Анатоль Кудравец піша пра людзей сяла. Вёска з яе даўнімі цяжкасцямі, з яе заўсёды нялёгкім лёсам! Яна наша альмаматэр і наш боль... З яе мы некалі выйшлі... І як бы імкліва ні ўзлятала цывілізацыя, мы пастаянна будзем адчуваць, што менавіта адтуль, з закінутай дзе-небудзь на краі зямлі калгаснай брыгады, з працавітасці, прастаты людзей, дабраты адносін, надзейнасці зямлі струменіць галоўная рака жыцця. Становячыся ўсё больш цывілізаванымі, адыходзячы ад зямлі, прыроды, мы не заўсёды ўсведамляем, як шмат мы з гэтым страчваем.

...Стары Гаўрыла з апавядання «Такі дзень», які наважыўся быў пераязджаць да сына ў вялікі горад, пасля цяжкога, пакутлівага роздуму перадумвае рушыць гаспадарку і ехаць з вёскі.

Знешне падзеі ў апавяданні пададзены падкрэслена проста, неяк нават крыху па-бытавому прыземлена. Але гэта толькі знешне, і так толькі здаецца. У гэтай непрыкметнай будзённасці жыцця бачыцца пісьменніку вельмі важныя праблемы сённяшняй вёскі.

У Гаўрылавым садзе небывалы ўраджай яблык: «Што напасць якая». Недзе ступіць ад ападу, а збыту няма. Наша вёска была куды б заможнейшая, калі б ішло ладам дабро, што яна дае. І ўся справа ў гэтых, здавалася б, да недарэчнасці дробязных прычынах: няма скрынь, нарыхтоўшчыкі не падрыхтаваліся да сезона, дарогі цяжкія. У бяскрыўдных дробязях паўсядзённасці важная народна-гаспадарчая праблема.

І зноў жа другое. Усе так лёгка раяць Гаўрыле прадавацца і ехаць да сына ў горад, канешне ж, ехаць. «Я, як мяркую, дык і добра робіш, браце, што едзеш. Чаго вам мадзець тут, як аскалёпкам. Ну, цяпер яшчэ сілу маеш, і соткі дагледзіш, і карову, а міне год пяць, што тады? Куды тады? Каму ты трэба будзеш? Пакуль ёсць сіла—і трэба рашацца, трэба пераязджаць. А лю-

дзі ўсюды жывуць. І не горш, чым мы», — гаворыць колішні Гаўрылаў аднапалчанін і таварыш—Макар.

А Гаўрыла незадаволены гутаркай з Макарам, які, адчувае ён, вельмі змяніўся па часе, стаў нейкі іншы. Не скажаш, каб дрэнны, а іншы... Не, Гаўрыла збіраецца ехаць: сілы зусім здалі. Ён адчувае, што Макар у нечым, і не малым, гаворыць праўду. Але яму не спадабалася, **як** загаварыў Макар пра яго рашэнне ехаць да сына.

«Паслухаць, дык выходзіць — гэта вунь як проста, плюнуў на ўсё, кінуў-рынуў і паехаў. Як усё роўна ты і не пражыў тут век, і не рваў жылы, не вылузваўся са скуры, каб неяк лепей было».

І зусім не характар тугадума-вяскоўца хацеў паказаць нам аўтар. У тым, над чым так пакутліва думае, рашаецца і не рашаецца Гаўрыла, ёсць нешта большае. Тут, на гэтых «паралелях», разгортваецца адна з галоўных праблем цяперашняй вёскі. Гаўрыла становіцца ў душы спакойным і згаджаецца пераязджаць, даведаўшыся, што ляснік, які наважыў купіць яго хату — гаспадар строгі, паважны. Гаспадарка, сад пяройдуць у надзейныя рукі.

Але ўсё перайначвае выпадкова падслуханая Гаўрылам гаворка лесніка з жонкай. Новы гаспадар—з пароды «летуноў». Ён не збіраецца тут доўга затрымлівацца. Яму патрэбна гаспадарка, каб перачакаць, пакуль ён вучыцца, а там—у горад ці ў лясніцтва. На Гаўрылавым селішчы яго прывабіў багаты сад...

І тут у Гаўрылы не можа быць двух рашэнняў: нікуды ён не паедзе, ён застаецца ў вёсцы, застаецца, магчыма, дзеля яго, гэтага суседскага хлопчыка, што непрыгледжаны, расхрыстаны бегае па вуліцы і за якога ў старога баліць сэрца.

Пісьменнік знаходзіць у жыцці своеасаблівыя, каларытныя, хочацца сказаць, «упартыя» характары. Гэты Гаўрыла, Яніна з апавядання «Сяструха», Марута і Зіна з аднайменнага твора, брыгадзір і Маня з апавядання «На балоце скрыпелі драчы» і іншыя—людзі цяжкага лёсу, але якія сур'ёзна дбаюць аб ім. Яшчэ з той страшнай вайны неўладкаваны лёс у людзей.

Вось Маня з апавядання «На балоце скрыпелі драчы».

«Ведаеш, дзеўцы пад трыццаць ужо, а па-людску яе, мусіць, і не пацалаваў яшчэ ніхто,— расказвае брыгадзір маладому хлопцу, экскаватаршчыку Максіму.— І не таму, што ганьбу якую мае. Дзеўка як дзеўка. І тварам не горшая за другіх, і рукі ёсць. А цяпер і зарабляе—дай бог кожнаму. А хлопцы абмінаюць. Другі раз так увесь вечар і праседзіць дзе-небудзь у кутку клуба. А чаму, думаеш? А таму, што здаўна пайшло гэта, таму што вельмі доўга былі яны—уся іх сям'я—затурханыя, закіданыя. Пасля вайны жылі бядней за ўсіх, колькі год не маглі на карову ўзбіцца. Паспрабуй узбіцца, калі нават бульбы не было соткі пасеяць. Ды і маці яшчэ такая... Не гультаяватая, а нерасторопная нейкая. Дзе трэба цішком—яна загрыміць, дзе трэба крычаць—прамаўчыць».

У дачыненні да герояў апавяданняў Кудраўца неяк хочацца сказаць: людзі ў яго творах. Так усё праўдзіва ў іх паводзінах. Што б там ні было, няхай бы выпала ім жыццё яшчэ цяжэйшае, і да яго яны гатовы і гэтак жа сумленна і працавіта пражывуць яго, гэтак жа надзейна будзе адчуваць сябе зямля.

...Колькі ж чалавеку бывае суджана перанесці ў жыцці, як гэтай Яніне з апавядання «Сяструха»! Рана асірацела, загінуў у партызанах Лёнька, яе першае каханне, потым горкае замужжа за Іванкам-гарманістам, які без просыпу піў і адно толькі ведаў—ігрышчы ды вяселлі. Як жыў, так недарэчна і загінуў пры няшчасным выпадку. Адна, абсыпаная малымі, і пабудавалася і пагадавала дзяцей Яніна. І цяжка, і трывожна ў свеце такіх людзей, і адначасова адчуваеш нейкую неўсвядомленую душэўную сімпатыю да іх. Ад Яніны сыходзіць адчуванне дабраты і разумення. І інтэлігент-гараджанін Аркадзя, ад імя якога вядзецца апавяданне, недзе ў душы зайздросціць стрыечнай сястры. Сярод такіх людзей утульна і не адзінока. Хто ведае, можа ўся справа тут у гэтай надзейнасці, з якой яны ідуць па зямлі.

Жыццё праз хмары, трывогі ўсміхнулася і ёй, Яніне. Дзеці параслі, працаваць сталі. Сустрэўся і ёй чалавек, што абладжваў хату ды так і застаўся жыць. «І ажыла пры ім, сагрэлася, адтала душой і целам».

«А людзі—паспрабуй зразумей іх. Жыла я з Іванкам, дня яснага не бачыла,—уздыхалі, шкадавалі мяне. А сышлася з Петраком — ён і шануе мяне, і памагае—і дома, і ў саўгасе — а людзей як падмянілі. Пачалі смяяцца, нагаворваць—і ў вочы і за. Чаго я толькі не наслухалася! Як быццам я ўжо не я»,—расказвае пра сваю долю Яніна.

Так і ідзе па жыцці, зведаўшы на поўную меру зло і дабро, гэтая мілая жанчына, што выстаіць у любой бядзе. І ад расстання з ёю ў Аркадзі стала вельмі цёпла і адначасова неяк трывожна, «цяжка на сэрцы, быццам ён развітаўся з Янінай назаўсёды». «Пасур'ёзнеў яе твар, і ўся яна стала строгай, засяроджанай і чужой. Такім звычайна бывае чалавек на пачатку новага дня».

Празаік імкнецца зразумець людзей з цяжкім, неўладкаваным лёсам. З гэтай сур'ёзнай увагі да жыцця, з гэтага пільнага ўзірання ў сённяшнасць, з гэтага неспакою за чалавека ў Анатоля Кудраўца выпрацавалася і ўмацавалася свая філасофія рэчаіснасці. Думайце пра жыццё, яно надта сур'ёзнае і цяжкае, каб лёгкадумна ставіцца да яго—кожным сваім радком сцвярджае малады празаік. Выходзіць, гэта надзвычай важна бачыць маральную сутнасць усяго, што робім мы і што робіцца пры нас. Гэтае неспакойнае «чаму», «у імя чаго», гэтае ўспрыманне жыцця на ўсю глыбіню сэрца не дазваляе збіцца з кірунку на жыццёвай дарозе.

Пранікненне цывілізацыі ва ўсе самыя глухія куткі, тыя дыспрапорцыі ў развіцці грамадства і чалавека, што яна нясе, сёння з новай сілай ставяць праблему маральнага ўдасканалення чалавека. Праблема даўняя, яна хвалявала ўсіх пісьменнікаў мінулага. Выхаваць, узняць чалавека перш за ўсё ў самім сабе, зразумець, што і ў кожнага ёсць цэлы космас сваіх надзей, спадзяванняў, свой нялёгкі лёс, што жыць на зямлі вельмі адказна,— гэтай філасофіяй «прасвечаны» амаль кожны твор Анатоля Кудраўца.

Малады хлопец, экскаватаршчык Максім з апавядання «На балоце скрыпелі драчы», ні да чаго не адносіцца сур'ёзна, таму што бязладна, цяжка складвалася жыццё. Усё для яго трын-трава. Вось і сёння, выпіўшы, ён выпраўіўся на танцы прабавіць час з якой-небудзь маладой удавою. Аднак у кампаніі занятага справамі саўгаснага брыгадзіра, маладога яшчэ хлопца, які ўвесь у клопатах і да якога не прыліпае гэтая сённяшняя жыццёвая лёгкаважкасць, Максім адчувае, што ў ім нешта пераменілася. Праводзячы з вечарынкі Маню, дзяўчыну сур'ёзную, даверлівую, безабаронную, ён сарамліва думае, што не адважыцца так нахабна паводзіць сябе з ёй, як раней з дзяўчатамі.

Пільна прыглядаючыся да таго, што ўзнікае і што знікае ў сённяшняга чалавека, пісьменнік вельмі выразна выяўляе свой галоўны клопат: толькі б у гэтай хуткаплыннасці, у гэтай перанасычанасці сённяшняга дня не раз'ядала людзей, як іржа, лёгкаважкасць адносін да жыцця, да чалавека, да людской бяды, што заўважаецца ў нахабнага падлетка — школьніка з апавядання «На балоце скрыпелі драчы», у маладога хлопца, рабочага хлебапякарні (апавяданне «Іваніха») і нават у загадчыка сельпо, старога Макара («Такі дзень»). Ды і Аркадзя ў творы «Сяструха» са шкадаваннем думае пра тое, што ён змяніўся, зрабіўся больш абыякавы, у чымсьці ачарстваў пачуццямі, хоць і навучыўся абыходлівасці, жыццёвай дыпламатыі. І таму ён так усхваляваны і ў сэрцы зайздросціць Яніне з яе куды як няпростым жыццём.

Апавяданні Анатоля Кудраўца пры надзвычайным унутраным драматызме і напружанні знешне размераныя, тон іх гранічна даверлівы і пераканаўчы. Гэтую зайздросную пластычную сілу і жыццёвую дакладнасць апавяданням надае зачэрпнутая шырока і шчодра, перанесеная смела ў апавядальную плынь гаворка яго родных мясцін, роднай Магілёўшчыны. Прыгледзьцеся, гэта ж цэлы лексічны пласт свежых слоў, сэнсавых адценняў, зусім новы, адметны каларыт! А яна ж, жыццёвая плынь, да якой так цяжка бывае падступіцца не толькі маладому аўтару, прытаілася і ў мове, у звычаях, у жывой гаворцы людзей. Мова—ключ да шмат чаго, і шчаслівая ўдача таму, хто яго знаходзіць.

Ёсць у кнізе «На зялёнай дарозе», вядома, і творы слабейшыя. На шчасце, іх не так ужо многа. Асабліва выпадае са зборніка, цэласнага і арганічнага сваім маральным пафасам, апавяданне «Барвовыя сумёты» — відаць, самы ранні твор, напісаны яшчэ няўпэўненым пяром.

Малады талент Анатоля Кудраўца яшчэ толькі па-сапраўднаму ўваходзіць у сілу. Хацелася б пажадаць пісьменніку на літаратурным шляху такога ж зайздроснага лёсу, як і ў яго герояў, якіх ён удумліва і сур'ёзна шукае ў жыцці.

**Алесь ЯСКЕВІЧ.**

# АДКУЛЬ ІДЗЕ АДНАСТАЙНАСЦЬ?

## ПАТРЭБЕН НАРМАТЫЎНЫ СЛОЎНІК БЕЛАРУСКІХ ІМЁН

У 1967 годзе ў Светлагорску нарадзіліся сотні дзяцей.

Як жа бацькі назвалі сваіх дзяцей?

Чамусьці перавага надаецца толькі некалькім імёнам: Сяргей, Аляксандр, Ігар, Уладзімір, Алег, Юры. На імя Сяргей выпісана 70 пасведчанняў, на імя Ігар — 64. Праўда, сустракаюцца яшчэ Віктар, Андрэй, Міхаіл, Васіль, Генадзь, але іх вельмі мала.

У дзяўчынак на першае месца выйшла Святлана. Шэсцьдзесят тры запісы! Астатнія дзяўчынкі названы Ірынамі, Аленамі, Людмiламі, Танямі або Галінамі. Толькі асобныя бацькі назвалі сваіх дачок Вольгай, Ларысай ці Наталляй.

Як гэта ні дзіўна, але за год не з'явілася ніводнага Уладзіслава, Глеба, Сцяпана, ніводнай Кацярыны, Паўліны, Васіліны. А вось цёзкі сустракаюцца ўсюды, у кожным шматкватэрным доме, двары, дзіцячым садзе. Выхавацелі скардзяцца, што ім нязручна працаваць. А што ж будзе праз сем гадоў, калі Сяргеі і Святланы пойдуць у школу і сядуць у адзін клас?

Мода на аднолькавыя імёны, імкненне сляпа браць прыклад з іншых прыводзіць да таго, што імя з асабовага ператвараецца ў агульнае.

Чаму так атрымліваецца?

Няма ў нас даступных рэкамендацыйных спісаў сучасных імён, няма нарматыўных даведнікаў, якія памагалі б маладым бацькам выбіраць разнастайныя імёны і садзейнічалі б правільнаму напісанню і вымаўленню імён.

«Слоўнік асабовых уласных імён», складзены М. Суднікам (Мінск, 1965), не стаў даведнікам для выбару і папулярызацыі беларускіх імён. Ён выкарыстоўваецца толькі ў якасці арфаграфічнага даведніка ва ўстановах, дзе афармляюцца пашпарты, партыйныя і камсамольскія білеты, працоўныя кніжкі і іншыя дакументы на рускай і беларускай мовах. Слоўнік М. Судніка змяшчае больш за 2 500 імён, але ён далёка не поўны і не ахоплівае ўсяго багацця імён, якія бытуюць сярод беларусаў.

На мінулых выбарах са спісаў выбаршчыкаў Светлагорскага раёна я выпісаў 55 імён, якіх няма ў слоўніку. Сярод іх нямала каларытных жаночых імён, такіх, як **Злата, Зоня, Зыся, Рузя, Рэня, Ружа, Франя, Фелікса, Алексанора, Алёкса** і іншыя. Не ўвайшлі ў слоўнік шмат якія традыцыйныя імёны і іх народныя варыянты: **Антанін, Супрыян, Сынклета, Васіла, Грунаіда, Апанасся, Хацім'я, Харута, Зноўя** і іншыя.

Падзел слоўніка на афіцыйныя, размоўныя, устарэлыя і рэдкаўжывальныя імёны нічым сябе не апраўдаў. Такая падача імён не садзейнічае іх папулярызацыі, а, хутчэй за ўсё, прыводзіць да той аднастайнасці, пра якую гаварылася вышэй. Было б лепш, каб усе варыянты аднаго і таго ж імені былі пададзены ў адным слоўнікавым артыкуле. На першае месца варта было б паставіць найбольш пашыраную, шырокаўжывальную форму імя, астатнія варыянты падаць з адзнакамі: устарэлае, размоўнае, вытворнае; указаць паходжанне: славянскае, грэчаскае, лацінскае і г. д.; паказаць, як беларускія імёны трэба пісаць (а не перакладаць!) па-руску, а рускія — пабеларуску. Няхай сам чытач бачыць усе формы імён, іх паходжанне і выбірае імя, якое яму падабаецца.

На Беларусі з даўніх часоў атрымалі пашырэнне дзве сістэмы іменаслоўя: праваслаўная і рымска-каталіцкая. Па традыцыі гэтыя сістэмы суіснуюць і цяпер. Але ж з гэтым чамусьці не прыняга лічыцца. М. Суднік, напрыклад, лічыць афіцыйнымі, г. зн. законнымі, такія імёны, як Амбросій, Варфаламей, Васілій, Іван, Міхаіл, Фёдар, у свой час прынятыя праваслаўнай царквой, а варыянты гэтых жа імён: Амбражэй, Барталамей, Базыль, Ян, Міхал, Тодар, у свой час прынятыя каталіцкай царквой,— толькі размоўнымі, гутарковымі. Афіцыйнымі прапануецца лічыць жаночыя імёны: Варвара, Дарафея, Софія, Усцінія, а іх варыянты — Барбара, Дарота, Зося, Юстына — размоўнымі, г. зн. імёнамі, што не маюць права на шырокае бытаванне. На самай справе і першыя і другія варыянты ў аднолькавай ступені бытуюць сярод беларускага насельніцтва. **І не было ніякай падставы М. Судніку звужаць сферу карыстання такімі імёнамі.**

Зусім неабгрунтавана пачалі ўжывацца ў афіцыйнай форме такія дублетныя пары, як Захар і Захарый, Гаўрыла і Гаўрыіл, Ігнат і Ігнацій, Даніла і Данііл, Макар і Макарый і іншыя. Імянныя формы Захарый, Гаўрыіл, Варлаам даўно ўстарэлі і не





сустракаюцца ў беларусаў ні ў вуснай, ні ў пісьмовай мове. Няма такіх форм і ў мастацкай літаратуры. У дзелавую перапіску такія формы пачалі пранікаць пасля выхаду ў свет слоўніка М. Судніка, куды яны трапілі, мабыць, з царкоўных месяцасловаў. Увядзенне ўстарэлых форм як раўнапраўных з агульнаўжывальнымі імёнамі ўносіць толькі блытаніну. Колькі разоў даводзілася бачыць пасведчанні аб нараджэнні, у якіх дзеці аднаго бацькі запісаны па-рознаму: дачка — Лявонаўна, а сын— Лявонцьевіч; старэйшая дачка — Данілаўна, а малодшая — Даніілаўна. Сельскім жыхарам пашпартоў не выдаюць. Бацькі, прыйшоўшы ў сельскі Савет, каб запісаць сваё дзіця, поўнасцю давяраюць сакратару. А ён і піша: сёння—Ігнатавіч, а заўтра— Ігнацьевіч, бо зірнуў у слоўнік.

Далёка не ўсімі беларускімі народнымі імёнамі карыстаюцца ў афіцыйнай перапісцы. У якасці афіцыйнай нормы прызнаецца толькі частка беларускіх імён: **Марцін, Нічыпар, Пракоп, Піліп, Патап, Рыгор, Якуб, Агата, Вольга, Ганна** і некаторыя іншыя. Пераважная ж большасць беларускіх імён — **Кастусь, Міхась, Мікола, Сымон, Тамаш, Халімон, Алеся, Хадора, Марыля** і шмат іншых — у слоўніку М. Судніка аднесены да размоўных, г. зн. не прыдатных да афіцыйнага карыстання. Да прыгожага беларускага імені Алеся, напрыклад, даецца заўвага: «Глядзі Аляксандра». М. Суднік як быццам хоча сказаць: не пішы Алеся, а пішы Аляксандра. І так да ўсіх беларускіх імён. Гэта прыводзіць да звужэння сферы бытавання традыцыйных самабытных імён.

Уласнабеларускія імёны даўно заваявалі права на афіцыйнае іспаванне. Пра гэта сведчыць шматгадовы народны вопыт, помнікі дзелавога пісьменства мінулых стагоддзяў, старажытная і сучасная беларуская літаратура, слоўнікавыя і фальклорныя крыніцы. Кожнае беларускае імя набыло нямала народных варыянтаў і форм. Кожны варыянт пакінуў глыбокі след у сучасных беларускіх прозвішчах. Напрыклад, ад імя Бартламей паходзяць сучасныя прозвішчы: Батурын, Барташ, Бартошык, Барташэўскі; ад Базыль — Базылёў, Базыленка, Базылюк, Базылевіч, Базылеўскі; ад Якуб — Якубчык, Якубоўскі, Якубовіч і г. д. Таму беларускія народныя імёны павінны атрымаць шырокае права афіцыйнага грамадзянства.

Варта імкнуцца да таго, каб у далейшым усе вытворныя формы беларускіх імён былі засведчаны слоўнікамі. Было б карысна ўнесці ў слоўнік і такія імёны, як **Аверка, Астах, Ахрым, Варывон, Костусь, Усцім, Уладысь, Уласік, Юрка, Цыпрусь, Васюта, Парасся, Прося, Юзя,** што шырока бытуюць у Светлагорскім раёне. Напрыклад, імем Прося ў спісах выбаршчыкаў запісана 86 жанчын, Парасся — 83. У спісы выбаршчыкаў гэтыя імёны перанесены з пагаспадарчых кніг. Пад такімі імёнамі ў выканкомах сельскіх Саветаў жанчынам выдаюць розныя даведкі і пасведчанні. Дык якія ж гэта імёны — афіцыйныя ці толькі размоўныя?

Мы недаравальна забываем імёны славянскага паходжання, нічога не робім для іх папулярызацыі. У слоўніку М. Судніка такія прыгожыя славянскія імёны, як **Бажэна, Дабраслава, Любава, Любаміла, Млада, Слава, Рада, Уласта, Весялін, Градзіслаў, Радамір, Радзім** і іншыя, аднесены ў аддзел устарэлых, рэдкаўжывальных. Гэта зроблена, як піша М. Суднік, не для папулярызацыі, а «для магчымага выкарыстання такіх імён у якіх-небудзь стылістычных мэтах». (А чаму і не папулярызацыі?) І, наадварот, імёны іншамоўнага паходжання — Аіда, Берта, Гертруда, Ірма, Інга, Лаура, Эльза і ім падобныя — пастаўлены на першае месца. Дзеля чаго? Такія іншамоўныя імёны сустракаюцца. Але ж даводзіцца толькі шкадаваць, што некаторыя бацькі імкнуцца даць сваім дзецям «модныя» імёны на замежны лад. Чужыя імёны ў спалучэнні з рускімі, беларускімі і ўкраінскімі прозвішчамі гучаць непрыгожа. Напрыклад, Артур Яўлаш, Гары Варона, Жана Клешчанка, Іна Скобля, Анжэла Бягун, Анжаліка Балтушкіна. (Прыклады ўзяты з метрычных кніг.) Да славянскіх прозвішчаў лепш падбіраць імёны з блізкіх ім славянскіх моў.

Мы маем вялікае багацце розных імён славянскага паходжання. Як прыгожа і прывабна гучаць старадаўнія жаночыя імёны: **Браніслава, Млада, Вацлава, Злата, Дабраміла, Лада, Міласлава, Часлава?** А колькі павагі і замілавання ў такіх імёнах, як **Уладзіслаў, Брацціслаў, Вітольд, Вячаслаў, Здзіслаў, Драгамір, Станіслаў, Мілен, Яраслаў**. Гэтыя імёны вельмі папулярныя ў суседніх славянскіх краінах.

З прыняццем хрысціянства на Русь прыйшлі новыя імёны — лацінскія, грэчаскія, старажытнаяўрэйскія, арабскія. Такія імёны складаюць аснову сучасных. Праўда, сярод іх шмат якія, як, напрыклад, Аўксенці, Амвросі, Ксенафонт, Глікеры, Пульхерыя, Іраіда, устарэлі і больш не сустракаюцца сярод маладога пакалення. Але і сярод традыцыйных ёсць шмат добрых імён. Нашы дзяды і прадзеды з пачуццём уласнай годнасці насілі і носяць такія імёны, як **Аляксей, Дзямід, Дзяніс, Кандрат, Кузьма, Макар, Мірон, Тарас, Цімох, Фёдар, Ангеліна, Васіліса, Кацярына, Зоя, Зінаіда, Лідзія, Соф'я, Фаіна**. Гэта — імёны грэчаскага паходжання. Але яны даўно бытуюць у нас і ўспрымаюцца намі як блізкія.

Увайшло ў наш побыт шмат добрых імён лацінскага паходжання: **Вікторыя, Віталіна, Каміла, Ларыса, Канстанцыя, Марына, Паўліна, Разалія, Валеры, Віталь, Павел, Раман, Фелікс, Антон.**

Не страцілі сваёй прывабнасці і такія імёны, як **Адам, Ганна, Іван, Марыя,**

**Мацвей, Сямён, Якаў, Назар, Даніла, Саўка,** што дайшлі да нас са старажытнай яўрэйскай мовы.

З даўніх часоў рускія і беларусы паважаюць такія імёны, як **Усевалад, Барыс, Вадзім, Вера, Надзея, Любоў.** Даводзіцца толькі шкадаваць, што гэтых імён няма ў светлагорскіх метрычных кнігах апошніх гадоў.

У сямі вядомых мне сем'ях Светлагорска дзяўчынак назвалі **Аксана.** Цудоўнае імя! Такім жа прывабным імем можа стаць **Алеся** або, скажам, **Ян, Януш, Ясь, Івась, Янка** — шматлікія варыянты вядомага імені **Іван.**

Але ж такім імёнам, як Алеся, Ян, Дарота, Тамаш, слоўнік М. Судніка не дае права на афіцыйнае існаванне. Што ж рабіць? Вывад адзін — нам патрэбен нарматыўны слоўнік беларускіх імён. Добрай асновай для складання такога слоўніка можа служыць навуковая праца М. Бірылы «Беларуская антрапанімія», у якой даецца распрацоўка беларускага іменаслоўя ў гістарычным плане. Выданне нарматыўнага слоўніка павінна пакласці канец разнабою і неўнармаванасці напісання беларускіх імён. (Пішам жа мы: Вячаслаў і Вечаслаў, Софія і Соф'я, Мацвей і Матвей, Рацмір і Ратмір, Ядзвіга і Ядвіга, Герасім і Гарасім, Майсей і Маісей.) Слоўнік павінен служыць не толькі арфаграфічным дапаможнікам, але і быць сапраўдным даведнікам для выбару імён, у якім маладыя бацькі маглі б знайсці імёны прыгожыя, разнастайныя, здольныя патрапіць усім густам.

**Сяргей ПРАЧ,**
**сакратар Светлагорскага райвыканкома.**







Адкрыццё юбілейнай спартакіяды на стадыёне «Дынама» ў Мінску.
Фота **В. Ждановіча.**

# РЭЗЕРВЫ ПРАЦОЎНЫЯ — СПАРТЫЎНЫЯ РЭЗЕРВЫ

У суровыя ваенныя дні 1943 года нарадзілася спартыўнае таварыства «Працоўныя рэзервы». Сваё 25-годдзе яно адзначыла сёлета ў Мінску юбілейнай Усесаюзнай спартакіядай.

І не выпадкова, што галоўным суддзёй спартакіяды быў двойчы Герой Савецкага Саюза Павел Якаўлевіч Галавачоў, былы навучэнец адной з гомельскіх школ ФЗН, а ганаровым госцем — славуты касманаўт, Герой Савецкага Саюза Павел Раманавіч Паповіч,



Бег на 80 метраў з бар'ерамі. Хто будзе першы?



Людміла Шых.
Фота В. Ганчарэнкі.

якi пачынаў свой жыццёвы шлях таксама з ФЗН.

Цырымонія ўрачыстага адкрыцця спартакіяды выглядала вельмі маляўніча. Беларускія спецыялісты па масавых спартыўных выступленнях і на гэты раз бліснулі багатай фантазіяй і добрым густам. Дзве тысячы дзяўчат і юнакоў паказалі выдатныя гімнастычныя практыкаванні, складаныя перастраенні. Перад вачыма мінчан, якія запоўнілі стадыён «Дынама», прайшла жывая гісторыя Ленінскага камсамола: грамадзянская вайна, мірная будоўля, Вялікая Айчынная вайна, пасляваенныя пяцігодкі... Заслужаны трэнер БССР Кім Варaўка са сваімі памочнікамі знайшоў выразныя мастацкія сродкі, каб адлюстраваць подых эпохі, патрыятызм усіх пакаленняў камсамольцаў нашай краіны. Апафеоз гэтага цудоўнага выступлення — «Танец дружбы», які выконвалі ансамблі працоўных рэзерваў з усіх братніх рэспублік.

2500 спартсменаў таварыства ў фінале свята спрачаліся за першынство ў шаснаццаці відах спорту. Табліца рэкордаў і вышэйшых дасягненняў моцна «пацярпела» ў выніку вострай барацьбы. Яе атакавалі лёгкаатлеты і плыўцы, стралкі і веласіпедысты.

Гераіняй спартакіяды стала мінская плыўчыха Людміла Шых. Яе поспехі ішлі з нарастаючым вынікам. 100 метраў батэрфляем яна праплыла з «срэбраным» часам — 1 мінута 16 секунд. Але ўжо ў батэрфляі на 200 метраў ніхто не змог яе абагнаць. Гэтую дыстанцыю яна закончыла новым усесаюзным рэкордам таварыства — 2 мін. 43,4 сек.

У заплыве вольным стылем на тую ж адлегласць Люда таксама пабіла рэкорд «Працоўных рэзерваў» з вынікам 2 мін. 30,6 сек. Трэцяя яе перамога: за 5 мін. 12,1 секунды праплыла вольным стылем 400 метраў. І нарэшце ў самы апошні дзень спаборніцтваў маладая плыўчыха ўстанавіла ўсесаюзны рэкорд для жанчын — 1500 метраў вольным стылем яна праплыла за 20 мін. 46,9 сек. Залатую ўзнагароду атрымаў і другі беларускі плывец: Мікалай Шкатула быў першым у комплексным плаванні на 400 метраў.

Васемнаццацігадовая ленінградская лёгкаатлетка Алена Асеева пабіла рэкорд таварыства ў пяціборʼі, набраўшы 4 513 ачкоў. Вось як склалася гэтая сума: бег на 80 метраў з барʼерамі — 12,1 сек., штурханне ядра — 12,43 метра, скачкі ў вышыню — 168 см, у даўжыню Алена скокнула на 5,47 метра, а 200 метраў прабегла за 25,8 сек. Другі залаты медаль Алена Асеева атрымала за скачкі ў вышыню.

Мінчанін Уладзімір Хадзько заваяваў таксама два залатыя медалі. Ён штурхнуў ядро на 13,92 метра і кінуў капʼё на 61,92 метра. А беларус Сяргей Гоманаў стаў пераможцам у бегу на 400 метраў.

На лініі агню спартсмены «Працоўных рэзерваў» таксама пабілі рэкорды свайго таварыства. Масквіч Уладзімір Багданаў у стральбе лежачы з малакаліберная вінтоўкі з дыстанцыі 50 метраў выбіў 587 ачкоў з 600 магчымых. Такі ж поспех чакаў эстонца Тойва Рэйнумяэ. У малакаліберным стандарце ён выбіў 550 ачкоў. Навучэнец Мінскага прафтэхвучылішча металістаў Іван Перапечка стаў чэмпіёнам спартакіяды ў стральбе з калена.

Вышэйшыя хуткасці развілі веласіпедысты. Камандную гонку на 20 км выйгралі з новым рэкордам «Працоўных рэзерваў» спартсменкі РСФСР. Беларускія веласіпедысткі Марыя Красоўская, Раіса Герасімчык і Валянціна Урбановіч атрымалі ў гэтай гонцы срэбраны медаль.

Поспех выпаў на долю беларускіх гімнастак. У склад каманды па спартыўнай гімнастыцы ўваходзілі Ніна Левіна, Валя Цітарэнка і Люда Слабодчыкава. Валя стала абсалютнай чэмпіёнкай, выканаўшы норму майстра спорту. Залатыя медалі ёй уручаны і за асобныя практыкаванні: на бервяне і ў апорных скачках. Ніна Левіна была другой у мнагаборʼі і чэмпіёнкай на брусах.

Поўным трыумфам нашых дзяўчат закончыліся спаборніцтвы па мастацкай гімнастыцы. Вучаніцы заслужанага трэнера БССР Людмілы Міснік не ведалі канкурэнцыі. Пад музыку з балета Асафʼева «Полымя Парыжа» самая таленавітая з беларускіх гімнастак Ірына Варган выканала тэмпераментныя практыкаванні без прадмета. Яна атрымала самую высокую ацэнку на гэтых спаборніцтвах —




Дзмітры Хадзько.
Фота Д. Церахава.

Алена Асеева.






Сяргей Гоманаў.



Ірына Варган.

9,7 бала. Практыкаванні з прадметам таксама прынеслі ёй перамогу. Урэшце Ірына стала абсалютнай чэмпіёнкай.

Тры срэбраныя медалі заваявала яе сяброўка Людміла Дзялендзік. Высокім майстэрствам парадавалі гледачоў і суддзяў мінчанкі Наташа Насеннікава і Валя Курака.

Наогул, сярод беларусаў на гэты раз многа чэмпіёнаў і рэкардсменаў. У камандным заліку спартсмены БССР занялі трэцяе месца. Такога даўно ўжо не было на ўсесаюзных спаборніцтвах.

**Ісак ЦЫВЕС.**

● ● ●

# З УСМЕШКАЙ І БЕЗ ЯЕ



## «ЧАРАДЗЕЙНЫЯ» АКУЛЯРЫ

Кажуць, на Венеры можна ўбачыць сваю патыліцу. Такі «цуд» вучоныя тлумачаць з'явай звышрэфракцыі. Атмасфера Венеры складаецца амаль што з аднаго вуглякіслага газу, сціснутага ў дваццаць разоў больш, чым наша паветра. Таму крывізна праменняў святла большая за крывізну праменняў планеты.

Бачыць сваю патыліцу наогул карысна кожнаму: менш было б катастроф, дзяўчаты заўсёды маглі б сачыць за сваімі прычоскамі, настаўнік бачыў бы, што робіцца ў класе, калі ён піша на дошцы.

Праблема гэта такая актуальная, што адзін каліфарнійскі акуліст сканструяваў нядаўна пры дапамозе сістэмы люстэркаў акуляры, якія дазваляюць бачыць тое, што робіцца за спіною. Настаўнікі адразу ж выпрабавалі іх, і вось вынікі: вучні зразумелі небяспечнасць новай прылады, перасталі сваволіць на ўроках, палепшылася дысцыпліна ў школах, а разам з тым вырасла і паспяховасць.

●



## НЕЗВЫЧАЙНЫЯ ПРАБЛЕМЫ

Якіх толькі няма на свеце праблем!

Нядаўна электрыкі Таіланда ў часе пабудовы высакавольтнай электралініі сустрэліся з двума новымі праблемамі: як захаваць слупы ад сланоў і дрот ад малпаў? Сланы вываpочваюць апорныя слупы, а малпы, пераймаючы манцёраў, залазяць на слупы і, не разумеючы нічога, робяць замыканні на лініі.





●



## «СПАДАРОЖНІК ЗЯМЛІ» Ў XVIII СТАГОДДЗІ

Фантастычным раманам Жуля Верна «З гарматы на Месяц» захапляўся амаль кожны. І ўсё ж маляўніча апісанаму падарожжу ў космас папярэднічала смешная гісторыя. Суайчыннікі вялікага фантаста ў 1740 годзе на самай справе рабілі спробу запусціць першы штучны спадарожнік Зямлі. Па загаду караля адлілі вялізную гармату, і ў неба паслалі гіганцкае ядро. Некаторыя вучоныя таго часу былі сур'ёзна перакананы, што ядро стала спадарожнікам. Толькі праз два гады нямецкі матэматык Ганс Гертэнштэйн даказаў нерэальнасць такога меркавання.

●




## САМАЯ КАРОТКАЯ ЧЫГУНКА

Італьянец Дж. Джуліяні вельмі хацеў праславіцца. Спартыўнымі якасцямі ён не вызначаўся, не было і мільёнаў, а без гэтага ў буржуазным свеце славы не даб'ешся.

І вось нядаўна ён стаў вядомы як уладальнік незвычайнай чыгункі. Джуліяні закончыў будаваць чыгуначнае палатно даўжынёю... сто метраў! Яно злучае дом апантанага італьянца з кафэ, куды цяпер ён ездзіць кожны вечар выпіць кубак кавы.

Па новай чыгунцы курсіруе адзін састаў з вагонам і паравозам нямецкага ўзору 1913 года. Гэта чыгунка — самая кароткая, самая нерэнтабельная і самая... непатрэбная ў свеце.

●



## ШПАКІ ЗБІЛІ САМАЛЁТ

Аднойчы каля Бастона ў добрае лётнае надвор'е ўпаў на зямлю турбарэактыўны самалёт. Пачалі даследаваць прычыны катастрофы і выявілі, што віноўнікі... шпакі. Імі літаральна быў напакаваны ўвесь рухавік. А трапілі яны туды цэлай чарадой таму, што гукі, якія даваў рухавік, былі вельмі падобныя на гудзенне мноства конікаў — любімага шпачынага ласунку. Фірма, што выпускала самалёты, тэрмінова змяніла гукі рухавіка.

Раздзел вядзе
міжнародны гросмайстар
Аляксей СУЭЦІН

# ТЭАРЭТЫЧНАЯ «НАВІНКА» Ў ДЭБЮЦЕ

Часам ад маладых шахматыстаў прыходзіцца чуць: «Пакажыце мне такую «навінку» ў дэбюце, каб я мог выйграваць партыі...» Вядома, такое ўяўленне пра новае, яшчэ недаследаванае ў шахматнай гульні, крыху наіўнае. Ведаючы выключна «навінкі», нельга не толькі навучыцца выйграваць партыі, але нават атрымлівацъ простыя перавагі ў гульні. У пачатковай шахматнай пазіцыі, калі на дошцы дзейнічаюць яшчэ ўсе баявыя сродкі, колькасць магчымых варыянтаў практычна невычарпальная. Тэарэтычны варыянт з «навінкаю» — гэта толькі адзін з многіх, і тут вельмі лёгка перайсці, як кажуць, на «другія рэйкі», сысці ўбок ад варыянта «навінкі». Пры гэтым, гульня набывае адразу ж зусім іншыя рысы, якія патрабуюць іншых ведаў і іншага спрыту. Таму ў руках малавопытнага шахматыста самая каштоўная «навінка» можа быць перайначана і страчана. У такіх выпадках гросмайстар А. Толуш гаворыць: «Не па каню корм...»

Валодаць «навінкай» гэта перш за ўсё — ведаць усё **самае істотнае,** ужо апрабіраванае ў гэтым дэбюце. Толькі тады «навінка» прынясе карысць. У гульні майстроў якраз гэты дадатковы арсенал узбраення вельмі часта вырашае канец барацьбы.

На XXVII першынстве СССР у партыі двух новасібірскіх майстроў Н. Крогіуса і А. Луцікава (чорныя) быў разыграны наступны востры варыянт «палепшанай» абароны В. Стэйніца ў іспанскай партыі: 1. e4 e5, 2. Кf3 Кc6, 3. Cb5 a6, 4. Ca4 d6, 5. c3 f5, 6. ef C:f5, 7. 0—0 Cd3.

Пазіцыя, паказаная на дыяграме, з'яўляецца крытычнай, да таго ж, добра вядомай А. Луцікаву.



Звычайным працягам тут было: 8. Лe1 Ce7, 9. Лe3 e4, 10. Кe1, але ў партыі Клявінь—Мікенас (Рыга, 1959 год) чорныя знайшлі цікавы шлях контратакі: 10. ...Cg5, 11. К:d3 C:e3, 12. Кb4 C:f2+!!, 13. Кр:f2 Фh4+, 14. Кpg1 Кh6! і дамагліся перамогі. Гэта і было апошнім словам тэорыі ў гэтай сістэме, якая лічылася зусім неблагой для чорных.

У партыі, аднак, было зроблена: 8. Фb3! (Абсалютна новая ідэя! Пагрозы Ф:b7! і Фd5! вельмі непрыемныя. Дрэнна, напрыклад, 8. ...C:f1, 9. Ф:b7 Cb5, 10. C:b5 ab, 11. Ф:c6+ Кpe7, 12. d4, і ў белых моцная атака.)

У партыі было зроблена: 8. ...Лb8, 9. Лe1 e4, 10. Кd4 Кe7, 11. c4 Кpd7, 12. Кe6! Фe8 (12. ...Кр:e6, 13. Ф:d3), 13. Кf4 b5 14. cb ab, 15. Фe6+ Кpd8. І тут ходам 16. Cd1! белыя атрымлівалі перавагу. Так, у выпадку 16. ...Кd4, 17. Фh3!, або 16. ...Фd7, 17. Cg4 Кe5, 18. C:d7 К:d7, 19. Кc3 шансы белых, безумоўна, лепшыя.

Гэта добра выкарыстаная «навінка»! Хоць пазней было выяўлена, што пасля 8. ...b5!, 9. Фd5 Кd4 у чорных цудоўная контргульня.

Хочацца даць пачынаючым адну карысную параду: не вельмі захапляцца вывучэннем «навінак». Гэта карысна рабіць толькі ў тым выпадку, калі такое вывучэнне не становіцца самамэтаю, не спыняе развіцця мыслення ігрока, а з'яўляецца дапаможным сродкам у вывучэнні дэбютаў.

За «навінкамі» трэба сачыць, толькі дасягнуўшы адпаведнага ўзроўню гульні. Тады гэта не толькі карысна, а нават неабходна.

Прапануем нашым чытачам наступныя камбінацыі з практыкі беларускіх шахматыстаў.

**№ 1. А. Чарапкоў—Л. Сазонаў** (СССР, Кіславодск, 1967 год).



Пасля 26-ці ходаў.
Белыя: Кpg1, Фb4, Лa5, Лe1, Кe5; пп. b2, d4, f2, g2, h2 (10).
Чорныя: Кpg8, Фg5, Лd8 і e8, Ce4; пп. a6, b7, f7, g7, h7 (10).
27. Л:e4? Л:d4!!, 28. Кf3 Л8:e4!
Белыя здаліся.
Невялікая, але эфектная камбінацыя «на тэму» слабасці першай гарызанталі.

**№ 2. С. Бягун—А. Вакуленка** (СССР, Мінск, 1967 год).



Пасля 18-ці ходаў.
Белыя: Кpg1, Фf3, Лd1 і f1, Cc4 і e3 Кe4 і e6; пп. a2, b2, c2, g4, h2 (13).
Чорныя: Кpf7, Фe7, Лa8 і h8, Cc8 і g7, Кf6 і e5; пп. a7, b7, g5, h6 (12).
19. Кf:g5+ Кpg6, 20. Фf5+! C:f5, 21. gf+ Кph5, 22. Кg3+ Кph4, 23. Лf4+.
Чорныя здаліся.
У выпадку 23. ...Кfg4, 24. Л:g4+! К:g4 будзе мат 25. Кf3×.
Такія ж фіналы будуць пасля 24. ...Кр:g4, 25. Лd4×, або 23. ...Кeg4, 24. Кf3+ Кph3, 25. Cf1×!







# ЮБІЛЕЙНЫ КАРАВАЙ

Сабраўся і я святочны падарунак камсамолу паднесці. Толькі што б такое як найцікавей прыдумаць? Клікнуў на падмогу сябра свайго — мастака Георгія Скамарохава. Сядзім, гадаем... Ажно бачым — хлопцы і дзяўчаты ідуць. Ды ўсё знаёмыя нашы: маладыя архітэктары Валянцін **ЗАНКОВІЧ** і Леанід **ЛЕВІН**, свінарка Ніна **БАКУНЕЦ**, доктар фізіка-матэматычных навук Уладзімір **ПЛАТОНАЎ**, актрыса Лілія **ДАВІДОВІЧ**, будаўнік з Салігорска Васіль **НІКІЦЕНКА**, кампазітар Ігар **ЛУЧАНОК**, паэт Рыгор **БАРАДУЛІН**, мастак Васіль **ШАРАНГОВІЧ**. Нясуць юбілейны падарунак — табе, дарагі камсамол, — ад усіх-усіх, хто ў твой гонар слаўна папрацаваў. А гэта значыць — і ад мяне,

Антося **ЦЫБУЛЬКІ**.

# нашы аўтары

●

**ШПЫРКОЎ Алесь** нарадзіўся ў 1937 годзе на Расоншчыне.

Скончыў Магілёўскі педагагічны інстытут. Настаўнічаў, быў выхавацелем у інтэрнаце на Нафтабудзе. Цяпер працуе ў рэдакцыі гарадской газеты.

●

**САЛТУК Алег** нарадзіўся ў 1946 годзе ў Бешанковіцкім раёне. Скончыў Магілёўскі педагагічны інстытут. Служыць у Савецкай Арміі.

●

**ТАРМОЛА Раман** нарадзіўся ў 1936 годзе ў мястэчку Мір.

Скончыў Мінскі педагагічны інстытут імя А. М. Горкага. Працуе на тэлебачанні.

Аўтар зборнікаў «Асколкі і росы», «Поўня» і «Абнаўленне».

●

**ШОЛАХАВА Раіса** нарадзілася ў 1939 годзе на Гомельшчыне. Скончыла Мазырскі педагагічны інстытут. Працуе дырэктарам васьмігадовай школы.

**КАРЫЗНА Уладзімір** нарадзіўся ў 1938 годзе на Міншчыне.

Пасля заканчэння Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна настаўнічаў. Цяпер працуе на радыё. Аўтар зборніка вершаў «Край мой сінявокі».

●

**ПРУДНІКАЎ Павел** нарадзіўся ў 1911 годзе на Клімаўшчыне. Скончыў Ленінградскі педагагічны **інстытут. Працаваў журналістам, цяпер настаўнічае.**

Аўтар зборнікаў «Песні грузчыкаў» і «Час майго нараджэння».

●

**АЛЯХНОВІЧ Уладзімір** нарадзіўся ў 1938 годзе на Слонімшчыне.

Скончыў Маскоўскі эканамічны інстытут. Працаваў журналістам, геолагам. Цяпер — у Дзяржаўным камітэце Савета Міністраў БССР па друку. Аўтар зборніка «Мора летуценняў».


**ЖУРНАЛ «МОЛОДОСТЬ» № 10**

Мастацкі рэдактар **Янка РАМАНОЎСКІ.** Тэхнічны рэдактар **Пятро ЛЫСЕНКА.**
Карэктары **Марыя Галубовіч і Хведар Чарнышэвіч.**

Рукапісы, аб'ёмам да аркуша, не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: **Мінск, ГСП, вуліца Карла Маркса, 40.**
Тэлефоны: **2-93-854**—сакратарыят і аддзел крытыкі, **2-93-592**—аддзелы паэзіі і прозы, **2-93-892**—аддзелы публіцыстыкі і мастацкага афармлення, **2-93-775**—аддзел інфармацыі.

Здадзена ў набор 2/IX-68 г. Падпісана да друку 1/X-68 г.
АТ 08774. Тыраж 10799. Зак. 1155. Цана 40 кап. Папера 70×108 1/16. Фіз. друк. арк. 10.
Умоўн. друк. арк. 13,7. Вуч.-выд. арк. 14,5.

**Друкарня выдавецтва «Звязда», Мінск, Ленінскі праcп. 79.**




# ЛІРЫЧНАЯ ПЕСНЯ

**Музыка Мар'яна НАСКО.**

**Словы Рыгора БАРАДУЛІНА.**






**Ішла над ціхім лесам поўня,**
**Расы чакалі верасы.**
**А пад вярбой ў нагрэтым чоўне** } **2 разы**
**Дзяўчына мыла валасы.**

**Яшчэ худзенькімі рукамі**
**Вязала кудзеркі вузлом.**
**Усмешка на вадзе блукала,**
**Хмурынкі возера вязло.**

**Хацела быць у косах стрыжка.**
**Шаптала з берагам карма.**
**А косак не хапала крышку,**
**Каб дзве лілеі утрымаць.**

**Ледзь-ледзь хавалі зайздрасць хвалі,**
**Аж закіпалі у трысці.**
**Мяне і човен падмывалі**
**Далёка з дзеўчынай плысці.**